# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ



ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА АДЗІНАЦЦАТАЯ*







МЕНСК—1938

# ВЯЛІКАЯ ГІСТАРЫЧНАЯ ГАДАВІНА

Дваццаць адзін год таму назад у нашай краіне адбылося тое, аб чым марылі на працягу многіх год самыя светлыя розумы чалавецтва. 7-га лістапада 1917 года рускі пролетарыят, кіруемы гераічнай партыяй большэвікоў, геніямі рэволюцыі Леніным і Сталіным звергнуў з дапамогай усяго працоўнага народа ўладу эксплаататараў і прыгнятальнікаў, уладу крывапіўцаў і паразітаў. Рабочыя і сяляне сталі гаспадарамі вялікай совецкай зямлі.

Ажыццявілася страсная мара найлепшых людзей чалавецтва. Народы нашай вялікай і цудоўнай радзімы здабылі сабе свабоду і шчаслівае радаснае жыццё. Моцны светлы будынак соцыялістычнага грамадства пабудаваны.

Партыя Леніна—Сталіна здзейсніла тое, аб чым марыў Пушкін: „Увижу ль, о, друзья, народ неугнетенный?", аб чым амаль сто год таму назад пісаў Белінскі. Здзейснілася яго жаданне убачыць Расію „стоящею во главе образованного мира, дающего законы и науке и искусству и принимающего благоговейную дань уважения от всего просвещенного человечества".

Наша краіна ідзе цвёрдым, упэўненым крокам да комунізма. З краіны адсталай і ўбогай яна стала магутнай соцыялістычнай дзяржавай. Па валавой прадукцыі прамысловасці яна выйшла на першае месца ў Еўропе і на другое ў свеце пасля Амерыкі. Зямля стала ўсенародным здабыткам. Калектыўная гаспадарка аб'яднала сялян, зрабіла іх працу асэнсаванай і плённай, і ліквідавала ўласніцкія інстынкты і адкрыла сялянству шырокі шлях да культурнага, заможнага жыцця.

„Наша пролетарская рэволюцыя з'яўляецца адзінай у свеце рэволюцыяй, якой давялося паказаць народу не толькі свае палітычныя вынікі, але і вынікі матэрыяльныя. З усіх рабочых рэволюцый мы ведаем толькі адну, якая так сяк дабілася улады. Гэта—Парыжская Комуна. Але яна існавала нядоўга. Яна, праўда, паспрабавала разбіць кайданы капіталізма, але яна не паспела іх разбіць і тым больш не паспела паказаць народу добрыя матэрыяльныя рэзультаты рэволюцыі. Наша рэволюцыя з'яўляецца адзінай, якая не толькі разбіла кайданы капіталізма і дала народу свабоду, але паспела яшчэ даць народу матэрыяльныя ўмовы для заможнага жыцця. У гэтым сіла і непераможнасць нашай рэволюцыі" *(Сталін)*.

Ні адна краіна ў свеце не ведае такога размаху культурнага будаўніцтва, як у СССР. Школы, ВНУ, выдатнае мастацтва і літаратура—здабыткі ўсяго совецкага народа. Партыя Леніна—Сталіна

навучыла і выхавала велізарную армію совецкай інтэлігенцыі. Новая працоўная інтэлігенцыя ёсць сапраўды „соль зямлі совецкай".

Совецкія вучоныя, інжынеры і тэхнікі, мастакі і пісьменнікі пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў узнялі культуру і навуку ў нашай краіне на недасягаемую вышыню. Сусветныя рэкорды нашых слаўных лётчыкаў і лётчыц, стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, перамогі совецкіх музыкантаў на міжнародных конкурсах—узоры выдатных дасягненняў совецкіх людзей ва ўсіх галінах творчасці і працоўнага жыцця.

У той час, як у капіталістычных краінах ліквідуюцца апошнія рэшткі буржуазнай дэмакратыі, у Совецкім Саюзе поўнасцю ажыццёўлена Сталінская Канстытуцыя, самая дэмакратычная, самая свабодная, самая перадавая канстытуцыя ў свеце.

Маральна-палітычнае адзінства совецкага народа, безгранічная адданасць партыі Леніна—Сталіна і совецкаму ўраду—непахісная аснова нашага строя. На выбарах у Вярхоўныя Советы СССР і Саюзных Рэспублік увесь народ аддаў свае галасы блоку комуністаў і беспартыйных, галасаваў за дыктатуру рабочага класа, за соцыялізм.

За мінулы год слаўная совецкая разведка, абапіраючыся на ўвесь народ, разграміла асіныя гнёзды трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў і забойцаў. Недабітае яшчэ варожае ахвосце будзе выкарчавана і змецена з твару совецкай зямлі.

Капіталістычны свет перажывае лютую ваенную гарачку. Другая імперыялістычная вайна пачалася ўжо ў розных канцах зямнога шара—у Афрыцы, Еўропе і Азіі. Звыш поўмільярда людзей кінута ў пучыну вайны. Сотні мільёнаў людзей жывуць пад пагрозай фашысцкага нападу. Народныя масы ненавідзяць крывавы фашызм і яго фюрэраў. Народныя масы ведаюць, што „лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях" (*Даларэс Ібаруры*). Ніколі яшчэ народныя масы капіталістычных краін не адчувалі так моцна і глыбока сваю кроўную сувязь з СССР—бацькаўшчынай працоўных усяго свету, як зараз.

Совецкі народ падтрымліваў і падтрымлівае гераічны іспанскі народ у яго барацьбе супроць фашысцкіх захватчыкаў. Совецкі Саюз працягвае сяброўскую руку дапамогі вялікаму кітайскаму народу. СССР—несакрушальны аплот народаў усяго свету ў барацьбе з фашызмам.

Совецкі народ добра памятае сталінскае ўказанне, што... „трэба ўсямерна усіліць і ўзмацніць нашу Чырвоную Армію, Чырвоны Флот, Чырвоную Авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у становішчы мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая „выпадковасць" і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не змаглі засцігнуць нас знянацку..."

Урок, дадзены японскім самураям ля возера Хасан, наглядна паказвае, што совецкі народ выконвае ўказанні вялікага і любімага правадыра.

Лозунгі ЦК ВКП(б) да дваццаць першай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі натхняюць увесь совецкі

народ, яго слаўную інтэлігенцыю і нас, пісьменнікаў і работнікаў мастацтва, на новыя творчыя перамогі, на барацьбу за комунізм.

Пісьменнікі і мастакі павінны быць на ўзроўні перадавой навукі, якой з'яўляецца вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. „Гісторыя ВКП(б)“—цудоўная энцыклапедыя марксісцка-ленінскіх ведаў, павінна быць глыбока вывучана ўсёй савецкай інтэлігенцыяй. Яна з'яўляецца магутнай зброяй у руках сапраўднага мастака, які імкнецца напісаць творы, вартыя нашай вялікай эпохі і яе цудоўных людзей.

Да Совецкага Саюза прыкавана ўвага ўсяго перадавога чалавецтва і лепшых людзей інтэлігенцыі капіталістычных краін. Толькі ў магутнасці СССР яны бачаць сапраўдную абарону ад фашысцкага мракабесся і варварства.

Антыфашысцкі пісьменнік Ліон Фейхтвангер выказаў думку ўсёй перадавой інтэлігенцыі капіталістычных краін. Ён піша: „Мне самому прышлося не мала выпакутаваць, многія з маіх блізкіх загінулі. Разбурана амаль усё тое, што я любіў. І калі, не гледзячы на гэта, я не ўпаў у роспач, дык толькі таму, што маю магчымасць накіраваць свае позіркі да Совецкага Саюза, таму што магу дзякаваць лёс за існаванне Совецкага Саюза“. Наша краіна, як велізарны маяк, сярод бушуючага акіяна асвятляе шлях усім прыгнечаным і ўсім лепшым розумам чалавецтва.

Да такой сусветна-гістарычнай ролі яе прывяла Вялікая соцыялістычная рэволюцыя, геніі чалавецтва—Ленін і Сталін.

У „Октябрьской песне“ мудры Джамбул выказаў думку ўсяго вялікага совецкага народа:

Октябрь Великий, с тобою счастье узнали мы,
И нам отныне не знать ненастья, не знать зимы.

# XXI ГАДАВІНА КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ.

***Даклад тав. В. М. МОЛАТАВА на ўрачыстым пасяджэнні Маскоўскага совета 6 лістапада 1938 года***

Таварышы! Год назад мы з гордасцю святкавалі дваццацігоддзе Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі. За гэтыя 20 год стварылася добрая традыцыя: няўхільна, з года ў год, прасоўвацца наперад у развіцці нашай народнай гаспадаркі, ва ўздыме добрабыту і культуры народных мас і ва ўсіх іншых галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

21-шы год Кастрычніцкай рэволюцыі добры тым, што, прытрымліваючыся гэтай слаўнай традыцыі, ён зрабіў новы буйны крок наперад у справе росту ўсіх унутраных сіл соцыялістычнай дзяржавы і ў справе далейшага ўмацавання міжнароднага аўтарытэта Совецкага Саюза.

Вырваўшыся 21 год таму назад з ланцугоў капіталізма, рабочыя і сяляне нашай краіны атрымалі неабмежаваныя магчымасці, каб стварыць для сябе свабоднае, забяспечанае, культурнае, шчаслівае жыццё. Гэта адбываецца ў такі перыяд, калі ў краінах капіталізма гнёт буржуазіі, тэрарыстычная дыктатура гвалтоўнікаў-фашыстаў і распальванне новай імперыялістычнай вайны набываюць усё большы размах, усё большую небяспеку.

XXI гадавіна Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі гаворыць сваімі справамі, сваімі новымі перамогамі ў краіне соцыялізма аб тым, што не толькі для нашага народа, але і для народаў іншых краін соцыялістычная рэволюцыя з'яўляецца адзіна вернай дарогай да вызвалення ад гнёту капіталізма, ад гнёту фашызма, ад новых крывавых імперыялістычных войн. Як бы ні быў моцны гнёт фашызма, як-бы рабочыя і ўсе працоўныя ні былі прыдаўлены фашысцкім ботам, можна з упэўненасцю сказаць што і тут, у краінах фашызма, у краінах капіталізма, сярод шырокіх мас працоўных усё больш зрэе думка аб правільнасці нашага совецкага шляху да свабоды, міру і шчаслівага жыцця. *(Апладысменты.)*

## 1. Унутранае развіццё СССР.

За гэта гаворыць, перш за ўсё, увесь ход унутранага развіцця СССР.

Куды ні паглядзіш, у нашай народнай гаспадарцы ідзе прасоўванне наперад. Гэта не значыць, што ў нас няма адсталых галін

гаспадаркі. Ёсць і такія. Нам прыходзіцца прымаць спецыяльныя меры ў адносінах адстаючых галін, але асноўная лінія нашага развіцця ў народнай гаспадарцы гаворыць сама за сябе—яна адлюстроўвае няўхільны ўздым і магутны рост сіл Совецкага Саюза.

Як вядома, шкоднікі ўсё рабілі для таго, каб падарваць уздым нашай *прамысловасці* і *транспарта.* Яны ведалі, што б'юць па самаму адчувальнаму нерву дзяржавы. Таму замежныя разведкі так настойліва штурхалі сваіх агентаў на гэту справу.

Аднак, калі ім і ўдалося затармазіць там або тут нашу работу, то спыніць уздым нашай прамысловасці і транспарта не ў іх сілах. Факты наконт гэтага гавораць самым пераканаўчым чынам.

У гэтым годзе за першыя 10 месяцаў, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, мы маем уздым буйнай прамысловасці на 12,5 процанта. Гэта азначае, што са студзеня да лістапада гэтага года, супроць адпаведных 10 месяцаў мінулага года, мы атрымалі прырост прадукцыі толькі па буйнай прамысловасці на 7 мільярдаў 150 мільёнаў рублёў. Параўнайце гэты факт з тым, што сярэднегадовы прырост прамысловай прадукцыі за перыяд першай пяцігодкі дасягаў усяго 5 з паловай мільярдаў рублёў. Такім чынам, паспяховае прасоўванне нашай прамысловасці наперад зусім відавочна. Мы павінны пастарацца, каб за астаўшыяся 2 месяцы гэтага года павялічыць гэты прырост яшчэ на пару мільярдаў рублёў.

Калі наша прамысловасць свабодна ад крызісаў і з кожным годам робіць усё новыя крокі наперад, то нельга гэтага сказаць аб прамысловасці капіталістычных краін. Дастаткова ўказаць на тое, што за апошнія 8 год прамысловасць капіталістычных краін перажывае другі крызіс. Першы крызіс прадаўжаўся з сярэдзіны 1929 да канца 1933 года, гэта значыць больш чым 4 годы, захваціўшы, хаця і даволі няроўнамерна, усе капіталістычныя дзяржавы. Прайшло ўсяго 3 годы пасля скончэння гэтага найцяжэйшага крызіса, і ў 1937 годзе пачаўся новы крызіс у прамысловасці раду капіталістычных краін. Ён прадаўжаецца і ў гэтым годзе, захваціўшы, хаця і ў рознай меры, большасць капіталістычных краін. Узровень усёй капіталістычнай прамысловасці нават у 1937 годзе, калі новы крызіс толькі пачаўся, перавышаў усяго на 3 проц. узровень гэтай прамысловасці ў 1929 годзе. Гэта ў той час, як прадукцыя прамысловасці Совецкага Саюза ў 1937 годзе амаль у 4 разы перавышала размеры прадукцыі нашай прамысловасці ў 1929 годзе.

Гэтыя факты даюць уяўленне аб тым, наколькі рознае становішча прамысловасці ў капіталістычных краінах у параўнанні са становішчам прамысловасці ў Совецкім Саюзе.

Кастрычніцкая рэвалюцыя вывела нашу прамысловасць на такую дарогу, аб якой можа толькі марыць любячы радзіму грамадзянін іншай краіны.

Гэта значыць, што ніякія шкоднікі не маглі і не могуць перашкодзіць уздыму нашай прамысловасці і яе росквіту. Гэта значыць, што нашы стаханаўкі і стаханаўцы, нашы чэсныя гаспадарнікі і інжынерна-тэхнічныя работнікі ведаюць куды весці справу, умеюць

змагацца за ўздым соцыялістычнай прамысловасці, умеюць перамагаць усе і ўсякія перашкоды на гэтым шляху.

Наша *сельская гаспадарка* ў гэтым годзе сустрэлася з пэўнымі труднасцямі, у сувязі з летняй засухай у Паволжы і ў некаторых прылягаючых абласцях. Не гледзячы на гэта, валавы збор зернавых вышэй чым у 1936 і ў 1935 годах і толькі нямногім менш валавога збору мінулага года, калі мы мелі рэкордна высокі ўраджай.

Наколькі ўмацавалася наша сельская гаспадарка, відаць таксама з наступнага: загатоўкі зярна ў гэтым годзе ідуць на ўзроўні мінулага года, калі ў нас быў высокі ўраджай ва ўсіх раёнах. Магу запэўніць вас, таварышы, што наша дзяржава настолькі забяспечана хлебам і нашы запасы настолькі вялікія, што цяпер нам не страшны ніякія засухі і ніякія іншыя нечаканасці. (*Бурныя апладысменты.*)

Не толькі па зярну, але і па бавоўне, і па бураках, і па іншых сельскагаспадарчых культурах мы з поўнай упэўненасцю забяспечваем цяпер усе патрэбнасці дзяржавы.

У нашай краіне калгасы, калгасны лад з усёй яго новай тэхнікай і новай арганізацыяй, стварылі такія ўмовы для ўздыму сельскай гаспадаркі і для паляпшэння жыцця калгаснікаў, аб якіх ранейшы селянін не мог і марыць. Недарма ў нашай прамысловасці і на будоўлях цяпер часта сказваецца недахват рабочых. Жыццё ў вёсцы, параўнальна з мінулым, стала значна больш забяспечаным, у многа разоў культурней і прывабней.

Уздым народнай гаспадаркі, уздым прамысловасці і калгаснай вытворчасці складаюць аснову росту добрабыту мас Совецкага Саюза. Аб гэтым гаворыць і рост тавараабароту.

За першыя 10 месяцаў 1938 года супроць адпаведнага перыяда мінулага года наш *тавараабарот* узрос на 8,5 проц. Гэта складае павелічэнне тавараабароту амаль на 9 мільярдаў рублёў. Рост не маленькі. І ўсё-ж мы не можам сказаць, што гэта дастатковы для нас рост.

Кожны ведае, што ў адносінах харчовых прадуктаў у нас цяпер недахвату няма, як гэта яшчэ было некалькі год таму назад. З гэтай задачай мы справіліся і спраўляемся ўсё больш паспяхова.

Іншая справа наконт іншых прамысловых тавараў. Тут у нас яшчэ ёсць немалая няхватка. Мы ўпорна працуем над тым, каб як мага хутчэй справіцца і з гэтай важнай задачай.

Але цікава і тут параўнаць наша становішча са становішчам спраў у капіталістычных дзяржавах.

Вы ўжо чулі, што з 1929 года да 1937 года прамысловая прадукцыя ва ўсіх капіталістычных краінах, разам узятая, павялічылася ўсяго на 3 проц., а ў гэтым годзе, з прычыны растучага эканамічнага крызіса, узровень вытворчасці прамысловых тавараў за межамі СССР значна ніжэй нават 1929 года. І ўсё-ж буржуазны друк за граніцай не піша аб няхватцы там тавараў. Няцяжка зразумець чаму гэта адбываецца. Калі-б заработак працоўных рос, а не падаў, там непазбежна ўзрос-бы попыт і была-б няхватка тавараў. Але гэтага там няма.

Там расце армія беспрацоўных, там буржуазія ўрэзвае заработную плату рабочых, там скарачаюцца даходы простых тружанікаў вёскі і таму замест няхваткі тавараў капіталістычныя краіны перажываюць недахват попыту і крызіс збыту тавараў.

У нашай краіне мы маем адваротнае становішча. Заработкі рабочых і даходы сялян быстра растуць. Мы не паспяваем з вытворчасцю прамысловых тавараў за растучым попытам. Гэта, вядома, для нас не апраўданне. Мы павінны навучыцца паспяваць за гэтым попытам, мы павінны значна быстрэй развіваць нашу прамысловасць, значна быстрэй павялічваць вытворчасць тавараў шырокага спажывання, павінны развіваць не толькі буйныя і сярэднія, але і дробныя, а таксама саматужныя прадпрыемствы, якія павялічаць колькасць патрэбных прамысловых тавараў. Мы павінны лепш арганізаваць вытворчасць прамысловых тавараў у горадзе і вёсцы. Тады рост заработкаў рабочых і служачых і рост даходаў калгаснікаў не будзе выклікаць няхваткі на нашых рынках. Мы можам і павінны справіцца з гэтай задачай у непрацяглы тэрмін.

Але хто не ведае, што ў капіталістычных дзяржавах, дзе няма разгавораў аб недахваце тавараў у гандлі,—гэта не паказальнік добрабыту працоўных, а наадварот—гэта паказальнік беднасці і абнішчання працоўных мас.

У нас—іншая справа. У нашай краіне толькі за мінулы год заработкі рабочых павялічыліся на 10,5 мільярда рублёў. Растуць і даходы калгаснікаў. Мы можам радавацца росту добрабыту рабочых і сялян у нашай краіне. Але з гэтага вынікае, што нашай задачай з'яўляецца: насустрач гэтым растучым даходам працоўных рушыць пашыраную вытворчасць як прамысловых, так і харчовых тавараў.

Наша ўнутранае развіццё знаходзіць сваё выдатнае выражэнне і ў палітычнай галіне.

21-шы год Кастрычніцкай рэвалюцыі быў ў гэтых адносінах асабліва паказальным. Дастаткова ўспомніць аб выбарах у Вярхоўны Совет Саюза і ў Вярхоўныя Советы рэспублік. Блок комуністаў і беспартыйных атрымаў на гэтых выбарах бліскучую перамогу, вялікае значэнне якой нам усім зразумела. Гэты блок пад сцягам партыі Леніна—Сталіна сабраў усю масу працоўных: 98—99 проц. усяго народа. (*Бурныя апладысменты.*)

Выбары ў Вярхоўныя Советы рэспублік, якія адбываліся праз поўгода пасля выбараў у Вярхоўны Совет Саюза, паказалі, што палітычны ўздым у нашай краіне не аслабявае, а расце.

Мы гаварылі аб тым, што да дваццацігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі склалася моцнае маральнае і палітычнае адзінства нашага народа, будуючага соцыялізм. Мы бачым, што за прайшоўшы год маральнае і палітычнае адзінства нашага народа акрэпла і стала вялікай сілай. (*Бурныя апладысменты.*)

Гэтым тлумачыцца, што сярод працоўных горада і вёскі растуць рады слаўных стаханаўцаў і стаханавак, што з моладзі і з новых слаёў совецкай інтэлігенцыі ўсё быстрэй растуць выдатныя работнікі культуры, тэхнікі, навукі і мастацтва. Трэба нам толькі наву-

чыцца лепш арганізоўваць іх работу, лепш падтрымліваць усіх перадавых работнікаў прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культурнага будаўніцтва, тэхнікі і навукі, усяляк дапамагаць развіццю іх ініцыятывы.

Нашы дні багаты выдатнымі прыкладамі гераізма ў працы, у заваяванні прыроды, у абароне радзімы. Такія людзі, як Папанін і папанінцы, выдатныя лётчыкі—Кокінакі і Брандзінскі, якія здзівілі ўсіх сваёй адвагай, такія выдатныя лётчыцы, як Валенціна Грызадубава, Паліна Осіпенка і Марына Раскова, слаўныя абаронцы совецкага Прымор'я, імёны якіх сталі ўсім нам самымі блізкімі імёнамі—усе яны сталі любімцамі народных мас. (*Бурныя апладысменты.*)

А колькі сэрцаў запалілі гэтыя людзі сваім прыкладам, сваёй адданасцю радзіме, сваім беззаветным гераізмам мы даведаемся толькі пазней, у падзеях заўтрашняга дня!

І выдатныя стаханаўцы—героі соцыялістычнай працы, і слаўныя героі Арктыкі і авіяцыі, і героі—абаронцы радзімы, і сам рост іх ліку, і заразіцельнасць іх прыкладу сярод шырокіх слаёў працоўных—усё гэта гаворыць аб тым, што народы Совецкага Саюза жывуць новым, сапраўды выдатным жыццём.

Гэтае жыццё стварыла Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя.

Народ праслаўляе ўсё новыя імёны сваіх герояў, якія сваёй працай, ведамі і подвігамі праслаўляюць нашу радзіму.

І ва ўсім гэтым бачна вядучая і натхняючая воля нашай вялікай большэвіцкай партыі і яе правадыра—таварыша Сталіна. (*Бурныя, працяглыя апладысменты*).

## II. Міжнароднае становішча і СССР

Пераходжу да міжнародных спраў.

Усё асноўнае, неабходнае для разумення сучаснай міжнароднай абстаноўкі, вы знойдзеце ў апошнім раздзеле толькі што вышаўшай у свет „Гісторыі ВКП(б)". Там гэта сказана метка і б'е прама ў цэль.

Там указана, як апошнія эканамічныя крызісы абвастрылі супярэчнасці паміж буржуазіяй і пролетарыятам у краінах капіталізма і як узмацніліся спробы агрэсіўных дзяржаў пакрыць страты ад эканамічнага крызіса ўнутры краіны за кошт іншых, слаба абароненых краін. Там указана як у 1935 годзе фашысцкая Італія напала на Абісінію і заняволіла яе. Пры гэтым мелася на ўвазе не толькі сама Абісінія, але і Англія, удар па яе інтарэсах, па марскіх шляхах Англіі з Еўропы ў Індзію і ў Азію. Там указваецца на тое, як фашысцкія краіны Германія і Італія, у 1936 годзе пачалі ваенную інтэрвенцыю супроць Іспанскай рэспублікі. Пад прадлогам барацьбы з „чырвонымі" ў Іспаніі германскія і італьянскія фашысты ўвялі свае часці ў Іспанію, размясціўшыся ў тылу ў Францыі і разам з тым, перахваціўшы марскія шляхі Англіі і Францыі да іх каланіяльных уладанняў у Афрыцы і Азіі. Там указваецца і на тое, як фашысцкая Германія гвалтоўна захваціла ў 1938 годзе

Аўстрыю. Гэтым германскія фашысты пракладваюць сабе шлях не толькі ў раёне ракі Дуная і на поўдні Еўропы, але і наогул выяўляюць сваё імкненне да гегемоніі ў Заходняй Еўропе.

Усё гэта стварыла цэлы рад вузлоў імперыялістычнай вайны ў краінах Еўропы. Не бачыць гэтага толькі той, хто нічога ў міжнародных справах не хоча бачыць.

Апрача таго, там указваецца на тое, як у 1937 годзе японская ваеншчына захваціла Пекін і Шанхай, уварвалася ў Цэнтральны Кітай і раскінула свой імперыялістычны план на захват і падпарадкаванне ўсяго Кітая. Гэта значыць, што інтарэсам Англіі і ЗША якія вядуць вялікі гандаль з Кітаем, Японія імкнецца нанесці сур'ёзны ўдар і ўжо дабілася вядомых рэзультатаў. Падзеі апошніх дзён толькі абвастраюць становішча ў Кітаі. Гэта таксама стварае базу для развязвання вайны паміж імперыялістычнымі дзяржавамі.

З усяго гэтага ў „Гісторыі ВКП(б)" робіцца наступны вывад:

„Усе гэтыя факты паказваюць, што другая імперыялістычная вайна ўжо на справе пачалася. Пачалася яна цішком, без аб'яўлення вайны. Дзяржавы і народы неяк непрыкметна ўпаўзлі ў арбіту другой імперыялістычнай вайны. Пачалі вайну ў розных канцах свету тры агрэсіўныя дзяржавы,—фашысцкія правячыя кругі Германіі, Італіі, Японіі. Вайна ідзе на велізарнай прасторы ад Гібралтара да Шанхая. Вайна паспела ўжо ўцягнуць у сваю арбіту больш поўмільярда насельніцтва. Яна ідзе ў канчатковым выніку супроць капіталістычных інтарэсаў Англіі, Францыі, ЗША, бо мае сваёй мэтай перадзел свету і сфер уплыву ў карысць агрэсіўных краін і за кошт гэтых так званых дэмакратычных дзяржаў.

Адметная рыса другой імперыялістычнай вайны заключаецца пакуль што ў тым, што яе вядуць і разгортваюць агрэсіўныя дзяржавы, у той час як іншыя дзржавы, „дэмакратычныя" дзяржавы, супроць якіх уласна і накіравана вайна, робяць выгляд, што вайна іх не датычыць, умываюць рукі, пяцяцца назад, усхваляюць сваё міралюб'е, ругаюць фашысцкіх агрэсараў і... здаюць памаленьку свае пазіцыі агрэсарам, запэўніваючы пры гэтым, што яны рыхтуюцца да адпору".

У „Гісторыі ВКП(б)" даецца марксісцкае тлумачэнне такога становішча. Справа зусім не ў ваеннай ці эканамічнай слабасці „дэмакратычных" дзяржаў. Справа—зусім у іншым. Справа ў тым, што адсутнічае адзіны фронт „дэмакратычных" дзяржаў супроць фашысцкіх дзяржаў, справа ў тым, што „дэмакратычныя" дзяржавы, не адабраючы „крайнасцей" фашысцкіх дзяржаў і баючыся узмацнення апошніх, „яшчэ больш баяцца рабочага руху ў Еўропе і нацыянальна-вызваленчага руху ў Азіі, лічачы, што фашызм з'яўляецца „добрым процііддзем" супроць усіх гэтых „небяспечных" рухаў".

Аб усім гэтым трэба памятаць, каб судзіць аб знешняй палітыцы Савецкага Саюза і аб усіх міжнародных падзеях апошняга часу.

Возьмем падзеі ў савецкім Прымор'і, у раёне возера Хасан. Зараз няма патрэбы аднаўляць дэталі гэтых падзей. Яны адбываліся ў канцы ліпеня і ў пачатку жніўня, і ва ўсіх асталіся ў памяці.

Сутнасць справы тут у наступным. Як гаворыцца, сярод белага дня японская ваеншчына зрабіла спробу адарваць кавалак савецкай тэрыторыі на Далёкім Усходзе. За матывамі ў такіх выпадках японскія фашысты далёка не ходзяць. Наперакор відавочным фактам, наперакор міжнародным дагаворам яны абвясцілі было частку савецкай тэрыторыі ў раёне возера Хасан тэрыторыяй Манчжоу-го, інакш кажучы, японскай тэрыторыяй, а пасля гэтага пусцілі ў ход не толькі сваю „выпрабаваную" ў такіх справах дыпламатыю, але і японскія войскі. Зразумела, гэты захват савецкай тэрыторыі ім не ўдаўся і не мог удасца. Яны проста не зразумелі, з кім маюць справу. (*Апладысменты.*) Прышлося пераконваць даступнымі для іх аргументамі. Калі японскім фашыстам патрабавалася, каб пераканаўча загаварыла наша артылерыя і наша авіяцыя, то яны гэтага дабіліся. Атрымаўшы добры адпор, а, бадай, і добры ўрок, японскія войскі адышлі на сваю тэрыторыю, і савецкая граніца поўнасцю была адноўлена (*Апладысменты.*)

Цяпер некалькі слоў аб сэнсе гэтых падзей.

Нам цяпер дакладна вядома, што пытанне аб захваце гары Заазёрнай (Чанкуфын) і, значыцца, усё пытанне аб падзеях у раёне возера Хасан вырашалася, уласна, не ў Токіо, а ў іншым месцы— дзесьці ў Еўропе, а хутчэй за ўсё ў Берліне. Японская ваеншчына, мабыць хацела падтрымаць сваіх фашысцкіх прыяцеляў у Германіі і, не раскінуўшы розумам папалася на вудачку нейкіх сваіх дробных агентаў. Калі паны японскія і германскія фашысты хацелі выпрабаваць па-першае, цвёрдасць нашай знешняй палітыкі і па-другое, баявыя якасці Чырвонай Арміі, то па абодвух гэтых пытаннях яны атрымлівалі ясны і ўразуміцельны адказ. (*Бурныя апладысменты.*)

Яны добра ведалі, што намі агалошан прынцып: „Ні адной пядзі чужой зямлі не хочам. Але і сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддадзім нікому". (*Апладысменты.*) Аднак у японскіх імперыялістаў у Кітаі ўвайшло ў прывычку грубае парушэнне права іншага народа. З другога боку германскім фашыстам гэта не раз ужо ўдавалася ў адносінах народаў Еўропы. Відаць, на гэтай падставе японa-германскія ўдзельнікі „антыкомуністычнага пакта" рашылі гэту імперыялістычна-захватніцкую практыку перанесці і на СССР. Паспрабавалі перанесці, але... пралічыліся. (*Бурныя апладысменты.*)

Японскі напад у савецкім Прымор'і даў нам повад прадэманстраваць не толькі японскім імперыялістам, але і ўсяму свету, што Савецкі Саюз да канца верны сваім заявам, сваёй знешняй палітыцы і што з ім небяспечна жартаваць (*Бурныя апладысменты.*)

Праз сваіх дрэнных разведчыкаў японскія і германскія фашысты, відаць, моцна ашуканы і наконт баявых якасцей нашых пагранічнікаў і чырвонаармейцаў. У гэтым яны пераканаліся, атрымаўшы моцны адпор. Цяпер для самаўцяшэння ім нічога не астаецца, як распаўсюджваць усялякія небыліцы аб слабасці Чырвонай Арміі і совецкай авіяцыі праз усякіх прайдзісветаў, праз усякіх ліндбергаў. Але няхай верыць, хто хоча, наёмным агентам, накшталт шпіка Ліндберга. Мы лічым за лепшае верыць фактам. І нават нашым ворагам не раім забываць аб такіх фактах, як геройскія справы чырвонаармейцаў ля Хасана. Мы ведаем, што як у японскіх, так і ў германскіх фашыстаў не было жадання папулярызаваць Чырвоную Армію, але незалежна ад сваіх жаданняў яны дабіліся таго, што чырвонаармейскія часці ў совецкім Прымор'і прадэманстравалі свае выдатныя баявыя якасці і сілу совецкага патрыятызма.

Непахісная вернасць СССР сваёй мірнай знешняй палітыцы і гатоўнасць да канца адстаяць совецкія граніцы ад усякіх нападаў,—вось вынік падзей ля Хасана, які мае вялікае міжнароднае значэнне.

Пяройдзем да апошніх падзей у Еўропе.

Урокі апошніх падзей, звязаных з Чэхаславакіяй, у многім павучальны. Кіраўнікі англійскага і французскага ўрадаў ахвотна паказваюць мюнхенскае пагадненне Англіі, Германіі, Францыі і Італіі як вялікую перамогу справы міру, а сябе—вялікімі міратворцамі. Праўда, далёка не ўсе гэтаму вераць і, бадай, маюць на гэта сур'ёзныя падставы.

На самай справе, як развіваліся падзеі вакол Чэхаславакіі? Хто ў гэтых падзеях быў сапраўдным пераможцам і хто пераможаным? Угледзьцеся ў сапраўдныя факты і стане ясным, што тут трэба гаварыць, па крайняй меры, аб двух „перамогах".

Першай рашаючай падзеяй у чэхаславацкім пытанні трэба прызнаць „перамогу", атрыманую сумеснымі намаганнямі ўрадаў Англіі і Германіі не над кім-небудзь, а... над урадам Францыі. Два ўрады—урад Англіі і ўрад Германіі—„перамаглі" ўрад Францыі, дабіўшыся адмаўлення Францыі ад дагавора аб падтрыманні Чэхаславакіі. Такая была першая „перамога" ў ходзе гэтых падзей.

Гэта прадрашала ўжо і апошні этап у рашэнні пытання аб Чэхаславакіі. Аставалася нецяжкая справа, аставалася ўрадам чатырох дзяржаў—Англіі, Германіі, Францыі і Італіі—згаварыцца і „перамагчы" ўрад Чэхаславакіі. 4 найбольш моцныя імперыялістычныя дзяржавы Еўропы без асаблівай цяжкасці сапраўды „перамаглі" і маленькую Чэхаславакію. Згавор фашысцкіх і, так званых, „дэмакратычных" дзяржаў Еўропы ў Мюнхене адбыўся і „перамога" над Чэхаславакіяй была атрымана поўная.

Усё астатняе пайшло, як па маслу. Германскі імперыялізм адхваціў ад Чэхаславакіі больш, чым ён сам мог разлічваць. Пажывілася Польшча, як саюзнік германскага фашызма па расчляненню Чэхаславакіі. З прагнасцю адкусіла салідны кавалак Венгрыя. Гэта не значыць, што апетыты малых і вялікіх драпежнікаў Еўропы задаволены. Наадварот, іх, гэтыя апетыты, толькі распалілі яшчэ

больш і ўзбудзілі ўзмоцненую барацьбу вакол новых раздзелаў не толькі Чэхаславакіі, але і некаторых іншых еўрапейскіх краін.

Совецкі Саюз не ўдзельнічаў і не мог удзельнічаць у зговары імперыялістаў фашысцкіх і, так званых, „дэмакратычных" урадаў за кошт Чэхаславакіі. Совецкі Саюз не прымаў удзелу і не мог прымаць удзелу і ў расчляненні Чэхаславакіі для задаволення апетытаў германскага фашызма і яго саюзнікаў. Але ні ў каго не магло астацца сумнення ў тым, якой палітыкі трымаўся Совецкі Саюз у гэтым пытанні. Калі французскі ўрад адмовіўся ад свайго дагавору з Чэхаславакіяй у момант рашучага яго іспытання і дапамог зговару Англіі з германскім фашызмам за кошт як-ніяк дэмакратычнай Чэхаславакіі, то Совецкі Саюз паказаў, што яго адносіны да міжнародных дагавораў зусім іншыя. Совецкі Саюз паказаў і прадэманстраваў перад усім светам, што яго вернасць заключаным дагаворам аб барацьбе з агрэсіяй непахісна. (*Апладысменты.*)

Не глядзячы на ўсё, у тым ліку і на самыя жульніцкія спробы паказаць совецкую пазіцыю ў Чэхаславацкім пытанні як ухільную і няпэўную, гэта не ўдалося і вельмі лоўкім людзям. Французскі-ж і англійскі ўрады афяравалі не толькі Чэхаславакіяй, але і сваімі інтарэсамі дзеля зговору з агрэсарам.

Ці паднялі гэтым урады Францыі і Англіі павагу да сваіх правоў у вачах германскага і італьянскага фашызма? Пакуль не відаць. Хутчэй, наадварот, іх міжнародны аўтарытэт значна пахіснуўся. Як вядома, у апошні час у Вене дзялёжка чэхаславацкай тэрыторыі вялася ўжо без іх удзелу, а шляхам простага зговару германскага і італьянскага фашызма. Але адно ясна: Совецкі Саюз не даў сябе запалохаць пагрозамі з боку фашысцкіх краін, чаго нельга сказаць аб некаторых так званых „дэмакратычных" краінах. Совецкі Саюз, наадварот, дэманстраваў перад усімі краінамі сваю вернасць заключаным дагаворам і міжнародным абавязацельствам і сваю гатоўнасць да барацьбы супроць агрэсіі. (*Бурныя апладысменты.*)

Гэты факт мае велізарнае міжнароднае значэнне не толькі для данага моманту, але і для ўсёй далейшай міжнароднай барацьбы з фашызмам і фашысцкай агрэсіяй.

Толькі Совецкі Саюз, краіна соцыялізма непахісна стаяў і стаіць на пазіцыі барацьбы з фашысцкай агрэсіяй, на пазіцыі абароны міру, свабоды і незалежнасці народаў ад фашысцкага нападу. (*Бурныя апладысменты.*)

Як падзеі каля Хасана, так і падзеі вакол лёсу Чэхаславакіі, маюць прамыя адносіны да пытання аб другой імперыялістычнай вайне, над раздуваннем якой „працуюць" падпальшчыкі вайны—фашысты Германіі, Японіі, Італіі.

Ці можа быць сумненне ў тым, што японскі напад у Прымор'і быў пробай для развязвання вайны на Далёкім Усходзе? Калі-б Совецкі Саюз на справе не паказаў цвёрдасці сваёй знешняй палітыкі і непахіснасці сваёй лініі ў абароне сваіх граніц зброяй Чырвонай Арміі, гэта не магло-б не паслужыць повадам да распальвання новых ваенных авантур, да развязвання новых ваенных

нападаў, да расшырэння маштабу другой імперыялістычнай вайны. Наша цвёрдая пазіцыя ў гэтых падзеях прымусіла адумацца зарваўшыхся авантурыстаў як у Токіо, так і ў Берліне,—прымусіла іх даць ход назад. Бясспрэчна, што гэтым Совецкі Саюз аказаў найвялікшую ўслугу справе міру. *(Бурныя, працяглыя апладысменты.)*

Совецкая дзяржава паказала, што яе граніцы непрыступны, што яна ўмее адстойваць інтарэсы свайго народа, што барацьба за гэтыя інтарэсы ёсць, разам з тым, барацьба за інтарэсы ўсіх народаў, за інтарэсы ўсеагульнага міру.

Падзеі, звязаныя з Чэхаславакіяй, стварылі абстаноўку ваеннай ліхарадкі ва ўсёй Еўропе. Дастаткова сказаць, што ў момант гэтых падзей толькі ў чатырох еўрапейскіх краінах—Германіі, Францыі, Польшчы і Чэхаславакіі—колькаснасць арміі, паводле самых скромных разлікаў, за вельмі кароткі тэрмін павялічылася больш чым у два разы, больш чым на 2 мільёны чалавек. Не гледзячы на нібы міралюбівы зговар у Мюнхене, усе ўдзельнікі мюнхенскага пагаднення заняты цяпер далейшым ростам узбраенняў, павелічэннем сваіх армій, шалёным павелічэннем ваенных бюджэтаў. Зговар фашысцкіх урадаў з урадамі „дэмакратычных“ краін ні ў якім разе не аслабіў небяспекі распальвання другой імперыялістычнай вайны, а наадварот, падліў масла ў агонь. Агрэсіўныя краіны Еўропы не толькі разгарнулі далейшыя планы перакройвання карты дзяржаў Еўропы, але і свае патрабаванні на перадзел калоній. У такі момант не прыходзіцца чакаць спынення або затухання другой імперыялістычнай вайны. Наадварот, небяспека ўзнікнення новых ачагоў і далейшага расшырэння яе маштабаў у наяўнасці.

Што-ж, мы ведаем свае абавязкі. Мы адкажам на любыя правакацыйныя выхадкі з боку падпальшчыкаў вайны, з боку агрэсараў супроць Совецкага Саюза—будзь гэта на Захадзе або на Усходзе—мы адкажам на кожны ўдар двайным і трайным ударам па падпальшчыках і правакатарах вайны. *(Бурныя, працяглыя апладысменты.)*

Толькі моцная совецкая дзяржава, моцная сваёй правільнай знешняй палітыкай і гатоўнасцю да любых знешніх выпрабаванняў,—толькі такая дзяржава здольна весці паслядоўна і няўхільна палітыку міру, палітыку непахіснай абароны сваіх граніц і інтарэсаў соцыялізма.

Хто захоча пераканацца ў тым, наколькі гэтыя сілы моцны і магутны—няхай паспрабуе. *(Доўга не змаўкаючыя апладысменты.)*

Мы павінны зрабіць усе вывады з такога становішча.

## III. Нашы задачы.

Адно бясспрэчна для апошняга перыяда: роля дзяржавы, як сродка барацьбы за комунізм, узнялася ў нашых вачах. Мы больш пачалі разумець гэту ролю, ролю соцыялістычнай дзяржавы ў капіталістычным акружэнні.

У асноўных працах марксізма-ленінізма, якія паявіліся, як вядома, яшчэ да Кастрычніцкай рэволюцыі, распрацаваны асноўныя прынцыпы соцыялістычнай дзяржавы з яе карэнным адрозненнем

дэмакратызма пролетарскага ад дэмакратызма буржуазнага і ўказаны асноўныя шляхі развіцця, а затым і адмірання соцыялістычнай дзяржавы пры пераходзе да вышэйшай фазы комунізма. Гэта і цяпер з'яўляецца асновай асноў вучэння марксізма-ленінізма аб дзяржаве.

Але мы маем вопыт 21 года існавання соцыялістычнай дзяржавы, пачынаючы ад яе першых крокаў да соцыялізма, да поўнай перамогі соцыялізма ўнутры Совецкага Саюза. Мы маем багацейшы вопыт будаўніцтва дзяржавы новага, соцыялістычнага тыпу, вопыт яе ўзброенай барацьбы на працягу раду год супроць нападаўшых капіталістычных краін, вопыт яе соцыялістычнай пераробкі ўсёй народнай гаспадаркі і ліквідацыі ўсіх эксплаататарскіх класаў, нарэшце, вопыт развіцця яе адносін з варожым капіталістычным акружэннем ва ўмовах, так званага, мірнага суіснавання.

Сёння, калі ў нашай краіне соцыялізм ужо ў асноўным пабудован, набывае асобае значэнне пытанне аб узаемаадносінах нашай дзяржавы з капіталістычнымі краінамі, аб нашых узаемаадносінах з капіталістычным акружэннем. Трэба зрабіць належныя вывады з тэорыі пабудовы соцыялізма ў адной, асобна ўзятай краіне і з нашага палітычнага вопыту апошніх год.

І тут галоўны вывад намі ўжо даўно зроблен яшчэ пад непасрэдным кіраўніцтвам В. І. Леніна. Вывад быў зроблен, перш за ўсё, стварэннем Чырвонай Арміі і ўсім, што праведзена Чырвонай Арміяй для абароны совецкай дзяржавы за ўвесь прайшоўшы перыяд.

Аднак, таварыш Сталін быў праў, калі ў мінулым годзе на лютаўска-сакавіцкім Пленуме ЦК ва ўвесь рост паставіў пытанне аб капіталістычным акружэнні, у якім жыве і развіваецца наша, соцыялістычная дзяржава, і аб небяспецы недаацэнкі яго варожых адносін да Совецкага Саюза.

Таварыш Сталін гаварыў тады:

> Капіталістычнае акружэнне—гэта не пустая фраза, гэта вельмі рэальнае і непрыемнае з'явішча. Капіталістычнае акружэнне—гэта значыць, што ёсць адна краіна, Совецкі Саюз, якая ўстанавіла ў сябе соцыялістычныя парадкі, і ёсць апрача таго, многа краін—буржуазныя краіны, якія прадаўжаюць весці капіталістычны вобраз жыцця і якія акружаюць Совецкі Саюз, чакаючы выпадку для таго, каб напасці на яго, разбіць яго ці ва ўсякім выпадку—падарваць яго магутнасць і аслабіць яго.
>
> Аб гэтым асноўным факце забылі нашы таварышы. А ён-жа іменна і вызначае аснову ўзаемаадносін паміж капіталістычным акружэннем і Совецкім Саюзам".

Таварыш Сталін напомніў далей аб тым, што нават адносіны паміж двума аднатыпнымі буржуазнымі дзяржавамі пабудаваны на аснове жорсткай барацьбы адной з другою, на засылцы адною да другой у тыл сваіх шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў, забойц. Пасля гэтага таварыш Сталін сказаў:

> „Паўстае пытанне, чаму буржуазныя дзяржавы павінны адносіцца да совецкай соцыялістычнай дзяржавы больш мякка і больш добрасуседска, чым да аднатыпных буржуазных дзяр-

жаў? Чаму яны павінны засылаць у тылы Совецкага Саюза менш шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў і забойцаў, чым засылаюць іх у тылы родственных ім буржуазных дзяржаў? Адкуль вы гэта ўзялі? Ці не вярней будзе, з пункту гледжання марксізма, меркаваць што ў тылы Совецкага Саюза буржуазныя дзяржавы павінны засылаць у два і тры разы больш шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў і забойцаў, чым у тылы любой буржуазнай дзяржавы?

Ці не ясна, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў?"

Трэба прызнаць, што гэта напамінанне таварыша Сталіна было вельмі правільным і надта неабходным. У святле гэтай пастаноўкі пытання аб нашых задачах таварыш Сталін ускрыў ролю трацкістаў і бухарынцаў, як агентаў замежных разведак, як дзейнічаючых па заданнях гэтых разведак шкоднікаў, шпіёнаў і забойцаў. Наступныя падзеі з яшчэ большай сілай пацвердзілі правільнасць гэтых указанняў.

Цяпер вядома, што па нашай бяспечнасці замежныя разведкі і ўсякія фашысцкія агенты на працягу раду год прыкрывалі свае злачынствы супроць нашай радзімы, скарыстоўваючы ў многіх выпадках і людзей з нашым партыйным білетам. Бяспечнасць нашых таварышоў у адносінах варожага капіталістычнага акружэння была ў многім на карысць нашым класавым ворагам, але на шкоду карэнным інтарэсам працоўных Совецкага Саюза. Толькі як след зразумеўшы гэтыя спосабы барацьбы буржуазіі з Совецкім Саюзам, мы маглі разгарнуць контрмеры па абароне інтарэсаў нашай краіны. Толькі тады нам стала па-сапраўднаму ясна слабасць нашай совецкай разведкі і неадкладная неабходнасць большэвіцкага вырашэння і гэтай вельмі важнай задачы. Мы гэту задачу цяпер выконваем і, не сумняваюся, выканаем нядрэнна. (*Бурныя апладысменты.*)

Каб пераможна змагацца за поўную перамогу комунізма ва ўмовах капіталістычнага акружэння, мы павінны па-большэвіцку падняць арганізаванасць і магутнасць адзінай пакуль соцыялістычнай дзяржавы. З цягам часу, калі соцыялізм пераможа ва ўсіх перадавых капіталістычных краінах, дзяржава з яе арміяй і іншым спецыяльным апаратам адамрэ, стане непатрэбнай. Але ва ўмовах капіталістычнага акружэння справа ідзе не аб адміранні соцыялістычнай дзяржавы, а аб яе здольнасці пераможна адбіваць удары класавага ворага, і асабліва з боку неразбітага яшчэ класавага ворага па-за межамі СССР. У сучасных умовах пытанне стаіць не аб адміранні совецкай дзяржавы, а ў тым, каб узмацніць магутнасць нашай дзяржавы, каб мець моцную і магутную, па-большэвіцку арганізаваную, соцыялістычную дзяржаву. (*Бурныя апладысменты.*)

У той-жа прамове на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК таварыш Сталін гаварыў:

„Трэба мець на ўвазе, што астаткі разбітых класаў у СССР не адзінокі. Яны маюць прамое падтрыманне з боку нашых

> ворагаў за межамі СССР. Памылкова было-б думаць, што сфера класавай барацьбы абмежавана межамі СССР. Калі адзін канец класавай барацьбы мае сваё дзеянне ў рамках СССР, то другі яе канец працягваецца ў межы акружаючых нас буржуазных дзяржаў".

На самай справе, унутраныя сілы класавага ворага ў нашай краіне зломлены і разбіты, але нельга забываць, што другі канец адбываючайся яшчэ ў нашай краіне класавай барацьбы працягваецца ў межы акружаючых нас буржуазных дзяржаў. Таму наша барацьба з усякага роду шкоднікамі з'яўляецца не проста ўнутранай справай,—гэта барацьба з класавым ворагам, які не разбіт яшчэ намі, бо ён за межамі Савецкага Саюза, гэта барацьба з буржуазіяй іншых дзяржаў, бо гэта задача непераможна ажыццявіма толькі ў спалучэнні сіл пролетарыята раду краін.

Агенты замежных разведак патрэбны капіталістычным дзяржавам асабліва для таго, каб падрыхтаваць некаторыя пазіцыі да моманту ўзброенага нападу на Савецкі Саюз. Таму задача карчоўкі і разгрому гэтых варожых сіл будзе знята толькі тады, калі яна будзе праведзена да канца. Не разумець гэтага, значыць не разумець адной з асноўных задач першай соцыялістычнай дзяржавы, не разумець небяспечнай ролі варожага нам капіталістычнага акружэння.

Мы павінны памятаць словы таварыша Сталіна ў яго вядомым адказе комсамольцу Іванову. Таварыш Сталін гаварыў:

> „Трэба ўсіліць і ўмацаваць інтэрнацыянальныя пролетарскія сувязі рабочага класа СССР з рабочым класам буржуазных краін; трэба арганізаваць палітычную дапамогу рабочага класа буржуазных краін рабочаму класу нашай краіны на выпадак ваеннага нападу на нашу краіну, таксама як арганізаваць усялякую дапамогу рабочага класа нашай краіны рабочаму класу буржуазных краін; трэба ўсямерна ўсіліць і ўмацаваць нашу Чырвоную Армію, Чырвоны Флот, Чырвоную Авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая „выпадковасць" і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку..."

Трэба памятаць аб тым, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, барацьба капіталізма супроць першай савецкай дзяржавы ў свеце будзе не слабнуць, не затухаць, а наадварот—нарастаць, абвастрацца, будзе апірацца на ўсё больш вострыя, на ўсё больш крайнія сродкі. Таму мы яшчэ больш упарта павінны працаваць над умацаваннем абароннай магутнасці нашай дзяржавы, над развіццём нашага ўмення і, так сказаць, майстэрства барацьбы з класавым ворагам, з варожым капіталістычным акружэннем, над пераадаленнем усіх і ўсялякіх недахопаў нашага дзяржаўнага апарата, якія перашкаджаюць выкананню гэтай задачы.

Зразумець і правесці ў жыццё указанні таварыша Сталіна датычна нашых адносін да капіталістычнага акружэння—значыцца

ўмацаваць нашы баявыя пазіцыі супроць нашых класавых ворагаў ва ўсіх абліччах, значыць весці справу да поўнай перамогі соцыялізма.

У гэтым і заключаецца карэнная задача нашай Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі (*Апладысменты.*)

Увесь вопыт барацьбы за перамогу комунізма асвятляе нам вучэнне марксізма-ленінізма. Наша большэвіцкая партыя ішла і ідзе ў авангардзе гэтай барацьбы.

Вышаўшая нядаўна кніга „Гісторыя Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў)“ упершыню дае навуковы выклад асноў марксізма-ленінізма на прыкладзе ўсёй слаўнай гісторыі большэвіцкай партыі. Выхад гэтага курса „Гісторыі ВКП(б)“ стаў магчымым толькі дзякуючы выключнай рабоце над гэтай кнігай самога таварыша Сталіна. (*Апладысменты.*)

Выхад „Гісторыі ВКП(б)“ будзе мець велізарнае *рэволюцыйна-асветнае значэнне.* Кніга адказвае глыбока назрэўшым ідэйным запросам партыі і ўсёй масы працоўных. Яна асвятляе асновы марксізма-ленінізма, на якіх развівалася наша партыя, і разам з тым асвятляе вопыт яе барацьбы, адыграўшай такую вялікую ролю ў развіцці самога марксісцка-ленінскага вучэння.

Рэволюцыйна-асветнае значэнне гэтай кнігі ў тым, што яна дае магчымасць зразумець, як стваралася наша партыя, партыя пераможнай соцыялістычнай рэволюцыі, пад якім ідэйным сцягам яна расла і з якімі ідэйнымі ворагамі ёй прышлося змагацца, як большэвіцкая партыя падрыхтоўвала перамогу і сапраўды перамагла ў Кастрычніцкай рэволюцыі і як, на аснове гэтай перамогі яна стварыла соцыялістычнае грамадства, адкрыўшае новую эру ў развіцці чалавецтва.

„Гісторыя ВКП(б)“ не проста выкладвае факты, а тлумачыць навукова іх і разам з тым мабілізоўвае рабочых і працоўных усяго свету на барацьбу за поўную перамогу комунізма.

„Гісторыя ВКП(б)“ адыграе выключна вялікую арганізуючую ролю ва ўсёй нашай барацьбе па будаўніцтву соцыялістычнага грамадства. Кожны рабочы, калгаснік, інтэлігент знойдзе ў гэтай кнізе адказы на многія пытанні, якія блізка, непасрэдна маюць дачыненне да яго работы, да яго ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

Гэта кніга адыграе асобую арганізуючую ролю ў адносінах кадраў савецкай інтэлігенцыі, ад адданасці і свядомага ўдзелу якой у нашым соцыялістычным будаўніцтве залежаць такія многія поспехі нашай справы.

Мы павінны памятаць аб тым, што савецкая інтэлігенцыя, гэта 9, а то і 10 мільёнаў нашых культурна падрыхтаваных работнікаў, пачынаючы ад кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў, калгасаў і многіх калгасных арганізацый, настаўнікаў, работнікаў навукі і мастацтва, урачоў і іншых работнікаў медыцыны, інжынераў, аграномаў, тэхнікаў, гандлёвых работнікаў, бухгалтароў, рахунковых работнікаў і яшчэ цэлага раду іншых важных катэгорый савецкай інтэлігенцыі, не гаворачы ўжо аб велізарнай арміі студэнтаў ВНУ, без якіх нельга арганізоўваць дзяржаўнай і калгаснай гаспадаркі, нельга абслугоўваць патрэб і запросаў насельніцтва.

У нас нярэдка існавалі злачынналёгкадумныя адносіны да справы выхавання совецкай інтэлігенцыі і совецкай моладзі. Пара зразумець, што кожны сур'ёзны поспех у большэвіцкім выхаванні гэтых кадраў совецкай інтэлігенцыі і совецкай моладзі моцна падымае нашу работу, забяспечыць важныя поспехі работы саміх рабочых і калгаснікаў, што без сваёй інтэлігенцыі, натхняемай ідэямі марксізма-ленінізма, адданай справе Леніна—Сталіна, нельга будаваць комунізм! *(Бурныя апладысменты.)*

Кожнаму з нас „Гісторыя ВКП(б)" будзе незамянімай зброяй у барацьбе за перамогу комунізма. З „Гісторыяй ВКП(б)" мы сталі больш свядомымі, больш арганізаванымі і, тым самым, сталі ва многім сільней.

У гэтай кнізе дадзена гісторыя ўсёй нашай партыі, уключаючы вопыт пераможнай Кастрычніцкай рэволюцыі. Яна не толькі дае гісторыю нашай партыі і рэволюцыі. Паяўленне гэтай кнігі азначае, што з гэтага часу яшчэ вышэй паднят сцяг партыі Леніна—Сталіна, як сцяг поўнай перамогі соцыялізма. (*Бурныя апладысменты.*)

Таварышы! XXI гадавіна Кастрычніцкай рэволюцыі з'яўляецца слаўным працягам дваццацігоддзя, якое мы святкавалі ў мінулым годзе.

Шлях, па якому мы ішлі і ідзем, ёсць шлях слаўных перамог совецкага народа, шлях перамогі соцыялізма.

Наша прамысловасць і ўся наша народная гаспадарка расце як нідзе.

Наша калгасная гаспадарка знаходзіцца на вялікім уздыме, і расце, як ні ў адной дзяржаве не расце сельская гаспадарка.

Наша Чырвоная Армія акрэпла і стаіць у поўнай баявой гатоўнасці на сваім пасту аховы інтарэсаў нашай радзімы, інтарэсаў соцыялізма.

Усе народы Совецкага Саюза згуртаваны ў вялікую сілу і ведаюць, што ім ніякі вораг не страшны.

Мы ведаем, што наша краіна, дзяржава і партыя гатовы да ўсякіх нечаканасцей і гатовы адказаць на любы ўдар вайны двайным і трайным грамавым ударам. (*Бурныя, працяглыя апладысменты.*)

Няхай жывуць народы Совецкага Саюза і іх шчаслівае жыццё! *(Бурныя апладысменты.)*

Няхай жыве нязломнае маральна-палітычнае адзінства Совецкага Саюза! *(Працяглыя апладысменты.)*

Няхай жыве наша родная, слаўная сваімі мінулымі і сваімі будучымі перамогамі Чырвоная Армія! (*Бурныя апладысменты.*)

Няхай жыве вялікая партыя Леніна—Сталіна—арганізатар усіх перамог соцыялізма! *(Працяглыя, доўга не змаўкаючыя апладысменты.)*

Няхай жыве вялікі правадыр вялікай справы—таварыш Сталін! (*Аркестр выконвае „Інтэрнацыянал", усе ўстаюць і наладжваюць авацыю ў гонар таварыша Сталіна*).

---

*Джамбул Джабаеў*

## КАСТРЫЧНІЦКАЯ ПЕСНЯ

Я стар гадамі, мне дзевяноста, ды з даўніх пор
Мой голас дужы, як летні лівень, як вецер з гор.

Бадай, як неба, ты так высока, гара Талгар,
К табе на грудзі ўзыходзіць сонца скрозь гушчу хмар.

І,—не баяцца ні хмар, ні снегу, ні круцізны,—
За сонцам следам ідуць к вяршыні мае сыны.

Я дваццаць першы ўжо раз бачу ў гарах зару,
Я дваццаць першы ўжо раз бачу і гавару:

Не сакавік, не май—Кастрычнік свет азарыў,
Снягі пазмёў і льды пасчысціў з маёй гары;

Цягліся к небу ствалы халодных, сухіх чынар,
Ад іх пупышак на тонкім голлі мжыў лёгкі пар.

У лёгкай гойдзе на гнуткім веццi цвяты цвілі,
Туман стагодні быў змыт зарою з вачэй зямлі.

З вяршыні ў бездань спаўзалі хмары, спадаў буран,
У росных травах, у пахкіх красках была гара.

На гору ўзлезшы, не баючыся ні хмар, ні бур,
Вялікі Ленін нам вырваў сонца з імглы віхур.

Ён аб народзе ні дня, ні хвілі не забываў,
І кнігу шчасця перад народам ён раскрываў.

Як неба сіне, як сонца шпарка ўвайшло ў зеніт!
Пад рухам пальцаў бесперапынным дамбра звініць,

Шугае песня да снежных пікаў—з арламі ў рад,
Хай чуе песню, хто хоча слухаць, хто песні рад.

Хай чуюць песню Арал і Каспій, прыбой маркі,
Хай чуюць песню стэп Сары-Арка, яго пяскі.

О горы, горы! Падножжы вашы туман абуў,
Былі вы ў снезе сівым старымі, як сам Джамбул,

Вам і Джамбулу другую юнасць надаючы,
Прышоў Кастрычнік зарою светлай з імглы начы.

І ў дзень вялікі, з народам стрэўшы прыход зары,
Народу горы адкрылі нетры, маўляў—бяры!

Заззялі камні, па медных жылах пайшла руда,
Раскрыла вугаль для нашых топак Караганда,

І Эмба стала карміць машыны з нутроў зямных,
З узнёслых вышак, як з мацярынскіх сасцоў сваіх.

Асенні Каспій бушуе справа, сівы такі,
А злева з громам паўзуць абвалы і леднікі,

Ды, маладая, зары насустрач цвіце зямля,
Як крыллі птахаў, вясёлкай грае дабро ў палях.

І ці ёсць песня, і ці ёсць словы, каб мы змаглі
Апець прыгожасць зноў нараджонай маёй зямлі?

Святлом заліты, пакрыты стэпы густой травой,
Стаіць высока над намі сонца—над галавой.

Народы горды свабодай, працай, дабром сваім.
І вораг хціві ступіць не смее, дзе мы стаім.

Ў Кастрычнік буры арлоў радзілі—яны растуць,
Вясна прыходзіць, палі рунеюць, лугі цвітуць.

Кастрычнік мужны, з табою шчасце пазналі мы,
І нам адсёння не знаць нягоды, не знаць зімы.

*Пераклад з рускага тэкста* ***Р. Л-ва.***

*Янка Купала*

## А МЫ САБЕ СЕЕМ І СЕЕМ...

I

А мы сабе сеем і сеем
Пшаніцу і радасць, і кветкі,
Ачышчаным сеем насеннем
Шчаслівыя нашы палеткі.

Над Тэмзай, над Сенай, над Віслай,
Над чорным Берлінам, над Рымам
Крывавая хмара завісла,
Крывавым сланяецца дымам.

Мадрыд абступілі бандыты
З Берліна і Рыма, як спруты,
І путы куюць ненасытна,
Народу свабоднаму путы.

У Прагу разбойнікаў зграя
Залезла і грабіць там нівы,
З-пад Токіо зброд самураяў
Катуе Кітай нешчаслівы.

А мы сабе сеем і сеем
Пшаніцу і радасць, і кветкі,
Ачышчаным сеем насеннем
Шчаслівыя нашы палеткі.

Гудкі нашых фабрык, заводаў
Складаюць нам песні і думы,
І сэрцы прасторам, свабодай
Калышуць нам трактараў шумы.

Шляхі нам далёка, адкрыта
Ляглі ва ўсе свету староны;
На шлях, ружай-кветкай спавіты,
Бяды не нашле груган чорны.

Стаіць наша страж на граніцах,
Вартуе ад чорнай напасці
І нашы загоны з пшаніцай,
І наша вялікае шчасце.

І мы сабе сеем і сеем
Пшаніцу і радасць, і кветкі,
Ачышчаным сеем насеннем
Шчаслівыя нашы палеткі.

II

З усмешкай мы жыццю глядзім у вочы,—
Судзіла доля шчасце на вяку,—
Збіраем кветкі-папараці ў ночы,
Днём з ясным сонцам ходзім пад руку.

Квяцістыя шырокія дарогі
Кабэрцам перад намі ў свет ляглі,
Заранкі цэлюць промені пад ногі
Па ўбранай па-святочнаму зямлі.

Для нас цвітуць сады і агароды,
І жытнія звісаюць каласы;
Галубяць думкі, ллюць нам асалоду
Жывою гутаркай бары, лясы.

Растуць, цвітуць сады і вінаграды,
У сонцы спеюць сочныя плады;
На травах сочных у лясных прысадах
Пасецца статак рослы, малады.

Багацце ў нашым маладым прыселлі
З павагаю засела на куце.
І клапатліва ў будні і ў нядзелі
Пшанічны каравай для нас пячэ.

Мы, гордыя сваёй доляй, воляй
І добрай славаю паміж людзей,
Імкнемся з поглядам вакол саколім
Ды сочым бег тварэння і падзей.

Дзе пустка поруч з вечным ліхалеццем,
Са зверам дзікім самапас жыла,
Паўсталі гарады і свету свецяць
Снапамі яркімі жыцця й святла.

Каналамі злучылі мора з морам,
Стан Волга абняла Масква-ракі,
Плывуць па сініх караблі прасторах,
Плывуць, куды не плавалі вякі.

Ï над зямлёй пануем у высотах,
Ï над зямлёй лунаюць караблі.
Як мёд пчала збірае рупна ў соты,
Збіраем скарб з зямлі і з-пад зямлі.

Рэк быстрабурных воды запынілі,
Плацінамі скавалі іх гульню,
Ï асвятляць моц далі воднай сіле
Электрыкай совецкую зямлю.

Ï там пайшла вада, дзе неба спекай
Высушывала поле і пасеў,
Дзе адно голад пасвіў чалавека,
Дзе дзіка вецер-сухавей свісцеў.

Збудзілася зямля і падзямелле,
Збудзілася, што спала доўгім сном;
Пяскі сухія рунню зарунелі.
З-пад скал медзь палілася ручаём.

Ракой, фантанамі з зямлі б'е нафта,
Б'е стуль, скуль і не сніў прыгонны дзед,
Ï вугаль з-пад зямлі, з вугольных шахтаў,
У скірды сыпіцца на белы свет.

Плыве, гудзе шум гулкі, будаўнічы
Па ўсёй краіне вольнай з краю ў край.
Зязюля годы радасныя ліча,
І песняй жаўранкавай звоніць гай.

З усмешкаю жыццю глядзім у вочы,
Жыццё нясе нам свой багаты дар,
Нясе, а сонцам развідняе ночы
Руплівы наш Крэмлёўскі гаспадар.

---

*Якуб Колас*

# РОДНАЙ КРАІНЕ

Мы з гордасцю і радасцю глядзім
На сонечны свой шлях,
Не пройдзены ў гісторыі нікім,
Не бачаны у вяках.
Нас Ленін вёў праз буры і агні,
Як волат і Баян.
У памяці не меркнуць тыя дні,
Жыве між нас тытан!
Алмазамі, рубінамі сляды
Дарог яго гараць.
Як радасна цябе, край малады,
Сягодня прывітаць!
Такі прастор, куды я ні зірну!
Так цвёрд і смел твой крок!
Бурліць жыццё, шуміць, як у вясну
Нястрыманы паток.
Снапы твайго іскрыстага святла
Расходзяцца шырэй.
Узносіцца краіна, як скала,
Усё вышай і дужэй.
І людзі новыя, краса і цвет
Савецкае зямлі,
За гэты час, за дваццаць слаўных лет,
Радзіліся, узраслі.
Іх сэрца—жар, а воля іх—граніт,
Парыў—арліны ўзлёт,
І высака ўзнімаюць на свой шчыт
Краіну і народ.
Хай свет стары вайной на нас ідзе,
Каб наш спыніць разбег,—
Спакойны мы, бо Сталін нас вядзе,
Наш геній, наш стратэг.

*Пімен Панчанка*

## ПЕСНЯ ПРАВАДЫРУ

Ніхто не знайшоў у купальскую ноч
Чароўную кветку—прываблівы скарб.
І доля людская цвіла палыном,
І сонца згасала ад наступу хмар...

Я з краю ў край Беларусь абыйшоў,
Зямля, што засеена горам была
І густа палітая кроўю бацькоў,
Змяніла аблічча, як сад, расцвіла.

Я слухаў, як ранкам гамоняць бары,
Я слухаў, як хвалі калоссяў шумяць,
Я слухаў, як жнеі пяюць на зары,
І ўсюды я чуў дарагое імя.

І гэтую песню пра Сталіна склаў,
Сагрэў яе сэрцам сваім маладым.
Як сонца патрэбна для кветак і траў,
Так ты для мяне, дарагі правадыр!

Расціў, гадаваў ты, як сына, мяне,
Спазнаў я вялікую ласку тваю.
За ўсіх на зямлі для мяне ты радней,
Табою жыву я, цябе я пяю.

Я повен натхнення і радасных дум,
Суровай адвагі і веры жывой—
Куды ні паеду, куды не пайду,
Бяды не ўбачу, бо Сталін са мной!

*Эрнест Хэмінгуэй.*

# СТАРЫ ЛЯ МАСТА

Так канчаецца свет для тых бездапаможных, якія занадта маладыя ці занадта старыя, каб разумець, з-за чаго ідзе страляніна.

Стары ў акулярах з жалезнай аправай сядзеў ля края дарогі; яго вопратка была пакрыта пылам. На рацэ быў пантонны мост, і па ім перапраўляліся павозкі, грузавікі, мужчыны, жанчыны і дзеці. Запрэжаныя муламі павозкі паўзлі з маста на круты бераг, салдаты падштурхоўвалі іх, упіраючыся ў спіцы колаў. Грузавікі з грукатам узбіраліся наверх і знікалі, вырываючыся са штурханіны; сяляне цягнуліся, тонучы ў пыле па шчыкалатку. Але стары сядзеў нерухома. Ён занадта стаміўся, каб ісці далей.

Я павінен быў перайсці мост, абследваць умацаванне на тым баку і высвятліць, як далёка прасунуўся непрыяцель. Я зрабіў гэта і звярнуўся праз мост. Цяпер павозак было меней, пешаходаў зусім мала, але стары ўсё яшчэ сядзеў там.

— Адкуль ты ідзеш?—спытаў я яго.

— З Сан Карлоса,—сказаў ён і ўсміхнуўся.

Гэта быў яго родны горад, і яму было прыемна назваць яго, і ён усміхнуўся.

— Я глядзеў за жывёламі,—растлумачыў ён.

— Вось як,—сказаў я, не зусім разумеючы.

— Так,—сказаў ён,—я застаўся, каб глядзець за жывёламі. Я пайшоў з Сан Карлоса апошнім.

Ён не быў падобны ні на пастуха, ні на свінапаса; я глядзеў на яго чорную запыленую вопратку, і на яго шэры запылены твар, і на акуляры ў жалезнай аправе і спытаў:

— Якія жывёлы?

— Розныя жывёлы,—сказаў ён і паківаў галавой.—Мне давялося пакінуць іх.

Я глядзеў на мост і на мясцовасць вакол вусця Эбро, нагадваўшую мне Афрыку, і думаў аб тым, ці хутка пакажацца непрыяцель, і ўвесь час прыслухоўваўся, чакаючы той першы гук, які апавяшчае аб вечна таямнічай з'яве, называемай сутыкненнем франтоў, а стары ўсё яшчэ сядзеў там.

— Якія жывёлы?—паўтарыў я.

— Іх усяго трое,—растлумачыў ён.—Два казлы і кошка, ды яшчэ чатыры пары галубоў.

— І табе давялося пакінуць іх?—спытаў я.

— Так. З-за абстрэла. Капітан загадаў мне пайсці з-за абстрэла.

— У цябе няма сям'і?—спытаў я, гледзячы на супроцьлеглы канец маста, дзе адзінокія павозкі таропка спускаліся па схілу берага.

— Не,—сказаў ён,—толькі гэтыя жывёлы. Ну, кошка, вядома, не прападзе. Кошка можа аб сабе паклапаціцца, а вось што станецца з астатнімі—падумаць страшна.

— Ты за каго?—спытаў я.

— Ні за каго,—сказаў ён.—Мне 76 год. Я прайшоў ужо 12 кілометраў, і мне здаецца, што я не магу ісці далей.

— Гэта дрэннае месца, тут нельга заставацца,—сказаў я.—Пастарайся дабрацца туды, дзе дарога разыходзіцца на Тартосу, там ёсць грузавікі.

— Я пасяджу яшчэ крыху,—сказаў ён,—і потым пайду. Куды ідуць гэтыя грузавікі?

— У Барселону,—сказаў я.

— Я там нікога не ведаю,—сказаў ён,—але я вам вельмі ўдзячны. Вельмі ўдзячны.

Ён зірнуў на мяне стомлена і абыякава і потым сказаў, адчуваючы неабходнасць падзяліцца з кім-небудзь сваёй трывогай:—Кошка не прападзе, я ведаю. Аб ёй няма чаго непакоіцца. А вось астатнія. Як вы думаеце, што будзе з астатнімі?

— Што-ж, яны, напэўна, таксама уцалеюць.

— Вы думаеце?

— А чаму-б не?—сказаў я, углядаючыся ў супроцьлеглы бераг, дзе ўжо не відаць было павозак.

— А што яны будуць рабіць, калі абстрэл? Мне і то загадалі адыходзіць з-за абстрэла.

— Ты пакінуў галубятню адчыненай?—спытаў я.

— Так.

— Тады яны выляцяць.

— Ну, вядома, яны выляцяць. А вось астатнія. Не, лепш не думаць,—сказаў ён.

— Калі ты адпачыў, ідзі,—настойваў я.—Устань і папрабуй ісці.

— Дзякуй вам,—сказаў ён і падняўся на ногі, пахіснуўся і зноў сеў у пыл.

— Я глядзеў за жывёламі,—паўтарыў ён тупа, ужо незвяртаючыся да мяне.—Я толькі глядзеў за жывёламі.

Бескарысна было імкнуцца дапамагчы яму. Быў першы дзень пасхі, і фашысты падступалі да Эбро. Дзень быў шэры, пахмурны, і нізкія воблакі не дазвалялі ўзняцца іх самалётам. Гэта, ды яшчэ тое, што кошкі самі могуць аб сабе паклапаціцца—вось усё, у чым напаследак пашанцавала старому.

---

*Пётр Дудо*

# НАНОСЫ

Інжынер станкабудаўнічага завода Непаліцын вышаў з цэха і накіраваўся да трамвайнай астаноўкі ў прыгарадны пасёлак. Дарога да пасёлка была гладкая і прамая, як струна, а паабапал яе высіліся разложыстыя ліпы і бярозы, звісаючы галінамі ледзь не да зямлі. Крыху ў бок ад дарогі віднелася возера, а побач з ім ляжаў поплаў. Возера было нешырокае, але ў даўжыню цягнулася кілометры на тры.

Патыхаў цёплы летні вецер і, шавелячы зялёныя галіны на дрэвах, ціха шапацеў у лісці. На возеры гойдаліся маленькія хвалі, яны беглі адна за другой да берага, біліся аб яго і знікалі.

Ля самага возера, на купінцы сядзеў паляўнічы са стрэльбаю. Гэта быў пажылы чалавек. Рыжая, шырокая, як памяло, барада слалася па яго грудзях, а лоб перасякаўся рубцамі.

За некалькі крокаў ад яго пяць ці шэсць хлопчыкаў школьнага ўзросту вудзілі рыбу. Але рыба сёння не бралася на кручок, хоць кляваць—клявала. Хлопчыкі былі вельмі нездаволены сваёй няўдачай.

— Нешчаслівы дзень! Ух, гадзюка, зноў чарвяка з'ела,—пакрыўджана прамовіў астрыжаны хлопчык.—Чакай-жа!

Ён надзеў на кручок другога чарвяка, таўсцейшага, і закінуў вуду бліжэй да аіра, каб трапіць на акуня. Паплавок ціха пялёснуў па вадзе і пачаў калыхацца на частых драбнюсенькіх хвалях. Вада тут была празрыстай. Чарвяк вісеў на кручку ля самага дна. Хлопчык выразна бачыў яго. Шэры вялікі акунь вышаў з аіра, падняўся ўверх, пастаяў крыху ля паплаўка, а потым павольна апусціўся на дно. Хлопчык пачаў сачыць за акунём.

— Яго-б падчапіць. Ён напэўна поўкіло заважыць...

Акунь падплыў да чарвяка, зірнуў з аднаго боку, з другога, а потым раскрыў рот і праглынуў яго адразу. Хлопчык імпэтна шмаргануў вуду. Яна расцягнулася, затрашчэла, але стрымала акуня. Растапырыўшы чырвоныя пёры, акунь цяжка ўзнімаўся з вады.

— Акунь! Акунь!—закрычалі хлопчыкі, нібы вітаючы гэтым свайго таварыша.

— Цішэй вы!—коса зірнуўшы на іх, сказаў паляўнічы.

Хлапчукі сцішыліся.

Ужо вечарэла. Па небу плылі шэрыя хмары, пераваліваючыся

адна цераз адну. Непаліцын ішоў павольна, нібы прыслухоўваючыся да ціхага шэлесту веццяна дрэвах. Ён зірнуў на поплаў і, як убачыў паляўнічага, спыніўся, бо любіў назіраць за паляваннем. Але з дарогі назіраць было нязручна—далёка.

„Пайсці бліжэй?—мільганула думка.—А чаму-ж не?"

Ён закурыў папяросу і пайшоў.

Паляўнічы сядзеў не варушачыся. Да пояса ў яго была прычэплена парожняя сумка. Непаліцын падышоў блізка і прывітаўся.

— Добры вечар!—адказаў паляўнічы на прывітанне і недаверлівым позіркам акінуў Непаліцына з галавы да ног. Відаць, ён быў чалавек спрактыкаваны, хітры.

— Лётаюць качкі?—спытаў Непаліцын.

— Покуль не. Чакаю.

Непаліцын паклаў пад куст партфель і піджак, а сам сеў на купінку.

Паляўнічы пільна ўглядаўся на супроцьлеглы бераг: там ля кустоў шарыў сабака, шукаючы качак. Туды пачаў глядзець і Непаліцын. Сабака раптам выскачыў на берга, панюхаў зямлю, а пасля весела замахаў хвастом і зноў палез у ваду.

Пад вярбой, якая стаяла над возерам, плавалі качкі. Хвілін праз пяць сабака натрапіў на іх і ўзагнаў. Паляўнічы настаражыўся і перайшоў да куста, дзе сядзеў Непаліцын, бо адсюль зручней было страляць.

Качкі спярша кружыліся над возерам, а потым выляцелі на поплаў. Паляўнічы нацэліўся і выстраліў па іх. Качкі замітусіліся, падняліся вышэй, а адна, падстрэленая, упала далоў. Паляўнічы яшчэ раз выстраліў наўздагон, але прамахнуўся.

Непаліцын падышоў да забітай качкі, падняў яе і пачаў разглядваць. Падбеглі хлопчыкі і, абступіўшы яго, залюбаваліся птушкай.

— Якая вялікая...

— Гэта, мусіць, селязень.

— А галоўка якая сізанькая...

— Прыгожая птушка!

Паляўнічы, стоячы ля куста, зарадзіў стрэльбу, а пасля прышоў узяць качку. Ён быў задаволены і ўсміхаўся. Непаліцын аддаў качку.

— Важкая... Добрая вячэра будзе!

— А нішто сабе!—сказаў паляўнічы басам.—Не варону, а качку застрэліў.

Ён паклаў яе ў сумку і пайшоў уздоўж возера.

* * *

Пачало цямнець. Зацярушыў дробны, але густы дожджык. Непаліцын прышоў у пасёлак, сеў у вагон трамвая і паехаў дамоў. Жыў ён у цэнтры горада. Кватэра яго была з двух пакояў, невялікіх памерам, але ўтульных, чыстых. У першым пакоі стаяў стол,

шафа, канапа, некалькі венскіх крэслаў і этажэрка з літаратурай, пераважна тэхнічнай; другі пакой быў спальняй.

У гэты вечар да яго ніхто не прыходзіў. Ён расклаў на стале чарцяжы свідравальнага станка, які ён пачаў праектаваць. У пакоі было ціха і светла. Вялікая электрычная лямпа асвятляла ўсе куточкі. На сцяне роўнамерна цікаў гадзіннік: цік, цік... Было ўжо каля адзінаццаці гадзін. Непаліцын усё яшчэ працаваў над праектам. Але стомленасць пачала адчувацца. Ён зірнуў на гадзіннік, а потым склаў чарцяжы, узяў гітару і пачаў іграць, каб разагнаць сон.

Нечакана ля парогу зазвінеў званок.

— Пазнавата ўжо!... Хто-б гэта?

Званок паўтарыўся. Непаліцын падышоў да дзвярэй і адчыніў іх. Ля парога стаяла незнаёмая маладая дзяўчына, у звычайным суконным касцюме, з партфелем у руцэ. На галаве ў яе пышна сядзела шапачка „іспанка“ з чырвоным банцікам. Убачыўшы Непаліцына, дзяўчына як-бы сумелася. Ён запрасіў яе ў кватэру. Яна прытка пераступіла парог, прайшла да стала і села на крэсла. Чарнявыя вочы яе, у якіх была трапяткая настарожанасць, прагна ўпіліся ў яго.

— Непаліцын—вы будзеце?—спыталася яна.

— Я.

— А як ваша імя і па бацьку?

Ён здзівіўся. Пытанне гэта выклікала нават падазронасць да дзяўчыны.

— Я вас не разумею. Навошта вам адразу патрэбна ведаць маё імя і па бацьку?

Дзяўчына засмяялася.

— А вы не здзіўляйцеся. Я ля трамвайнай астаноўкі ў пасёлку знайшла кашалёк з грашыма і дакументы на імя Непаліцына. Я-ж не хачу памыліцца. Дакументы і грошы трэба перадаць таму, каму яны належаць.

Непаліцын спалохаўся.

— Няўжо мае! Але-ж быць не можа...

Ён заспяшаўся і пачаў шарыць рукамі ў кішэнях штаноў, пінжака.

Дзяўчына сядзела моўчкі. На твары яе зрэдку з'яўлялася ледзь прыкметная і хітраватая ўсмешка.

Непаліцын абшукаў усе кішэні, але кашалька і дакументаў не было. Яму рабілася то горача—пот выступаў, то халодна—быццам мароз ледзяніў кроў.

Дзяўчына выняла з партфеля кашалёк і перакінула яго з аднае рукі на другую. Непаліцын разгублена глядзеў на яго.

— Ваш?

— Мой!

Яна ўзяла дыплом аб сканчэнні Непаліцыным машынабудаўнічага інстытута і перагарнула першую старонку.

— Як-жа вас завуць?

— Васіль Сямёнавіч!

— Правільна!—пацвердзіла яна, прачытаўшы імя ў дыпломе.

— Інстытут вы ў мінулым годзе скончылі?

— У мінулым.

— А нарадзіліся ў якім?

— У 1916.

Яна паклала на стол комсамольскі білет, пашпарт і грошы.

— Грошы я не лічыла. Па чэку, здаецца, дзве тысячы рублёў, а колькі наяўных—не ведаю.

— Пяцьсот рублёў.

— Пяцьсот? Дзяржаўныя?

— Чэк на дзяржаўныя.

Яна паківала галавой.

Непаліцын узяў дакументы і з палёгкай уздыхнуў.

— Я вам шчыра дзякую!—сказаў ён.—Мне-б столькі непрыемнасцей было...

— Не супярэчу... Непрыемнасцей было-б многа. Комсамольскі білет... о-го...

Ён сеў супроць яе. Сэрца яго трапятала. Дзяўчына заўважыла, што ён сумеўся і хутка перамяніла тэму гутаркі.

— Васіль Сямёнавіч, а вы вельмі хораша ігралі на гітары... Я, шчыра прызнацца, задаволена, што мне выпала зрабіць вам прыемнасць, а не каму-небудзь іншаму. А цяпер, даруйце мне, я павінна ісці.

Непаліцын чагосьці заспяшаўся. Яна падала яму руку.

— Будзьце ласкавы,—папрасіў ён,—скажыце мне ваша імя.

— А вам хіба не ўсёроўна?

— О не, што вы? Я вас прашу!

Наступіла кароткая пауза. Яны стаялі адзін насупроць другога.

— Мяне завуць Вера Давыдаўна, а прозвішча Шнырава.

— Дзякую!

Ён моцна і ўдзячна паціснуў яе руку.

Была ўжо другая гадзіна ночы. Непаліцын доўга яшчэ не клаўся спаць. Перажытыя нечаканасці вельмі хвалявалі яго. А за акном стаяла цемень. Ціха паўзлі па небу белыя воблакі, нібы краліся да глыбокіх таямніц. У горадзе гарэлі яркія агні і мігалі,—далёка-далёка.

* * *

Чарадой цягнуліся дні. Надышла зіма... Белая коўдра снегу распасцёрлася па зямлі. Мароз закаваў у ільды рэкі і азёры. Дрэвы нахілілі долу абцяжараныя снегам галінкі.

Кожны дзень на гарадскім катку сотні людзей катаюцца на каньках. Хто з нас не любіць здаровы зімовы спорт? Рэдка знойдзецца такі чалавек.

Непаліцын быў дома, працаваў над праектам станка. Новы свідравальны станок, як задумаў яго ён, павінен будзе замяніць старыя станкі на заводзе. Ён будзе мець прасцейшую канструкцыю, патрабуе меншай затраты чалавечай сілы і значна палепшыць справу свідравання. Гэта асноўныя якасці будучага станка.

Непаліцын працуе ўпарта, не лічыцца ні з сіламі, ні з часам, абы толькі ажыццявіць сваю мару, зрабіць карысць для завода і краіны. У апошнія месяцы ён так захапіўся, што нават рэдка калі ходзіць да сваіх таварышоў або ў горад. Усе парыванні і думы накіраваны на праект, і больш амаль нішто не цікавіць яго.

Але яму ўспамінаецца спатканне з Верай, яе сумленны ўчынак. Ён тады пройдзе лёгкай хадою па пакою і сядзе ля стала.

— Харошая яна дзяўчына!—мільгане ў галаве думка.—Сустрэцца-б з ёй, пагутарыць... Але дзе сустрэць яе?..

Ён аб чымсьці задумаўся і абапёрся рукой на стол.

У гэты час яго таварыш, токар завода Андрушчык ішоў дамоў. Над заходняй часткай горада, дзе схавалася сонца, як агонь чырванела неба. Скрыпеў снег і марозны румянец ірдзеўся на тварах праходжых. Андрушчык зайшоў у магазін і з аўтамата пазваніў да Непаліцына. Званок тэлефона зазвінеў моцна.

— Я слухаю,—адказаў Непаліцын.

— Гэта Андрушчык гаворыць. Пойдзем, давай, на каток! Ты правятрыся крыху. Надвор'е добрае сёння.

— А хто яго ведае... Надвор'е то добрае.

— Абавязкова! Я цябе буду чакаць на катку.

— Чакай!—згадзіўся ён.

Андрушчык прышоў дамоў, апрануў фізкультурны касцюм і пайшоў на каток. Па дарозе яму сустрэўся сакратар гаркома комсамола.

— Андрушчык, ты куды?

— Пакатацца трэба!

— Як пакатацца? Зараз нечарговае пасяджэнне бюро гаркома. Табе што, не паведамілі?

— Не.

Сакратар пацісну́ў плячмі.

— Пойдзем!

Андрушчык пайшоў на бюро. З гаркома ён пазваніў да Непаліцына, але яму ніхто не адказаў з кватэры.

* * *

Высока ў небе зіхацелі зоркі і плыў месяц. Вакол шырокага ледзянога поля на дрэвах і правадах серабрыўся іней. Па кругу шпарка імчаліся адзін за адным канькабежцы.

Непаліцын вышаў на каток, зірнуў навокал, але Андрушчыка не было. Ён пастаяў яшчэ крыху, а потым абуў бацінкі з канькамі і далучыўся да канькабежцаў. Катаўся ён на каньках добра і ўжо на першым кругу многіх перагнаў. Але ззаду пачулася блізкае і смелае шарханне канькоў. Хтосьці настойліва парываўся выйсці яму наперад. Ён паімкнуўся ўцячы, але задні не адставаў: канькі шархалі ўсё бліжэй і бліжэй.

Ён крута павярнуўся ў круг, выехаў на сярэдзіну поля, спыніўся і паглядзеў на канькабежца, які апярэдзіў яго.

— Дзіўна! Дзяўчына перамагла.

Ён хвіліну пастаяў, а пасля паехаў ёй насустрач. Дзяўчына імчалася шпарка. Драбнюсенькія крупінкі лёду сыпаліся з-пад каньткоў і ляцелі ва ўсе бакі. Потым яна прыцішыла ход. Лагодная ўсмешка, якая з'яўляецца пры нечаканай, але жаданай сустрэчы, заірдзелася на яе твары.

Непаліцын спыніўся. Шчокі яго загарэліся радасцю. Дзяўчына павольна ехала да яго.

— Добры вечар, Васіль Сямёнавіч!

— Добры вечар, Вера Давыдаўна!—прывіталіся яны і моцна пацiснулі рукі.

— І як гэта зусім неспадзявана,—сказаў ён.

Вера весела засмяялася.

— А я думала, што вас болей і не сустрэну, думала, вы пераехалі ў другі горад. Вы, мусіць, вельмі многа працуеце і нікуды не ходзіце?

— Не так ужо і многа, але-ж...

На катку іграў аркестр. Гукі музыкі вырываліся з медзяных труб і, прарэзваючы марозную сінь паветра, разносіліся ўдалячынь.

Вера і Непаліцын былі ў кругу. Паўз іх мігалі стройныя постаці юнакоў і дзяўчат.

— Паедзем!—прапанавала яна.

Паветра ледзь прыкметна калыхалася сінявой.

Сотні чалавечых ног прытка шархалі калькамі па ільду. Вясёлы жыццёрадасны смех і жарты канькабежцаў гучэлі песняю здаровага адпачынку.

* *
*

Вечар быў усё такі-ж ціхі і ясны. У вітрынах магазінаў серабром пераліваласяя электрычнасць. На скрыжаванні вуліц гадзіннік паказваў час поўначы. Па тратуарах, падганяемыя марозам, спяшаліся людзі. З грукатам і звонам праходзілі трамваі. Вагоны былі паўнюткі пасажыраў.

Непаліцын і Вера ішлі з кіно. Настрой у іх быў вясёлы. Скора яны прышлі да дому, дзе кватэравала Вера, і спыніліся ля пад'езду.

Горад жыў абыдзеным кіпучым жыццём. Але раптам звычайны вулічны шум парушыўся прарэзлівым воем сірэны. Потым загулі гудкі заводаў, фабрык, паравозаў на станцыі... На вуліцах у момант з'явіліся конныя раз'езды міліцыі, чырвонаармейцы, грамадзянскія каманды ПВО, супроцьпажарныя і санітарныя аўтамабілі. Людзі, якія былі на вуліцах, мітусліва кінуліся ў дамы і пад'езды. Горад заціх і пагрузіўся ў цемень, прытаіўся, быццам яго зусім няма. Але на справе горад жыў яшчэ больш кіпуча. Жыхары яго настаражыліся, кожны заняў сваё месца, чакаючы нападу ворага. На заводах, фабрыках і ў дамах сродкі супроцьпаветранай і супроцьхімічнай абароны былі прыведзены да баявой гатоўнасці. Пражэктары, скрыжоўваючы над горадам праменні, пачалі ныраць

у паднябессі. Горад быў гатоў абараніць сябе, сустрэць ворага і знішчыць яго.

Вера і Непаліцын стаялі ў пад'ездзе. Холад прабіраў іх абоіх наскрозь. Вера, грэючыся, скакала з аднае нагі на другую. Мароз настойліва шчыпаў за вушы, за нос, шчокі.

Трывога працягвалася.

— Пойдзем, Васіль Сямёнавіч, да мяне ў кватэру. Я зусім змерзла.

— Пойдзем!—адразу згадзіўся ён.

Яны ўзышлі на трэці паверх і ўвайшлі ў невялікі пакоік. Вера шчыльна завесіла шторамі вокны і запаліла свечку. Пакоік быў чысты і ўтульны. Усё ў ім было на сваім месцы. Каля стала, засланага чыстым абрусам, стаяла два крэслы. Стол быў пасярод пакою. На ім стаяў букет кветак. На сценах віселі партрэты кіраўнікоў партыі і ўрада, прыгожыя пейзажы.

Непаліцын сеў на канапу. Вера прапанавала выпіць па стакану чаю, але ён адмовіўся.

Праз поўгадзіны скончылася трывога. Горад зноў ажыў і, не гледзячы на позні час, напоўніўся шумам, рухам, святлом. Вера пагасіла свечку і ўключыла электрычнасць. У пакоі стала яшчэ больш светла і чыста. Непаліцын падышоў да стала і сеў на крэсла насупроць яе. Яны неяк мімавольна зірнулі адзін на другога, і позіркі іх сустрэліся. Вера быццам сумелася і пачала глядзець на букет кветак.

— Прыгожыя ў мяне кветкі, праўда?

— Харошыя. Такія, як і вы!

— Ха-ха-ха...—прагучэў смех.—Пакіньце, Васіль Сямёнавіч, камплiменты.

— Падарыце мне адну кветку,—папрасіў ён.

— Калі ласка!

Яна адарвала кветку і падала яму. Ён пачаў прышпільваць яе да піджака.

— Дазвольце, я прышпілю вам.

Вера была ласкавай і вясёлай з ім. У яе паводзінах не было какецтва. Яна імкнулася быць дзяўчынай простай, прыязнай. Постаць яе была стройная, жвавая, вочы чарнявыя і вельмі быстрыя. Валасы яна насіла сплеценымі ў дзве косы, якія ляжалі ўздоўж спіны. А калі-ні-калі яна перакладвала косы цераз плечы наперад, і тады яны звісалі амаль да кален. Адзявалася яна проста, але чыста; не любіла, каб на яе адзенні былі якія-небудзь звышмодныя выкрунтасы. Яна, відаць, імкнулася пераймаць народны стыль убораў, звычак, у гутарцы хацела быць шчырай.

Сёння з Непаліцыным яна гутарыла многа аб чым. Гутарка ішла лёгка, проста. Здавалася, што яны поўнасцю і ва ўсім разумелі адзін другога. Непаліцын спытаўся ў яе, дзе яна працуе. Яна быстра зірнула на яго і ўсміхнулася. Відаць, гэтага пытання яна чакала.

— Я чалавек маленькі. Працую тэхнічным сакратаром трэста. Ведаеце, Васіль Сямёнавіч, мне так надакучыла канцыляршчына... Я калісьці працавала токарам у адной МТМ на раёне. Зусім другое...

Я зайздрошчу тым дзяўчатам, якія не ведаюць канцылярскае працы. Шчаслівыя яны людзі! Іх больш паважаюць, на прадпрыемстве яны бачаць перад сабой перспектыву росту, становяцца людзьмі, аб якіх ведае ўся краіна. А тут што? Сядзі, перапісвай, друкуй, ды рассылай паперы. Вельмі мне надакучыла...

Голас яе гучэў пераканаўча. Яна схіліла галаву і задумалася.

— Сапраўды, нудна маладому чалавеку корпацца ў канцылярскіх паперах,—паспачуваў ёй Непаліцын.—А вы-б паступілі куды-небудзь працаваць на завод, або на фабрыку.

Яна хутка падняла галаву і ўгледзілася на яго.

— Сапраўды! Рабочыя-ж патрэбны. Вось хоць-бы і на наш завод. Паступайце токарам.

Яна задумалася.

— Хто яго ведае. Я і сама аб гэтым думала ўжо, але ўсё баюся: я ніколі не працавала на вялікім прадпрыемстве.

Ён усміхнуўся ледзь прыкметна.

— Баяцца няма чаго. На вялікім прадпрыемстве працаваць нават лепш, чым на малым.

— Яно так!—згадзілася яна.

Марозная ноч ахутвала горад. Цмяны месяц стаяў у вышыні і кідаў долу праменні. Вера праводзіла Непаліцына на вуліцу і развіталася з ім. Вуліца была пустая, толькі вартаўнікі магазінаў тупалі каля вітрын. Ён шпарка пайшоў па тратуары да сваёй кватэры. Спаць яму не хацелася.

* * *

Праз некалькі дзён Вера паступіла на станкабудаўнічы завод токарам. Станкабудаўнічы завод—самы большы ў горадзе. На ім працуе каля дзесяці тысяч рабочых. Калектыў вялікі, дружны. Вера ўпарта і смела ўзялася за новую работу. Адразу-ж ёй сустрэліся і цяжкасці,—спецыяльнасць токара яна ведала слаба. Але яна не разгубілася, а настойліва пачала вучыцца.

Побач з ёй працаваў Андрушчык, высокакваліфікаваны токар, лепшы стаханавец. Ён быў культурны рабочы, чулы і прыхільны таварыш. Вера пачала звяртацца да яго за дапамогай, вучыцца ў яго.

— Вы будзеце шэфам нада мной, таварыш Андрушчык!—прасіла яна.

І ён дапамагаў ёй. Не болей як праз месяц яна поўнасцю аўладала спецыяльнасцю. Дэталі, якія яна апрацоўвала, не мелі браку. Станок захоўваўся ў чыстаце, вакол яго быў поўны парадак. Кожны дапаможны інструмент ляжаў на сваім месцы.

У цэх часта прыходзіў Непаліцын. У першыя дні ён дапамагаў Веры асвоіцца з работай, а цяпер проста так—праведаць яе. Яна сустракала яго ласкава. Яны ўсё больш і больш зблізіліся: разам хадзілі ў кіно, тэатр, каталіся на катку, бывалі адзін у другога на кватэры.

Доўга цягнуцца зімовыя вечары. За акном кружацца сняжынкі, абляпляюць слупы, сцелюцца пеляной па дахах. Праз радыёрупары

з Масквы ліюцца песні, музыка. Непаліцын і Вера разам слухаюць радыё.

Калі-ні-калі яны іграюць у шахматы, шашкі. Вера вельмі захапляецца ігрою ў шахматы. Любіць яна рабіць свае подпісы ў альбомах пад здымкамі. Почарк у яе роўны; піша яна хутка, але кожная літара выразная. Почарк Непаліцына неразборчывы; амаль усе літары падобны адна да другой і чытаць іх цяжка. У сваім прозвішчы ён выразна піша толькі дзве першыя літары „Не“, а ўсе астатнія зліваюцца ў суцэльнае „ш“ з хвосцікам. Вера жартуе, смяецца з яго роспісу. Жарт гэты калючы, назойлівы. Непаліцын не згаджаецца з ёй.

— Твой-жа почарк не лепшы,—неяк сказаў ён.

— Не лепшы?

Яна засмяялася, узяла ліст паперы, штосьці хутка-хутка напісала на ім каляровым алоўкам і падала яму.

— Вось напішы што-небудзь побач і параўнай.

Такія параўнанні яны рабілі не адзін раз. Пераможцам заўсёды заставалася Вера.

Сёння яны толькі што прыехалі з тэатра. Было каля поўначы. Твар Веры палымнеў румянцам, як макаў цвет чырванню. Непаліцын сядзеў ля стала. Яна села на канапу і амаль кожную секунду быстрым, спакуслівым позіркам упівалася ў яго. А яму было прыемна адчуваць яе позірк на сабе. Гэтак прайшло з поўгадзіны. Потым Непаліцын сеў да яе на канапу. Яна трымала ў руках шаль і пальцамі перабірала шоўкавыя нітачкі. Валасы яе былі як заўсёды заплецены ў косы і ляжалі на спіне. Непаліцын узяў касу ў руку. Яна моўчкі пераклала яе цераз плячо наперад. Ён непрыкметна ўсміхнуўся, а потым руку паклаў ёй на плячо.

— Пакінь, Вася!

Ён не слухаў.

— Пакінь, а то заробяць твае рукі.

— Заробяць, дык і атрымаю,—усміхнуўся ён, абняў яе і хацеў пацалаваць.

— Што ты? Што ты?—ледзь не ўголас закрычала яна, вырвалася ад яго і пайшла да стала.

Ён застаўся ля канапы. Якаясьці крыўда сціснула яго сэрца.

„Няўжо яна не пераконана ў шчырасці майго кахання?“—падумаў ён.

Яна села на крэсла. Грудзі яе то ўздымаліся, то апускаліся, а шчокі гарэлі жарам. Потым яна паднялася і стала пасярод пакою.

— Ты, Вася, не злуй на мяне. Ты сам вінаваты ва ўсім. Ці можна вам, мужчынам, верыць адразу? Усе вы аднолькавыя.

— Усе?..

Непаліцын яшчэ больш захваляваўся.

— Верачка, ты не верыш майму каханню?

Яна маўчала, а з вачэй, здавалася, гатовы былі пырснуць слёзы. Раптам рысы яе твару набылі таямнічую сур'ёзнасць. Яна намервалася сказаць нешта важнае, але не магла адважыцца.

— Вася,—ледзь чутна прашапталі вусны,—я гатова жыць

з табой, я веру твайму каханню, табе веру, бо моцна, шчыра цябе кахаю, але мы павінны запісацца. Не хачу я так...

— Запісацца! Верачка, мілая! Дык гэта-ж можна сёння зрабіць! Сёння! Заўтра! Заўтра мы запішамся.

Твар яе засвяціўся радасцю і шчасцем. Яна выцягнула наперад рукі і паклала іх яму на плечы. Ён моцна абняў яе. Яна адкінула назад галаву, страсанула валасамі, а затым зноў схілілася на яго грудзі.

А назаўтра яны наведалі ЗАГС.

* * *

Летні дзень патыхаў гарачым паветрам. Сонца было ўжо далёка за поўдзень.

Непаліцын працаваў над праектам станка. Чарцяжы былі расскладзены на стале, а ён, нахіліўшыся над імі, штосьці вылічваў. Са двара ўвайшла Вера. Трымаючы ў руцэ зялёную галінку бярозы, яна падышла да яго і пачала гладзіць па галаве.

— Інжынер ты мой мілы! Зусім ты запрацаваўся над сваім праектам.

Ён ласкава ўсміхнуўся яе пяшчотам.

— Дзень пры дні ты б'ешся над праектам. Ці скора-ж ты скончыш яго?

— Скора, Верачка, скора! Тыдні праз два.

— Ха-ха-ха... Тыдні праз два? А я, дурная, думала, што хвілін праз дваццаць, праз дзесяць, а тады гуляць пойдзем з табою. Паглядзі, Вася, у акно, якое цудоўнае надвор'е: сонца, на полі кветкі пахнуць, лес шуміць за горадам. Пойдзем на прагулку! Ты адпачнеш, сіл набярэшся.

Яна абняла яго і пацалавала.

— Не, Верачка! Нельга мне цяпер ісці! Я-ж абяцаў на комсамольскім сходзе, што да 1 жніўня сконху праект, а часу засталося мала. Трэба-ж стрымаць сваё слова.

Яна пакрыўдзілася.

— Ну вось які ты, Вася! Адно толькі і ведаеш: завод ды праект. Але што я буду агітаваць цябе! Я вось вазьму ды не дам табе працаваць: буду цалаваць цябе, галубіць. Я-ж моцна-моцна цябе кахаю, хачу, каб ты адпачыў, чыстым паветрам падыхаў. Пойдзем!

Яна ўчапілася за руку і пацягнула яго ў другі пакой да шафы, каб ён апрануў навейшы касцюм. Ён спачатку ўпіраўся, але згадзіўся.

Падвечар яны прышлі да возера, дзе калісьці паляўнічы страляў качак, узялі човен і паехалі на другі бок. Бераг там быў прыгожы. Каля самага возера цягнулася вузкая палоска кустоў, далей быў сасоннік, канца-краю якога не было відаць. Паміж соснамі бялелі бярозкі. Мясцовасць тут была няроўная. Калісьці даўным-даўно людзі накапалі ў лесе грамадзіны-валатоўкі. Ляжаць яны тут дзесяткі стагоддзяў, акружаныя тоўстымі соснамі і дубамі-асілкамі.

Непаліцын і Вера доўга хадзілі па сасонніку, разглядвалі валатоўкі. Вера зрабіла з бярослы кошык і назбірала ў яго ягад. Потым

яны вышлі да возера і ляглі на траву пад бярозай. Прамяністыя языкі сонца прабіваліся скрозь шчыліны хвояў і слаліся па зямлі доўгімі паясамі. Лёгкі вецярок, які шапацеў у галінах дрэў, цяпер сціх зусім. Паверхня возера стаяла гладкай, ціхай; пабліскваючы срэбрам лускі, плёскалася рыба. За возерам высіліся заводскія трубы, а ўлева—гарадскія белыя дамы. Ля горада вылучаўся невялічкі гаёк хваёвага лесу. Гэта быў гарадскі могільнік. Вера падняла галаву і доўга-доўга глядзела туды. На твары яе з'явіўся смутак. Яна цяжка ўздыхнула і зноў лягла. Непаліцын прыкмеціў перамену яе настрою.

— Чаго ты?

— А нічога! Гэта я так!

А праз хвіліну яна ўстала і пайшла да чоўна, ні слова не сказаўшы Непаліцыну. Ён раптам занепакоіўся і пайшоў за ёю.

Яна села ў човен.

— Паедзем, Вася, адсюль! Мне страшна.

— Каго ты ўбачыла?

Але, замест адказу, у яе з вачэй пачалі капаць слёзы. Непаліцын быў у неразуменні.

— Што-ж здарылася, Верачка?

Яна рукой паказала на могільнік.

— Там пахавана мая сястра. Я ўспомніла цяпер пра яе. Сэрца не стрымала жалю. Бедная Оля!.. Яна памерла на парозе жыцця, калі ёй ішоў дзевятнаццаты год. Вельмі шкада!

Непаліцын пачаў супакойваць яе.

Сонца зайшло. Вячэрні змрок акутаў горад, спавіў яго непрагляднаю пеленою, калі Вера і Непаліцын прышлі з прагулкі. Вера адчувала сябе дрэнна. Яна крыху пасядзела ля стала, а потым лягла на ложак, схавала твар у падушку і заплакала наўзрыд, як малое дзіця.

Непаліцын разгубіўся. Ён сеў на краю ложка. Боль якісьці перасядаў у горле. Здавалася, што вось-вось момант і слёзы пацякуць з яго вачэй.

— Супакойся, Верачка! Ты-ж не маленькая,—папрасіў ён.

Яна адхінула падушку і выцерла слёзы. Ён адчуваў, што яна скажа нешта страшнае і балючае.

— Мая сястра памерла ад родаў,—усхліпваючы, сказала яна.— На мяне найшоў, Вася, страх нейкі. Загіну я. Ты-ж ведаеш, што я цяжарная, я хачу зрабіць аборт.

Гэтыя словы зусім ашаламілі яго, нібы хтосьці кавальскім молатам стукнуў яму па галаве. Ён увесь затросся, збялеў і быў як непрытомны. Хвіліны тры ён сядзеў моўчкі: не мог вымавіць і слова. Вера ўважліва сачыла за ім. Ён крыху супакоіўся, апрытомнеў.

— Выкінь гэта з галавы. Што ты надумала?

Яна маўчала.

— Ты родзіш у больніцы. Не палохайся!

— Не трэба!—дзіка закрычала яна.—Ідзі ад мяне. Ты смерці маёй хочаш! Ідзі! Я жыць хачу!

Ён паклаў руку ёй на грудзі.

— Верачка, ты не злуйся! Сястра памерла ад родаў, але-ж гэта не значыць, што і ты павінна памерці. Магло-ж здарыцца ў жыцьці няшчасце. Я шкадую дзіця. Яно-ж будзе нашай радасцю.

Але Вера і слухаць не хацела пра гэта.

— Ідзі ад мяне! Ідзі!

Яна ўзяла шаль, закрыла твар і адвярнулася да сцяны. Ён некалькі хвілін стаяў над ёй. Вера не адзывалася ні адным словам. Потым ён падышоў да акна і адчыніў яго. Свежае паветра хлынула ў пакой. Пад акном глуха шапацела лісце таполя. На вуліцы стаяў нястрымна-гулкі людскі говар. Жыццё ішло сваёй хадою, бурліва і весела.

*
* *

Нудна стала ў Непаліцыных. Чорная кошка прапаўзла між імі. Няма ранейшае цяплыні пяшчот.

Нудна... Сумна...

Ледзь мігціць электрычнае святло ў пакоі. А за акном дожджык, дробны дожджык цярушыць і цярушыць. Коцяцца па шыбах кроплі дажджавыя, нібы слязінкі гаротных вачэй, коцяцца і падаюць долу.

Непаліцын у задуменні схіліўся над сталом. Туга спавіла сэрца. Нялюба нішто... Вось ужо тры тыдні ён не браўся за праект станка. Работа валіцца з рук; ён ледзь-ледзь адпрацоўвае змену на заводзе.

Непаліцын узяў са стала газету, перагарнуў яе і пачаў чытаць. Вера моўчкі ляжала на ложку. Твар яе быў распухлы, а вочы запаўшыя, пад імі чарнелі сінія плямы. Яна ўстала, ускінула на галаву шаль і падышла да стала.

— Чаго ты ўбіўся ў газету?

— А што?

— Доўга яшчэ будзеш здзеквацца з мяне?

— Здзеквацца? Гэта ты здзекуешся з мяне і з сябе! Ідзі зноў на ложак! Я нават гаварыць не хачу з табой!

— Гэтак? Ну добра! Я ўступлю! Мой лёс, як бачу, адзін— смерць. А ты будзеш адказваць за мяне перад грамадствам, яно не даруе табе!—сказала яна рашуча, павярнулася і шпарка пайшла ў другі пакой. Ён не адразу зразумеў яе намеру. З хвіліну ён яшчэ сядзеў на месцы, а потым імпэтна адкінуў газету. Нядобрае пачула яго сэрца. Сударга прабегла па целе. Ён устаў і пайшоў за Верай.

Яна стаяла ля канапы, трымаючы ў руцэ шклянку з белай вадкасцю. Непаліцын збянтэжана спыніўся на парозе. Ногі і рукі раптам змярцвелі.

— Верачка!—ледзь выгаварыў ён.

Яна ўздрыгнула ад нечаканасці і шклянка ўпала з рук. Некалькі секунд яна стаяла не варушачыся. Потым лягла на канапу.

— Ты выпіла яд?—спытаў ён.

— Не бачыш? Я разліла яго. Чаго ты прышоў, душагубца! Ідзі адсюль! Ідзі...

Але ён стаяў. Сэрца сціскалася нястрымным болем.

— Загубіць сябе! Жыццё загубіць, каханне...

Жаль запаланіў грудзі. Слёзы выступалі з вачэй.

— Не губі сябе, Верачка! Не губі! Рабі аборт.

Больш ён не сказаў ні слова. Балючыя камякі перасели яму ў горле, пачалі давіць, нібы жалезнымі абцугамі.

Вера захвалявалася пераможнай радасцю і птушкай кінулася яму на шыю.

— Вася, дарагі мой, любы, каханы...—лепяталі яе вусны.

* * *

На заводзе быў комсамольскі сход. Непаліцын прышоў адзін сеў ззаду. Вялікая зала была запоўнена моладдзю. Было тут некалькі сот чалавек.

На абвестцы стаяла пытанне аб падрыхтоўцы да дваццацігоддзя ВЛКСМ. Старшыня схода Андрушчык прачытаў зварот комсамольцаў аўтазавода імя таварыша Сталіна. Усе ўважліва слухалі.

— Наша вялікая маці-радзіма,—сказаў ён потым,—чакае ад кожнага з нас падарунка. Мы, спадзяюся, прапанову комсамольцаў аўтазавода падтрымаем аднадушна!

— Няхай жыве наша вялікая соцыялістычная маці-радзіма!—пачуліся дружныя воклічы.

З сярэдніх радоў паднялася адна комсамолка і вышла на трыбуну. Вочы яе, як аганькі, свяціліся празрыстасцю.

— Маіх бацькоў,—пачала яна прамову,—забілі ў 1920 годзе польскія паны. Я трохгадовай дзяўчынкай засталася без прытулку і кавалка хлеба. Жудасна ўспамінаць сёння аб перажытым горы, мароз прабягае па целе... Начэй я не спала, галоднай блукала па вуліцах. Але мяне знайшла наша родная савецкая ўлада. Яна дала мне прытулак у дзіцячым доме, там я вырасла. Мне на ўсё жыццё застаўся ў памяці дзень, калі ў дзіцячы дом прыязджаў Фелікс Эдмундавіч Дзержынскі. Я была самая меншая. Ён, як бацька родны, узяў мяне на рукі, пацалаваў, паглядзеў мне ў твар і сказаў:

„Расці, дзетка, вучыся! Жыццё тваё будзе шчаслівым, бо аб табе клапоцяцца вялікі Ленін, вялікі Сталін, клапоціцца ўся партыя большэвікоў, уся савецкая радзіма“. Я тады нічога не адказала яму. Але я сёння хачу сказаць краіне, поўным голасам хачу сказаць усяму свету, што я шчаслівая...

... Дзякуй вялікаму Сталіну за выхаванне!

... На заводзе я працую свярдлоўшчыцай, выконваю вытворчы план на 250 процантаў, зарабляю ў месяц больш тысячы рублёў.

... Муж мой вайсковы лётчык... Мы маем дваіх дзяцей—маленькіх патрыётаў вялікай радзімы.

— Мала!—хтосьці жартаўліва крыкнуў у зале.

Яна ўсміхнулася, папраўіла рукой на галаве валасы.

— Не! Не мала! Мне яшчэ толькі дваццаць адзін год, а жыць я буду многа і многа. Будуць і яшчэ ў мяне дзеці!

Яна быццам сумелася і зрабіла паузу.

— Трэцяе дзіця ў мяне народзіцца, як я адчуваю, у дні нашага слаўнага юбілею...—закончыла яна.

Ей дружна заапладыравалі.

Выступіў плячысты, рослы юнак, гадоў восемнаццаці.

— Мы радзіме абавязаны ўсім сваім жыццём, кроўю сваёй, целам. На заводзе я вучу двух маладых рабочых працаваць па-стаханаўску, сам вучуся на пілота, і ў дзень нашага юбілею самастойна павяду ў паветра стальны чырвонакрылы самалёт, павяду яго і ў бой з ворагам, калі мне загадае радзіма!

Зноў і зноў выступалі комсамольцы. Прамовы іх гучэлі гімнам вялікаму будаўніцтву. А Непаліцын сядзеў моўчкі. Яму было крыўдна на сябе, сорамна перад таварышамі.

„Навошта мы загубілі дзіця?“

Не раз яму хацелася ўстаць, узыйсці на трыбуну і аб усім расказаць сходу. Але сіл не хапала на гэта. Страх давіў парыванні сумленнасці, і ён сядзеў моўчкі, адзін.

А як сход скончыўся, ён пайшоў дамоў. Над горадам кружыліся самалёты. Гулкі рокат матораў напаўняў паветра. Самалёты то набіралі вышыню, то штопарам ляцелі ўніз. Ён ішоў шпарка і ні на што не звяртаў увагі. На поўдарозе яго дагнаў Андрушчык... Ён знарок пайшоў, каб пагутарыць з ім, бо бачыў, што Непаліцын чымсьці заклапочаны, сумны.

— Куды спяшаешся гэтак?

— Дамоў.

— Што там у цябе, жонка дзіця нарадзіла?

Непаліцын падазрона зірнуў на яго. Жарт гэты болем кальнуў у сэрца. Але ці жарт гэта?

„Можа ён даведаўся пра аборт?“—мільганула думка.

Але Андрушчык загаварыў аб другім.

— Бачыш, як самалёты свідруюць паветра. Гэта іх водзяць комсамольцы—здаюць экзамены на пілотаў. Малайцы рэбяты! Ну, а як у цябе справы? Праект станка ты скора скончыш?

Ён адказаў не адразу. Нельга-ж наспех сказаць слова, а потым не здзейсніць яго. А ў Непаліцына гэта ўжо адзін раз было. Вясной ён на комсамольскім сходзе абяцаў, што праект скончыць да жніўня месяца, а не скончыў. Ён аб гэтым памятаў і яму сорамна.

— Я проста баюся табе сказаць. Бывае-ж, што скажаш слова, а зрабіць нельга потым. Апошнія дні я штосьці хварэў—галава балела. Даўно ўжо не працую над праектам. Усё няма часу. Тыдні за два я-б скончыў...

— У дырэкцыі ты гаварыў аб гэтым?

— Не.

— Дарэмна. Дырэктар дазволіў-бы табе водпуск.

— Магчыма,—няўпэўнена сказаў ён.

Андрушчык усміхнуўся.

— Дапраўды. Давай вернемся на завод. Пагаворы.

Непаліцын згадзіўся.

Дырэктар уважліва выслухаў просьбу Непаліцына.

— Колькі-ж табе патрэбна водпуску?

— Тыдні два.
— Усяго?
— Усяго.
Дырэктар узяў ліст паперы і напісаў загад:
„Інжынеру тав. Непаліцыну прадставіць унечарговы двухтыднёвы водпуск для скanчэння праекта свідравальнага станка“.
— Працуйце, таварыш Непаліцын! Жадаю вам поспеху!

* * *

Вера рыхтавалася ўступіць у члены комсамола. Праграму і статут ВЛКСМ яна вывучыла амаль на памяць. Адну рэкамендацыю ёй даў Непаліцын, а другое не было.
— Ты пагутары, Вася, з Андрушчыкам, каб ён даў мне рэкамендацыю. Ён не адмовіць, праўда? Ён-жа лепшы твой друг. А мяне ён, здаецца, ведае добра.
Непаліцын засмяяўся.
— Ты сама пагутары з ім.
Вера пакрыўдзілася. Бровы яе, здавалася, насунуліся на вочы.
— Дрэнны ты, Вася! Не хочаш мне дапамагчы. Сама я не асмельваюся, ён нейкі строгі.
— Строгі? Ніякае строгасці ў ім няма. Чалавек ён просты, чулы. А тое, што ён кожную справу, маленькую і вялікую, сур‘ёзна ўзважвае, абдумвае яе, дык гэта не строгасць, а характэрная рыса яго натуры. Пагутары сама з ім.
Назаўтра Вера сустрэла Андрушчыка ў цэху.
— Як справы ў Непаліцына?—спытаўся ён.
— Усё добра,—адказала яна.—Працуе з поўнай нагрузкай. Праект станка хутка скончыць.
Яна крыху памаўчала, хоць загадзя падрыхтаваныя словы былі ўжо на языку.
— Таварыш Андрушчык, у мяне да вас ёсць просьба!
— Калі ласка.
— Я думаю падаць заяву, каб мяне прынялі ў комсамол. Статут і праграму ВЛКСМ я ведаю, вывучыла рашэнні партыі і ўрада. Але ў мяне няма аднае рэкамендацыі. Мажа-б вы паручыліся за мяне? Я не падвяду вас, таварыш Андрушчык! Я працаваць у комсамоле буду чэсна. Жанчына я, здаецца, смелая, і калі радзіма пазаве комсамольцаў на абарону сваіх граніц, дык я гатова ўзяць вінтоўку, гатова жыццё аддаць за нашу вялікую справу—комунізм!
Андрушчык быў у раздум‘і. Для таго, каб даць ёй зараз рэкамендацыю, ён недастаткова ведаў яе, але і адмовіць з-за гэтага нельга.
Яна прагна сачыла за выразам яго твару.
— А хто вам яшчэ дае рэкамендацыю?
— Непаліцын. Гэта нічога, што ён муж мне?
— Нічога. Вы пачакайце колькі дзён. Напішыце аўтабіяграфію, і калі ёсць якія даведкі, дык збярыце іх. Я хачу азнаёміцца з імі. Я-ж вельмі мала вас ведаю.
— Дзякуй вам! Я ўсё гэта зраблю. Даведкі ў мяне ёсць!

Загудзеў гудок на работу. Рабочыя хлынулі ў цэхі і кожны стаў ля свайго станка. Электрык уключыў ток. Зашархалі пасы на машынах.

* *
*

Гарачыя дні былі ў Непаліцына. Але слова сваё ён стрымаў: праект станка скончыў. Грудзі ўздыхнулі радасцю. Шырокая творчая дарога ў жыццё адчынена, па ёй зроблен першы крок.

Спецыяльная тэхнічная камісія пры заводзе разглядзела праект і адобрыла яго. Рашэнні камісіі і праект былі накіраваны ў наркамат машынабудаўніцтва на зацвярджэнне. Прайшоў тыдзень, потым другі, але вестак ніякіх не было. Непаліцын занепакоіўся, розныя думкі пачалі лезці ў галаву.

— Можа згубіўся па дарозе? Але не... Можа адхілілі, або зусім не будуць разглядаць? Але як-жа... Разгледзяць... Зацвердзяць?

У гэтыя дні ўрад даручыў заводу выканаць тэрміновы заказ. Галоўны інжынер завода быў у адпачынку. Дырэктар даручыў Непаліцыну кіраваць выкананнем заказу. Ён даручэнне прыняў. Работа пайшла добра.

У цэхах разгарнулася спаборніцтва на датэрміновае выкананне заказу. Кожны дзень нараджаў новых і новых стаханаўцаў. Непаліцын амаль круглымі суткамі быў на заводзе. Дамоў ён прыязджаў позна ноччу, а раніцой, ледзь золак, ехаў зноў.

Вера працавала ў дзённай змене. Усе вечары ў яе былі нічым не занятыя. У некаторыя з іх яна хадзіла ў кіно або проста да знаёмых у горад, а ў некаторыя была дома, чытала кніжкі.

Непаліцын з ёй бываў вельмі мала. Яна пачала крыўдзіцца на яго.

— Вася,—загаварыла неяк яна,—ты ніколі не хочаш і пабыць са мной. Хоць-бы калі-небудзь мы ў тэатр схадзілі разам. Нельга-ж цэлымі суткамі быць на заводзе. Ды і здароўе трэба сцерагчы, а ты аб гэтым не думаеш. Там цэлы год біўся над праектам, а цяпер...

— Не бойся!—адказаў ён.—Папрацаваў год, дык і зрабіў.

Яна паправіла на стале абрус і села насупроць.

— Зрабіў? Што ты зрабіў? Вось ужо скора месяц, а—ні слуху, ні духу... Мала-што з праектам яшчэ можа здарыцца. Мне здаецца, што табе трэба было-б з'ездзіць у наркамат. Хто іх ведае, што там за людзі. Добра-ж, калі ўсе сумленныя, сапраўдныя савецкія работнікі. Але-ж можа быць і так, што праект трапіў у рукі якога-небудзь шкодніка, ворага.

Непаліцын сядзеў задумаўшыся. Жонка напамінкам аб праекце трапіла ў балючае месца.

— Усё можа быць! Трэба было-б з'ездзіць! Але-ж... Нельга цяпер ехаць. Ды мяне і не адпусцяць, пакуль не будзе выканан дзяржаўны заказ.

Вера больш нічога не гаварыла аб праекце. Час ужо быў позні. Непаліцын лёг адпачыць, а яна апранула жакетку і пайшла ў кіно з падругай.

* * *

Рабочыя станкабудаўнічага завода чакалі трамвая ў горад. Сабралася іх ля астаноўкі да поўсотні чалавек. Адзін з іх, весяльчак, гадоў трыццаці двух, чыста выбрыты, з прадаўгаватым востры носам, стоячы ля тэлеграфнага слупа, расказваў штосьці вясёлае. Усе, хто тут быў, слухалі яго і смяяліся.

Крыху воддаль, ля гандлёвага ларка, некалькі чалавек стаялі за півам.

Дзень быў вераснёвы, але цёплы, сухі, ясны і сонца грэла, нібы ў чэрвені. На высокіх дрэвах, якія высіліся над пасялковымі дамамі, каркаючы, сядзела некалькі крумкачоў.

За півам стаяў чалавек у скураной куртцы, у ботах з доўгім халявамі. Па гадох ён быў ужо немалады. Клінаватая рыжая барада вылучала яго ад другіх людзей, якія тут стаялі. Росту ён быў сярэдняга, плячысты і даволі поўны ў твары, па якім цягнуліся рубцы; нос яго быў тупы, а вочы, як яблыкі, выпіралі з іл6а. Увагі ён ні на кога не звяртаў, стаяў ціханька, непрыкметна, а калі да яго дайшла чарга, ён выпіў два куфлі піва, разлічыўся з прадаўшчыцай і адышоў у бок, да рабочых. Скора сюды прышоў другі чалавек, значна маладзейшы, у чорным пацёртым плашчы, капялюшы і жоўтых камашах. У гэтага новага прышэльца нос быў доўгі, на сярэдзіне быццам пераціснуты, а на канцы загнуты ўніз, якраз як дзюбы ў крумкачоў, якія сядзелі на дрэвах. Чалавек у скураной куртцы падышоў да яго і прывітаўся.

— Ты, здаецца, толькі з поезда?

— Толькі вось прыехаў,—адказаў ён, выняў з кішэні пачку папярос, сам закурыў і прапанаваў чалавеку ў скураной куртцы.

— Хваліся, што новага чуваць у сталіцы?

Ён паціснуў плячмі, пацягнуў папяросу і, выпускаючы праз рот і праз нос дым, адказаў:

— Новага? Ды асабліва нічога не чуваць. Быў у наркамаце машынабудаўніцтва: там зацвярджалі мой праект новага аўтаматора.

— О-о-о!—голасна расцягнуў чалавек у скураной куртцы.— З чым-жа цябе вітаць?

Ён паправіў рукой капялюш і задаволена ўсміхнуўся.

— З поспехам, безумоўна!

— Малайчына!

Яны на поўхвіліны змоўклі. Маладзейшы ступіў два крокі наперад і папрасіў аднаго рабочага стаць крыху ў бок, каб бачыць расказчыка. Чалавек у скураной куртцы таксама падышоў за ім.

— Калі сядзіш вось тут на месцы, нідзе не бываеш,—працягваў гутарку прыехаўшы чалавек,—дык здаецца, што нічога новага людзі не робяць. А колькі ў наркамаце новых праектаў!.. Пры мне разглядалі адзін праект свідравальнага станка інжынера Непаліцына са станкабудаўнічага завода. Добры праект!

— Зацвердзілі?—пацікавіўся чалавек у скураной куртцы.

— Ды не! Калі-б яшчэ сам аўтар быў... магчыма-б, а так... быццам штосьці недаробленa...

— Не зацвердзілі?—перапытаў адзін рабочы, які чуў гутарку.
— Не.
— Вось няшчасце чалавеку,—сказаў рабочы.—А ён столькі над ім працаваў.
— Што? Што? Хто працаваў?—умяшаўся сусед, які не чуў аб чым вялася размова.
— Што?—перапытаў рабочы.—Праект станка, які зрабіў Васіль Сямёнавіч, наркамат адхіліў.
— Адхіліў? Няўжо?
— Кажуць табе, чалавек-жа вось толькі адтуль. Сам усё чуў сваімі вушмі.
— Дзіўна!
Нечакана пачутая навіна зацікавіла ўсіх рабочых. Расказчык—і той падышоў бліжэй да прыехаўшага чалавека. Усе здзіўляліся.
— Можа няпраўда?—спытаў хтосьці.
— Няпраўда?—прыехаўшы ўсміхнуўся.
З боку горада далёка на лініі паказаўся трамвай. Чалавек у скураной куртцы пайшоў бліжэй да астаноўкі. Прыехаўшы стаяў на месцы, покуль рабочыя не селі ў вагоны, а потым размахваючы рукамі, пайшоў уздоўж пасялковай вуліцы.

* *
*

Чуткі пра адхіленне праекта з маланкавай хуткасцю разнесліся па заводу. На гэта не трэба было ні радыё, ні тэлефона, ні спецыяльных інфарматараў, а ўсё рабілася само па сабе, ад аднаго чалавека пераходзіла да другога і далей...
Непаліцын быў дома, слухаў музыку патэфона.
Са двара таропка ўвайшла Вера, дужа ўсхваляваная. Не кажучы ні слова, яна падышла да стала.
— Ты чуў?—дрыжача прагучэў яе голас.
Непаліцын палахліва зірнуў на яе разгублены твар.
— Што?
Яна вытрымала кароткую паузу.
— Наркамат адхіліў твой праект!
— Адхіліў?..
Ён збялеў, як бяроста, ускочыў з крэсла і збянтэжана пачаў хадзіць па пакою. Вестка гэта, як гром з неба, нечакана звалілася на яго.
— Дзе ты чула?
— На заводзе. Там ужо ўсе ведаюць. Вось што робяць з табой? Не паслухаў мяне, не паехаў.
Ён маўчаў, а нутро кіпела варам бурлівым.
— Што-ж рабіць? Ехаць? Пайду на завод.
Дырэктар пра адхіленне праекта ўжо ведаў. Ён задумены сядзеў за пісьмовым сталом, але твар яго быў спакойны.
Шпарка і без дазволу ў кабінет увайшоў Непаліцын. Увесь выгляд яго гаварыў аб глыбокіх унутраных перажываннях, нагадваў чалавека, які прышоў у адчай ад таго, што страціў у жыцці

самае дарагое—самога сябе. Дырэктар папрасіў яго сесці на крэсла. Ён адмовіўся.

— Сядзець няма часу. Я зараз паеду ў наркамат. Вы ведаеце пра лёс майго праекта, таварыш дырэктар?

— Не яшчэ!

— Як не?—голасна крыкнуў ён, сам не разумеючы для чаго.

— Так што не ведаю. Паведамлення з наркамата няма, а чуткам, якія пайшлі невядома ад каго, я верыць не збіраюся.

Непаліцын стаяў, як наэлектрызаваны, і ледзь стрымліваў сябе. Ён увесь час мяняўся ў твары і нічога не хацеў слухаць.

— Значыць ведаеце? Ехаць мне дазваляеце?

— Ехаць? Вы не спяшайцеся, Васіль Сямёнавіч! Пра паездку не можа быць і гутаркі. Дзяржаўны заказ...—хацеў гаварыць дырэктар, але Непаліцын крута павярнуўся і, нервова стукнуўшы дзвярмі, пайшоў з кабінета.

— Не дазваляеце? Не трэба! Я ведаю дзе наркамат!

— Таварыш Непаліцын! Васіль Сямёнавіч!—спрабаваў вярнуць яго дырэктар, але дарэмна: ён пайшоў, пайшоў хутка, не азіраючыся назад.

— Ехаць! Неадкладна ехаць!—не пакідала яго думка.

Дырэктар падышоў да акна. Непаліцын быў далёка ад завода, ледзь віднелася яго постаць на дарозе.

***

З дрэў падала лісце і жоўтым абрусам засцілала зямлю. Прыгарад быў апавіты густым асеннім туманам.

— Заганьбавалі праект?.. Хлусня гэта!—гаварыў сабе Андрушчык, ідучы на завод.—Але ўсё можа быць... У дырэкцыі ёсць, напэўна паведамленне... Праект каштоўны... Але-ж хто-б нахлусіў?.. Для чаго?..

Думкі ўсё новыя і новыя снавалі ў галаве, і так авалодалі ім, што ён не заўважыў нават, як прышоў на завод і ўвайшоў у кабінет дырэктара.

— Што-ж рабіць?—сказаў дырэктар.—Непаліцын збіраецца самаўпраўна ехаць у наркамат.

— А як з выкананнем заказа будзе?—спахапіўся Андрушчык, а потым задумаўся яшчэ глыбей.

— У гэтым вось і бяда!

— Бяда?—Андрушчык узняў вочы.—Вось яна бяда. Цяпер я пачынаю разумець.

— Што?

— Чуткі. Хтосьці хоча затрымаць выкананне дзяржаўнага заказа. Тонкая работа... Хітра...

— Сапраўды...—згадзіўся дырэктар.—Дзейнічаюць на Непаліцына, каб прымусіць яго ехаць, кінуць выкананне дзяржаўнага заказа.

— Або пасварыць з дырэкцыяй ці проста паінтрыгаваць,—дадаў Андрушчык.—Факт-жа! Калі чалавек моцна пакрыўджаны

чым-небудзь, дык ён працуе, як мокрае гарыць. А яны і гэтым будуць задаволены.

— Безумоўна! Трэба Непаліцына папярэдзіць. Ды і самім...

— Я паеду да яго.

Андрушчык вышаў з завода. Туман усё яшчэ слаўся над ваколіцай, закрываў сабою горад.

— А можа я памыляюся? Дзе-ж той чалавек? Хто ездзіў у наркамат? З якога ён завода? Праведаць!

І Андрушчык, перш чым ехаць да Непаліцына, пабыў на ўсіх заводах горада, якія падпарадкаваны машынабудаўнічаму наркамату. Але ў наркамаце ніхто не быў.

— Што-ж яшчэ трэба?—сказаў ён сабе.

Непаліцын на завод не ішоў. Веры дома не было.

Гадзін у шэсць вечара прыехаў Андрушчык. Непаліцын вельмі ўзрадваўся яму, бо сумна аднаму быць, калі перажываеш што-небудзь цяжкае, якое не дае спакою сэрцу, думкам, прымушае ўсяго хваляваццa. Тады-б, здаецца, гутарыў бясконца, гутарыў абы з кім і абы пра што, каб толькі забыцца аб горы, якое агортвае цябе, цяжарам сваім ціснe да зямлі, як камень стопудовы маленькую пяшчынку. Але як стрэнешся з блізкім чалавекам, дык загаворыш не аб чым-небудзь далёкім, а загаворыш аб тым, што болем ці радасцю ляжыць на тваім сэрцы, што хвалюе пачуцці, што абцяжарвае ці весяліць цябе—аб гэтым загаворыш,—хочаш ты таго ці не. Непаліцын і не хацеў распачынаць гутарку аб праекце станка, але словы мімаволі вырваліся з грудзей.

— Можа паведамленне прышло з наркамата?

— Няма. Праект, відаць, яшчэ не разглядалі.

Ён злосна зірнуў на Андрушчыка.

— І ты жартаваць пачынаеш? Не люблю я людзей, якія крывяць душой.

— Я крыўлю душой? Адкуль ты ўзяў гэта? Дарэмна... Я разумею ўвесь цяжар тваіх перажыванняў. Ты не губляй розуму. Цяпер ужо ўсё ясна становіцца.

— Што ясна?

— Усё! Чуткі пра адхіленне праекта распаўсюджаны варожымі людзьмі, каб сарваць выкананне дзяржаўнага заказа.

У Непаліцына на твары з'явілася іранічная ўсмешка.

— Хто-ж сказаў табе гэта?

— Аб такіх справах гавораць менш за ўсё, але калі сам сур'ёзна падумаеш, дык зразумееш.

— Я думаю, але не разумею.

— Спярша і я не разумеў, бо тут не тое, што на далонь кладуць, каб усе бачылі. Тут хітрэй зроблена. Непаліцын кіруе выкананнем заказа, а таму на яго і пачалі дзейнічаць.

— Пакінь ты. Пра заказ ніхто-ж, акрамя нашых рабочых, не ведае. А чуткі пайшлі не з завода.

— Я ведаю. Але яно справы не змяняе. Я быў на ўсіх прадпрыемствах горада, якія падпарадкаваны нашаму наркамату. Ніхто ад іх у наркамат не ездзіў. Ёсць хтосьці сярод нас. Ён хаваецца, дзейнічае хітра, спакойна, а мы не ўмеем яго распазнаць. Гэта

не выпадкова. Ты павінен усё зразумець. Ехаць у наркамат зараз табе нельга.

Непаліцын пачаў задумвацца.

Праз гадзіну з завода прыехала Вера, прывіталася з Андрушчыкам і пачала распранацца.

— Як гэта вы да нас трапілі?

— Прыехаў праведаць, як вы жывеце.

— Вось добра, дзякую!

Яна падышла да стала і села побач.

— Можа вы, таварыш Андрушчык, цяпер і рэкамендацыю мне аформілі-б? Я ўжо ўсе дакументы сабрала, анкету запоўніла.

Яна выняла з чамадана новенькую папку з падрыхтаванымі дакументамі і падала яму. Дакументы былі роўненька папрыкалваны адзін да другога, чыстыя, выразна напісаныя. Андрушчык пачаў чытаць па парадку, як яны былі складзены. У першай даведцы гаварылася, што Шнырава Вера, калі працавала ў трэсце, актыўна ўдзельнічала ў кампаніі па збору попелу для палёў аднаго соўгаса. Другая даведка апавядала, як Вера выкрыла лютага ворага народа Адамава Васіля, калі працавала токарам у МТМ на раёне.

— Адамаў Васіль?.. Адамаў?..—некалькі разоў паўтарыў ціха Андрушчык.—Адамаў?.. Знаёмае нешта...

Астатнія даведкі Андрушчык прачытаў хутчэй, а потым узяў анкету. Непаліцын памакнуў у чарніла пяро і паклаў перад ім, каб ён распісаўся.

— Чакай! Ручка ў мяне свая ёсць,—ён зірнуў на яго, і анкету адклаў у бок.

Вера засмяялася над паспешнасцю Непаліцына, потым устала з крэсла і пайшла ў другі пакой.

Андрушчык зноў вярнуўся да гутаркі аб праекце, аб дзяржаўным заказе.

— Ехаць табе нельга.

Непаліцын усё яшчэ спрабаваў супярэчыць, але потым згадзіўся пачакаць.

Было ўжо гадзін восем вечара. Яны разам вышлі з кватэры і развіталіся. Непаліцын паехаў на завод, каб праверыць работу другой змены, а Андрушчык—дамоў.

Усю дарогу з галавы не выходзілі словы: „Адамаў Васіль“. Прыехаўшы на кватэру, Андрушчык лёг на ложак і памяць пачала ўваскрашаць мінулае. Многа чаго ўспаміналася, але ўсё не тое, што трэба...

— А-да-маў?.. А-д-а-м-а-ў?.. Ну і памяць у мяне...—злаваў ён.

Прайшло яшчэ некалькі хвілін, твар прасвятлеў.

— Ёсць! Успомніў!

Ён устаў і шпарка захадзіў па пакою.

— Адамаў! Ды гэта-ж ён... Токар... Разам працавалі... Яго ў 1933 годзе ЦК мабілізаваў на раён... Так!.. Няўжо-ж ён стаў ворагам народа?.. Памятаю-ж я яго... Ён-жа быў актыўны камсамолец-комуніст! Адамаў—вораг. Няўжо? Дзе-ж даведацца?..

Ён сядзеў у задуменні.

— Чакай!.. Ён-жа родзіч дырэктара... Пляменнік, здаецца... Ісці да дырэктара!..

* *
*

Гадзіны праз тры Непаліцын вярнуўся дамоў. Вера стаяла сярод пакою, трымаючы ў руцэ якісьці бланк жоўтае паперы. Калі Непаліцын пераступіў парог, яна, лагодна ўсміхнуўшыся, падбегла да яго.

— Тэлеграма!

Яна прытка крутнулася на адной назе, знянацку ўдарыла яму рукой па грудзях і засмяялася. Ён аберуч схапіў тэлеграму.

— Брат мой прыедзе,—сказала яна.

Тэлеграма была не тая, якую ён чакаў, але і яна абрадвала яго: ён рад быў сустрэцца з родзічам жонкі.

— Сустрэць не паспеем?

— Не!

— Шкада! Трэба рыхтаваць пачастунак!

— А я ўжо зрабіла ўсё.

Яна зноў весела крутнулася на адной назе.

— Купіла віна, закускі.

— Глядзі, каб не было сорамна.

— Не будзе.

Яна села на канапу, узяла гітару і пачала трынкаць пальцамі па струнах. Непаліцын распрануў паліто і сеў ля адчыненага акна, што выходзіла на вуліцу. З вуліцы патыхала свежым асеннім паветрам і дзесьці далёка-далёка чуліся моцныя раскаты надыходзячай навальніцы. Час-ад-часу цемень рассякалася асляпляючай маланкай.

Хвілін праз сорак прыехаў госць. Сустрэча была цёплай і радушнай. Гость быў чалавек пажылы, але рухавы і гаваркі. Пакуль Вера рыхтавала вячэру, ён гутарыў з Непаліцыным, які расказваў навіны горада.

Вецер на двары прыкметна ўзмацняўся. Навальніца набліжалася з кожнай хвілінай.

Вера паставіла на стол віно, закуску, а потым падышла да акна, зачыніла яго і апусціла занавеску.

— Прашу за стол!

Пасля выпіўкі гутарка пайшла лягчэй. Госць цікавіўся заводам, а Непаліцын расказваў яму.

— Вып'ем яшчэ па кілішку!—прапанавала Вера і наліла віна.

Госць падняўся з крэсла.

— За вас, Васіль Сямёнавіч, падымаем гэты тост! Мы ўпэўнены, што вы будзеце з намі!

Непаліцын не зразумеў яго слоў.

— Як гэта—з вамі?

Госць хітравата ўсміхнуўся.

— А няўжо вы яшчэ ні аб чым не здагадаліся? Ужо скора год, як мы лічым вас членам нашай нацыянал-соцыялісцкай аргані-

зацыі. Мы хочам адрадзіць нашу краіну, далучыць яе да вялікай культуры Захада. Мы ўдзячны за дапамогу, якую вы нам аказвалі.

Непаліцын аслупянеў. Твар яго то бялеў, то рабіўся зусім сінім. Што яму рабіць цяпер?

— Вы не хвалюйцеся! Большэвікі вам не даруюць вашых памылак, вашай, хоць і несвядомай, садзейнасці нам. А вы нам садзейнічалі. Вера на завод паступіла пры вашай дапамозе. Мы сабралі патрэбныя нам матэрыялы аб заводзе. Яны ёсць нават пры мне.

Непаліцын маўчаў. „Госць", як крумкач, чакаў яго слова.

— Вы зразумелі мяне? Чаго вы марудзіце? Небяспекі для вас не будзе. Мы наладзім вам сувязь з другімі нашымі людзьмі.

Непаліцын не вытрымаў:

— Я зразумеў многа чаго!..

Ён памкнуўся ісці ад стала, але Вера заступіла яму дарогу.

— Вася, ты павінен быць са мною. Мы-ж моцна кахаем адзін другога.

— Маўчаць!—злосна крыкнуў ён.—Мне ўсё ясна зараз!

— Не спяшайцеся, мой дарагі!—умяшаўся „госць".—Вы сваю кар'еру скончылі. Я маю ўсе падставы арыштаваць вас зараз і выдаць, як шпіёна. Матэрыялы аб заводзе і ваша распіска, якую вы далі замежнай разведцы, атрымаўшы ад яе 50 тысяч марак, будзе доказам вашай шпіёнскай дзейнасці.

„Госць" выняў з кашалька распіску, напісаную чарнілам. Унізе была роспісь Непаліцына каляровым алоўкам.

— Я матэрыялаў і распісак нікому не даваў.

— Дарагі мой, мне гэта даказваць не трэба. Подпіс ваш, а гэтага дастаткова. Большэвіцкая экспертыза вельмі тонка ўсё даследуе.

Ён бліжэй паказаў распіску. Непаліцын пазнаў свой подпіс. Сэрца аблілося гарачай крывёю, крыўдна было, але што-ж. Ён сеў. Успомніліся вечары, праведзеныя ў Веры. Вось як дабываюць распіскі! Памяць уваскрасіла ўсю гісторыю знаёмства. Усё паўстала ў сапраўднасці. Ён зірнуў спярша на Веру, потым на „госця". Бандыцкі твар „госця" быў быццам знаёмы. Непаліцын сустракаў яго аднойчы. Тыя самыя вочы, як у савы, нос тоўсты, тупы, барада толькі не тая: не як памяло шырокая, а вузкая, клінам зроблена.

— Кашалёк... Дакументы...—заварушылася ў думках.—Пахмурны дзень пад канец лета, поплаў ля возера, паляўнічы, забітая качка...

— Гэта вы качак стралялі ля возера?—спытаў Непаліцын.

„Госць" насмешліва зірнуў на яго.

— А вы тады варон стралялі, дарагі мой!

Непаліцын змоўк. Вораг смяецца з яго.

Вера ступіла крок наперад, намерваючыся штосьці сказаць. Непаліцын не хацеў чуць ад яе больш ні аднаго слова. Ён сабраў усе сілы і з размаху кулаком ударыў яе па галаве. Яна вяркнула, шарахнула рукамі аб крэсла і ўпала на падлогу. Рэвольвер выпаў у яе з рук.

* * *

— Як-жа распачаць гутарку пра Адамава? Нельга-ж адразу. Ні з таго, ні з сяго,—думаў Андрушчык, увайшоўшы ў кабінет.

— Прашу садзіцца! Як Непаліцын сябе адчувае?

— Нядрэнна. Доўга ўсё спрачаўся, але зразумеў...

— Малайчына! Ды тут кожнаму ясна.

— Ясна! А ведаеце, таварыш дырэктар? У мяне ёсць адно няяснае пытанне.

— Што-ж за пытанне?

— Ці памятаеце вы Адамава Васіля, які працаваў на заводзе токарам год пяць таму назад.

— Чаму не? Памятаю... Гэта родзіч мой—пляменнік. А для чаго вы пытаецеся?

Андрушчык расказаў пра даведку, якую выпадкова давялося прачытаць.

— Цікава! Адамаў зараз працуе сакратаром райкома партыі на Віцебшчыне... Цікавая даведка... З ім была адна „гісторыя". Здаецца ў 1935 годзе яго былі выключылі з партыі, але, як потым высветлілася, усе матэрыялы былі паклёпніцкія... Напэўна, жонка Непаліцына мела дачыненне да паклёпнікаў.

З карыдора пачуліся крокі да кабінета, а потым лёгкі стук у дзверы.

— Калі ласка, заходзьце!—папрасіў дырэктар.

Увайшоў дзяжурны.

— Атрымана тэлеграма з наркамата. Непаліцынаў праект станка зацверджан,—паведаміў ён.

— Зацверджан?—у адзін голас перапыталі і дырэктар і Андрушчык.

Дзяжурны падаў тэлеграму. Дырэктар прачытаў яе ўголас: „Праект свідравальнага станка зацвярджаем, дазваляецца вытворчасці. Непаліцын прадстаўлены да ўзнагароды".

— Цяпер усё ясна, як дзень сонечны!—узрадаваўся дырэктар і паклаў тэлеграму на стол.

— Дайце, я панясу яе Непаліцыну!—заспяшаўся Андрушчык.

— Чакай! Разам паедзем!

---

Вера не доўга ляжала на падлозе. Ачуняўшы, яна паднялася і, спяшаючыся, пайшла ў кухню. Назад яна вышла з вялікім нажом у руцэ. Лязо нажа было вострае, бліскучае і шырокае. Яна падышла да Непаліцына, які моцна ціснуў за горла „гасця" і занесла над ім нож. Але ў гэту секунду на парозе з'явіліся дырэктар завода і Андрушчык. Рукі ў Веры затрэсліся, змярцвелі. Нож стукнуў канцом аб падлогу ля яе ног. Рэвальвер быў у руках Непаліцына. Вера пачала адыходзіць да сцяны.

Над ваколіцай моцна загрукацеў гром, страсануўшы паветра. Скрыжаванні маланкі пачалі сячы цемень. Пайшоў вялікі праліўны дождж, змываючы сваімі патокамі з паверхні зямлі трэскі, акуркі, паперкі—усё наноснае, непатрэбнае.

---

*П. Броўка*

# МІХАСЬ ПАДГОРНЫ

(Лібрэта оперы)

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

МІХАСЬ ПАДГОРНЫ
МАРЫСЯ
ГАНКА—салдатка
АНІШЧУК—высланы з Пецярбурга рабочы, большэвік-падпольшчык
ЗМІТРОК ЗАКРЭЎСКІ } кулакі
ІГНАТ ЗАКРЭЎСКІ—яго бацька } кулакі
ПРАПАРШЧЫК АГРЫЗКА—фальварковец
САЛДАТ ПЯСОЦКІ
БАЦЬКА МАРЫСІ } сяляне—беднякі
МАЦІ МАРЫСІ } сяляне—беднякі
БАБА-ЛАПАТУХА
МАРЦІН } хлапцы, потым навабранцы, потым салдаты
ЛУКАШ } хлапцы, потым навабранцы, потым салдаты
МАЦІ НАВАБРАНЦА
ВІНЦЭНТ АПОЧКА
АНУХРЭЙ—стары салдат
ДЗЕСЯЦКІ
1-шы СЕЛЯНІН
2-гі СЕЛЯНІН
1-шы ШЛЯХЦЮК—дружка
2-гі ШЛЯХЦЮК
АКАНОМ
1-шы ФЕЛЬДФЕБЕЛЬ
2-гі ФЕЛЬДФЕБЕЛЬ
АФІЦЭР
1-шы ВАРТАВЫ
2-гі ВАРТАВЫ
СТАРЭЙШЫ СВАТ
ХЛОПЧЫК

Хлопцы, дзяўчаты, сваты, сваццi і госці на вяселлі Змітрака, раненыя, салдаты, сяляне.

Дзея адбываецца на беларускай вёсцы, недалёка каля фронта. 4-ая карціна—на фронце.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Высокі бераг рэчкі пад лесам у летні дзень. Марыся і Ганка.

**Ганка.**

Свеціць сонейка прамяністае,
Невясёла мне, невясёла мне.
Пяюць птушачкі галасістыя,

Сумна, горка мне... сумна, горка мне...
Ад крыві зямля загарэлася,
Надышла вайна... надышла вайна...
А куды пайду, дзе падзенуся?
Я цяпер адна... Я цяпер адна...
Краскі ясныя у саду цвілі,
Ды спаліў агонь... ды спаліў агонь...
З любым мужам мы тры гады жылі,
Цар забраў яго... цар забраў яго!
Цар забраў яго...
Яго сцежачка камяністая,
Цяжка, горка мне... Цяжка, горка мне...
Свеціць сонейка прамяністае,
Невясёла мне, невясёла мне.

**Марыся.**

Табе я спачуваю, родная сястрыца,
Але няма і мне чым пахваліцца.
Табе прызнаюся, ты добрая, я знаю...

**Ганка.**

Аб чым гаруеш ты?

**Марыся.**

Я Міхася Падгорнага кахаю,
Але бацькі і слухаць не жадаюць.

**Ганка.**

Таму, што парабак?

**Марыся.**

Бо ні шнура зямлі сваёй не мае.
За Змітру мяне выдаць хочуць,
Я з гора плачу дні і ночы...
Нашто мне Змітра той багаты?

**Ганка.**

А ты бацькоў спрабуй угаварыць.

**Марыся.**

Нічога не выходзіць. Бацькі за мною вельмі сочаць,
І нельга мне спаткацца з Міхасём.

**Ганка.**

Скажа, сэрцайка, што рабіць самой.

**Марыся.**

Ах, як цяжка мне... Ах, як цяжка мне...

**Разам.**

Невясёлы час... Невясёлы час.

**Марыся.**

Угнявіць бацькоў не рашаюся.

**Ганка.**

Ты не слухай іх, раз душа баліць.

**Разам.**

Ах, як цяжка мне... Ах, як цяжка мне....

(Здалёку чутна песня дзяўчат).

**Марыся.**

Чакай, Ганулька.
Чуеш ты? Спяваюць.:.

**Ганка.**

Вайна... Бяда кругом... А моладзі нішто...
Ідуць... Гуляюць...

**Марыся.**

Вайна пакуль далёка...
Давай і мы сягоння пагуляем.

**Хор дзяўчат**
(*набліжаецца*)

У зялёным у садочку
Распявалі салаўі,
У зялёным, у садочку 2 разы
Расцвіталі ўсе цвяты.
Калі ружа расцвітала,
Кожны меціўся сарваць,
Калі ружа ападала— 2 разы
Кожны меціўся стаптаць.

**Марыся.**

А прыгожую дзяўчынку
Кожны меціцца любіць,
А няшчасную дзяўчынку
Кожны меціцца забыць.
Дзе ты каханы,
Любы ты мой?

(У часе спеваў дзяўчаты выходзяць на сцэну. Яны вітаюцца з Марысяй і Ганкай.

**Марыся.**

Ой, не лётай, салавей, па зялёнаму садку
Я й сама пахаджу па зялёнаму садку.

**Хор**

Я й сама пахаджу па зялёнаму садку.

**Марыся.**

Не збівай, салавейка, маёй ранняе расы
Я й сама абаб'ю сваю раннюю расу.

**Хор.**

Я й сама абаб'ю сваю раннюю расу.

**Міхась** *(здалёку).*

Не будзі ты, салавейка, майго мілага дружка.
Я й сама пабуджу свайго мілага дружка

**Марыся.**

Міхась!

**Хор**

Я й сама пабуджу свайго мілага дружка.

**Хор.**

Хлопцы ідуць.

**Марыся.**

Міхась.

(З лесу выходзяць хлопцы. У іх гармонік, скрыпка, бубен)

**Міхась.**

Ад вашай песенькі прыгожай
Гаі гамоняць і лясы...

**Дзяўчаты.**

Ой, не манеце...

**Лукаш.**

Як птушкі вы спявалі...

**Дзяўчаты.**

Прышлі і набрахалі...

**Ганка.**

Давайце ў гарэлкі
Мы лепей пагуляем.
Паскачам, пасляваем
На беразе сягоння.
Няхай-жа заіграе
Весёлую гармонік!

Хлопцы і дзяўчаты становяцца парамі. Гармонік іграе. Пачынаюць лавіць адзін другога. Спяваюць.

**Мужчыны.**

Я спаймаю дзяўчыначку,
Ружу агнявую, эх.

**Жанчыны.**

Я спаймаю, пакахаю,
Хлопца удалога...

**Разам.**

Ой, гуляйце, ой гуляйце
Хлопцы удалыя,
Дзеўкі маладыя.
Уцякайце, уцякайце
Дзеўкі маладыя,
Хлопцы удалыя.

**Разам.**

Зелянее, зелянее.
Пожанька густая.
Хай прызнаецца сягоння
Хто каго кахае.

**Жанчыны.**

Зашумелі ў лузе травы
Сонейка пачулі.
Мой міленькі кучаравы,
Белая кашуля.

**Мужчыны.**

Я падружачку кахаю
Зорку маладую,
Я дзяўчыначку спаймаю
Ружу агнявую.

Гульня ідзе так, што хлопцы і дзяўчаты адыходзяць далей і далей у глыб і паступова ўсё знікаюць. Сцэна некаторы час пустая. Бяжыць Марыся. За ёю гоніцца Міхась. Ён злавіў яе.

**Міхась.**

Ага... як тут была,
Я знаў—цябе спаймаю.
Ты ад мяне не уцякла...

**Марыся.**

Хіба я уцякаю?
А ты ўсё сумны, родны мой, родны мой.
Даўно не бачыліся мы...
Спаткаліся...
Чаго-ж ты невясёлы?

**Арыя Міхася.**

Марыся, ты мяне пытаеш,
Маё ты гора добра знаеш.
Ты сэрцам адчуваеш гэта—
Вайна ідзе... Гудзіць над светам.

Шуміць віхор і ў першы бой
Загінуў брат адзіны мой.
Я сіратой і голым стаў—
Апошні шнур маёй зямлі
Закрэўскі адабраў.
Куды я скардзіцца пайду,
Нідзе я праўды не знайду,
Не дамагчыся мне свайго...
Багаты ён... і суд яго...
Адно, што мусіў я зрабіць,
Пайсці за парабка служыць.
Няхай... Я не загіну, не...
Ёсць сіла, рукі у мяне,
Бяда, што возьмуць у салдаты,
Змітрок застанецца пракляты.
Багаты ён. Яму гуляць...
Так цяжка мне цябе кідаць
Каханую маю...

**Марыся.**

Міхаська мой, чаго тужыць,
Хвалюешся дарма ты...

**Міхась.**

Марыська, праўду мне скажы,
Змітрок, не быў у сватах?

**Марыся.**

Сватоў даўно ён засылае,
Мяне заве да шлюбу...
Я-ж аднаго цябе кахаю,
Закрэўскі мне нялюбы.

**Міхась.**

А што бацькі тваe гавораць?

**Марыся.**

Аддаць багатаму жадаюць.
Ды толькі не хачу я,
Няхай, як хочуць, прымушаюць,
За Змітру не пайду я.
Я аднаго цябе кахаю любы мой
Заўсёды буду я з табою, родны мой.

**Міхась.**

Шчаслівы я, што ты са мной каханая,
Любімая, жаданая мая.
Марыська, родная, я знаў,

Што будзеш ты са мной,
Хай толькі кончыцца хутчэй вайна
Пажэнімся з табой, мая краса.

**Марыся.**

Міхаська, сокал ясны мой,
Заўсёды будзеш ты са мной,
Хай толькі кончыцца хутчэй вайна
Пажэнімся з табой, мой дарагі.

**Міхась** *(цалуе)*.

Клянуся я перад сонцам ясным, перад сонцам ясным,
Што вечна я твой...

**Марыся.**

Клянуся я табе перад небам сінім,
Што вечна я твая...

Вялікая паўза.

**Дзяўчаты і хлопцы** *(выбягаюць на сцэну)*.

Ага... ага... спаймалі...
Дык вось куды Міхась з Марысяй знік?
Чаго сумуеце сягоння вы?

**Міхась.**

Пакінем мы пра гэта...

**Ганка.**

І праўда, досыць, годзе...
Давайце лепш у карагодзе
Пагуляем...

**Хор.**

Пагуляем.

**Ганка.**

Марыська будзе маладой,
Міхась за маладога,
А я падружкай... А Каці
Свякрухай быць.

Хор убок Анішчука, які ідзе з вудамі і кацялком на рыбу:

**Хор.**

А вось і дзядзька Анішчук.

**Ганка.**

А вось наш дзядзька Анішчук,
Яму быць свёкрам лютым...

**Усе.**

Правільна... Ха-ха.
За свёкра будзе дзядзька Авішчук...

**Хор.**

Ха-ха-ха-ха-ха-ха...

**Анішчук.**

Ах вы, нягоднікі...
Смяяцца так не гожа.
Мне свёкрам быць.
Хіба такі я злосны?

**Хор.**

Сюды, сюды, у круг, хутчэй.

**Анішчук.**

З работы толькі і адразу свёкрам...
Ну, што-ж? Спявайце весялей!..

**Карагод.**

Танцы.

**Хор.**

Па гарохаўю, па ячанню
Ходзіць голуб, ды з галубачкай,
А ў голуба ды сіза галава,
А ў галубкі пазалочаная,
А ў галубкі ясны вочачкі.
Каб ды Кацечка такою была,
Я-ж бы ёй і палоў і малоў,
Я-ж бы ёй па вадзіцу пашоў,
Я-ж бы ёй і дзяжу замясіў,
Я-ж бы ёй і дзіця калыхаў.
Калыхаў, калыхаў...

Танцы.

**Жаночы хор.**

На вуліцы я была
Убачыла Яся.
Хацеў мяне падмануць,
А я не далася.
На вуліцы я была,
Міхась прывітаўся.
Ён мяне пацалаваў,
А я абнялася.

У часе гулянкі з крыкам і лямантам з'яўляецца Змітрок з хлопцамі-шляхцюкамі. Яны апрануты з дрэнным густам, але трымаюцца ганарліва. З імі бацька Марысі.

**Хор.**

Ой, Змітрок!

**Змітрок.**

Як тут цудоўна, як вясёла.
Нам да спадобы ваша кола.
Ваш голас нам дарогу значыў,
А то-б набраліся бяды,
Ну і ляцелі-ж мы сюды...

Разам:

**Першы шляхцюк.**
Загналі коні да астачы,
Маланкай мы сюды імчалі.

**Другі шляхцюк.**
Красунь затое напаткалі,
А з імі добра пагуляць.

**Змітрок.**

Ну і ляцелі-ж мы сюды...

**Ганка.**

Змітрок, ты-б лепей не хлусіў,
Ты сам прыблукаўся, як цень,
Відаць, пад хмелем цэлы дзень,
Сюды ніхто вас не прасіў...

**Галасы.**

Правільна, правільна.
Добра, Ганка.

**Змітрок.**

Мне ведаць, гэтака ці не?
Марыська, падыйдзі ка мне.

**Марыся.**

Чаго, навошта я табе?

**Міхась.**

Яна з дзяўчатамі занята.

**Змітрок.**

Маўчы лайдак з разбуранае пусткі,
Марыська, глянь, табе прывёз я хустку...

Дзяўчаты разглядаюць хустку.

**Галасы.**

Ай, што за хустка. Шаўковая, відаць...
Напэўна, дарагая. А вышаўка якая.
Прыгожая... Ай, што за хустка!
Бяры, Марыся!

**Марыся.**

Не трэба.

**Бацька Марысі.**

Дачка, дабром прашу, ідзі, калі жаніх заве.

**Марыся.**

Які ён мне жаніх?

**Бацька Марысі.**

Марыся, апошні раз кажу.

**Анішчук.**

Як вам не сорамна дачку так прымушаць.

**Бацька Марысі.**

Маўчы.

**Ганка.**

На што вам гэтае багацце?

**Бацька Марысі.**

Мая дачка, мая. Я знаю што раблю.
Ідзі, кажу, ідзі.

**Марыся.**

Для Змітрака дачку шукайце вы другую.

*(Плача)*

**Змітрок.**

Вазьмі, бо пашкадуеш, другі раз не куплю.

**Міхась.**

Ты хвалішся, ідзі туды, адкуль прышоў.
Сюды, хлапцы. Яго брахаць мы добра тут адвучым!

Міхась пакрывае хусткай Змітрака з галавой. Хлопцы тузаюць Змітрака.

**Змітрок.**

*(Вырваўшыся з-пад хусткі, крычыць)*:
Дай ачуняць. Прэч! Прэч!
Басота вы! Усе вы у хаўрусе.
Я з вамі разлічуся.

**Анішчук.**

Маўчы, каго ты пужаеш.
Ты перш пабойся. Глядзі, якія ўсе!
Здаровыя хлапцы. Пайшоў!

**Змітрок.**

Міхась бяды мне нарабіў.
Не хочаш хусткі, не бяры.
Мы гэта не забудзем.

**Міхась, Марыся, Ганка, Анішчук.**

Прэч!..

Уваходзіць дзесяцкі.

**Хор.**

Чакай. Дзесяцкі йдзе...
З чым прышоў?

**Дзесяцкі.**

Усе палеткі абхадзіў,
А ледзь я вас знайшоў.
Міхась, Андрэй, прынёс вам навіну
Кідай гуляць... збірайся на вайну!

**Хор.**

На вайну... на вайну...

**Міхась.**

Мне на вайну?

**Марыся.**

Міхаська, родны... родны мой.

**Змітрок.**

Ха-ха... збірайся на вайну.

**Міхась.**

Няўжо загіну я, за што?... А ты?
Чаму не йдзеш Змітрок?
Багаты!..

**Змітрок.**

Вось вам дакумант.
Надоўга вызвалены я,

**Анішчук.**

За грошы!

**Хор.**

За багацце!..

**Міхась.**

Бывай, Марысенька, бывай.
Заўсёды родная, ты знай.
Адну цябе кахаю я.

**Марыся.**

Бывай, Міхаська, мой, бывай,
Заўсёды любы, родны, знай,
Я аднаго цябе кахаю...

**Міхась.**

Няўжо загіну я ахвярай
Дарэмна там, за Змітраў гэткіх?

**Змітрок.**

Што такое? Што я пачуў?
Што гэта значыць?
Паглядзім хто і як заскача.

**Бацька Марысі.**

А будзе так, як я скажу,
Марыся будзе жонкай Змітрака...
Будзе жонкай Змітрака Марыся.

**Анішчук і Ганка.**

Няўжо не сорамна табе
Дачку праз гвалт на шлюб весці...

**Змітрок.**

А нам тут нечага стаяць задарам.
За мною, хлопцы, у фальбарак!

**Міхась.**

Марыся, Марыська мая.

**Марыська.**

Міхась мой, Міхаська мой.

**Міхась.**

Марыська, помні пра мяне.

**Марыся.**

Міхаська, помні пра мяне.

**Ганка** *(шляхцюкам)*

Ідзеце вы адсюль, к шляхетным і багатым,
Чаго прыліплі вы, праклятыя смаўжы?

(Зьмітрок, шляхцюкі і бацька Марысі выходзяць)

Заходзіць сонца. Пара і нам дахаты,
Трывожна, неспакойна на душы.

**Хор.**

Заходзіць сонца, пара і нам дахаты,
Трывожна, неспакойна на душы.
Гора... Гора...

**Зьмітрок** *(здалёку)*.

Міхась, папомніш ты мяне.

**Шляхцюкі.**

Міхась папомніш ты нас!

**Аніщчук.**

За што людзей гаруе многа,
Глядзеце, сонца у крыві на захадзе гарыць...
Хадзем і Міхася праводзім у дарогу,
Ні бацькі у яго, ні маці, ні сястры.

**Хор.**

Хадзем і Міхася праводзім у дарогу,
Ні бацькі у яго, ні маці, ні сястры...
Гора... Гора... Ваяваць хлапцы ідуць.
За што? За што!..

---

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ДРУГАЯ

Вялікая, чыстая вясковая хата. На доўгім стале многа яды і розных бутэлек, прыгатаваных да вясельля.

**Марыся.**

Плача рэчка з ручайкамі,
Вада замучона,
Залілася я слязамі,
Гора незлічона.
Паляцеў мой галубочак,
У чыстае поле,
Паляцеў мой галубочак
За сіняе мора.
Ды таго мне галубочка

Больш не дачакацца,
З родным, любым галубочкам
Больш не прывітацца.
Ой, падулі злосна ветры
З глыбокага яру,
Прыняслі мне смутку весці
З далёкага краю.
Сэрца рвецца з болю, жалю,
Горам апавіта,
Што ляжыць мой галубочак,
Куляю забіты.

**Маці.**

Мая дачушка, чаго гаруеш,
Паслухай лепей мяне, старую:
Міхась забіты. Ну што ты зробіш,
Ты плачам гору не пасобіш.
Яго душа пашла на неба.

**Марыся.**

Матулька!

(У гэты час хор за сцэнай)

У цябе, хлопчык, саколлі вочы,
Ты не баішся цёмнае ночы...
Чаго я маю ночы баяцца.
Бог нада мною, конь пада мною
А мая Марыська поплеч са мною,
А мая дружына следам за мною.

**Маці.**

А твой Змітрок хлапец, як трэба
На ўсю акружку. Бачыць кожны.
Багаты, спрытны і прыгожы.
Ён табе мужам добрым будзе.

**Марыся.**

Матулька родная.

**Маці.**

А то глядзі, убачаць людзі.

**Марыся.**

Матулька, родная, мне вельмі блага!..

**Маці.**

Нічога, за багатым мужам пройдзе.

(Выходзіць)

**Марыся**

Не спаткаю я дружочка.
Не убачу болей.
Мяне-ж бедную да шлюбу.
Прывялі няволей.
Міхаська любы,
Родны саколік
Нам не гуляці
З табою болей.
Кветак не рваці,
Вянкоў не віці,
Больш у жытное
Нам не хадзіці.
Ой нешчаслівыя
Нашыя душы,
Слухаць нялюбыя
Словы я мушу.
Век будзе гора
Ў сэрцы ляжаці...
Татка сасватаў,
Выдала маці.

Уваходзіць маці і Змітрок. Сваццi пяюць за сцэнай.

А мая Марыся поплеч са мной,
А мая дружына следам за мной.

**Змітрок.**

Дарма, журышся ты.

**Маці.**

Два месяцы ужо, як чула я ў царкве
Па Міхасю малітву бацюшка казаў.

**Змітрок.**

Забіты ён.

**Марыся.**

А я?

**Змітрок.**

А ты мая цяпер.
Цябе заплаканай сутрэць я не чакаў.
Каб Міхася імя я болей і не чуў.
Шчаслiва будзь, што я узяў цябе,
Што даравау табе знаёмства з ім.
А будзеш плакаць, ныць. Не змоўчу.
Будзе горш!

**Марыся.**

Змітрок, ты-ж ведаў сам,
Што я яго...

**Змітрок.**

Маўчы, кажу, маўчы!

**Галасы.**

Ай, госці!.. Вітайце!.. Ай госці!.. Вітайце!
Госці!

**Матка Закрэўскага.**

Сваты і госці на двары.

**Ігнат Закрэўскі.**

Рыхтуйся, маладыя!

Уваходзяць сваты, сваццї і госці. Старэйшы сват ідзе наперадзе і нясе каравай. За ім астатнія і музыканты.

**Старэйшы сват.**

Благаславі бацька і маці
І добрыя людзі з хлебам прысці.

**Ігнат Закрэўскі.**

Бог благаславіць...
Бог благаславіць...
Бог благаславіць...

**Марыся.**

Ай, божа.

Старэйшы сват кладзе каравай на стол. Дружок вырэзвае дзве дзіркі. Туды ён ставіць дзве свечкі. Потым пытаецца:

**Старэйшы сват.**

Благаславі бацька і маці
Свечкі запаляці,
Бяседу пачынаці.

**Ігнат Закрэўскі.**

Бог благаславіць. Бог благаславіць. Бог благаславіць.

**Марыся.**

Ай, божа.

**Ганка.**

Марыся, ціха!

**Ігнат Закрэўскі**:

Сядайце, трэба закусіць!

Музыканты іграюць. За стол сядаюць Змітрок і Марыся. Каля іх бацькі Змітрака, з другога боку мясцовы фальбарковец, прапаршчык. Далёка ў кутку бацькі Марысі і Ганка. Некалькі пар скача.

**Старыя.**

Эх, гуляй! Эх, гуляй! Эх, гуляй!

**Свацці.**

У цябе, хлопчык, саколлі вочы,
Ты не баішся цёмнае ночы.

**Змітрок** (*да Марысі*).

Паглядзі, чаго нам не стае,
Пірагі як горы на стале.
Будзем весяліцца,
Будзем сёння граць.
Нашыя клеці поўныя дабра.

**Ігнат Закрэўскі.**

Да чаго удалы вы усе скакаць,
Ажно мая хата ходарам гудзіць,
Спрытныя ногі, нечага казаць,
А цяпер сядайце, з намі закусіць.

**Прапаршчык Агрызка.**

Ну, і вяселле сёння ў нас,
Вітаю, маладыя, вас.

**Хор.**

Горка, горка!

**Агрызка.**

Вось люблю!

**Хор.**

Яшчэ!

**Хор жанчын.**

Ды кланяйся, дзевачка, і старому і малому.
Ды дасць табе бог ды добрую долю.
Шчаслівую гадзіну, багатую радзіну.

**Ігнат Закрэўскі.**

Слухайце вы, людзі і ты паслухай, сват.
Захацеў жаніцца... хай, на добры лад.

**Лукаш.**

Гад ты, гад.

**Прапаршчык Агрызка.**

Так Зміцер, брат, патрэбен лад.

**Марцін.**

Гад ты, гад.

**Лукаш.**

Ціха ты.

**Прапаршчык Агрызка.**

Жонку пакінеш—застанешся слабым...

**Хор жанчын.**

Ды дзе быў салавейка,
Ды дзе была зазюлька?
Ды зляцеліся ў адзін садочак.
Ды ў адзін садочак,
На адзін кусточак,
Ды пілі расіцу з аднаго лісточка,
Ды елі сабе малінкі з аднае галінкі.

**Агрызка.**

Са мной выпадак быў, скажу, на першай лініі ляжу.

**Лукаш.**

У штабе.

**Агрызка.**

Хто так сказаў?
Я папрашу, каб словы ён назад узяў.
Я афіцэр, адной рукою, у міг распраўлюся з табою.

**Усе.**

Ну гаварыце-ж. Гаварыце!..

**Хор.**

Спявайце, дзеўкі!

**Хор жанчын.**

Ды дзе была дзяўчынка, ды дзе быў хлапчынка,
З'ехаліся на адно надвор'е, на адно застолле.

**Прапаршчык Агрызка.**

Я двух крыжоў цяпер герой,
Дык вось было што там са мной...

**Ігнат Закрэўскі.**

Пастой... Пастой...
Што ты гаворыш, намі чута,
Дай сыну даць раней напутак...

**Прапаршчык Агрызка.**

І ты супроць мяне?

**Ігнат Закрэўскі.**

Пабойся бога... Не.
Я так кажу, Змітрок—
Радніцца непамысна мне з такім,
Што хата нават на чужым.

Разам:

**Бацька Марысі.** То праўда, у нас няма нічога.

**Маці.** Праўда, так!
Прычым-жа мы, усё ад бога.

**Ігнат Закрэўскі.**

Ад бога ўсё ідзе вядома,
Але не будзь гультай і дома...
Працуй, пасобіць бог!
Давайце лепш, сваты і ты, Змітрок
У свіран сходзім падзівіцца,
Ды прынясем чым болей пажывіцца.

**Сваты.**

Хадзем, хадзем!

**Змітрок.**

Пакажам нашу хату, што яна багата.

Выходзяць Закрэўскі, бацькі Марысі, Агрызка, многія сваты і госці.

**Ганка.**

Вяселле ў вас, а мне дык сумна,
Ні маці у мяне, ні мужа,
Адна памёрла, другі на фронце.

**Марыся.**

І мне не лепш; нялюбы муж,
І маці як чужая.

**Ганка.**

Ах, Марыська *(спявае старую песню)*.
Гей, узнімцеся буйныя ветры па полю.
Пяскі развейце, пусціце мамку на волю,

Жалезныя цвічкі збілі мне плечкі, больна мне.
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі, цесна мне.
Жоўты пясочкі прысыпалі вочкі, цёмна мне.
Гэй узнімицеся буйныя ветры па полю,
Пяскі развейце, пусціце мамку на волю.

**Ігнат Закрэўскі**

*(увайшоўшы са сватам).*

Што тут за песні, ліха вам у косці,
Піце ды гуляйце, ды скачыце, госці.

Выходзяць з-за стала. Пачынаюць скакаць. У гэты час прапаршчык Агрызка затрымоўвае Змітрака і ящчэ кружок і пачынае апавядаць:

Я двух крыжоў цяпер герой.
Дык вось было што там са мной.

**Раненыя** *(з-за сцэны).*

Ці можна нам у хату,
Зайсці нам ці можна?

**Прапаршчык Агрызка.**

А вы хто такія?

**Раненыя** *(уваходзячы)*

Мы з-пад Баранавіч... мы адпускныя.

**Прапаршчык Агрызка.**

Можа дызэртыры, адкуль мне вас знаць?

**Раненыя.**

На нагах драўляных куды-ж уцякаць?

**Прапаршчык Агрызка.**

Маўчаць!

Міхась, галава якога перавязана так, што яго цяжка пазнаць, выходзіць з-за спіны таварышоў.

**Марыся.**

Ай божа мой. Ай божа.
Міхась ты жыў?

**Міхась.**

Жывы, і нават на вяселле прышоў я да цябе,
Кідай, Марыська, іх багатых... кідай!

**Марыся.**

Ах, дурна, блага мне...

**Ганка.**

Вады Марысі!

**Змітрок.**

А ты чаго гіцаль, вон з маёй хаты,
Яна мая ўжо. Хачу жыву я, хачу я кіну.

**Ігнат Закрэўскі.**

Што я казаў табе, што я казаў? А жонку пад
замок.
Марысю пад замок.

**Змітрок** *(б-е Міхася)*

Каб твайго духу тут не бывала.

**Прапаршчык Агрызка.**

Мала! Мала!

**Ганка.**

Змітрок, што робіш, схамяніся!

**Змітрок.**

Вон з хаты! Вон!
Ты не падруга больш Марысі.

**Міхась** *(б'е Змітрака)*

За дымам гарматным не бачу я свету,
А ты па фальшывым гуляеш білету.
Ты біцца за гэта, ты біцца...

**Прапаршчык Агрызка.**

Я двух крыжоў цяпер герой.
У міг распраўлюся з табой.
Бі, бі, бі, бі!...

Б'ецца пасуда, крык і лямант, Змітрок і Агрызка выкідаюць Міхася і Ганку.

**Змітрок.**

Каб твайго духу тут не бывала.
Прэч! Прэч! Прэч!
Міхась, паспытаеш у вастрозе добра.
Ты помніш як лаяў цара?

**Бацька Марысі.**

Божа! Божа!

**Ігнат Закрэўскі**

Ціха! Ціха!

**Хор.**

Звар'яцелі вы,
Звар'яцелі вы.
Ай годзе, годзе!
Пойдзем лепш дамоў!

**Прапаршчык Агрызка.**

Такі выпадак быў са мной,
Я трох крыжоў цяпер герой.

Зварачваецца да раненых.

А вы?

**Раненыя.**

Мы хочам есці, адпачыць.

**Прапаршчык Агрызка.**

На фронт, на фронт,
Не лынды біць!
Такі, такі парадак наш
Шагам арш!...

Раненыя выходзяць.

**Хор раненых.**

Мы пойдзем...
Бьюць нас усюды,
Гоняць усюды,
Мы пойдзем.
Хаты шкадуюць,
Хлеба шкадуюць,
Мы пойдзем,
Хлеба шукаць,
Волі шукаць,
Мы пойдзем...

---

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Вясковая вуліца летам. Чутна мелёдыя навабранцкай песні. Праз некаторы час з аднае хаты выходзіць навабранец з торбай за плячыма. За ім маці, дзед, старая жанчына. На двары маці кідаецца сыну на шыю.

**Марцін.**

Супакойся, матачка...

**Маці.**

Куды-ж цябе забіраюць,
Мой родны, мой голуб...

**Жанчына.**

Трэці год як б'юцца.
Самых маладзенькіх гоняць на пагібель.

**Марцін.**

Супакойся, матачка,
Не адзін такі я.

**Маці.**

Засталіся ў хатачцы
Толькі мы старыя.

**Жанчыны.**

Можа бог дасць, добра
Кончыцца вайна.

**Маці.**

Ах, якое добра.
Двух ужо няма,
Што рабіць не знаю?

Чутна мелёдыя навабранцкай песні.

**Марцін.**

Ну, бывай матуля.
Бо мяне чакаюць.

**Маці.**

А—а...

**Марцін** *(развітваецца)*

Даруйце, калі што
Я дрэннае зрабіў.

**Жанчыны.**

Дай-жа божачка,
Каб толькі ты жыў...

Навабранец адыходзіць у канец сяла. За ім ідуць усе. У садку каля вуліцы адзін Міхась.

**Міхась.**

За што, за што я ваяваў,
Закрэўскі ўсё маё забраў.
Забраў апошнюю зямлю,
Забраў каханую маю.
Застаўся я зусім адзін...
Застаўся я зусім адзін.
А скора зноў на фронт ідзі,
Ідзі змагацца за паноў...
Праходзіць адпачынак мой.

(Пауза)

Дзе-ж ты, Марыся, што з табой?
Сама наказывала мне

Пад вечар, сёння, тут чакаць.
Ужо і змрок. Туман вісіць
Няма. Нідзе нікога не відаць.
Ах, вунь яна...
Ах, любая мая... бяжыць...

**Марыся.**

Я толькі на хвілінку выбегла сюды
Спакою я не знаю.

**Міхась.**

Паслухай, родная мяне.
Цябе я так кахаю,
Кідай, кідай Закрэўскага.

**Змітрок Закрэўскі** (*падслухоўвае ў боку).*

**Марыся.**

Міхась, што кажаш ты? Законамі, царквой мы павянчаны.

**Міхась.**

Ён ашукаў цябе, Марыська,
Табе граха не будзе, не будзе!

**Марыся.**

Як я у вочы гляну людзям добрым?

**Міхась.**

Што даражэй табе, гаворка іх,
Ці я? Скажы мне шчыра, ты мяне кахаеш?

**Марыся.**

Міхаська, не пытай...

**Міхась.**

Дык я прашу цябе, яшчэ,
Закрэўскага кідай, кідай!

**Марыся.**

Мне цяжка... пачакай...

**Міхась.**

Тады бывай... Забудзься пра мяне,
Навошта я пакутаваў дарма...

(Адыходзіць).

**Марыся.**

Міхась!.. Міхась!..

**Змітрок Закрэўскі.**

Я тут... Прэч, злыбеда, галотнік!..
Марыська супакойся.
Ты бачыш што за чалавек,
Каб толькі спакусіць.

**Міхась.**

А ты брахаць ахвоч!

**Змітрок.**

Ідзі адсюль нягоднік.
А ты, Марыська, жонка добрая мая,
Закон і бога ў сэрцы носіш
Цябе кахаю я адзін.

**Міхась.**

Марыся!..

**Марыся.**

Што робіцца не знаю?

**Змітрок.**

Табе Міхась праз век я не дарую.
Хадзем дамоў, Марыська...

Яны выходзяць. Міхась крычыць услед: Марыська!..

**Адзін Міхась.**

Пашла Марыся.
Пашла. Баіцца Змітры...
Бывай маё каханне,
Пагасла ты зарання
Няма ў мяне нікога,
Няма ў мяне нічога,
Апроч пакутнай болі,
Апроч салдацкай долі,
Дзе шчасце мне сустрэці?
Дзе праўда та на свеце?

**Анішчук.**

Міхась Падгорны, добры вечар,
Што замаркотнеў, дарагі?

**Міхась.**

Прызнацца шчыра, ад тугі...

**Анішчук.**

Табе не сорамна тужыць?
Ты-ж мне казаў, што хочаш біць паноў?

**Міхась.**

Ах, дзядзька... ты смяешся зноў.
Куды скажы сабраўся гэтак?

**Анішчук.**

Скажу табе я.
Мяне зусім да фронту блізка,
Служыць паслалі ў парк артылерыйскі
За слесара.
„На абарону“ працаваць.

**Міхась.**

Сабраўся ваяваць?

**Анішчук.**

Што-ж, буду ваяваць,
А праўду шчырую сказаць;
Другая ёсць работа—
Пагаварыць з салдатамі на фронце.

**Міхась.**

І мне на фронт варочацца пара.

**Анішчук.**

Варочайся, Міхась! Сваю ты справу знай!
Там кожны дораг з нас...
Ты добра ведаеш і сам пра гэта.
Работы многа. Помніш гаварылі?
Ідуць вялікія падзеі.
Даволі, не сумуй! Чаго хадзіць з панікшай галавой?
Даб'емся усяго. І прыдзе час, Марыся кіне Змітру
і будзе зноў з табой...

**Міхась.**

Балюча мне яе кідаць, але цяпер нічога не зраблю.

За сцэнай чуваць з аднаго боку навабранцкая песня,
а з другога жніўная.

**Анішчук.**

Пастой, я чую, што пяюць.

**Міхась.**

Гэта дзяўчаты са жніва ідуць, і навабранцы адыходзяць.

**Анішчук.**

Дай пачакаем іх. А з навабранцамі да станцыі мне
разам.

Жніўная песня.

**Хор жанчын.**

А дзеванькі дамоў пара,
Ледзяная раса пала.
А мядовая раса пала.
А мядовая раса таткава
Па лядовай расе пайду—
Мае ножанькі ва льду.
Па мядовай расе пайду—
Мае вусцікі у мяду.

Навабранцкая песня.

**Хор мужчын.**

Бывайце прасторы, радзімае поле,
Нам тут не гуляць і не пець...
Чужая нас воля, праклятая доля,
На смерць пасылае, на смерць...

**Міхась.**

Таварыш Анішчук, якая сіла?

**Анішчук.**

І гэта сіла скрышыць ўсіх паноў.

**Хор жанчын** (*зусім блізка*).

Надаела жаркота-пякота,
Цяжкая работа.
Дзень да вечара ў полі стаяла,
Калоссем махала,
Пад дом паглядала,
Надаела жаркота-пякота.

**Хор мужчын.**

Забралі ўжо брата і бацьку пагналі,
Засталася маці адна.
Мы шчасця ад самага малку не зналі,
Нам шчасця нідзе не пазнаць?

**Ганка.**

Забіраюць гэткіх маладзенькіх...

**Хор жанчын** (*на сцэне*).

У нас сягоння вайна была,
Усё поле зваявалі.

**Ганка.**

Сумна нам падружкі,
Сумна нам сягоння,
Гэткіх маладзенькіх
На вайну цар гоніць.

**Галасы.**

— Хлопцы на вайну ідуць.

**Другая група жанчын.**

У, снапочкі павязалі,
І копачкі падлічылі,
Гора!.. Гора!.. А...

**Хор мужчын.**

Бывай-жа, каханка, ці ўбачымся болей,
З табою нам больш не сядзець...
Чужая нас воля, праклятая доля
На смерць пасылае, на смерць.

**Марцін.**

Добры вечар жнейкі,
Што зараняя з поля?

**Ганка.**

Што-ж нам жаці болей?
Жыта мы пажалі,
А пакуль паспее нашае ярное...

**Лукаш і галасы.**

Можа мы наложым
У полі галавою.

**Старыя маці** *(злажыўшы рукі)*

Божа-ж наш божа
Што гэта такое...

**Марцін.**

Куды ідзем не знаем самі,
Зямля гарыць ў нас пад нагамі.

**Жанчыны.**

Гора!.. Гора!..

**Ганка.**

Куды вас гоняць?

**Міхась.**

Паслухайце мяне. Я вам скажу куды?
Цару крываваму служыць. Цару,
А маткі з голаду памруць.

**Старая маці.**

Памруць, сынок... памруць!

**Анішчук.**

Салдаты, бачыце гора людское,
Рыхтуйцеся лепей да новага бою,
Даволі хадзіць вам пад цяжкай нядоляй,
Рыхтуйце расплату за гора, няволю.

**Галасы.**

Правільна гаворыць... правільна.

**Навабранец Пясоцкі.**

Чаго бунтуеш тут... За веру мы ідзем і за цара...

**Галасы.**

Маўчы!..
— Змітрок з Агрызкам вунь ідуць.
— А як качэргамі снуюць.

Падыходзяць падвыпіўшыя Змітрок і Агрызка. Агрызка, вызваліўшыся з абдымкаў Змітрака, стараецца ўзяць вайсковую выпраўку.

**Прапаршчык Агрызка.**

Як кажуць, здраствуйце, арлы!..

**Навабранец Марцін.**

Як кажуць, здраствуйце, былі.

**Прапаршчык Агрызка.**

Што за насмешка?
На мне пагоны царскія.

**Навабранец Лукаш.**

А морда хамская...

**Навабранец Пясоцкі.**

Не абражайце афіцэра... Ён наш герой.

**Міхась.**

А ты панам прадаўся з галавой.

**Хор.**

Ха-ха-ха-ха... прадаўся з галавой.

**Змітрок.**

Міхась, сыйдзі найлепей з маіх воч!

**Хлопцы** *(адштурхоўваючы Змітрака.)*

— Ідзе адсюль... І лепей змоўч!

**Агрызка.**

Салдаты, што тут за настрой!

**Галасы.**

Пайшоў ты двух крыжоў герой...

**Навабранец Лукаш.**

Пайшоў ты з гутаркай такой.
Жылі мы у брудзе, жылі у балоце...
А ім насмяхацца на нашай бядоце...

**Галасы.**

Прэч адыходзьце... Прэч адыходзьце...

Агрызка і Змітрок адыходзяць.

**Агрызка.**

Мундзір спаганіць... смяяцца над царом...

**Змітрок.**

Да прystава зараз... Да прystава зараз...
Міхась пазнаеш ты мяне,
Знайду цябе і на вайне.

**Міхась.**

Ідзі, ідзі, пайшоў!

**Навабранцы.**

Далі ім багата
Сёння як нарокам...
Ну, а нам дзяўчаты.
Час у шлях далёкі...

**Аніщчук.**

І я з вамі...
Бывай, Міхась, бывай!

**Міхась.**

Да пабачэння дзядзька дарагі.
Праз колькі дзён я буду разам.

Развітваюцца ўсе.

**Старая маці.**

Годзе ўжо!.. годзе!..

**Дзяўчаты.**

А мы вас праводзім...

Разам { **Жанчыны.** / **Хор** *(змешаны)* }

Гора!.. Гора!..
Не плач, матуля па родным сыне,
Заўтра ён будзе салдат.
Не плач каханка, не плач дзяўчына,

Можа, мы прыдзем назад.
Бывай хаціна пад небам сінім,
Бывай вішнёвы наш сад.
Не плач, каханка, не плач, дзяўчына,
Можа мы прыдзем назад.

Міхась некаторы час стаіць адзін. Далёка чутна навабранцкая песня.

**Міхась.**

Зусім адзін. Цямнее неба край
Хлапцы пяюць, ідуць на смерць...
Куды мне смутак свой падзець,
Марыся, родная, бывай!..

---

## КАРЦІНА ЧАЦВЕРТАЯ

Салдацкі прывал недалёка ад фронту. Невялікае вогнішча. Кацялкі са страваю на ім. Афіцэр і Міхась.

**Афіцэр.**

Вы баязліўцы!
На фронт не хочаце ісці!

**Міхась.**

Не баімося мы, нічога, пан паручнік!
Але наш першы вораг тут, у нас
пад бокам. Гэта памешчыкі і вы!..

**Афіцэр.**

Што вы гаворыце? Падумайце!

**Міхась.**

Кажу, што тут разлічамся зусім.
А потым будзем з немцам біцца!

**Афіцэр.**

Папераджаю вас!

(Выходзіць).

**Марцін і Лукаш.**

Цвіла, цвіла калініца, ды і засыхае,
Жыў, жыў салдацічак, ды і памірае (2 р.), ды і памірае ён.
Не кладзеце мяне, братцы, на траўцы-мураўцы.
Палажыце мяне братцы у хаце на лаўцы.

Хор.

Ой, забіла мяне куля, куля ды ліхая,
Ой, не ведаю я, братцы, за што ваяваў я, за што ваяваў.
Заспявала ды зязюля па-над лесам ку-ку.
Маці кажа, дай сыночак, мне праўую руку.
Рад-бы я табе, матулька, абедзве падаці,
Зямля сціснула сырая, не магу устаці, устаці не магу.

Марцін.

Эх, ночка цёмная, як наша доля,
І прасвятлення не відно.

Лукаш.

Шэсць месяцаў як скінулі цара.

Міхась Падгорны.

Прагналі мы цара.

Лукаш.

А жыць усёроўна цяжка...

Марцін.

Няма канца вайне!

Лукаш.

Згары жыццё такое.

Марцін.

Загінем заўтра, ці сягоння.

Міхась.

А хто на смерць вас гоніць?

Анухрэй. Марцін, Лукаш.

Як хто? Урад часовы.

Міхась Падгорны.

Паслухайце маё праўдзівае вы слова
Вы ваяваць стаміліся,
Але нам многа трэба ваяваць яшчэ...

Сымон Пясоцкі.

Супроць каго?

Міхась Падгорны.

Супроць паноў.

**Сымон Пясоцкі.**

Ты бунтавацъ ізноў. Прадаць радзіму немцам.

**Міхась.**

Не мы прадалі. Генералы па кавалку расцягалі. Ці чулі прадалі Рыгу?

**Галасы.**

Так прададуць і нас?

**Сымон Пясоцкі.**

Я буду ваяваць да самага апошняга канца.

**Галасы.**

Падумай за каго?

**Марцін.**

Міхась, асцяражней.
Змітрок Закрэўскі блізка.
Цябе гатоў ён з'есці.
Пясоцкі ўсё яму раскажа.

**Міхась.**

Хай папрабуе толькі ён.

(Піша пісьмо).

**Сымон Пясоцкі.**

Эх, братцы, мне прысніўся сон.
Як быццам мы дамоў ішлі.
Быў я вясёлым, смелым, дужым.
Цвілі цудоўныя палі.
А на дарогах кветкі, ружы,
У поўдні сонца прыпякло,
Пайшоў вады шукаць пад кручай...
Гляджу стаіць маё сяло
Над рэчкай шумнай і бліскучай.
На месца маёй курнай хаты
Прыгожы дом такі высокі...
І жонка ў шаўках багатых
Нясе мне кубак поўны соку.

**Марцін.**

Зямлі ты захацеў...

**Хор.**

Адмераць скора тры аршыны.

**Міхась.**

Зямлю, таварыш, нам трэба ўзяць самім.

**Марцін, Лукаш, Анухрэй.**

Чым?

**Міхась.**

Вінтоўкай.

Варта ўдарнага батальёна вядзе арыштаванага Анішчука.

**Вартавы.**

Дарогу! Чаго разлегліся! Дарогу!

**Першы салдат.**

Не генералы. Можаце і абыйсці.
Цяпер і генералы нас абыходзяць часта.

**Вартавы.**

На бок, на бок, мы арыштаванага вядзем.

**Міхась** *(пазнаўшы).*

Таварыш Анішчук.

**Анішчук.**

Здароў, Міхась!

**Міхась.**

Як здарылася так?

**Анішчук.**

А проста, знайшлі лістоўкі і мяне забралі
Шкада, што мала я папрацаваў.
Цяпер вядуць судзіць.

**Міхась.**

Таварышы, ён наш, давайце вызвалім.

**Анухрэй.**

Чакай... ты хто такі?

**Анінщчук.**

Шынель, як бачыце, ў мяне
Аднолькавая з вамі—грубога,
Шэрага, салдацкага сукна.
І рукі, глянце, у пальчатках белых
ніколі не былі.

**Анухрэй.**

Я гэта бачу сам. Ты лепш скажы,
чаго пад свечамі ідзеш?

**Варта.**

Даволі гаварыць... Пашлі

**Анухрэй.**

Паспееце яшчэ. Да рання часу многа.
Скажы, за што, цябе вядуць таварыш?

**Анішчук.**

Суровы шлях мой у жыцці.
Не першы раз мне так ісці.
Аж да Сібірскіх руднікоў
Ад Пецярбургу я прайшоў.
Зімою лютаю, ў мароз,
Я кайданы на целе нёс,
Калючы вецер біў у твар,
Прыкладам падганяў жандар.
За што?
За тое, што жыцця шукаў.
Быў я у Піцеры рабочым,
І вось, як помню я, аднойчы—
Гудкі трывожна загулі,
Мы дэманстрацыяй пайшлі.
А насупроць казакі—гады...
За камні мы. На барыкады.
Палегла многа там галоў,
Шмат нашых не прышло дамоў,
Ад кулі я устаць не мог,
Мяне-ж забралі, ды ў астрог.
Пасля Сібір і ланцугі.
І там пазнаў я сэнс другі,
Як праўду у жыцці шукаць,
Як трэба ворага знішчаць.
Нам асвяціў таежны дол
Магутны, мудры птах—арол.
Арол з каўказскіх, стромных гор,
Ён зваў да сонца, зваў да зор,
Ён праз віхуры, праз мароз
Нам словы Леніна прынёс,
Святлом рассыпаў уначы,
І сам нас байцы навучыў,
Агнём сваім загартаваў...
Яго тры словы тут сказаў,
І бачыце арыштавалі.
Не любяць праўды генералы.

**Анухрэй.**

Скажы, у чым сіла гэтых слоў?

**Анішчук.**

Я усім кажу „Улада уся советам.“
Дык знаеце, хто я такі?

**Салдаты.**

— Цяпер мы, знаем ўсё,
— Ты наш!
— Бяжы таварыш!
— Пусціце вы яго!

**Варта.**

— Адказвайце!

**Галасы.**

— Пусці!

**Міхась.**

Бяжы, таварыш Анішчук;
У вёсцы будзеш, не забудзь
перадай Марысі.

(Перадае пісьмо).

**Анішчук.**

Дзякую, таварышы. Бывай Міхась!

**Хор.**

Бяжы, бяжы, бяжы!..

**Анішчук знікае.**

**Марцін.**

Праўду ён гаварыў.

**Міхась.**

Змагацца, змагацца трэба.

**Лукаш.**

Змагацца.

**Усе разам.**

А то загінем усе.

**Міхась.**

Не, не загінем! Устане свабода
Народ паўстае на праклятых паноў
Мы будзем з усімі, мы будзем з народам,
Мы ўстанем сцяною суровых штыкоў!
Па гнёздах драпежных мы пройдзем з расплатай

Гудзі, ўзнімайся ты буйны віхор,
Адпомсцім за усё, за пакрыўджаных матак,
За жонак няшчасных, за бедных сясцёр.
Мы сілай зямлю адбярэм ад багатых,
Даволі пустых абяцанак і слоў.
Усюды за мір галасуюць салдаты,
Усюды палаюць маёнткі паноў.

**Хор.**

За шчасце людзей галасуюць салдаты.
Усюды палаюць маёнткі паноў.

**Міхась.**

Ідзіце, салдаты, пад сцягам чырвоным
За ўладу советаў, за ўладу сваю
Мы ведаем, што нам патрэбна сягоння,
Маёнткі заберам, падзелім зямлю.

**Хор.**

Мы ведаем, што нам патрэбна сягоння,
Маёнткі заберам, падзелім зямлю.

**Міхась.**

Зямлю забірайце
Усюды, салдаты.

**Хор.**

За зброю!.. За зброю!.. За зброю!..

Прыходзіць варта з двумя кулямётамі, афіцэр і Змітрок Закрэўскі.

**Афіцэр.**

Бунтуеце (*Пауза*). Хто вас бунтуе?

(Салдаты маўчаць)

Хто выпусціў арыштаванага? (*Пауза*)
Хто выпусціў? (*Пауза*)
Хто? (*Пауза*)

**Змітрок Закрэўскі.**

Міхась Падгорны, большэвік
Яго я добра знаю.

**Афіцэр.**

Абшукаць.

**Закрэўскі.**

Папаўся ты нарэшце.

Вартавы падае лістоўкі, афіцэр чытае, потым да Міхася:

**Афіцэр.**

Ты птушка, добрая, відаць.
— Арыштаваць!

---

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### КАРЦІНА V

Вясковаю вуліцай неарганізаванаю масаю ідуць салдаты. Ёсць перавязаныя і некаторыя на мыліцах. Просяць есці і піць. Жанчыны, сярод якіх Марыся, падаюць ім хлеб і ваду, і заводзяць з імі гутарку.

**Марыся.**

Адкуль салдацікі?

**Салдаты.**

Ды не здалёку, з Баранавіч бяжым...

**1-я Жанчына.**

Чаго, куды-ж вы бяжыце.
Скажы мне родненькі?

**Салдаты.**

Зямелька кліча нас. Бяжым яе дзяліць.
Заберам у паноў і ўсю падзелім!

**Жанчыны.**

Вось добра!.. добра!..
І нам дадуць зямліцы скора...

**Салдаты.**

Зямлі у нас даволі, людзі!..

**Стары салдат.**

Ну, расквакталіся тут... Будзе...
І балбатаць-жа вам ахвота,
За мной, калечаная рота...

**Жанчыны.**

Зямелькі! Зямлі!..

Праходзіць Анішчук.

**Анішчук.**

Табе пісьмо.

**Марыся.**

Чакайце!..

**Анішчук.**

Не маю часу! Бяда! Бяда!..

**Галасы.**

— Што пішуць?
— Пачытай, Марыська!..

**Марыся** *(чытае).*

Пяты ўжо дзень
Як вышлі з бою...
Цікавыя дні нам на фронце настлі,
За шчасце людзей галасуюць салдаты,
І хочуць адпомсціць за жонак, за матак...
Мы ведаем, што нам патрэбна сягоння,
Маёнткі заберам, паноў паразгонім...

**Галасы.**

— Паноў трэба выгнаць разам з царамі.

**Ігнат Закрэўскі** *(падышоўшы)*

Га... Чаго сабраліся тут, людзі,
Што тут за каша?..

**Баба-Лапатуха.**

Пісьмо ад палюбоўніка чытае
Нявестка ваша.

**Жанчыны.**

Ды кінь ты, лопа лапатаць...

**Ігнат Закрэўскі** *(да Марысі)*

Ух, ты круцёха ладная відаць,
Што піша ён цябе пытаю?

Марыся маўчыць.

**Баба-Лапатуха.**

Ігнатка, я... Я усё знаю...

**Марыся.**

Няхай бы, цётка лепей змоўкла...

**Баба-Лапатуха.**

Не, не... скажу, скажу, мая саколка...

**Ігнат Закрэўскі.**

Ну, не хвалюй мяне задарам.

**Баба-Лапатуха.**

Ігнатка, родненькі, ён піша тут зямлю,
дзяліць, зямлю...

**Жанчыны.**

— Не слухай дурня ты старога!

**Ігнат Закрэўскі.**

На бок, на бок, чаго пасталі?

**Баба-Лапатуха** *(цалуе пальцы накрыж)*

Клянуся вось я перад богам,
Што піша ён: даўно цара прагналі,
Што будзем, кажа, добра жыць,
Паноў, багатых біць, і біць!..

**Ігнат Закрэўскі.**

Падай хутчэй пісьмо сюды,
Давай парву, хай бачуць людзі,
Прыедзе Зміцер, позна будзе.

**Марыся.**

Я... нічога я не знаю... Пісьмо не дам.

**Ігнат Закрэўскі** *(адыходзячы)*

Пазнаеш ты ў мяне,
Вужака баравая.

**Баба-Лапатуха.**

Бывай, Ігнатка... Я пашла...

**Жанчына.**

Каб ты дарогі не знайшла...

**Галасы.**

— Ах, юда ты пракляты!
— Пашлі дамоў...
— Ідзем дахаты!..

Жанчыны разыходзяцца. Застаюцца Марыся і Ганка.

**Марыся.**

Трывожна так... Душа баліць,
Я знемаглася да астачы,
Што мне рабіць? Што мне рабіць?
Куды пайсці, куды схавацца?
Адны згрызоты, адны пакуты,
Не ведаю, што з Міхасём...
Ці доўга маім слёзам ліцца,
Загубіць Зміцер і свёкар люты,
Куды, куды мне прытуліцца?

**Ганка.**

Ідзі ка мне, мая сястрыца,
Лепш чорны хлеб, чым белы з плачам...

**Марыся.**

Дзякуй, Ганка!
Пайду! Як-небудзь будзем жыць.
Да свёкра не вярнуся.

**Ганка.**

Ой, што я бачу...
У штаб вядуць...

**Марыся.**

Міхась каханы, родны мой,
Спаткаліся мы невясёла...

**Ганка.**

Марыся, глянь, а вартавы
Сымон Пясоцкі з Навасёлак...
Адгэтуль вёрст сямнаццаць.

На хвіліну з'яўляецца Анішчук. Ён паварачваецца ў бок ад вартавога тварам да дзяўчат.

**Анішчук.**

Цішэй, дзяўчаты
Які ён нешчаслівы.
Учора вызваліў мяне,
Сягоння сам пад вартай.
Нам трэба вырашыць,
Як Міхасю дапамагчы. Хадзем!

Усе знікаюць. На хвіліну застаецца Марыся.

**Фельдфебель** *(вартавому)*

Ты знаць павінен, каго пільнуеш,
Ён пад судом. Ён бунтаўшчык!
Сягоння будзе штаб рашаць,
Што з ім зрабіць. Напэўна
Расстраляюць. Пільнуй-жа.

**Марыся.**

Ай божа!

**Ігнат Закрэўскі.**

А, ты чаго тут!
Прэч!

Марыся знікае.

Фельдфебель і Ігнат Закрэўскі ідуць у хату. Ходзіць адзін вартавы. На вуліцы спынілася група сялян з Анішчуком.

**Першы селянін.**

— Вось, брат, дык пашла крутуха...
Цара прагналі, цяпер паноў далоў...

**Анішчук.**

А што твой цар, ты лепш паслухай.
Вунь людзі дык зямлю забралі ў паноў.

**Галасы.**

— Няўжо то праўда?
— Дзе, скажы?

**Анішчук.**

— Я чуў, што пабліз Навасёлак...

**Галасы.**

— І без каморнікаў, га, самі?

**Анішчук.**

Так...
І дзеляць ўсю між беднякамі.

**Першы селянін.**

Пакольні-ж там выходзіць
той зямліцы?

**Другі селянін.**

Я чуў таксама.

**Дзесяцкі.**

Дзесяцін па трыццаць.

**Галасы.**

— Вось пажывём мы у ахвоту...
— Хадзем, параімся, а заўтра...
— У маёнтак.
— З сякерамі...

— Даволі нам нудзіцца.
— Да пана...
— Ды без спросу...
— Па зямліцу...

Сяляне адыходзяць. На вуліцы адзін вартавы.

**Баба-Лапатуха.**

Хто тут замкнёны?

**Вартавы Пясоцкі.**

Адыйдзі, не маю права гаварыць!

**Баба-Лапатуха.**

Ішоў-бы лепш зямлю дзяліць.
Чаго тут аднаму стаяць?
Ай, пабягу-ж і я...

**Вартавы Пясоцкі.**

А дзе зямлю даваць
вам будуць?

**Баба-Лапатуха.**

Ды панскую бяруць, усюды.

(Убягае).

**Вартавы Пясоцкі.**

Як непамысна тут цяпер мне,
Вось навіну прынеслі людзі...
Я тут стаю. А там разберуць
Усю зямлю. Тады, што будзе?
Пабегчы узяць на гэты раз,
Але спаймаюць ды за краты.
А дзе-ж у чорта той адказ,
Калі ўсе бягуць дахаты.
Пайду... Згарыце ўсе, з вайною...
Вінтоўку ўзяць ці не, не знаю.
Ну, лепш вазьму. Напэўна з ёю
Фальбарак добры я прыдбаю.
Вось зараз ходу я задам—
Праз дзве гадзіны буду там.

Кідае варту і бяжыць. На сцэне Анішчук, Марыся, Ганка.

**Марыся і Ганка.**

Хутчэй. Хутчэй.

**Анішчук.**

Не трэба хвалявацца. (*Вырывае замок. Адчыняе клецЬ*). Выходзіць Міхась!

**Марыся.**

Міхаська, любы.

**Міхась.**

Марыська, дарагая,
Не час цяпер, хадзем адсюль!

**Анішчук.**

Дзяржаўны здраднік,
Добры дзень!... Хадзем адсюль!

**Анішчук.**

Хадзем!

Усе разбягаюцца. Падпіўшы фельдфебель выходзіць з хаты. Насустрач яму прапаршчык Агрызка і Змітрок Закрэўскі.

**Прапаршчык Агрызка.**

Дзень добры,
дзе арыштаваны?..

**Фельдфебель**

Вось тут! Вось тут... *(глядзіць на дзверы)*
Ай божа... Збег мой вартавы,
І пэўна з ім арыштаваны.

**Прапаршчык Агрызка.**

Пад суд цяпер ты пойдзеш сам!
Прапаршчык Закрэўскі, бяжы у штаб,
Вазьмі людзей надзейных
І вёску абкружы!

---

## ДЗЕЯ ЧАЦВЕРТАЯ

### КАРЦІНА VI

Шырокае поле побліз маёнтку. Сяляне з сякерамі, косамі, вілкамі. У аднаго самаробны драўляны сажань. У Марціна вінтоўка.

**Марцін** *(з сажням).*

Глянь, Анухрэй, ў свае паперы,
Каму цяпер зямлі адмерыць?

**Анухрэй.**

Вінцэнтаму Апочку...

**Вінцэнт Апочка.**

Браточкі!.. браточкі!..
Мая к вам просьбачка адна:
Сюды, бліжэй мне да гумна
Адмерце. Я стары ўжо, хворы...
Ўважце на маё вы гора.
Яшчэ прашу, калі не шкода,
Кавалак саду, агароду.

| | | |
|---|---|---|
| **Лукаш** | | Дурны, дурны, а густ ён мае... |
| **Марцін** | Разам | Няхай бярэ, дзе выпадае... |
| **Дзесяцкі** | | Захоча саду пэўне кожны. |

**Анухрэй.**

Ну, хочаш вунь туды, пад пожні?

**Вінцэнт Апочка.**

Браткі, уважце, я стары...

**Баба-Лапатуха.**

Разумнік сівалобы...

**Хор.**

Даволі!..
Досыць!..

**Анухрэй.**

Пад пожні згодзен?.. Гавары!

**Вінцэнт Апочка.**

Калі не хочаце мне спагадаць,
Дык дзе дасцё, я мушу браць...

**Анухрэй.**

Прайдзіся ты, Марцін, на гэты буй,
Адмер старому, не шкадуй...

**Хор.**

Бярэ, зямлю стары!..

Прыбягае салдат Пясоцкі з вінтоўкай.

**Салдат Пясоцкі.**

Дзе тут зямлю даюць?

**Анухрэй.**

А табе што?

**Салдат Пясоцкі.**

І мне, браты, зямлі адкройце...

**Лукаш Марцін і хор.**

Чакай...
Пастойце!..

**Вінцэнт Апочка.**

Ён не наш, ён з Навасёлак!

**Баба-Лапатуха.**

Цябе яшчэ не бачылі.
Дзень добры з доўгім носам!
А кукіша не хочаш?

**Хор** (*смех*).

Ха-ха-ха...

**Вінцэнт Апочка.**

Ён з Навасёлак-жа!

**Салдат Пясоцкі.**

Дзядулька, што-ж з таго?
Маёнтак на сярэдзіне якраз
Між нашых сёлаў.
Ну што?

**Марцін.**

А ў Царкавішчанскім бары не атрымаў?

**Салдат Пясоцкі.**

Там расхапілі ўсю.
Мне засталося дзесяціны тры
І то пяску.

**Інваліды.**

Пяску ты кажаш,
А нам дык і пяску не хопіць,
Калі раздаць такім як ты.
Чакай браток. Мы маем першае тут права,
Мы кроў, як бачыш, пралілі за гэтую зямельку,
І наша першая чарга зямліцу атрымаць.
Чакай салдат!

**Хор.**

Дай інвалідам.

**Анухрэй.**

Чакай!

**Хор.**

Дай нам!
Інвалідам!

**Анухрэй.**

А ну вас!

**Пясоцкі.**

Браткі, адмерце!

**Дзесяцкі.**

Давай усім, хто прыбяжыць
Чортведама адкуль.

**Пясоцкі.**

Браткі, прашу!

**Хор.**

Ідзі ты!

**Пясоцкі.**

Зямлі адмерце!

**Хор.**

Ідзі, ты!

**Анухрэй.**

Вось пачакай, дадзім мо' і табе.

**Баба-Лапатуха**

Каму, яму?

**Сялянкі.**

На ўдоў забыліся.
Сірот вы пашкадуйце!

**Вінцэнт Апочка.**

Бабы праўду кажуць.

**Хор.**

Сіротам даць!

**Галасы.**

Сіротам!
Інвалідам!
А нам!..
А нам!..
Дай мне!..

**Пясоцкі.**

Зямлі адмерце, зямлі!

(Шум, мітусня). (Уваходзіць Анішчук).

**Анішчук.**

Дзень добры вам!

**Галасы.**

Дзень добры, таварыш Анішчук

**Анішчук.**

Працуеце?

**Анухрэй.**

Зямлю бяром ад пана.

**Анішчук.**

Мы гэта разам зробім.

**Галасы.**

Разам!
Грамадой!
І ты зямлі?..
А нам!...
Інвалідам!..
Сіротам!..

**Анухрэй.**

Чакайце, дай пагаварыць спакойна.

**Анішчук.**

Мы права нашага сяляне
Не аддамо цяпер нікому.
У Піцеры большэвікі. Улада наша.
А ў воласці Рэўком абраны,
Я старшыня рэўкома.

**Галасы.**

Ты старшыня...
Ай, маладзец, браток!
Дзялі зямлю!.. дзялі!.. дзялі!.. дзялі!..
Зямля для нас!

**Вінцэнт Апочка.**

І больш ніхто зямлю у нас не адбярэ?

**Міхась і Анішчук.**

Ніхто ніколі!

**Анішчук.**

Пра гэта кажа Ленінскі дэкрэт! Большэвікі зямлю даюць народу.

**Галасы.**

Няхай жыве савецкая ўлада! Здароўе Леніну! Няхай жыве!

**Анішчук.**

Паноў прагнаць, зямлю забраць народу!

**Галасы.**

Вось залатыя словы.
Малайчына... Анішчук!..
Свой хлапец!..

**Сялянка.**

Наш!.. Наш!..

**Інваліды.**

Наш!..

**Анухрэй.**

Ц.-ш-ш!..

**Анішчук.**

Даволі гнуліся пад панам,
Даволі панскіх бізуноў.
Рабочым—фабрыкі, зямлю—сялянам,
Сказала партыя большэвікоў.
Савецкая ўлада зямлю вам ўсім дала,
Кастрычнік вызваліў ад вечных ланцугоў,
Але каб зноў свабодная зямля
Не апынулася ў нягоднікаў—паноў,
Не трэба спаць!

**Галасы.**

Не трэба!..

**Анішчук.**

Пагрозы шмат! Свае паны пад бокам,
І немцы наступаюць.
Ідзем, таварышы, са мной.
Мы зброю вам дадзім!
Свае мы сілы аб'яднаем.
Свабоду абаронім! Паноў прагонім.
Не пусцім немцаў, на родную зямлю!

**Галасы.**

Абаронім! Абаронім!
Не пусцім немцаў на родную зямлю!

**Анішчук.**

Хадзем на бой, нас кліча Ленін,
Нас кліча Сталін ў бой!

**Хор.**

Нам сонца свеціць ласкава,
Зара ўзышла ўсходняя.
Кідай няволю панскую,
Красуй, зямля народная!

(Маладыя сяляне пайшлі з Анішчуком. Застаюцца старыя сяляне, сялянкі, Міхась, Марыся, яе бацькі, Ганка, Пясоцкі, Марцін, Анухрэй, Вінцэнт Апочка).

**Ганка.**

Такога шчасця мы не мелі
Яшчэ ў жыцці.
Зямелька, мы цябе абсеем,
Цвіці, расці!
Не трэба панскую работу
Дарма рабіць.
Як свеціць сонейка пяшчотна,
Вясёла жыць!

З'яўляецца Змітрок, яго бацька, аканом.

**Змітрок Закрэўскі.**

Чаго сабраліся гуртом?
І тут наш вартавы.
Чаго?

**Салдат Пясоцкі.**

Хіба не бачыш?

**Марцін.**

Зямлю бяром...

**Змітрок Закрэўскі** (*да Марціна*).

Салдат, вінтоўку дай сюды!..

**Марцін.**

Спрабуй узяць...

**Змітрок Закрэўскі.**

Маўчаць. Дзе на разбой дазвол вы бралі.
Хто вам параіў такую рэч?

**Марцін.**

Яшчэ ў цябе мы не спыталі.
Ідзі ты прэч!..

**Зміток Закрэўскі.**

Паслухайце, хай устаноўчы сход
Збярэцца: вырашыць народ,
Спакойнаю разважыць галавой,
Як быць з памешчыцкай зямлёй?
На што тут колле, вілкі вашы,
Як вам не сорамна такім?
Вялікая Расія наша,
Зямлі, сяляне... Хопіць усім!

**Ігнат Закрэўскі.**

Паслухайце, сяляне, мяне старога.

**Вінцэнт Апочка.**

І мяне.

**Ігнат.**

Падумайце вы лепш пра бога.

**Вінцэнт Апочка.**

Пра бога? Чулі... Чулі...

**Ігнат.**

Давайце усе вайну канчаць.

**Вінцэнт Апочка.**

Вайну, якую вайну з панамі—будзем пачынаць!

**Ігнат.**

Зямлю-ж паспеем мы забраць.

**Вінцэнт Апочка.**

Зямлю без вас ужо забралі.

**Змітрок.**

Паслухайце, сабраліся вы рана.

(Паказвае на аканома).

Усе правы у яго ад пана.
Не пойдзеце адсюль сягоння,
Дык збройнай сілаю разгонім.

**Міхась** *(Марціну ціха).*

Бяжы! Заві людзей! Заві Анішчука!

**Змітрок.**

Марыся, ты таксама тут?

**Міхась.**

А што?

**Змітрок** *(Міхасю).*

Ты адыйдзі, я у яе пытаю.

**Анухрэй.**

З табой яна не хоча гаварыць,

**Змітрок.**

Паглядзім!

**Бацька Марысі.**

Дачушка, ты не вернешся да Змітры?

**Марыся.**

Ніколі у жыцці.

**Міхась.**

Я адкажу вам за яе.
Я бедны быў. Кахаў Марысю,
Вы аддалі яе за Змітру,
Пагналіся, што ён багаты,
Даволі ёй пакутаў, здзекаў.

**Марыся.**

Мне Змітра больш не муж. Ён мне чужы:
Я Міхася кахаю, і з ім я буду жыць!

**Змітрок.**

Чакай-жа гадаўка!
Большэвікам не ўтрымацца, і твой любоўнік згіне.
Пагоняць у дальнюю старонку.
Табе, Міхась, аддзякую за ўсё.

**Міхась.**

Ха-ха... Ты хочаш мне сказаць за жонку.
Дарэмна ваша злосць, дарэмныя ахвяры...
Марыся з сёнешняга дню навечна мой таварыш.

**Змітрок.**

Марыся, праўда?

**Марыся.**

Так!
Парвалася старая ўлада,
І я з табою шлюб ірву.

**Змітрок.**

І ты мяне кідаеш, голь,
Ідзеш з бандытам рабаваць?

З'яўляецца Агрызка з невялікім атрадам.

**Агрызка.**

Салдаты, арыштуйце іх,
Яны свавольнікі і бунтаўшчыкі.

**Міхась.**

Чакай! Здавайце зброю!

**Агрызка.**

Як смееце?

**Міхась.**

Як член Рэўкома, даю загад:
Зброю здаць!

**Лукаш.**

Далоў пагоны!

**Галасы.**

Далоў! Далоў!

Салдаты настаўляюць вінтоўкі. З натоўпу, размахваючы чырвонаю хусткай, вырываецца наперад Ганка і кідаецца да салдат.

**Ганка.**

Таварышы, каго збіраецеся біць
Сваіх братоў, бацькоў, каго?

Палова салдат апушчае вінтоўкі. Ігнат Закрэўскі і група з ім кідаецца на яе.

**Ігнат.**

Прэч! Прэч! Шлюха!..

Змітрок Закрэўскі адштурхоўвае Ганку. Яна кідаецца на яго з кулакамі.

**Ганка.**

Нягоднік!

**Галасы.**

Прэч! Прэч!

Сумятня, стрэл. Ганка падае.

**Міхась.**

Вяжы паганых іх, вяжы!

**Галасы.**

Пабіць праклятых.
Пабіць!

**Марыся.**

Ганка! Ганка.

**Жанчыны.**

Божа! Ганначка!

Ганка паволі ўзнімаецца. Усе кідаюцца на дапамогу.

**Галасы.**

Жывая!..
Жывая!..
Ганус!

З'яўляецца Аніщчук з узброенымі сялянамі.

**Аніщчук.**

Забілі Ганку?..
Паранілі?..
Як здарылася так?

**Ганка.**

Не ўдалося ім.

**Аніщчук і Міхась.**

Бярыце іх... Звязаць!

**Ганка.**

Вам нас не перабіць! Мы сіла!

**Аніщчук.**

Ленін з намі!

**Хор.**

Вялікі Ленін з намі!

**Марцін** *(прыбягае).*

У Царкавішча немцы. Сюды ідуць. Што рабіць?

**Аніщчук.**

Марцін, вядзі арыштаваных.
А немца нам пускаць не трэба! Гэта вораг люты.

**Галасы.**

Мы першыя на сяле чырвонагвардзейцы, і пойдзем на яго!
За што? Цяпер адно ўсім: за зямлю! За шчасце! За радзіму.

**Хор.**

На край радзімы ворагі прышлі.
Прагонім немцаў з роднае зямлі.

**Міхась.**

Таварышы, наперад мужна,
Народ свабодны, раскованы ідзе...

**Разам.**

Нас многа смелых, нас многа дужых,
Мы пераможам—Ленін нас вядзе.

**Хор.**

Народ, на бой! Чырвоны сцяг над намі,
Народ, на бой! Адпомсцім мы за кроў.
Зямлю сваю уласнымі рукамі } 2 разы
Мы вызвалім ад катаў, ад паноў. }
Народ, на бой! Зрывай ярмо пакуты,
Народ, на бой! Адзінаю сям'ёй,
Народ, на бой! Свабодны і магутны, } 2 разы
Нам Ленін шлях паказвае свой, }
Прагонім немцаў! Радзіма будзе жыць!
Радзіма будзе жыць!

*М. Клімковіч*

# ЛІШНІ БІЛЕТ.

*Дзве сцэны з жыцця беларускага паграніччa*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

У першай сцэне:

ВАСІЛЬ—комсамолец, 20 год.
ТАЦЯНА—комсамолка 20 год.
МОЦЯ—комсамолка 20 год.
ХАЛІМОНЧЫК—старшыня сельсовета, гадоў за 30.
КАМАНДЗІР пагранаховы.
ДЫВЕРСАНТ.
ДЫВЕРСАНТКА.

У другой сцэне:

Сяргей Іванавіч ФАСТОВІЧ.
ПАЛІНА СЯРГЕЕЎНА—яго дачка.
ДЗЯДОВІЧ Аркадзі Грыгоравіч—камандзір Чырвонай Арміі.
БАБКА НАСТА—гадоў за 60.
ТАЦЯНА, ХАЛІМОНЧЫК, ВАСІЛЬ — з першай сцэны.
КАСІРША чыгуначнай станцыі.
Група комсамольскай моладзі.
Час дзеі—нашы дні.

Сцэна ўяўляе сабою паляну, на ўзрэччы, на балоце. Справа бераг ракі, куп'ё, кусты, далей балота. З левага боку капа сена. Вечар.

## СЦЭНА ПЕРШАЯ.

Калі заслона адчыняецца, на сцэне нікога няма. Далёка-далёка чуваць жніўная песня:

У хмары пуховыя сонейка яснае
На адпачынак пайшло.
Эй, заспяваем мы песню калгасную
З песняю пойдзем ў сяло!

Жалі жняяркамі жыта густое мы,
Толькі вязаць паспявай.
Поле заставілі мэтлікаў строямі...
Песню званчэй заспявай!

Плакалі колісь сялянкі над нівамі,
Зараз мы песню пяем.
Сталі багатымі, сталі шчаслівымі,
З песняй і сеем і жнём.

Сталіным шлях нам да шчасця паказаны,
Сталін нас вучыць, як жыць.
Хай-жа яму над палямі калгаснымі
Слава і песня звініць!

Выходзяць з правага боку камандзір пагранаховы, з ім **Таццяна** і **Васіль**.

**Камандзір.** Ваш пост апошні. Замаскіруйцеся вось гэтым кустом і пільна сачыце за балотам. Вунь да той алешыны, што са зламанай верхавінай.

**Васіль.** Бачу. А калі каго заўважым, што рабіць?

**Камандзір.** Затрымаць, калі зможаце, а калі не—вы пойдзеце за ім назіркам, а Таццяна пабяжыць на суседні пост пакліча на дапамогу. На суседнім пасту старшыня сельсовета. Зразумелі?

**Таццяна.** Зразумелі, таварыш камандзір. Калі не сакрэт, каго мы ловім?

**Камандзір.** На наш бок перайшлі тры дыверсанты. Аднаго з іх чырвонаармеец застрэліў, два другіх, адстрэльваючыся, паранілі чырвонаармейца і зніклі ў гэтым балоце. Мужчына і жанчына. Мы акружылі балота і закрылі граніцу. Ваш участак найбольш грузкі. Наўрад ці здолеюць яны выбіцца сюды, але калі сярод іх ёсць такі, які ведае мясцовасць, яны могуць падацца і ў гэты бок.

**Таццяна.** Ой, каб мне ўдалося ў свой апошні вечар тут затрымаць дыверсанта!

**Камандзір.** Што, выязджаеце куды?

**Таццяна.** Заўтра раніцою еду ў свой ВУЗ.

**Камандзір.** А-а-а! Ну, да пабачэння, комсамаляты. Глядзіце-ж пільна. Ды без патрэбы на ражон не лезці. З дыверсантам не жарты. Яны-ж як ваўкі шалёныя, на смерць агрызаюцца.

**Васіль.** Пастараемся, таварыш камандзір.

(Камандзір пайшоў).

**Васіль.** Ну, і ўлучыў я з раёна дамоў прыйсці, якраз к аблаве.

**Таццяна.** А што ў раёне?

**Васіль.** Рэкамендацыю ў вайсковую школу райком комсамола выдаў—праз тры дні і я за табою ў Менск,—трымаць экзамены. Рад я так, што здаецца на дрэва з разбегу ўскочу.

**Таццяна.** Глядзі, не скачы, яшчэ звалішся. Экзамены не жарты, зрэзаць могуць.

**Васіль.** Не могуць.

**Таццяна.** Чаму так? Добра падрыхтаваўся?

**Васіль.** Па-першае, усё сваё жыццё я хацеў камандзірам стаць, а па-другое...

**Таццяна.** А па-другое?

**Васіль.** У Менску—ты. Тады-б мы кожны дзень, як тут, бачыцца маглі.

**Таццяна.** Ты думаеш, у школе, як у бацькі ў запечку,—калі захацеў, тады і пайшоў?

**Васіль.** Пра гэта я і не падумаў.

**Таццяна.** Мала пра што ты не падумаў. А па-другое: ты ў мяне запытаў—захачу я ці не захачу цябе штодзень бачыць?

**Васіль.** Ты заўсёды жартуеш, а ў мяне ад тваіх жартаў, як мурашак хто за скуру засыпаў.

**Таццяна.** Я ў дзяцінстве чула, што мурашкамі нашы дзяды лячыліся, толькі вось не ведаю, ад якіх хвароб. Можа і табе-б мурашкі на карысць пайшлі.

**Васіль.** Ад чаго?

**Таццяна.** Ад дурносці, мой Васілёк. Яго на пост паставілі за старшага, а ён пра любошчы дзяўчыне запеў. Комсамолец! Так сто дыверсантаў пад носам пройдзе, не пачуеш.

**Васіль.** Я гавару і гляджу, не клапаціся вельмі, а ў мурашкі Халімончыка свайго пасадзі—яму паразумнець трэба.

**Таццяна.** Абодвум вам паразумнець не пашкодзіць. Растлумач усё-ж такі мне, Васіль, чаму вы, як толькі дзяўчына якая з горада прыедзе, усе да яе, як мухі да мёду. Чаму калі я цялят з табою пасвіла і цябе дражнілі маім ухажорам, ты плакаў ад злосці і біў мяне, малую дзяўчынку, як быццам я была ў гэтым вінавата?

**Васіль.** Малы, дурны быў.

**Таццяна.** І вырас не паразумнеў. А Халімончык мой такі-ж, як твой.

**Васіль.** Вядома! Мусіць, каб не паспеў я прыйсці—ты-б з ім вартаваць засталася. То-ж бо то ён з такой неахвотай на другі пост пайшоў. Ды яшчэ з Матрунай. Ха-ха!

**Таццяна.** Ціха!..

**Васіль.** Яго не дарма за правыя справы з партыі выключалі.

**Таццяна.** Выключалі?

**Васіль.** А ты не ведала? Праўда, потым аднавілі, але і тых, хто аднавіў, ужо няма. Пачакай, я да яго яшчэ дабяруся.

**Таццяна.** А калі няпраўда?

**Васіль.** І тады хай богу моліцца, што я з'еду адсюль. Я-б усёроўна яму ногі паперабіваў, няхай другіх дзяўчат не зводзіць. Матруне абяцаў жаніцца, абмануў ды кінуў. А яшчэ кандыдат!

**Таццяна.** А мне падабаецца твая гарачнасць... Толькі не заўсёды. Ногі ламаць за дзяўчат... ха-ха-ха! Колькі ў цябе ідыятызма вясковага засталося! Калі ён выветрыцца з цябе?

**Васіль.** Гэта я й сам ведаю. За партыю, за Сталіна душу-б аддаў, за калгас таксама, а зачэпіць хто ды яшчэ такі, як Халімончык...

**Таццяна.** А адкуль ты ведаеш аб яго правых справах?

**Васіль.** Зімой у газеце пісалі. Брат яго сапраўдны правы, дык і яго за брата.

**Тацяна**. Ну, брат за брата не адказчык.
**Васіль**. Каб толькі брат. Ціха... Нехта ідзе.

(Абодвы слухаюць. Чуваць трэск сухой галінкі).

Вось яшчэ раз. Бліжэй. Стой! Хто ідзе?

(Уваходзіць **Матруна**).

**Матруна**. Я... Моця.
**Васіль**. Што? На ваш пост дыверсанты трапілі? На дапамогу бегчы?
**Матруна**. Не магу я з ім.
**Тацяна**. З Халімончыкам?
**Матруна** (*ківае галавой, выціраючы слёзы*).
**Тацяна**. Ты-ж сама з ім пайшла!
**Матруна**. Пагаварыць хацела. Інакш уцякае ён ад мяне. Гаварыць не даецца адзін на адзін. А пры людзях—не магу я.
**Васіль**. А ты ў нас, у комсамольскай арганізацыі пытанне пастаў. Чытаеш, як „Комсамолка“ піша? Яна такіх супчыкаў на прыцэл бярэ.
**Матруна**. А мае дзе вочы былі? Маці казала—не слухала, дзяўчаты казалі,—не слухала. Яго слухала, яму верыла, а ён...
**Тацяна**. А ён што?
**Матруна**. „Збягу, кажа, адсюль, ніякая міліцыя не знойдзе“. Аборт...
**Тацяна**. Растлумач яму, ёлупу, што аборты забаронены.
**Матруна**. К бабкам пасылае.
**Тацяна**. А ты кінь румзаць. Пасля смерці каяння няма. Справа зроблена. З гэтага і выходзіць трэба. Раз ён нягоднік—і размова кароткая. У суд.
**Васіль**. Не я буду, калі мы яго адсюль не пратурым у тры калы асінавыя.
**Матруна**. Можа адумаецца яшчэ. Цяжка мне, Васілёк, браток мой, цяжка. Хоць у вір.
**Васіль**. А яшчэ куды? Хай ён у вір галавой ідзе. Табе чаго? Заўтра-ж на арганізацыі абгаворым. Такі звон дадзім, што яму падзецца не будзе дзе. Дыверсант у быту, вось хто ён такі.
**Матруна**. Не трэба... яшчэ пачакаем.
**Тацяна**. Ну і бабскага-ж у вас засталося, хоць возам вывозь! Але пра гэта заўтра. Сёння мы на пасту. Такі вечар выдаўся, што не толькі шпіёна не зловім, а самі да ладу не дойдзем. Утрох пільнаваць будзем?
**Васіль**. Як быццам святло бліснула. Яшчэ раз. Ціха!
**Матруна**. Гэта ён ідзе. Ліхтарык у яго. У твар свяціў, здзекваўся. Я і збегла.
**Васіль**. У-у! Сволач не нашага бога. Расперазаўся. Я пайду, вярну яго на месца.
**Тацяна**. А можа мы пойдзем туда з Матрунай, а ты яго тут затрымай ці дамоў адпраў.
**Васіль**. А баяцца не будзеце?
**Тацяна**. Яшчэ табе смеласці пазычым. Усёроўна ў нас сапраўднай пільнасці не выходзіць. Пайшлі?
**Всеіль**. Ладна. Толькі ціханька.

(Дзяўчаты выйшлі.)

**Васіль.** Нашто гэты чорт ліхтарык паліць. Каб і быў дзе дыверсант, дык за вярсту ўцёк-бы. Заўтра-ж начальніку заставы скажу. О, ёлуп бога не нашага.

(Уваходзіць **Халімончык**).

**Васіль.** Патушы ліхтарык, сатана. Ці дыверсанту свеціш, каб на пост не нарваўся?

**Халімончык.** Сам ты сатана. Боты аж да кален у гразь уквэцаў. Каб не пасвяціў, дык па шыю ўлез-бы. Там прорва нейкая.

**Васіль.** А ты-б дома сядзеў у сваіх лакірках.

**Халімончык.** Пасада абавязвае.

**Васіль.** Кінь яе, пасаду сваю, калі яна абавязвае рабіць тое, што не люба. Можа, пасада без цябе пражыве.

**Халімончык.** Ды мне без яе... не я садзіўся на пасаду, не мне яе і здымаць. А ты к слову не чапляйся. Дыверсанты не дурні, каб у балоце як чэрці сядзець. Яны, брат, ужо на трыдзесятай зямлі.

**Васіль.** А ты адкуль ведаеш? У сельсовет-жа яны не дакладвалі.

**Халімончык.** Маёй тут не было?

**Васіль.** Каго гэта тваёй?

**Халімончык.** Бяды, якую сплючы наспаў...

**Васіль.** Было не спаць.

**Халімончык.** Матруны не было? Пабегла кудысь, баюся, каб не ўтапілася.

**Васіль.** Баішся? Вось мы заўтра ў комсамольскай арганізацыі гэтую баязнь абгаварваць будзем.

**Халімончык.** А хто вам дазволіць? Быт—гэта мая асабістая справа. Жаніцца вы мяне не абавяжаце, а ад аліментаў я не адмаўляюся, хаця можа...

**Васіль.** Што, можа хвастом накрыцца хочаш?

**Халімончык.** Паслухай, Васіль, ты-ж хлопец. Гэта бабы няхай языкі менцяць. Няўжо добрая дзяўчына пайшла-б на гэта з маласнаёмым чалавекам, якога толькі што прыслалі ў сельсовет і які, невядома, можа яшчэ і жанаты...

**Васіль.** А ў „чалавека" язык ёсць? І сумленне павінна быць. А калі ён кандыдат партыі, хоць сабе і восем год—то мець сумленне і чэснасць такі-ж абавязак, як плаціць членскія ўзносы. Нават больш. Членскія ўзносы да трох месяцаў можаш не плаціць, а без сумлення я-б цябе і трох дзён у партыі не трымаў.

**Халімончык.** Ты ўступі раней у партыю, а потым будзеш мець права трымаць ці не трымаць. Чаго ты чэпішся да мяне. Чаму мой аўтарытэт падрываеш?

**Васіль.** Ці быў ён у цябе калі-небудзь аўтарытэт гэты? Падрываць няма чаго.

**Халімончык.** Чаму як сядзеў у вас старшыня сельсовета Казлоў—вораг народа—дык вы яму аўтарытэт стваралі, разам на паляванне хадзілі. Думаеш, я не ведаю. Выпівалі разам. А як мяне прыслалі—дык вы ўсе на дыбы.

**Васіль.** А калі выпівалі, чаму ты мне адводу не даў?

**Халімончык**. Я-ж не ты. Думаю, малады хлопец, памылка магчыма, у школу пойдзе, там вымуштруюць, віну акупіць. З кім не бывае.

**Васіль**. На Казлове мы і навучыліся глыбей у справу глядзець. А наконт выпіўкі—хлусня.

**Халімончык**. За Тацяну злуеш? Дык тут не я, а яна галоўная. Ды і на ліха яна мне. Мне-б ад Матруны як адчапіцца.

**Васіль**. Як зачапіўся, так і адчэплівайся.

(Маўчанне.)

Твайго брата не выпусцілі?

**Халімончык**. Дачуліся! А я за братам не хадзіў. Мы з ім дзесяць год не бачыліся. Можа-б ты пайшоў на мой пост?

**Васіль**. Твой пост заняты.

**Халімончык**. Кім?

**Васіль**. Комсамольцамі.

**Халімончык**. То й добра. Не будзем спрачацца. Тут недзе капа была. Я пасплю крыху, а то за дзень стаміўся. Пасля дванаццаці пабудзіш, я пільнаваць буду, а ты паспіш.

(Асвятляе тры разы капу.)

**Васіль**. Тушы ліхтар, чорт! Далібог камандзіру скажу.

**Халімончык**. У гарачай вадзе ты хрысціўся ці што? Што ні слова—то чорт.

(Маўчанне. Чуецца храп.)

На заднім плане сцэны замітусіўся нейкі цень. Васіль прыўзняўся з-за куста. Цень знік. Пачуўся ціхі свіст. З'явіўся другі цень. Першы перабег да капы сена. Васіль падаўся да яго.

**Васіль**. Стой! Страляць буду. Халімончык!

(Нейкі час Васіль гоніцца за дзяўчынай-дыверсанткай вакол капы сена, і калі раўняецца з Халімончыкам, той хапае яго за ногі і ўсаджвае нож у спіну).

**Халімончык**. Вось табе!

(Да яго кідаюцца дыверсанты.)

Стой, свае.

**Мужчына**. Пароль?

**Халімончык**. Троцкі. Водзыў?

**Мужчына**. Правы. Нумар?

**Халімончык**. Сто першы.

**Мужчына**. Вы свяцілі?

**Халімончык**. Я. Балота акружана.

**Мужчына**. Правядзеш?

**Халімончык**. Пашпарт забітага пры вас! Аддасце пашпарт мне, выведу.

**Мужчына**. Чаму?

**Халімончык**. Мяне выследзілі. Арганізацыю ўчора забралі да апошняга.

**Мужчына.** Хто перадаў?
**Халімончык.** Сам быў у мястэчку.
**Мужчына.** Чорт! Што з ім рабіць?

(Паказвае на Васіля.)

**Халімончык.** У вір.
**Мужчына.** Дзе пасты?
**Халімончык.** Уздоўж балота.
**Мужчына.** Бярыце.

(Калі Халімончык бярэ Васіля, мужчына падкрадваецца ззаду і хоча ўдарыць Халімончыка, але той хаваецца за капу).

**Халімончык.** Не жартуйце. Застрэлю як сабаку. Свайго біць?
**Мужчына.** А на якога чорта ты нам, разаблачоны? Лішняя абуза.
**Халімончык.** Я дарогу знаю. Я яшчэ паслужу, пан палкоўнік. Што загадаеце, рабіць буду. Ногі мыць буду. А то мне ўсёроўна смерць.
**Мужчына.** А як тваю прапажу скрыць?
**Халімончык.** Я шапку кіну, быццам вы і яго, і мяне забілі і ў вір укінулі.
**Мужчына** (*да жанчыны*). Як ты думаеш?
**Жанчына.** Мне ўсёроўна. Я так стамілася, перакалацілася, што хоць у ГПУ, абы хутчэй канец.
**Мужчына.** Дурніца! (*Да Халімончыка*). Цягні яго, жыва!
**Халімончык.** А не заб'еце?
**Мужчына.** Вырашана, асёл. Шапку сваю кінь. Адарві кусок пінжака, быццам змагаўся, перш чым быць забітым, траву памні. Можа шукаць не будуць. Яшчэ ў героі пападзеш, балда.
**Жанчына** (*вельмі спуджана*). Ідуць.
**Мужчына.** Бяжым!

(Яны кідаюць усё і бягуць у бок. Праз нейкі час на сцэне Моця і Тацяна).

**Тацяна.** Вася! Васілёк! (*Ціха, толькі шуміць вецер.*) Халімончык!
**Моця.** Тацяна! Нешта здарылася. Можа за дыверсантам пагналіся! (*Ідзе к капе і натыкаецца на забітага Васіля).* Ай!
**Тацяна.** Што?
**Моця.** Чалавек ляжыць!
**Тацяна.** Забіты? Васіль?

(Нахілілася над ім.)

**Моця.** Ліхтарык... Нагой наткнулася. (*Засвяціла ліхтарык.*) Шапка Халімончыка. Крысо! І яго недзе забілі. Міколка мой.
**Тацяна.** А можа ён забіў. Вася, Васенька, любы мой!
**Васіль** (*цяжкі стогн*). Бяжы...
**Моця.** Тацяна, бяжы ты, ты скарэй, а я тут перавяжу... Не буду баяцца. Бяжы...

(Тацяна пабегла, Моця разарвала кофтачку, перавязвае Васіля.)

*ЗАСЛОНА.*

## СЦЭНА ДРУГАЯ.

### КАРЦІНА 1

Вакзал. Білетная каса. З песняй праходзяць комсамольцы. Сярод іх Таццяна і Васіль.

**Хлопцы.**—Слава табе, пакаленне крылатае,
Сокалы нашай зямлі!
Ўзмылі вы ў неба радзімы багатае,
Славы яе караблі.
**Дзяўчаты.**—Хай камянеюць сэрцамі заклятымі
Ворагі-чэрві ў пылі...
Слава табе, пакаленне крылатае,
Сокалы нашай зямлі.
**Разам.**—Сталіным родным сям'я сакаліная
Ўзрошчана, пушчана ў лёт,
Неустрашымую, непабедзімую
Выкаваў сілу народ.
**Хлопцы.**—Скажа народ—і над Арктыкай снежнаю
Вы пракладаеце пуць.
Скажа народ—над Сібір'ю бязмежнаю
Вашы маторы гудуць.
**Дзяўчаты.**—Скажа народ,—і, пакрытыя славаю
Выйдзеце на рубяжы
Нішчыць крануўшыхся лапай крываваю
Нашай совецкай мяжы.
**Разам.**—Горды сваімі дзяцьмі-сакалятамі
Сталін вам скажа ў Крэмлі:
„Слава табе, пакаленне крылатае,
Гордасць радзімай зямлі."

Паступова народ праходзіць на перон. Каля касы застаецца толькі Паліна. Яна некага чакае. Але калі чуваць другі званок, яна падыходзіць да касы, каб здаць білет. Паказваецца Дзядовіч.

**Паліна.** Грамадзянка, прыміце ў мяне адзін білет. Я чакала бацьку, але ён не прышоў. Хуценька!

**Касірша.** Білет можна здаць толькі за дзесяць мінут да адыхода поезда. Зараз я яго прыняць ужо не магу.

**Паліна.** Ды я чакала бацьку... сем рублёў на вуліцы не валяюцца. Я—студэнтка.

**Касірша.** Бяжыце хутчэй на поезд, а то і другі білет прападзе. Прыняць я не маю права.

**Дзядовіч** (*які нецярпліва чакаў магчымасці падыйсці да касы*). Грамадзяначка, вы потым паспрачаецеся. Таварыш касірша, выкрайце мне білецік да Лётнага. Спазніўся не па сваёй віне.

**Касірша.** Што вы, грамадзяне, прысталі да мяне з вашымі асабістымі справамі. Білетаў няма. Вось папрасіце грамадзянку уступіць вам лішні білет і „бывайце здаровы, жывіце багата". Ды хутчэй, поезд адпраўляецца праз адну хвіліну.

**Дзядовіч.** Уступіце?

**Паліна** (*ківае галавой*).
**Дзядовіч**. Вельмі ўдзячан. З плацкартай? Як лепей быць не можа. Дазвольце чамаданчык. (*Узяў з яе рук чамаданчык*). Бягом, а то спознімся.

(Хутка выходзяць у дзверы станцыі на перон, адкуль увесь час чуваць комсамольская песня.)

КАРЦІНА II

Вагон. Чатыры паліцы. На верхняй нехта спіць. Калі адчыняецца заслона—чуваць вясёлы тлум у калідоры і працяг комсамольскай песні.

**Дзядовіч** (*адчыняе дзверы ў купэ*). Сюды, калі ласка! (*Прапускае Паліну*). Нікога няма. Не, нехта спіць. Відаць, комсамоляты збіліся ў тым купэ, каб разам пець. Сядайце. Вы не паверыце, як я вам удзячан. Каб не здарылася так, што вы купілі лішні білет, ехаць бы мне дзе-небудзь на даху вагона па зайцаваму пашпарту.
**Паліна**. Паехалі-б? З вашымі шпаламі?
**Дзядовіч**. Да шпал мне яшчэ далёка, з кубікамі пахаджу.
**Паліна**. Прабачайце. Я ў вайсковых адзнаках не разбіраюся. Паехалі-б?
**Дзядовіч**. Разумеецца, пастараўся-б убіцца ў вагон, заплаціў бы штраф, але паехаў-бы абавязкова, хоць і не на даху.
**Паліна**. Калі вам так пільна патрэбна, чаму-ж вы спазніліся?
**Дзядовіч**. Палкоўнік затрымаў па тэрміновай справе.
**Паліна**. Прабачайце, калі ласка, гэта не Сяргееў?
**Дзядовіч**. Не, Сяргееў гэта ў 27 палку. Нашага завуць Віхроў. А адкуль вы Сяргеева ведаеце?
**Паліна**. Гэта наш шэф. К нам на люстэркавую фабрыку прыязджаў і чырвонаармейцы мне яго паказалі. Асабіста я яго не знаю.
**Дзядовіч**. Але-ж які я! Давайце знаёміцца. Дзядовіч Аркадзі Грыгор'евіч.
**Паліна**. Поля... Паліна Сяргееўна, але завіце, калі хочаце, проста Поля, мяне так усе завуць.
**Дзядовіч**. Нечаканае знаёмства—шчаслівы выпадак.

(Паволі пачынае крактаць грамадзянін на паліцы, пераварачваецца тварам да купэ.)

**Паліна**. Ды гэта-ж татка. (*Цішэй.*) Толькі ён глухаваты. Пад Брэстам кантузіла. Ён быў камандзірам роты ў восьмай дывізіі. (*Да бацькі.*) Як-жа вы сюды папалі? Без білета?
**Дзядовіч**. Вось табе і на. Ізноў я без білета паеду. Відаць, на раду напісана зайцам сёння праехаць.
**Сяргей Іванавіч**. А я проста з ночнага дзяжурства. На гадзіну раней Іваноў падмяніў мяне, дык—я сюды. Стаміўся. Э ха-ха! Думаў, цябе ўбачу, аж заснуў. Білеты я на сябе і на цябе ўзяў, не клапаціся.

**Паліна**. Ї я ўзяла два білеты.

**Сяргей Іванавіч**. Значыць—на чатырох білетах удваіх паедзем. А шкада, лішніх дванаццаць рублёў як псу, прабачайце, пад хвост. Мы-ж дамовіліся...

**Паліна** (*капрызна*). Ну так, дамовіліся, што вы білеты бярыцё. Я прышла, вас няма, чарга вялікая, білеты апошнія. Я думала, вы спазніліся. А вы заўсёды лаецеся, жыцця няма. Ей-богу...

**Дзядовіч**. Сяргей... прабачайце.

**Паліна**. Іванавіч.

**Дзядовіч**. Іванавіч, Сяргей Іванавіч. Па-першае я адкупіў адзін білет у вашай дачкі і так удзячны ёй, што гатоў і за другі заплаціць.

**Паліна**. Навошта гэта? Я не хочу.

**Дзядовіч**. Э не, Паліна Сяргееўна. „Судьба играет человеком, она изменчива всегда“. Два разы яна мяне абяцала правезці зайцам, а напаследак ёй у піку—я хачу мець два білеты.

**Сяргей Іванавіч.** Ды вы не зварочвайце ўвагі, малады чалавек, на старога. Нам пабурчэць, як другому чарку перакуліць.

**Дзядовіч.** Не, Сяргей Іванавіч,—мы і чарку перакулім, калі трэба і білет вы мне прадасцё.

(У дзвярах паяўляецца бабка Наста.)

**Цётка Наста**. Грамадзяначка. У каго гэта з вас два білеты? Ці не ўдружылі-б мне адзін?

**Паліна**. Ей-права, бабка, я і сама не ведаю,—ў каго зараз два білеты...

**Бабка Наста.** Уступіце, паненачка... Мне ўчора ўнучкі купілі білет, але я, мусіць, паклала яго ў сумку каторай-небудзь з іх—а яны яшчэ ў шэсць гадзін паехалі—і білет мой з імі паехаў. Прабавала касіршы тлумачыць, ды дзе там—натоўп такі, што і прыступіцца няма як. Пайшла на паравоз—к Ягору Іванавічу прасіцца. Дык дзе там, стары чорт. Дзяцей разам хрысцілі, кумам даводзіцца, а тут службіст такі, што і не прыступіцца. „Не маю права, кажа. Які-ж я прыклад памочніку падаваць буду“. Ды я-ж не бясплатна, кажу,—я за білет заплаціла. Растлумач ты яму, біракрату гэтаму, як хочаш.

**Паліна.** Калі ласка, бабуля. Татка, давай твой білет—нечага бурчэць не будзеш.

**Бабка Наста.** Во дзякуй, паненачка. Дай бог табе жаніха добрага. А можа, я старая, здуру языком траплю—можа вы сямейкай едзеце...

**Паліна**. Пакуль што—не, бабулька.

**Бабка Наста**. Ну, дык дай бог на будучае. Гэта цяпер лёгка робіцца. Мая старшанькая ўчора прышла—дый кажа: „Бабка, я замуж выходжу, за ваеннага, за лётчыка“. Дзе-ж ты, унучка, пазнаёмілася? Ды, кажа, едучы ў Лётнае—тры месяцы таму назад—у вагоне, кажа. Мая бядо-овая!

**Дзядовіч**. І мы, бабка, тут пазнаёміліся.

**Бабка Наста**. Ну дай бог лад ды раду.

**Паліна**. Глупства, глупства, глупства... (*Засаромілася і выбегла.*)

**Дзядовіч**. Паліна Сяргееўна, куды-ж вы? (*Выйшаў.*)

**Бабка Наста**. Авой мне—ізноў здаецца начаўпла языком няма ведама што. Дзяўчыну ў сорам увяла ці што?

**Сяргей Іванавіч** (*злез з паліцы*). Нічога, пабрыкаюць ды вернуцца. Малады, як цялё. Адкуль, старая?

**Бабка Наста**. З Гароднікаў, слабада такая ёсць, бацэнька.

**Сяргей Іванавіч**. Што-ж у гарачыню такую ў Лётнае сабралася? Радня якая там ці кірмаш?

**Бабка Наста.** Там такі кірмаш, што і ў стары час не было. Народу тысяч трыццаць збіраецца. Свята авіяцыі, бацэнька, называецца. А ты што—не тутэйшы, відаць, што гэтага не ведаеш?

**Сяргей Іванавіч.** Ды я тутэйшы, ведаю. Я не ведаў, што ты ведаеш. Старая, думаю дзе ёй ведаць!

**Бабка Наста.** За старую—не крыўдую, такая і ёсць. А як-жа мне бацэнька мой, не ведаць, калі дзве ўнучкі мае сёння з парашутамі скакаць з самалёта будуць. Ды можа пры самім Варашылаве. Тры начы не спала я, усё думаю, а як парашут не раскрыецца? Я—па дурнасці сваёй—казала: „Папрасіце там начальніка, каб ён дазволіў першай мне паспрабаваць“. Заб'юся я, дык толькі той бяды. Жыцця майго колькі ўжо там засталося. А ўнучкам—яшчэ жыць ды жыць. Смяюцца ўнучкі, заліваюцца, другім як жарт расказваюць. Колькі за білецік, бацэнька? Заплачу я ды і прыдрамлю можа... як у люльцы калыша цягнік.

**Сяргей Іванавіч.** Паспеем на торг з гнілымі дулямі. Кандуктар прыдзе, тады пры ім і перадам. Тады і расплацімся. А то хто ведае, можа я табе не той білет дам, ці грыўню лішнюю здзяру.

**Бабка Наста**. Дзве грыўні, бацэнька, вазьмі, толькі дзякуй, што выручыў.

**Сяргей Іванавіч** (*бярэ табакерку і нюхае*). Апчхі, апчхі. Аж зоркі з вачэй пасыпаліся. Самі ласкі не маеце? (*Прапануе табакерку.*)

**Бабка Наста**. Украдкам колісь нюхала, калі дзед жывы быў. Толькі ён шкло тоўчанае ў табаку сыпаў для крэпасці.

**Сяргей Іванавіч**. А вы паспрабуйце, во з гэтага аддзялення. У мяне іх чатыры гатункі. Гэта грамабой—нябошчыку дай у храпу—чыхне, не вытрымае. А гэта самы далікатны—дамскі, каб спаць не хацелася.

**Бабка Наста**. Усёроўна, відаць, закалыша, бацэнька. Дзякуй, вазьму самую маласць. (*Нюхае.*) А прыемны які, бацэнька. Дзякую, дзякую, удружыў старой. Чаборам пахне і спаць захацелася. Як на сене, бывала, у вёсцы... у поўдзень напрацуешся... жаўранкі... І спаць, спаць... (*Заснула.*)

**Сяргей Іванавіч** (*паслухаў і пайшоў да дзвярэй*). Полюшка, за правізіяй прыглядзі, ды калі кандуктар будзе білеты пытаць—вазьмі ў бакавой кішэні паліто. На мяне і на старуху. Старуха

заснула—і мяне ў сон клоніць. (*Зачыніў дзверы, палез на паліцу і хутка засынае*).

(Праз нейкі час Паліна адчыняе дзверы, праверыўшы, што старыя спяць—уводзіць Дзядовіча).

**Паліна**. Аркадзі Грыгоравіч... вы не жартуйце, выпадак іншы раз усё жыццё чалавека на новыя рэйкі перастаўляе. Вось мая знаёмая—вышла замуж за лейтэнанта 27 палка. Вінаградаў—вы, можа, яго ведаеце? Пазнаёміліся яны, у тэатры таксама праз лішні білет. У яе быў ухажор Грышка, сакратар комсамола ў сябе на заводзе, на Варашылаўскім. Купіў ён два білеты, толькі дайшлі да тэатра, аж машына за ім. Нешта здарылася ў іх цэху, а ён быў начальнікам цэха. Прышлося вярнуцца, а білет падруга прадала выпадкова свайму будучаму мужу. Там і пазнаёміліся, а першы ўхажор з носам.

**Дзядовіч.** А ў вас—першы ёсць?

**Паліна**. У цікавага, кажуць, кума нос адгрызла? А вы думаеце няма? Ёсць.

**Дзядовіч**. Сапраўдны?

**Паліна**. Гэта не абавязкова. Неяк так свет збудаваўся, што нам дзяўчатам хочацца, каб нас хто-небудзь любіў, уздыхаў па нас, хай сабе і не ўсур'ёз, а так сабе.

**Дзядовіч.** А хто ён такі?

**Паліна**. Інжынер Корбут.

**Дзядовіч.** Канструктар?

**Паліна**. Угу.

**Дзядовіч**. Яго знішчальнікі сёння пакажуць у першы раз.

**Паліна**. Ён мне паказваў. Каб не ваенная тайна, ён-бы мяне пакатаў на іх.

**Дзядовіч**. На знішчальніках?

**Паліна**. А што-ж калі любіш чалавека свайго, комсамолку, што-ж тут дзіўнага?

**Дзядовіч**. А вы комсамолка?

**Паліна**. У мінулым годзе прынялі ў фабрычнай арганізацыі.

**Дзядовіч**. Ну тады ваш першы—лепшы за мяне.

**Паліна**. Я-б гэтага не сказала, ён старэй за вас і не такі прыгожы. А знішчальнікі яго мне не трэба. Я чалавек не вайсковы. Гэта бацьку хлебам не кармі, а навіны ўзброення падавай,—сказваецца былы вайсковец. А колькі кілометраў праходзяць знішчальнікі ў гадзіну?

**Дзядовіч**. Чатырыста дваццаць пяць.

**Паліна**. Ага. Ды такіх яшчэ, відаць, не многа ў нас.

**Дзядовіч**. Хопіць з ворага. На адным на тым аэрадроме—сто.

**Паліна**. Адкуль вы ведаеце?

**Дзядовіч**. Мой брат—начальнік аэрадрома. Толькі вы анікому гэтых лічбаў не называйце.

**Паліна.** Я-ж не маленькая... А вы лёталі?

**Дзядовіч**. З дэсантам. Мы ў мінулыя манеўры цэлы полк перакінулі.

**Паліна.** Гэта-ж чалавек тысячу? Маніце!

**Дзядовіч.** Паўтары тысячы чалавек.
**Паліна.** За два разы можна было-б усіх нашых чырвонаармейцаў перакінуць?
**Дзядовіч.** За тры не забярэце. У нас звыш 5000 чалавек.

(Такая гатоўнасць Дзядовіча называць лічбы выдала яго. Паліна зразумела, што яна выкрыта і мяняе тактыку.)

**Паліна.** Аркадзі Грыгоравіч, вы мне падабаецеся. Я гатова вас... пацалаваць.
**Дзядовіч.** (*некалькі здзіўлена*). Па праву капрыза. Вы не ведаеце, што на такую прапанову можа быць толькі адзін адказ...
**Паліна.** Які?
**Дзядовіч.** Такі (*цалуе*). А што скажа Корбут?
**Паліна.** Ён не сапраўдны, ён мала знаёмы стары чалавек, якому я падабаюся і які не падабаецца мне. Цалуйце яшчэ раз.
**Дзядовіч.** З ахвотаю.
**Сяргей Іванавіч** (*нечакана прачнуўшыся*). Ужо зладзілі? Ну, малады чалавек і прыткі вы!
**Дзядовіч.** Прабачайце,—адзін пацалунак—яшчэ не значыць зладзілі.
**Паліна.** Аркадзі Грыгоравіч—не адзін, а два...
**Сяргей Іванавіч.** Калі для таго, каб лічыць справу зладжанай, трэба тры пацалункі—цалуйце трэці і сёння вечарам у ЗАГС. Я стары чалавек, былы вайсковец. Калі-б бацька застаў афіцэра старой арміі ў такім стане са сваёй дачкой, то або афіцэр жаніўся-б на яго дачцы, або... бацька набіў-бы морду афіцэру і абняславіў-бы яго на ўвесь гарнізон і яму прышлося-б падаваць у адстаўку. Выбірайце.
**Дзядовіч.** Жаніцьба—рэч не паездная.
**Паліна.** Я палюбіла вас адразу, там на вакзале. Яшчэ раней я бачыла вас у трамваі. Памятаеце, вы паднялі мне хустачку і не пазнаёміліся, праціўны, хаця мы выйшлі на адной астаноўцы. Памятаеце?
**Дзядовіч.** Памятаю. Вы за мною сачылі?
**Сяргей Іванавіч.** Сачыла за вамі не яна, сачыў я. Успомніце ваш разгавор у Корбута. Ён напісаў на вас заяву і ваша жыццё і ваша кар'ера ў нас у руках.
**Дзядовіч.** Што вы хочаце ад мяне?
**Сяргей Іванавіч.** Вы далі нам сакрэтныя звесткі аб аэрадроме, аб знішчальніках Корбута, аб колькасці гарнізона, аб двух камандзірах палка. Вы фактычна сталі нашым асведаміцелем. Я прапаную аформіць гэта падпіскай.
**Дзядовіч.** Я вам ніякіх звестак не даваў.
**Сяргей Іванавіч.** Вы стэнаграфію ведаеце? Вось тут запісаны даслоўна ваш разгавор з Палінай. Няўжо вы думаеце, што камандзір, які нават проста выбалбатаў ваенную тайну, застанецца без пакарання? Колькі год належыць вам за такую балбатлівасць?
**Дзядовіч.** Але і запісаўшаму такія звесткі належыць не менш.

**Сяргей Іванавіч.** Ведаю. Мы на тое ідзем. Думаеце, мы не ўмеем рызыкаваць?

**Дзядовіч.** Якія вашы ўмовы?

**Сяргей Іванавіч.** Два гады работы на нас. Толькі звесткі. Каб быць па-за ўсякімі падазрэннямі. Дыверсіі мы будзем рабіць другімі рукамі. За гэта мы захоўваем тайну вашага злачынства і, калі хочаце, перапраўляем вас—з вашай жонкай (калі вы жэніцеся на Паліне) за мяжу. Падпішыце.

**Дзядовіч.** Я не падпішу.

**Сяргей Іванавіч.** Тады спачатку яна закрычыць, што вы спрабавалі яе згвалціць. Заўтра мы адправім копію вашых звестак у НКВД, а інжынер Корбут сваю заяву.

**Дзядовіч.** Я нічога не гаварыў Корбуту.

**Сяргей Іванавіч.** Гэта нічога не значыць. Ёсць сведкі і ёсць заява. Каму будзе ахвота шукаць праўду ў справе „здрадніка радзімы". Падпісвайце. Хутчэй!

**Дзядовіч.** Давайце...

(У калідоры шум. Крыкі: „Трымайце, трымайце!" І ў купэ кульгаючы ўбягае **Халімончык**. Ён закрывае дзверы і абарачваецца як затраўлены звер.)

**Сяргей Іванавіч.** Асёл! І тут папаўся!

**Халімончык.** Я, я нічога, я сядзеў ціха. Яна апазнала...

**Сяргей Іванавіч.** Якая там яна?

**Халімончык.** Тацяна.

**Сяргей Іванавіч** (*тонам загада*). Дзядовіч—вазьміце на сябе арышт гэтага маладога чалавека, здайце яго на наступнай станцыі, як хулігана. І справе канец.

**Дзядовіч.** Добра. (*Адчыняе дзверы, упускае ўсхваляваную Тацяну. За ёй відаць комсамольцы*). У чым справа?

**Тацяна.** Як добра, што вы тут, таварыш камандзір. Гэта—Халімончык. Быў правым і контрразведкай—аб гэтым мы пазней даведаліся—заслан у наш сельсовет. Раніў нашага комсамольца Васіля і збег. Рэбяты, паклічце Васю. Вася, Васілёк!

(Праз натоўп прабіваецца Васіль).

**Тацяна.** Вось яго. Я Халімончыка апазнала. Абшукайце яго, у яго рэвольвер.

**Дзядовіч.** А ну, грамадзяне, рукі ўверх! Усе трое. (*Да Тацяны.*) Абшукайце іх вы. А на вашай распісцы, мацёры шпіён замежнай дзяржавы, я мог бы пакласці такую рэзалюцыю... Стары асёл, самалётаў у нас на многа больш, чым вы тут запісалі, гарнізон запісан таксама няправільна, камандзіра нашага палка завуць Арловым і апроч таго мы ведаем яшчэ адну вашу хітрасць, на якую пападаюцца даверлівыя дурні: лішні білецік і лішняя балбатня. Але зараз гэтыя звесткі вам не спатрэбяцца. Вы скончаны. (*Да Халімончыка.*) Дарэчы, як вас?

**Халімончык.** Х-х-халімончык, па новаму пашпарту Ларывонаў.

**Дзядовіч.** Як сапраўднае прозвішча гэтага дыверсанта?

**Халімончык.** Палкоўнік Фастовіч. Грамадзянін камандзір. Яны мяне сілком уцягнулі... пагражалі забіць і чуць не забілі тады, як цябе, Васілёк. Ї забілі-б каб...

**Васіль.** Ну, пра гэта ты дзе-небудзь у другім месцы раскажаш, а я праз вас, свалачэй—шэсць месяцаў у больніцы праляжаў.

**Дзядовіч.** А гэта старая таксама з вашай кампаніі? Бабка, прачніся! Прыехалі...

(Расштурхоўвае старую, тая як сноп валіцца з лаўкі.)

Забілі? Атруцілі? Без усякай патрэбы мімаходам? Ну што-ж! Ї за гэта адкажаце. (*Да Васіля*). Наце вам рэвальвер. Станьце ад акна, каб каторы не выскачыў. *(Да Тацяны).* А вы збегайце па стралкоў аховы. Дарэчы, мы прыехалі...

*ЗАСЛОНА.*

*П. Рунец*

# У ТЫЯ ДНІ

У тысяча дзевяцьсот дваццатым годзе, у гарачы ліпеньскі дзень, невялікі чырвонаармейскі атрад зрабіў прывал у сяле Дубнякі. Сяло стаяла на ўзгорку, на правым беразе ракі Пясчанкі. Воддаль, за ракою, сінеўся сасновы лес. Сяло танула ў садах. Бярозы і клёны прысадаў так спляліся сваімі галінамі, што ўтварылі густую зялёную заслону, праз якую не прабіваліся нават сонечныя праменні. Сям-там паднімалі галовы жураўлі калодзежаў. У летнюю спеку тут можна было напіцца халоднай вады, пасядзець у халадку, адпачыць.

Як толькі было абвешчана аб прывале, чырвонаармейцы рынуліся да калодзежаў, прагна пілі ваду, паілі коней, гутарылі з сялянамі. Вуліца напоўнілася радаснымі воклічамі, крыкамі.

Але адпачываць прышлося нядоўга. Падвечар у штаб атрада, які змяшчаўся ў невялікай сялянскай хаце, ускочыў высокі чырвонаармеец. Гэта быў разведчык Ветраў. Ён быў узрушаны, пот цурком так і ліўся па твары.

— Таварыш камандзір!—усхвалявана прагаварыў разведчык.— Палякі наступаюць... Не менш двух палкоў. Ёсць кавалерыйскі эскадрон...

Камандзір уважліва выслухаў, задаў некалькі пытанняў. Выявілася, што палякі зусім блізка і неабходна зараз-жа прымаць рашэнне. Ад гэтага залежыць лёс атрада.

— Можаце ісці,—сказаў ён Ветраву. Той вышаў.

Штабісты пераглянуліся. Камандзір, невысокі мужчына сярэдніх гадоў, з мужным загарэлым тварам і разумнымі смелымі вачыма, узняўся з лаўкі і нервова захадзіў па хаце: пяць крокаў наперад, пяць назад. Чорныя бровы, як два галчыны крылы, зліліся ў адну загнутую на пераносіцы лінію. Твар зрабіўся сур'ёзным і задуменым. Раз-па-разу ён торгаў сябе за бародку і быстра курыў.

— Якія вашы прапановы?—раптам прамовіў ён да штабістаў і падышоў да карты.

Прысадзісты Сізоў быў за прыняцце боя. Гаварыў ён хутка, зычным голасам, адсякаючы кожнае слова ўзмахам рукі:

— Дакуль мы будзем адступаць? Па-мойму, лепш памерці...

— Ну і дрэнна, калі так,—усміхнуўся камандзір.—Мы павінны шанаваць чалавечыя жыцці, калі думаем аб лёсе радзімы. Трэба ўмець паміраць.

Высокі Макараў прапанаваў адступіць. Заўсёды спакойны, вытрыманы, ён вызначаўся асаблівай удумлівасцю і разважлівасцю.

— Месца зусім невыгоднае,—гаварыў ён перакананўча.—Нас могуць прыперці да ракі і ператапіць, як мышэй. Партыя вучыць нас найменшай цаной дабівацца найбольшых рэзультатаў. У даным выпадку, для перамогі—адной адвагі яшчэ мала. Перад сілай мы павінны часова адступіць. Галоўнае, захаваць людзей,—і ён глянуў на камандзіра.

У хаце стала ціха, чакалі, што скажа камандзір.

— Вось мой план,—пазіраючы на штабістаў, скорагаворкай сказаў камандзір.—Узважыўшы ўсе довады за і супроць, я вымушан у асноўным згадзіцца з Макаравым. Так! так!—ён падняў галаву, бровы яго заварушыліся, у вачах блiснулі трапяткія агеньні.—Порах мы нюхалі не раз. Не страшны. Але ў даным становішчы супраціўляцца бязмэтна. Сілы нашы непараўнальна меншыя. Энергія байцоў аслабла ад безупынных пераходаў і баёў. Зброі нехапае. Прыняць бой—гэта значыць загубіць увесь атрад. А гэта—злачынства перад рэволюцыяй. Значыць—адступаем. Акопваемся на ўскрайку вось гэтага ляска,—камандзір паказаў пальцам на карце,—там можам пратрымацца пакуль падыйдуць падмацаванні. Каб прыкрыць адступленне—паставім кулямёт на царкве. Вы згодны?

Штабісты кіўнулі галовамі ў знак згоды.

Аддаўшы распараджэнні, камандзір клікнуў пасыльнага:

— Пакліч Ліхачова з кулямётнага.

— Ёсць, таварыш камандзір!

## II

Ліхачоў спыніўся ў каваліхі Грыпіны. Хата невялічкая—у тры акны. Бедная, але чыстая. Сям'я—чатыры душы: гаспадыня, стары—сівы як жораў—дзед і двое дзяцей. Стары ляжаў на палку і ўвесь час курыў. Грыпіна корпалася каля печы, дзяўчынка Зоська забаўлялася ў куточку з лялькамі. Хлопчык стаяў каля лаўкі і не зводзіў вачэй з незнаёмага чалавека. Ліхачоў не вытрымаў гэтага ўпартага дзіцячага позірку.

— Ну, што пазнаў?—ласкава спытаўся ён.

Хлопчык не зварухнуўся.

— Чаго-ж ты маўчыш? Ідзі да мяне!

Хлопчык глянуў на матку, потым на Ліхачова і павольна пайшоў да яго. На ім была сіняя палатняная кашулька і аблавухая бацькоўская шапка з вялікім чорным казырком. Ліхачоў пасадзіў хлапчука сабе на калены, зняў шапку і пагладзіў яго па русай галаве.

— Як цябе зваць?—спытаўся Ліхачоў, заглядваючы яму ў вочы.

— Андрэйка.

— А дзе твой бацька?

— На вайне,—тоненькім галаском адказаў Андрэйка.

— Маладзец! Смелы ён у вас,—пахваліў Ліхачоў.

— Ага,—адазвалася Грыпіна і, павярнуўшыся да Ліхачова, прамовіла:—Увесь у бацьку ўдаўся.

— Ĭ крыху ў матку...

— Тварам,—хуценька сказала Грыпіна і неўзаметку ўсміхнулася. Ледзь заўважны румянец заблішчэў на яе бледным твары. Ĭ уся яна ажыла і засвяцілася ціхай радасцю. Гэта была яшчэ маладая, стройная жанчына з цёмна-русымі валасамі, заплеценымі ў доўгія косы, і вялікімі блакітнымі вачыма. Пазіраючы на яе, Ліхачоў успомніў сваю Машу. Што яна цяпер там робіць? Можа таксама расказвае такому-ж, як і ён, чырвонаармейцу пра свайго Івана. А можа яна захварэла? Мала, што можа здарыцца ў такі неспакойны час...

Ĭ розныя думкі апанавалі яго. Успомнілася знаёмства з Машай, каханне, жаніцьба. Колькі слёз вылілася з яе вачэй пры развітанні... Ах, як шкода было яе пакідаць! Ĭ лёгкі смутак па дому, па жонцы, па родных папоўз да сэрца. Пацягнула ў родныя краі.

Грыпіна заўважыла яго задуменасць.

— Успомніў пра дом?

— Угадала,—уздыхнуў ён. Падумаўшы, прызнаўся:—Ĭ ў мяне ёсць дома вось такі хлапчук, а які—не бачыў. Жонка піша—прыгажун... Эх, хоць-бы раз глянуць!—і Ліхачоў яшчэ мацней прытуліў Андрэйку да сваіх дужых грудзей. Яму здалося, што перад ім не Андрэйка, а яго родны сынок.

— Нябось, да дому хочацца?—хітравата спытала Грыпіна.

Гэта пытанне, як вострая іголка, ударыла ў сэрца. Ліхачоў, ледзь заўважна зморшчыўся.

— Як тут адказаць... Як успомніш пра дом, дык тады захочацца. Пашкадуеш, чаму ты не птушка. А так,—прызнацца, пра дом і думаць няма калі. Як ні кажыце—вайна. А урэшце—не век-жа ваяваць... Разаб'ем палякаў і разыйдземся па хатах.

— Вось якія вы, мужчыны!—выгукнула Грыпіна.—Пакуль будзеце ваяваць, а жонка гаруй там з дзецьмі. Узяць майго. У яго там адзін клопат—ваюй, а ў мяне—дзесяць. Уся гаспадарка на маіх плячах. Ĭ ары, і сей, і касі, і па дровы едзь, і дзяцей гадуй, усё дагледзь і ўсюды паспей. А прыдзе паляк—яшчэ паздзекваецца. Вось яна бабская доля.—Грыпіна ўздыхнула. Ліхачоў зразумеў, што Грыпіна сказала не ўсё. Ці гэткія яшчэ пакуты і здзекі прыходзіцца перажываць працоўнай жанчыне. Загаварыў не адразу.

— Ĭ вам цяжка і нам не соладка. Ĭ дажджы, і вятры, холад і голад—усё прыходзіцца перацярпець, а то і кулю можна атрымаць.

Пакуль Ліхачоў апавядаў пра ваеннае жыццё, Грыпіна падрыхтавала абед і падала на стол.

— Андрэйку пусціце, гэта парасё любіць, каб яго няньчылі. Ідзі далоў!—прыкрыкнула маці. Але Андрэйка толькі сур'ёзна глянуў на матку і не паварушыўся. Ліхачоў заступіўся за яго.

— Не крычыце на яго, ён не перашкаджае,—павярнуўся да Андрэйкі і сказаў:—Злосная твая мама, мусіць часта б'е?

— Мая мама не б'ецца, яна толькі крычыць,—адчаканіў Андрэйка.

Грыпіна ўспляснула рукамі.

— Што вы скажаце! Цяпер вы ўжо *і* характар мой ведаеце.

Ліхачоў даў Андрэйку лыжку, кавалак хлеба і яны пачалі есці. Даўно ён бачыў прастаквашу, і свежая, халодная, крыху кісలаватая,

яна здавалася яму смачней за ўсё на свеце. Ён еў з апетытам і хутка. Не паспеў Ліхачоў пад'есці, як у хату ўварваўся пасыльны. Ён запыхаўся і моцна соп.

— Цябе камандзір кліча,—выпаліў ён.

Ліхачоў праглынуў кавалак і быстра ўскочыў. Апусціўшы Андрэйку на падлогу, ён мігам адзеўся.

— Куды вы? Паабедалі-б,—устрапянулася Грыпіна.

— Скончу, як вярнуся,—ужо нахаду сказаў Ліхачоў і выскачыў з хаты.

— Вось яно салдацкае жыццё,—сама сабе сказала Грыпіна і спагадліва глянула ўслед.

## III

Праз некалькі мінут да камандзіра стралой уляцеў Ліхачоў. У часці яго паважалі і любілі за адвагу і смеласць. Гэта смеласць, здаецца, свяцілася ў яго зоркіх вачах. Меткім кулямётным агнём не адзін раз выратоўваў ён сваіх таварышоў-чырвонаармейцаў. Камандзір гэта ведаў.

— Таварыш камандзір! Баец Ліхачоў па вашаму загаду з'явіўся,— рапартаваў кулямётчык. Пры размове Ліхачоў нахіляўся крышку наперад і прыжмурваў вочы, нібы прыцэльваўся.

— Вораг насцігае. Адступаем... Ты павінен прыкрыць наша адступленне. Пастаў кулямёт на званіцу... І я спадзяюся...

Камандзір не даказаў і змоўк.

— Паставіць кулямёт на званіцу і затрымаць ворага! Ёсць таварыш камандзір.

— Беражы сябе,—папярэдзіў камандзір.

Ліхачоў хуценька выскачыў з хаты. На вуліцы сустрэў свайго памочніка Уткіна, маладога чарнявага чырвонаармейца з невялікім шрамам на левай шчацэ. У яго быў чысты прыемны, як у дзяўчыны, голас, у часці ён заўсёды быў запявалам.

— Ідзі за мною, ёсць заданне,—сказаў Ліхачоў нахаду. І яны пабеглі да кулямёта.

## IV

Царква стаяла пасярод сяла і з яе відаць было ўсю ваколіцу. Седзячы на званіцы, Ліхачоў з смуткам глядзеў на жывы чалавечы паток, які ліўся па вузкай вясковай вуліцы. Усё далей і далей адыходзілі таварышы, камандзіры, атрад, які за тры гады стаў такім блізкім, родным і дарагім. І яму стала шкада і самога сябе, і таварышоў-чырвонаармейцаў, якія вымушаны адступаць, і гэта прыгожае сяло. Ён аглядаў будынкі, сады, палі і яму рабілася бязмерна сумна. Беларуская зямля была яго роднай зямлёй. Ён гатоў біцца за яе да апошняй кроплі крыві, да апошняга ўздыху. Не, вораг танна не возьме яе!

Раптам успомніў Андрэйку, Грыпіну. Што станецца з імі, калі палякі заваладаюць сялом,—звяры, распуснікі... Эх чорт! Калі-б ён быў Геркулес ці Каваль-асілак! Схапіў-бы ён булаву, у пыл і дым развеяў-бы гэту погань, прышоў-бы да гэтай добрай жан-

чыны і сказаў: „Ну, а цяпер можна скончыць абедаць. Зарабіў". Як-бы ўзрадавалася Грыпіна, а Андрэйка, які дазнаўся-б, што цяпер і яго бацька хутка вернецца дадому. „А Грыпіна пэўна чакае, што я хутка вярнуся",—падумаў ён. Заўсёды бывае не так, як гэта хоча чалавек. Мімаволі выплылі, як лебедзі на возера, апошнія камандзіравы словы: „І я спадзяюся..." Выраз яго твару ў гэты момант гаварыў: „Так, на Івана Ліхачова можна спадзявацца, не падвядзе". Ён павярнуўся і ўбачыў Уткіна. Той таксама аб нечым думаў.

— Трусіш?—спытаў нечакана.

— Не прывыкаць, сам ведаеш,—адказаў той і павучальна дадаў: ты мне такіх пытанняў не задавай. Не люблю жартаў, не час.

— А ты не злуй. Я ад душы пытаюся. Як ні прыкідвай, а мы ўсё-ж утраіх.

— Як утраіх?—не зразумеў Уткін.

— Вось дзівак! Хіба ты не лічыш „максіма" за байца?—і ён любоўна паказаў на кулямёт. Уткін усміхнуўся.

— Праўду кажаш,—і разважна дадаў:—Бадай, ён важнейшы ваяка, чым мы.

Ліхачоў думаў пра Уткіна. „Добры хлопец, шчыры, таварыскі. З такім на любую справу пойдзеш". І ласкава спытаў:

— А бацькоў шкада?

— Аб бацьках і думаю,—сазнаўся Уткін. А потым пачаў чулліва апавядаць.—Старыя яны ў мяне. Як яны там управяцца... Хто ім дапаможа? Усе на вайне, а цяпер касьба. Каб мне дадому... Ось-бы памахаў з ахвотай. Толькі свістала-б. Ты касіў калі небудзь? Не? Ага, шахцёр. Праўда, не да касьбы табе. А для мяне— гэта любімая работа. Выйдзеш, бывала, на луг, а ён шырокі, трава зялёная, густая, калышыцца, шуміць. Каса ў цябе вострая, як брытва, размахнешся—свісь, свісь, пракос так і кладзецца трубой.— Вось толькі бяда: луг не наш быў, а панскі, а як далі пад зад памешчыкам, ваяваць прышлося ісці. Не давялося і папрацаваць уволю на сваёй паласе.

— З аднаго луга на другі трапіў: там траву касіў, а тут людзей.

— Выходзіць так. Касьба толькі розная,—і ён крыва ўсміхнуўся.—Глядзі, глядзі!

На ўзгорку паказалася польская конная разведка. Спынілася. Грымнуў ружэйны залп. Адзін, другі... Палякі стралялі па адступаючаму атраду. Ліхачоў машынальна схапіўся за кулямёт. Сэрца загарэлася помстай. Вось праз каго яны вымушаны сядзець тут адны!

— Я-ж вас пачастую!—сказаў Ліхачоў, не пазіраючы на Уткіна, прыжмурыўся і стаў прыцэльвацца. „Та-та-та-та",—загаварыў раптоўна „максім" на сваёй металічнай мове. Узвіліся быстрыя коні, рванулі за ўзгорак, пакінуўшы на полі шасцярых.

— Ну, як?—не сцярпеў Ліхачоў.

— Тонкая строчка! Тваё вока не схібіць.

— То-та-ж!—задаволена ўсміхнуўся Ліхачоў.

V

Праз некалькі мінут Ліхачоў убачыў, як з-за ўзгорку, у абход сяла, хутка рухаліся варожыя ланцугі войск. Імклівае наступленне белапалякаў патрэбна было затрымаць ва што-б там ні было.

— Мусіць яны прынялі нас за буйную засаду,—сказаў Уткін.

— Гэта добра,—адказаў Ліхачоў і зорка пачаў сачыць за рухам белапольскіх салдат. Вось перадавыя часці ўжо на відавоку і Ліхачоў чакаў, калі яны падыйдуць на адлегласць выстрала.

— Сцёпа, а Сцёпа!

— Чаго ты?

— Нядаўна я думаў пра багатыроў, пра асілкаў.

— Адчапіся. Сачы за палякамі, а то...

— Ды я не спускаю іх з вачэй. Але ты толькі падумай; двое супроць цэлай арміі. Ці-ж мы не асілкі? Асілкі! Вось мы і памераемся сілай. У мяне вочы сакаліныя, надзейныя. Не здрадзяць. Ведай, асілкі ніколі не адступалі. Пра гэтага я чуў у казках бабулі ў маленстве.

Ліхачоў націснуў спускавы рычаг. З новай сілай застракатаў кулямёт. Ліхачоў бачыў, як беглі людзі, прыгіналіся, падалі на зямлю і болей не ўставалі. Іх месца займалі другія. І калі гэтыя другія падымаліся, каб ісці наперад, іх сустракаў ураганны агонь. І раптам... О, дзіва! То там, то сям, над будынкамі ўспыхвалі белыя клубочкі дыму і раставалі ў паветры. Услед чуліся адзінокія стрэлы. Стралялі з пунь, з стрэх, з хлявоў. Сяляне „сустракалі“ палякаў. Гэта падбадзёрыла кулямётчыкаў, паддало сілы і ўпэўненасці. Яны былі не адны. І Ліхачоў з падвоенай энергіяй узяўся за кулямёт. Паднялася страшэнная страляніна. Палякі, не бачачы перад сабой ворага, стралялі куды папала. Вакол свісталі кулі. Некалькі з іх прабіла сцяну, адна нават кранула плячо Ліхачова, але цела не зачапіла. Ліхачоў не звярнуў на гэта ўвагі. Хіба можна было думаць у такі гарачы час пра небяспеку, пра смерць?

Але шматлікі вораг ішоў, бег, поўз. Вось ужо правы фланг уварваўся ў гумны і кінуўся да маста, каб адрэзаць шлях да адступлення двум чырвонаармейцам. А кулямёт усё страчыў. Прайшло яшчэ некалькі напружаных хвілін. І раптам кулямётная дроб спынілася. Стала ціха. Толькі грукала ў вушах ды чутна была бязладная страляніна палякаў.

— Патроны!—крыкнуў Ліхачоў.

— Патронаў няма!—роспачна адказаў Уткін і развёў рукамі.

— Няма?—вытрашчыў вочы Ліхачоў. Ён схапіў Уткіна за рукаў.—Глядзі, глядзі, што за цэль! Эх, каб патронаў нам!—ускрыкваў ён, паказваючы на польскую калону, якая ўварвалася ў вуліцу. Толькі цяпер ён зразумеў усю недарэчнасць свайго становішча.

— Мы акружаны!—апамятаўшыся, выгукнуў Уткін.

Ліхачоў павярнуўся і ўбачыў перапалоханы твар таварыша. Ён так захапіўся стральбой, што забыўся нават, дзе ён. У пылу барацьбы прытупілася пачуццё асцярогі. І толькі цяпер успомніў пра сябе. Прыпаў да шчыліны. Кінуўся сюды, туды... Так, аб вырата-

ванні нельга было і думаць: яны апынуліся ў кальцы. Да царквы бегла група белапалякаў. Яны хутка набліжаліся. Ужо відаць злосныя твары салдат. Ліхачоў з нянавісцю глянуў на іх. Гэтыя людзі неслі ім смерць.

— Каб нам лентачак дзесяць. От-бы я касянуў!—Ліхачоў глянуў на белы, як папера, твар свайго сябра і яму стала шкада яго. Гэткі ён малады! Расказваў пра бацькоў, пра каханую дзяўчыну, а вось цяпер... Ён не мог глядзець і адвярнуўся. Глянуў у другі бок. Свае часці былі каля лесу. Гэта яго непамерна ўзрадавала. Сваёй істотай ён засланіў сотні жыццяў. Так, ён загіне недарма! Сябры-чырвонаармейцы будуць яго ўспамінаць. Пранёсся вобраз жонкі, сына... Хоць-бы раз убачыць яго, абняць яго хрупкі стан, пацалаваць у ружовыя губкі, тады лягчэй было-б і памерці. Цяжка паміраць далёка ад родных. Але—хіба не ўсё роўна: дзе паміраць? Ён павінен памерці так, як паміралі другія байцы Чырвонай арміі: без крыкаў, без нараканняў, моўчкі, з гонарам.

Грукнула некалькі стрэлаў, і кулі прагудзелі каля вушэй, як пчолы. Ліхачоў інстынктыўна прысеў.

— Загінулі,—прастагнаў Уткін. Гэта вывела Ліхачова з задумення. Замест страху ў яго шэрых вачах заблішчала пагарда да смерці. Ён выпрастаўся, рукі сціснуліся ў кулакі і сіла, як скручаная пружына, заварушылася ў ім.

— Двум смерцям не бываць, адной не мінаваць. Жывым не здавацца. Замучаць. Чуеш?—прашаптаў Ліхачоў, да болю ў руках сціскаючы рукаятку нагана.— Будзем біцца да апошняга патрона.

Уткін маўчаў, не варушыўся. Немігаючыя вочы яго ўтаропіліся ў адну кропку. Твар яго застыў у нерухомасці.

Здавалася, ён не разумеў, што адбывалася навокал.

„Няўжо ён спасаваў“,—падумаў Ліхачоў і пачаў падбадзёрваць.

— Сцёпа, а Сцёпа!.. Памром, як сапраўдныя чырвоныя байцы... Думаеш мне лёгка паміраць?—Голас яго дрыжаў.—Ты хоць адзін, а ў мяне жонка, дзіця... Але я ведаю, што памру за шчаслівую будучыню свайго сына. І калі мой сын вырасце, ён, хаця і не бачыў мяне ніколі, але будзе паважаць і ганарыцца мною, як героем. Я буду жыць у яго памяці.

Уткін раптам узняўся.

— Сядзь!—загадаў Ліхачоў.

— Ваня, ты лічыш мяне трусам?—Вочы яго загарэліся агнём.

— Не. Я толькі думаў, што ты змаладушнічаў...

— Ты кажаш праўду, Ваня?

— Клянуся маім адзіным сынам.

Уткін кінуўся да Ліхачова, абняў і моцна яго пацалаваў.

— Веру, веру, Ваня. Ты ніколі не маніў. З такім чалавекам і паміраць не страшна. Не, не страшна. Праўду ты казаў. „Двум смерцям не бываць“... Толькі сіл шкада. Я гэткі дужы. Эх, я мог-бы столькі павяяваць...

Унізе раздаўся грозны голас.

— Здавайся, большэвік!

— Маўчы, гад. Ты дорага заплаціш за наша жыццё,—гнеўна

сказаў Ліхачоў і, павярнуўшыся да Уткіна, дадаў:—Каб лепш было абараняцца, забарыкадыруемся.

Яны паставілі пры ўваходзе кулямёт, скрынкі, старыя дошкі, прынесеныя сюды нямаведама кім і для чаго. Збудаваўшы барыкаду, ляглі за ёю.

Дзьмуў вецер. За сцяною пагрозна шумела голле бяроз, трывожна шалясцела лісце. Ліхачоў цяжка ўздыхнуў, пазіраючы на бязмоўны кулямёт. Верна служыў яму яго стальны таварыш.

— Ваша становішча безнадзейнае!

— Страляць будзем! Спалім, пся крэў!

Ярасны крык і грубая адборная лаянка. І хоць-бы гук у адказ. Упартасць чырвонаармейцаў вывела афіцэра з роўнавагі. Адкуль такая вытрыманасць у гэтых людзей, знявага да смерці? Гэта было вышэй яго розуму. Ён выхапіў з кабуры рэвольвер і, грозна памахваючы ў паветры, каб паддаць смеласці сабе і салдатам, гаркнуў: „За мной!“

Пачуўся цокат падкоў па камені. Мітусня. Глухі ўдар у дзверы. Другі, больш моцны, трэці. Сухі трэск. Крыкі, пагрозы. На вузкай лесвіцы, якая веерам узбягае на званіцу, пачуўся труслівы грукат ботаў. Бліжэй... Бліжэй... Бліснула пазнанка з аднагаловым арлом. Адначасова грукнулі два стрэлы. Чалавечае цела пакацілася ўніз. Шагі. Зноў стрэлы. Зноў грукат на ўсходцах. З дзікім крыкам пруць азвярэлыя пазнанцы. Узмахнуўшы рукамі, як крылламі, быццам ён хацеў схапіцца за паветра, распластаўся Уткін.

— Быв..,—толькі паспела сарвацца з яго вуснаў, і не стала баявога таварыша.

Страціўшы апошні патрон, Ліхачоў уздрыгнуў. Што ён нарабіў! Ён забыўся пакінуць для сябе кулю, але цяпер пра гэта не было калі думаць. Раптам ён узняўся, схапіў кулямёт і штурхануў на палякаў. Адначасова хруснуў стрэл, і Ліхачоў адчуў пякучы боль у плячы. Ён інстынктыўна схапіўся за рану. У гэтую хвіліну на яго наваліўся афіцэр з гладкім чырвоным тварам і пазелянеўшымі ад злосці вачыма. Белы драпежнік на шапцы распрасцёр крыллі і расставіў кіпцюры, нібы збіраўся выдраць яму вочы.

„Гэты, мусіць, з панічоў,—падумаў Ліхачоў пра афіцэра,—мой заядлы вораг“. Сабраўшы апошнія сілы, рвануўся і спрытна ўдарыў ботам у гладкае рыла афіцэра. Завыў той ад злосці і абурэння. І ў сляпой нянавісці да чырвонаармейца бухнуў нагой па галаве. Услед густа пасыпаліся ўдары ў спіну, у галаву, у грудзі. Зазвінела ў вушах. Шэрая туманная муць закрыла вочы.

Азвярэлыя белапалякі, ап'янёныя гарачай крывёю, білі труп чым папала...

## VI

За сялом Дубнякі, недалёка ад тракта, які абсаджан старымі развесістымі бярозамі, стаіць адзінокая магіла. Яна агароджана невысокім афарбаваным у чырвоны колер парканам. Штогод ранняй вясной прыходзяць з калгаса дзяўчаты, папраўляюць магілу, абкладваюць пліткамі зялёнага дзёрну, пасыпаюць свежым жоўтым пясочкам, садзяць кветкі. Улетку, калі кветкі вырастуць і зацві-

туць, магіла прыбіраецца ў пышны рознаколерны вянок з настурцый, вяргінь, астраў, пахучай гваздзікі. Паветра напаўняецца араматам і гудам працавітых пчол. Павее ветрам з поля, прашуміць маладая кучаравая бяроза, прашалясцяць кветкі і хуценька змоўкнуць, нібы баяцца парушыць сон мужных герояў. Часамі раніцай, да ўсхода сонца, прылятае з прырэчных кустоў салавей, садзіцца на бярозцы і доўга шчоўкае і свішча, нібы сваімі трэлямі хоча разбудзіць заснуўшых навекі. У 17-ю гадавіну вызвалення Беларусі ад белапалякаў на магіле паставілі высокі гранітны помнік з сярпом і молатам наверсе. На помніку залатымі літарамі выбіт лаканічны надпіс:

*Храбрым, беззаветна адданым справе рэвалюцыі байцам Чырвонай арміі, загінуўшым у барацьбе за шчасце ўсяго чалавецтва*

**ІВАНУ АЛЯКСЕЕВІЧУ ЛІХАЧОВУ**

*і*

**СЦЯПАНУ НІКАЛАЕВІЧУ УТКІНУ**

*ад працоўных сяла Дубнякі.*

*Я. Журба*

## САДОЎНІК

Толькі ўскінула рань
Ясны позірк на сад,
Дзе ўздымаюцца дрэвы радамі,
А садоўнік даўно
Ў сад з рыдлёўкай прышоў,
Як рупліва прыходзіў гадамі.

Клапатлівай рукой
Ён у садзе сваім
Пустазелле наўкол вырывае,
А рыдлёўкаю скрозь
Каля дрэў і кустоў,
Ён глыбока зямлю разрыхляе.

Веццє дрэў і кустоў,
Нібы маці дзяцей,
Ён з любоўю штодзень аглядае
І крынічнай вадой,
Не шкадуючы сіл,
Сад старанна увесь палівае.

А як восень лісцём
Тут зашастае зноў,
Жоўталісцем засцеле даліны,—
Сокам-мёдам тады
Наліюцца плады,
Зарумяняцца пышна галіны.

І садоўнік ізноў
У квітнеючы сад
Прыдзе з ласкай, з усмешкай прыветнай.
Гаспадарнай рукой
Ён бярэ тут плады,
Што пакрыюць, бы золатам, веццє...

Гэты шчыры садоўнік—
Настаўнік і друг,
Родны бацька, наш Сталін любімы.
Нібы сонца зямлю,
Ён галубіць свой сад—
Нашу шчасную маці-радзіму.

Верасень, 1938 г.

---

*Алесь Бачыла*

## СЯБРОЎЦЫ

Мо' паспрыяла таму школа
І смех і дзетак шустрых бег,
Што палюбіў я за вясёласць,
Сяброўка блізкая, цябе.

Не раз у гурце твараў светлых
Жартоўна гутарыла ты,—
Яны ўсміхаліся прыветна
Усмешкай шчырай прастаты.

І часта ў позірку маўклівым
Да іх свяцілася любоў.
Яны-ж нясмела, сарамліва,
Тады стаялі прад табой,

Бо кожны з іх, як па прымеце,
Заўжды вядом быў і таму
Табе паслушны былі дзеці
І слову кожнаму твайму.

Праходзіў дзень. Гурбой шумлівай
Дамоў спяшыла дзетвара,
Апошняй ты ішла маўкліва,
Ішла—за імі назіраць.

Гарэла сонца. Цёплы травень
Пачуцці радасці кранаў,
Бо ўсюды поўна, велічава
Ўжо гаспадарыла вясна.

І нават сэрцы, як ніколі,
Былі чуллівымі тады,
І звалі неяк мімаволі,
Адчуць юнацкія гады.

Адчуць жыццё, яго парывы,
Бо з той пары ўкахаўся я
І перастаў я быць маўклівым,
Сяброўка блізкая мая.

1938 г.

*Мікола Аўрамчык*

# АДЛЕТ ЖУРАУЛЕЎ

Зацягнуліся шэранню далі,
Парыжэлі вяршыні стагоў...
Каштаны ўсю дарогу заслалі
Жоўтай коўдрай апаўшых лістоў.
За калгасам, над трактам вялікім,
Дзе асеннія хмары ўсплылі,
Пралятаюць, раняючы крыкі,
Караванам даўгім жураўлі.
Адлятаюць знаёмай дарогай,
Шэрых крылляў даносіцца шум...
У іх крыках адчуў я трывогу,
Разгадаў і пазнаў іхні сум.
Не ўстрывожылі стрэламі людзі
У вышынях палёт жураўлёў.
Не арол караваны іх спудзіў
Над прасторам шырокіх палёў.
Не, не гэта трывога іх будзіць,
А ўстрывожаны тым іх палёт,
Што вясной, прылятаючы, зблудзяць
І не знойдуць знаёмых балот,
Бо на тых непраходных балотах,
Дзе ніхто не мог гнёздаў чапаць,
Ячмяні зашумяць пазалотай,
Прыдуць людзі касіць сенажаць.
За руплівай працай калгаснай
Спеў дзяўчат скалыхне нават гай.
Будзе сонца з усмешкаю яснай
Паглядаць на багаты ўраджай.
Прылятайце вясною гасцямі!
Не сумуйце, для гнёздаў сваіх
Адшукайце месца вы самі
Каля рэчак, лугоў заліўных.
Не раняйце трывожныя крыкі
Над прасторам палёў і нізін.
У асоках густых і вялікіх
Для вас многа прытульных мясцін.

Мінск.

*Сара Каган*

## ТРЫ „ЛЯВОНІХІ“

*(Паэма)*

Беларусь, ты надзела ордэн,
Расквітнела у шчасці, як сад!
Ты жабрацкую скінула торбу
Шмат гадоў таму назад.

Твае поле сонцам заліта,
І шырок твой шчаслівы шлях.
Па спіне, што стагоддзямі біта,
Бізунам ужо больш не гуляць.

Там, дзе вылі ваўкі на сцяжынках.
Дзе ў балотах танулі бары,—
Сёння ў пояс схіляецца жыта,
Электрычнасць як сонца гарыць.

Толькі можа кляны ля дарогі
Прыгадаюць пакуты сяла,
Прыгадаюць бяздонні, парогі,
Па якіх ты калісьці прайшла.

І тады, праз далёкую замець
Дзікіх здзекаў і гуляў паноў
Мне „лявоніха“ прыйдзе на памяць,
Аб мінулым напомніць ізноў.

* * *

Двары, пустыя прыгуменні,—
Туга галодных зім і лет,—
Ваш боль, як холад у скляпенні,
Адчула я тады як след.

Я мабыць вечна буду помніць:
Авеяны разгулам сцюж,
Сцяпан-пастух стаіць, як помнік,—
На ім шырокі капялюш.

А ногі ўсе ў крыві, у ранах
Ад спёкі і ад халадоў,
Ён пасвіў статак свайго пана
З маленства да старых гадоў.

А ні зямлі, а ні каровы,
Над галавою неба—дах.
І чалавечым плача словам
Жалейка ў жылістых руках.

Халупку, здэцца, вецер здуне—
Яна там пад гарой крутой.
І толькі радасць—дочка Дуня
З касой шаўковай, залатой.

* * *

А у Казіміра ў пана
Сцены, дзверы маляваны,
Дахі бляхаю пакрыты
Коні і каровы сыты.

А у Казіміра ў пана
У палацы фартэп'яна,
І калі захоча пан—
Усю ноч гуляюць там.

А у Казіміра ў пана
Шмат дзяўчат-парабчанак.
Толькі Дуню пан жадаў
І прывесці загадаў.

* * *

А бразгулькі звоняць, звоняць,
І галопам скачуць коні,—
Праз палі, бары і гаць
Паны едуць балеваць.
Гэта ладзіць пышны пір
Пан вяльможны Казімір.

А сталы, сталы у пана
Хрусталём сэрвіраваны.
Трункі хмельныя, прысмакі,
Сядзяць госці ў чорных фраках,
Снег пальчатак і сукенак
Пах парфумы, шэпт паненак.

Срэбра, золата, пагоны...
Песні ллюцца на загоны.
З бутляў плешчацца віно,
З люстраў плешчацца святло.
Крыкнуў п'яны Казімір:
— Дуню прывядзі на пір!

І няхай яна таксама
П'е віно і скача з намі.
Я знайду ёй мужыка—
Ды вар'ята Пятрака...

Крык і рогат. Хоча кожны
Забаўляцца з Дуняй гожай.
Як мядзведзі госці бродзяць:
Хай прыходзіць, хай прыходзіць!

Пан вусамі шавяльнуў,
Пан рукой толькі махнуў—
Нам „Лявоніху“ скачы!..
Разанулі скрыпачы,
Грымнуў басам голас зычна:
— Гэй, хутчэй скачы, мужычка!

Дуня стала, скамянела,
Адчувае, як у цела
Вочы мутныя ўпіліся,
Як па стане стройным, белым,
Як па вуснах анямелых
Змеі ліпка распаўзліся.

Прад сабою бачыць Дуня
Толькі прорву, толькі студню.
Зараз, зараз упадзе—
Гвалтам кідаюць яе,
І вішчыць як пес музыка...
— Гэй, хутчэй скачы, мужычка.

Пяткі ў Дуні засмылелі
І затрэсліся калені,
Расплыліся сцены, столь
І кальнуў у сэрца боль.
— Эй, лявоніха-атрута!
Паспытай маёй пакуты...

І дакуль-жа ў шуме п'яным
Мне скакаць так перад панам?
Ціха, скрыпкі! Вам крычу:
Быць забаўкай не хачу.

... Хмары неба абкладалі
Ноч плыла кудысьці ў далі,
А ў палацы балявалі.

II

Ціхім сумам ахутаны вёскі,
Ї палі, і разлівы вод.
Ї вадзіў па дарогах войскі
Незабыўны дваццаты год.

Хаткі поўняцца сумам-туманам,—
Ад яго не схавацца нідзе.
Ї крывёю сачацца, як раны,
Набалеўшыя сэрцы людзей.

Каго-ж могуць крануць тыя раны,
Каго можа крануць той плач?
Толькі гора ад рання да рання,
Ды крычыць над палямі крумкач.

* *
*

Цішыня у Дуні ў хаце
Дуня—партызанка, маці,
На руках ляжыць дзіця,
З ім засталася яна,—
Любы муж яе ізноў
З партызанамі пайшоў.

Дуня сёначы не спіць.
Дуня ля акна сядзіць.
Чуе—ў дзверы стукнуў хтосьці:
— Адчыняй!—крычаць са злосцю.
Шаблі, шпоры зазвінелі,
Аж вакенцы задрыжэлі.

Заблішчэлі галуны—
Прышлі польскія паны...
— О, пся крэў, якая баба!
Павядзем яе да штаба.
Атаман наш, малайчына,
Не стары яшчэ мужчына...

Дуня да сцяны адходзіць,
З ворагаў вачэй не зводзіць,
Ціха ўдоўж сцяны ідзе...
Але груба ў цемнаце
Ей назад скруцілі рукі.
— Мо' ўцячы хацела?
Ну-тка,

Хлопка, ідзь да штаба зараз...
Твайго мужа-камісара
Ты пабачыш на суку...

* * *

На адхоне у ляску,
У хаце кулака Рыгора
Самагону, страваў горы.
Атаман сядзіць у крэсле,
П'яныя мармыча песні.

Поўніць злоба сэрца Дуні.
Мозг яе свідруюць думы:
Эх, калі-б схапіць нагана—
Пахавалі-б атамана...
Ды баліць рука ад ран...
Вось падняўся атаман.

За плячо рукой крануў
І сэржанту падміргнуў.
І узнялі крык пазнанцы:
— Хай паскача! Танцаў, танцаў!..
Каркаюць, як крумкачы:
— Гэй, лявоніху скачы!
А над вухам голас зычны:
— Ну, танцуй-жа, большэвічка!..

Дуня бачыць—за акном
Дагарае яе дом.
Дзе раней стаялі сцены—
Кураюць два-тры палены.
А над вухам голас зычна:
— Ну, танцуй-жа, большэвічка!

Пяткі ў Дуні засмылелі
І затрэсліся калені,
Расплыліся сцены, столь
І кальнуў у сэрца боль.
— Эй, лявоніха-атрута!
Паспытай маей пакуты...

І дакуль-жа ў шуме п'яным
Мне скакаць так перад панам?
Ціха, гады! Вам крычу:
Быць забаўкай не хачу!..

У пажарах неба сінь,
Хмары сонца, свет закрылі.
Беларускія лясы
Кулямі загаварылі...

III

Радасць у калгасе „Сталін“—
Адыйшло ў бяздонне гора,—
На палях калгаса „Сталін“
Хлеб хвалюецца як мора.

У садах калгаса „Сталін“
Ллецца кветак пах мядовы,
Людзі у калгасе „Сталін“
І вясёлы і здаровы.

Вось ідуць яны гурбою—
Песні, музыка і кветкі—
Вакол іх стаяць сцяною
Жыты, грэчкі на палетках.

А на ўквечанай трыбуне
Старшыня калгаса Дуня.
І гучыць яе прамова—
Шчасце й гора ў яе словах.

Яна пана праклінае,
Свайго мужа ўспамінае,
Што ў змаганні за краіну
Ад рукі паноў загінуў.

Агарнула сэрца жалем,
Людзі шапкі пазнімалі
І герою-партызану
Аддаюць сваю пашану.

Радасць Дуніна без меры...
Ідуць з песняй піонеры,
Шчасце ў кожнага на твары,
Песня-ж, песня аж да хмары
Рвецца, плешчыцца, як хвалі,
Аб жыцці, што даў нам Сталін.

У былым панскім палацы
Кветкі, музыка і танцы.
Тут заместа ягамосці
Новыя балююць госці.

На сталах і сыр і мяса,
Горы булак, караваяў,—
Усе сталы дабром калгасным
Перапоўнены да краю.

Заліваюцца баяны,
Скрыпачы—аж струны рвуць.
А ў баку пад фартэп'яна
Песні дзеўчыны пяюць.

Дуня да дачкі падходзіць:
— Гэй, „Лявоніху“ давай!
Закружыўся ў карагодзе
Радасцю узняты край.

— Эх, лявоніха, ты радасць мая.
Іншым жыццём зажыла сягоння я.

Не раняю больш гаротную слязу,
Не пісяжыць больш спіны маей бізун.

Каб ты глянуў толькі, пане Казімір,
Хто спраўляе у тваім палацы пір.

Як скачу, як весялюся сёння я,—
Лопнула-б душа паганая твая.

Скачуць чаркі на сталах,
Дзеці ў матках на руках,
Скачуць людзі колькі сілы,
Запяваюць люба-міла...

Скача Дуня несупынна,
Чырванее, як каліна,
А хусцінка у руках
Развіваецца як сцяг.
Голас Дуні ўсіх званчэй:
Гэй, таварышы—шпарчэй!..

Ногі тупайце! Лявоніха мая,
Не скакала так цябе ніколі я.
Залівайся, мой баян. Шчаслівы лёс
Бацька Сталін у краіну к нам прынёс.

*Вольны пераклад з яўрэйскай мовы*
*К. ЦІТОВА.*

---

*Александр Міронаў*

# БАНКА КАНСЕРВАЎ

Самалёт ляцеў на поўдзень ад зімоўкі вострава Дамашняга да мыса Чэлюскіна. Унізе ледзь калыхалася прастора бязмежных ільдоў праліва Вількіцкага. Зверху ільды здаваліся мёртвым заснежаным полем, парытым ямінамі страшэнных выбухаў. Дзе-ні-дзе тонкімі ланцужкамі цягнуліся трэшчыны ды разводдзі, падобныя на лініі акопаў. Над разводдзямі, нібы дым, круціўся лёгкі туман. Злева, на ўсходзе, на ўзроўні крыла самалёта ружавелі далёкія горы Паўночнай зямлі. Зрэдку пазіраючы на іх, лётчык вылічаў адлегласць да мыса Чэлюскіна. Праз кожную гадзіну зімоўка мыса Чэлюскіна набліжалася на дзвесце кілометраў. Гэта цешыла лётчыка і, асабліва, пасажыра—геолага Саўчанку. Тры дні назад з вострава Дамашняга паведамілі аб цяжкай хваробе Саўчанкі і аб неабходнай яму дапамозе. На Чэлюскіне рамантавалі вялікі самалёт, і Фадзееў, не разважаючы, у той самы дзень выляцеў на разведвальнай машыне. Ён не ўзяў урача, бо Саўчанку трэба было вывезці з вострава, а маленькі самалёт мог узняць толькі двух чалавек. Цяпер, лятучы назад, Фадзееў задаволена думаў аб выкананым заданні, а геолаг, пазіраючы на абцягнутую жоўтай скурай шлема патыліцу лётчыка, лаяў і сябе і сваю хваробу, якая нарабіла столькі клопату Фадзееву і людзям на абодвых зімоўках.

Калі далёка наперадзе засінелі пакручастыя абрысы берага, Фадзееў павярнуўся да Саўчанкі і, паказваючы наперад рукой, невыразна крыкнуў. Геолаг не зразумеў слоў лётчыка, але скрозь шкло акуляраў разгледзеў усмешку ў яго вачах. „Хутка дома“,— здагадаўся ён і ў адказ усміхнуўся Фадзееву, хаця той ужо не глядзеў на яго.

... Саўчанку здалося, што ён першы ўбачыў агонь пад маторам самалёта. Баючыся, што лётчык не бачыць агню, ён дакрануўся яго пляча. Але Фадзееў ужо рэзка збавіў хуткасць, павярнуўся да геолага і, супакойваючы, кіўнуў галавой. Агонь імкліва павялічваўся і, прыціснуты ветрам да кожуха матора, абцягваў яго нібы залаты шаўковы чахол. Фадзееў паглядзеў уніз на вострыя зубы заснежаных таросаў і рашуча загадаў:

— Скачы!

Саўчанка бачыў, як насустрач самалёту імчацца, нібы пазрываўшыся са сваіх месц, асатанелыя ледзяныя клыкі. Ад такога малюнку стыгла кроў, але побач, абдаючы жарам, выючы бушавала

мора агню. Геолаг разгублена зірнуў на лётчыка і ледзь не ўскрыкнуў: Фадзееў з нагамі ўзлез на пілоцкае крэсла і адвароч-ваючыся ад агню і едкага дыму ледзве падтрымліваў роўнавагу самалёта.

— Ды скачы ты, чорт!—пачуў Саўчанка хрыпаты, прыдушаны крык лётчыка.

Заплюшчыўшы вочы, геолаг рынуўся ўніз, у белае бяздонне...

* * *

Саўчанка падняўся не адразу. Ён цешыўся з бесканечнай цішы. і з лёгкага, блакітнага змроку палярнага дня, і з мяккага, пяш-чотнага снега пад сабой. Зялёны шоўк парашута заблытаўся на вер-хавіне аграмаднага тароса, падобнага да галавы невядомай пачвары. Лямкі парашута ўсё яшчэ падтрымлівалі геолага. Успомніўшы аб пажары, аб напружанай, скурчанай фігуры Фадзеева, ён заспя-шаўся, няўмела сабраў лямкі і хацеў устаць, але не змог. Заста-гнаў і да крыві закусіў губы. „Зламаў нагу“—здагадаўся ён і амаль спакойна і абыякава дадаў:

— Цяпер канцы. Фадзееў, напэўна ўжо загінуў...

Калі з блакітнага змроку данёсся слабы вокліч, ён не хацеў слухаць яго. „Галюцынацыя“,—вырашыў Саўчанка. Але вокліч паўтарыўся яшчэ і яшчэ раз і Саўчанка адчуў, як у хворым і халодным целе забруілася цеплыня хвалявання. Ён паспрабаваў адказаць, але з горла замест крыку вырваўся хрыпаты стогн. Спя-шаючыся, не адчуваючы мароза на голай руцэ, ён выцягнуў з кі-шэні рэвольвер і некалькі разоў стрэліў у пусты змрок сіняга вечара...

... Абсталяванне лагера Фадзееў скончыў у густой цемры. Саў-чанка ляжаў, назіраючы паспешную, спакойную, але лоўкую работу лётчыка. Фадзееў працаваў моўчкі, толькі зрэдку, глухаватым го-ласам кідаў Саўчанку жартлівыя заўвагі аб „дачы ў праліве Віль-кіцкага“ і аб „ледавых Рабінзонах“. Здавалася, нішто не магло парушыць яго поўнага сілы спакою. Саўчанка здзівіўся, злавіўшы сябе на думцы, што ён любуецца з Фадзеева. Лётчык раптам зра-біўся блізкім, родным, тысячы год знаёмым. Геолаг зразумеў адкуль з'явілася гэтае пачуццё блізкасці: яно нарадзілася ў часе кароткіх момантаў пажару, чакання смерці, а потым радасці выратавання і доўгіх, бясконца доўгіх хвілін (а магчыма гадзін?) пошукаў і адзі-ноты. І, самае галоўнае—яно перарасло ў дружбу пасля таго, як Фадзееў знайшоў яго.

Фадзееў гаварыў кароткімі сказамі; і паўзы між імі былі па-добны да аграмадных кропак. Гэта Саўчанку падабалася яшчэ больш: так ашчадна, каротка, выразна гавораць дужыя людзі. І з дужым, спакойным лётчыкам Саўчанка не баяўся таго, што ча-кала іх наперадзе. Яны паснулі позна ўначы, кожны ў сваім спальным мяху.

Раніцой Саўчанка прачнуўся першым. Сцягно прадаўжала ныць,

але ён не баяўся за яго: надоечы ўвечары Фадзееў асцярожна абмацаў хворае месца і на радасць Саўчанку сказаў:

— Косць не зламана, Выцяў толькі моцна. Праз тыдзень хадзіць здолееш.

Ён паспрабаваў узняцца, але зараз-жа зноў лёг, кусаючы губы, каб не застагнаць: боль быў востры і глыбокі. Фадзееў пачуў тузаніну і, высунуўшы галаву яшчэ сярдзіта прабурчэў:

— Ляжы. Чаго валтузішся? Рана яшчэ.

— Ну, ты надумаў што-небудзь?—спытаўся Саўчанка.

Замест адказу, лётчык асцярожна прыўзняў геолага, паклаў яму пад спіну свой скручаны спальны мех. Геолаг агледзеўся. Ён ляжаў на парашуце, другі парашут быў наўскос расцягнуты паміж двух рапакоў, ствараючы празрыстую навісь. Два спальных мяхі і невыразная ў змроку досвітку куча рэчаў ля падэшвы рапака, былі ўсёй іх маёмасцю.

— Што там?—спытаўся Саўчанка, паказваючы на рэчы.

— Гэта?—павярнуўся Фадзееў.—Кансервы, галеты.

Ён падумаў і ціха дадаў:

— Усё, што засталося ад машыны.

Саўчанку захацелася падрабязна даведацца, як загінуў самалёт, а яшчэ больш—пачуць спакойную гаворку лётчыка. Ён пачаў распытваць аб аварыі і Фадзееў ахвотна расказаў аб ёй.

— Давай будзем есці,—нечакана спыніў ён апавяданне, даючы геолагу банку кансерваў і дзве галеты.

Мяса кансерваў застыла; халодны і цвёрды жыр стыў на зубах, галеты хрумсцелі, нібы фанерныя.

— Мусіць узбярэжжа ужо абшукалі,—у задуме праказаў лётчык.

— Хто?—не зразумеў Саўчанка.

— Вядома хто—зімоўшчыкі з Чэлюскіна.

— Думаеш, шукаюць?—спытаў геолаг і апусціў кавалак халоднага мяса, які паднёс да роту: Фадзееў глядзеў на яго здзіўленымі, шырока раскрытымі вачамі, і ў іх было столькі шчырага здзіўлення, што твар геолага міжвольна заліўся яркім румянцам збянтэжанасці.

— Я не тое хацеў сказаць,—заспяшаўся ён,—я ведаю, што шукаюць, ты не зразумей мяне інакш...

— А-а,—усміхнуўся Фадзееў,—а я было спалохаўся. Як, думаю, чалавек простых рэчаў не разумее? Канешне, шукаюць. Мы вось спалі. Усю ноч. А яны, нябось, усю ноч насіліся. Усіх на ногі паставілі. Бераг абмацалі. Зараз у мора будуць выходзіць. У ільды.

Ён памаўчаў, пераЖоўваючы жоўты жыр. Потым скончыў:

— Дні праз два тут будуць. Факт. Ведаеш, я нават, так думаю: калі паслязаўтра не прыйдуць, я сам ім насустрач выйду. А?

* * *

Выйсці насустрач выратавальнай партыі Фадзееву не ўдалося. Уначы пачаў дзьмуць з поўначы рэзкі шквальны вецер, а ўранку нізкія хмары рассыпаліся доўгім, густым і калючым

снегам. Вецер нудна выў між таросаў, намятаючы велізарныя гурбы снегу. Хутка ён амаль зусім заваліў лагер. Фадзееў прачнуўся ад цяжару снегу і, доўга лаючыся, скідаў яго з верхняга парашута. Саўчанка таксама прачнуўся, але не варушыўся, баючыся патрывожыць заснуўшы боль. Ён слухаў выццё ветра і злосную лаянку лётчыка і адчуваў, як узрастае трывога ад невыразных слоў Фадзеева.

— Цябе не хапала,—бурчэў лётчык,—завея праклятая!.. Цяпер зарадзіла на доўга. Калі канец? У такую пагоду хіба знойдзеш? Дурань на лёд пойдзе... Ляжы тут.

— Думаеш, не хутка скончыцца завея?—крыкнуў Саўчанка. Фадзееў не зразумеў і, нахіліўшыся да яго, спытаўся:

— Баліць?

— Завея, не хутка спыніцца?—паўтарыў геолаг.

— Завея,—лётчык падумаў, злізваючы сняжынкі з губ;—не хутка, факт. Перачакаць прыдзецца.

Вецер пранізваў. Дробным, нібы мука, снегам сыпала ў вочы, нос, вушы. Фадзееў лаяўся і сярдзіта наракаў на пагоду. Асцярожна нацягнуўшы свой мех на мех Саўчанкі, ён у нагах злажыў кансервы і галеты і, абцярусіўшыся, упоўз сам.

— Так цяплей будзе,—сказаў ён абнімаючы геолага.

У мяху, абняўшыся, грэючы адзін аднаго, яны праляжалі ўвесь дзень, то засынаючы, то гутарачы аб завірусе, аб Поўначы, аб мінулым. Спачатку здавалася, быццам вось ужо многа дзён пражыў ён так з хударлявым лётчыкам, які ніколі не тужыць. Ён нават крыху рад быў, што завея адтэрміноўвае адыход Фадзеева. Адыходу лётчыка геолаг баяўся: ён не хацеў заставацца тут на самоце сярод снегу і маўклівых ільдоў.

Так яны жылі і дзень, і другі, і трэці. Завея не спынялася. З непрагляднага шэрага масіва наўкол лагера бясконцай пушастай лавінай сыпаўся снег і па раніцах Фадзееву даводзілася доўга адграбаць яго, каб выбіцца, ак ён казаў „на волю". Лётчык стаў заклапочаным, маўклівым і геолаг адчуў захаваную яго трывогу. Ён хацеў спытаць Фадзеева аб прычыне трывогі, але аднойчы, абмацаўшы ў мяху харчы, знайшоў толькі дзве банкі кансерваў. Ён зразумеў усё, і калі Фадзееў вярнуўся „з волі", Саўчанка, стараючыся надаць голасу бестурботны тон, сказаў:

— Пецця, яды ў нас мала. Я думаю, ці не пара нам перайсці на поўбанкі кансерваў?

Фадзееў сярдзіта фыркнуў і ўлез у мех. Лёгшы побач з геолагам, ён праказаў:

— Поўбанкі? Я і сам думаў. Толькі не так трэба. Ты хворы, чым яшчэ твая хвароба скончыцца. Давай так: я чвэрць банкі, а ты рэшту, га?

Саўчанка нават пакрыўдзіўся:

— А каму больш сіла патрэбна?—сярдзіта спытаўся ён. Яны доўга спрачаліся і лётчык згадзіўся дзяліць банку на двух, але раніцай, за снеданнем, ён амаль сілком прымусіў геолага з'есці больш.

На наступны дзень нарэшце завея пачала сціхаць. Паслабелі ўдары ветра па парашуту, ужо не збіраўся на ім снег, ён не засыпаў цяпер праходу „на волю“. Увечары, выбраўшыся з меха, Фадзееў раскацісга і весела закрычаў:

— Ого-го! Зоры! Неба, нібы марскі кіцель, сіняе, а зоры, нібы гузікі.

Ён пачаў рыхтавацца да адыходу. Абмацваў, зацягваў раменьчыкі на пімах, якія разваліліся, зняў з сябе лішнюю адзежу. Геолаг моўчкі слухаў тузаніну Фадзеева ў цемры і незвычайнае яго многаслоўе.

— Ты мае пімы надзень,—сказаў ён нарэшце.—Яны цэлыя.

— Пімы? Давай!—ахвотна згадзіўся лётчык.

Паляглі яны позна і, абняўшыся, ляжалі моўчкі, кожны думаючы аб сваім.

— Дабярэшся?—парушыў маўчанне Саўчанка.

— Праз тры дні назад чакай,—адказаў лётчык.—Яны сёння ўжо на лёд сыйдуць,—факт. Ты не журыся, верна табе кажу. Яды табе хопіць, яшчэ банка ёсць...

— Банка?—перапытаў Саўчанка і нават прыўзняўся на локці.— Не, яе ты з сабой возьмеш.

— Не. Мне ісці, я хутка з хлопцамі сустрэнуся. А ты тут колькі ляжаць павінен.

— Ты-ж сам сказаў—тры дні,—кпліва заўважыў геолаг.—Тры дні і без яды пражыць не цяжка. Я не крагаюся, мне цёпла, каму-ж патрэбней яда?

— А калі я затрымаюся? Не найду?

— Тады і мне канец. Маё жыццё ад цябе залежыць,—горача адказаў Саўчанка.

Фадзееў зноў задумаўся аб сваім. Саўчанка ўсхваляваўся. Ён вырашыў угаварыць лётчыка ўзяць апошнюю банку кансерваў. „Нават, калі дапамога затрымаецца,—думаў ён,—у Пятра з кансервамі будзе больш шансаў на ратунак. Ён дойдзе, да берага-ж недалёка? Ды і чыё жыццё важней? Без яго зімоўка ўвесну будзе, як без рук. Хто здолее рабіць ледавыя разведкі, паказваць шлях суднам? Ён здаровы, ён патрэбны больш, чым я“.

— Ведаеш, Саўчанка,—парушыў маўчанне лётчык,—не вазьму я кансерваў. Сумленне спакою не дасць, калі ты памрэш. Як я магу пакінуць цябе хворага, нерухомага без яды? Я здаровы, я дайду— упэўнены. А ты... ты ўпершыню на поўначы?

— Першы год. А што?

— Ну, вось бачыш, табе цяжэй, а мне не прывыкаць.

— Не!—рашуча перапыніў геолаг,—не ўгаварвай. Павел, я вельмі добра дачакаюся дапамогі.

— Эх, пакурыць-бы, — лятуценна сказаў Фадзееў.—Ведаеш, што зробім? Давай спаць, а раніцой вырашым гэтую паганую справу, а?

Саўчанка паспрабаваў супярэчыць, але лётчык рашуча павярнуўся на другі бок і праз хвіліну падазрона хутка і галасна захроп.

* * *

Наперадзе, на поўдні, уздымалася сіняя сцяна гор. Фадзееў ішоў у напрамку на гару, зсечаная верхавіна якой нагадвала велізарны стол. Направа ад гары была палярная станцыя: лётчык ведаў гэта са сваіх палётаў, калі вяртаючыся з ледавай разведкі, ён вёў самалёт на „стол“. Да берага было міль дваццаць і, калі нават зімоўшчыкі не выйшлі на пошукі, Фадзееў разлічваў дабрацца на станцыю за тры дні. Ён павольна рухаўся наперад. Шлях часта перагароджвалі аграмадныя рапакі, і іх прыходзілася абыходзіць па глыбокаму, часта вышэй калена, снегу. Цераз грады таросаў лётчык перапаўзаў, карабкаючыся па хаатычнаму награмаджэнню крыг. Часта шырокая расколіна доўга вяла яго ўбок, паралельна берагу і лётчык ішоў клянучы яе, покуль не знаходзіў вузкае месца, і пераскочыўшы, зноў упарта паварочваў да берага.

Ён выйшаў з палаткі прыцемкам, калі гарызонт толькі-толькі ружавеў на ўсходзе. Саўчанка спаў і Фадзееў, баючыся разбудзіць яго, на жываце выпаўз з меха. Ён цешыўся, што геолаг моцна спіць і можна ўнікнуць непрыемнай размовы. Ён нават ціханька засмяяўся, падумаўшы, як здзівіцца, а затым узлуецца Саўчанка, калі прачнецца і замест лётчыка знойдзе каля сябе толькі прычыну спрэчкі—кансервную банку. „З ёю ён застанецца жывы,—падумаў Фадзееў,—а я абавязкова дайду і так“. Ён уявіў сабе, як Саўчанка сядзіць зараз пад парашутам і, лаячы лётчыка, есць халоднае, цвёрдае мяса. Пры гэтай думцы ён зноў засмяўся. Выбраўшы невысокі рапак, ён прысеў адпачыць, і раптам, адчуў злева пад сабой нешта цвёрдае і акруглае. І тады, выбухнуўшы страшэннай лаянкай, клянучы хітрасць і упартасць геолага, ён засунуў руку ў глыбокую кішэню футры і выцягнуў адтуль амаль цёплую, блішчастую, як лёд банку кансерваў.

Футру ён пакінуў ля тароса. Банка, якую лётчык апусціў у кішэню штаноў, рэзала сцягно і нагадвала аб мясе. Яму хацелася есці, але, ашукваючы сябе, ён глынаў кавалачкі ільду, задавольваючы неіснуючую смагу. Цяпер ён прасоўваўся шпарчэй: не замінала цяжкая футра, падганяла злосць на дурнога, упартага геолага і не трэба было вышукваць шлях між таросаў,—ён варочаўся ў лагер па сваіх слядах. Калі наперадзе паказалася палатка, ён лёг на снег і доўга прыслухоўваўся, а потым асцярожна папоўз наперад. Ён не мог проста ўвайсці да Саўчанкі і вылаяць яго: ён баяўся пратэста геолага і немінучай ярасці яго. І, думаючы аб тым як лоўка ашукаў яго Саўчанка ўначы, абавязкова хацеў таксама ашукаць яго. Паверыўшы ў цішу і сон Саўчанкі, ён ціханька выцягнуў з-пад снегу акраек парашута там, дзе павінна была знаходзіцца галава геолага і, прасунуўшы руку, паклаў банку.

Пасля гэтага ён таксама асцярожна адпоўз ад палаткі і, ускочыўшы на ногі, спяшаючыся пабег па сваіх слядах, баючыся пачуць ззаду пратэстуючы крык Саўчанкі.

А ў гэты час у палатцы, у спальным мяху ўсё яшчэ моўчкі сядзеў геолаг, гледзячы на банку кансерваў. Ен думаў аб карыч-

невай, абмарожанай руцэ чалавека, які аддаў яму адзіны шанс на жыццё,—які ў імя выратавання другога ахвяраваў усім.

* * *

... Праз некалькі дзён Саўчанка ачуняў ад рэзкіх штуршкоў, ад чалавечых галасоў, голаснага сабачага брэху і рыпення снегу пад палазамі нарт. Ён ляжаў беспарадны і знясілены і першае, што ўбачыў—быў твар Фадзеева. Лётчык усміхаўся, схіліўшыся над ім. І Саўчанка здзівіўся з пергаментнай жаўцізны скуры, якая абцягвала яго твар, з запалых шчок, якія абраслі калючым шчаціннем, і з чорных кругоў наўкол запаленых, змучаных вачэй.

— Ну, — сказаў Фадзееў, дакранаючыся шурпатай далонню да ілба геолага,—хто меў рацыю? Каму больш патрэбны былі кансервы, а?

Саўчанка не адказаў, але лётчык прачытаў адказ у яго вачах і, зразумеўшы, спяшаючыся і захоўваючы збянтэжанасць, адвярнуўся.

Ліпень, 1938 г.

---

*Г. Няхай*

# ВЕРАСЕНЬ

Б'юць крыламі вятры па вакне,
Белым похмаркам гусі плывуць.
Вабіць цёплая восень мяне.
Дзе кляны рассыпаюць зару,
Дзе бунтуецца ў рэках вада,
Я багацці усе сабяру,
Я, зямлі, і жыцця гаспадар.

Б'юць крыламі вятры па вакне,
Урачыстасцю дыхаюць дні.
Сабіраюцца песні ка мне
Усёй багатай маёй стараны.
Гаспадарная восень прышла,
Жаўцізною гарыць мурагі,
Помнік лету—на ўскраю сяла
Парыжэлыя селі стагі.

Б'юць крыламі вятры па вакне.
Радасць светлых крыніц я адчуў.
Людзі з працы спяшаць. Звонкіх дней
Сонцы цёплыя ў сэрцах нясуць.
Гэта час, калі песні пяюць
Аб багацці калгасных свірноў.
Гэта час, калі славяць зямлю
І клапоты багатых сыноў.

Верасень, 1938 г.

*А. Рудой*

## ВЕЧАРАМ

Туман паслаўся на лугі
Бялёсай пеляной.
Прыходзіць вечар дарагі
У край шчаслівы мой.
Сяло чарнеецца ўдалі,
Палае небакрай.
Дзве дробных хмаркі праплылі,
Схаваліся за гай.
У травах ззяюць кроплі рос
І ветрык ледзь падуў—
Шырокім шляхам між бяроз
Насустрач змроку йду...
Ўсплывае месяц над сялом,
Здаецца ўвесь прастор
Авеян срэбраным крылом
Да самых дальніх зор.
Прыемны, радасны настрой—
Я ў гомане прысад,
Шумяць бярозы нада мной,
І чуцен спеў дзяўчат.
Пад кучараваю вярбой
На беразе ракі
Жартуюць шчыра між сабой
Дзяўчаты, юнакі.
У гоман радасны сяброў
Уліваюся і я,
Чакаю: скора прыдзе зноў
Каханая мая.

Апанас Рудой - вусны

*Н. Зеленоў*

# ІВАН СЯРГЕЕВІЧ ТУРГЕНЕЎ

*(Да 120-годдзя з дня нараджэння)*

Першыя літаратурныя артыкулы І. С. Тургенева адносяцца да таго перыяда, калі ён быў яшчэ студэнтам пецярбургскага універсітэта.

У 1834 годзе шаснаццацігадовы юнак піша свой першы твор—вершаваную драматычную паэму „Стенио".

Гэты твор цікавы тым, што ў ім Тургенеў закрануў адну з асноўных тэм сваёй творчасці,—тэму аб „лішнім чалавеку". У вобразе героя паэмы Стэніо Тургенеў паказаў чалавека, у якога мыслі знаходзяцца ў разладзе з воляй і пачуццём.

Першыя годы творчасці Тургенева знамянуюцца тым, што ён выступае, як паэт, які знаходзіцца пад уплывам рамантычных байронаўскіх традыцый рускай літаратуры.

Упершыню ў друку Тургенеў выступіў, іменна, як паэт. Гэта было ў 1838 годзе,—калі Тургенеў пры дапамозе Плетнёва ў журнале „Современник" надрукаваў два вершы—„Дума" і „Вечер". Затым у 1841 годзе ў „Отечественных записках" з'яўляюцца яшчэ два вершы: „Старый помещик" і „Баллада", потым вершы: „Похищение", „Нева", „Весенний вечер", „Цветок", „Осень", „Гроза промчалась", „В дороге" і рад іншых.

Храналагічны перыяд паэтычнай творчасці Тургенева вызначаецца, галоўным чынам 1838—1846 гадамі. Праўда, з'яўляюцца ў Тургенева вершы і ў больш позні перыяд, але яны не мелі і не маглі мець вялікай мастацкай вартасці. К таму-ж, некаторыя з іх былі вершамі, якія Тургенеў піша не ад свайго імя, а ад імя сваіх літаратурных персанажаў, напрыклад, раманс Паншына з рамана „Дворянское гнездо" і вершы Нежданава з рамана „Новь".

Увогуле за гады сваёй паэтычнай дзейнасці Тургенеў напісаў каля ста вершаў.

Характарызуючы ранні перыяд творчасці пісьменніка, варта адзначыць, што вершы маладога Тургенева паказвалі нясумненнае паэтычнае дараванне, уменне тонкімі, пяшчотнымі, прыгожымі штрыхамі рысаваць як карціны прыроды, так і сумныя, прасякнутыя лірызмам, настроі самога паэта. На ўсіх гэтых ранніх вершах ляжыць адбітак рамантычнай, па словах самога Тургенева „ілжывавелічнай школы".

Значным крокам наперад у творчасці Тургенева з'яўляецца яго вершаваная паэма „Параша", напісаная і надрукаваная ў 1843 годзе.

Гэта паэма высунула Тургенева ў рады прызнаных паэтаў-пісьменнікаў, звярнула на сябе ўвагу чытача, а вялікі крытык Белінскі прысвяціў ёй артыкул, у якім пісаў аб Тургеневу, як пісьменніку, валодаючым незвычайным паэтычным талентам: „Надзвычайны твор, радасна асвяжыўшы душу нашу ад прозы і нуды штодзённага быта“.

У Тургенева Белінскі адзначыў „вернуюназіральнасць, глыбокую мысль, выхапленую з патаемніка рускага жыцця, прыгожую і тонкую іронію, пад якой хаваецца столькі пачуцця“.

Гэта паэма знамянуе адыход Тургенева ад байронаўскага рамантызма.

Вось як характарызуе Тургенеў свайго героя:

— Извольте: он богат, служил в военной;
Чужым умом питался весь свой век,
Но ловок был и вкрадчив. Изнуренный,
Скучающий, направил он свой бег
В чужие страны; с грустною улыбкой
Везде бродил, надменный и немой;
Но ум его насмешливый и гибкий,
Из-за границы вынес целый рой
Бесплодных слов и множество склонений,
Плоды лукавых робких наблюдений...
Он надо всем смеялся, но устал—
И над собой смеяться перестал.

Мяркуючы па пачатку паэмы і па характарыстыках герояў, можна было думаць, што Тургенеў напіша тыповую байронаўскую паэму, дзе пакажа рад цяжкіх рамантычных пакут сваіх герояў. Сустрэча героя з Парашай яшчэ ў большай ступені настройвае чытача на ўспрыяцце паэмы, як рамантычнай і на ўспрыяцце вобраза героя паэмы, як героя, абяцаючага стаць Онегіным ці Печорыным.

У паэме „Параша“ аўтар праяўляе рэальнае чуццё рускага жыцця, за якое так высока і ацаніў Белінскі Тургенева.

Паэма па сваіх рэалістычных тэндэнцыях у многім нагадвае раман Пушкіна „Евгений Онегин“.

Паэма канчаецца самым празаічным чынам. Калі аўтар сустрэў сваіх герояў праз чатыры гады пасля вяселля, дык ён убачыў, як яго байронаўскі герой патаўсцеў, а Параша—гэта ідэальная і пяшчотна-паэтычная дзяўчына стала Праскоў‘яй Нікалаеўнай.

Паказваючы спакойнае жыццё Праскоў‘і Нікалаеўны,—параўноўваючы гэта жыццё з ручайком звілістым і плаўным, Тургенеў не без іроніі ўсклікае:

Но боже! То ли думал я, когда
Исполненный немого обожанья,
Ее душе я предрекал года
Святого, благородного страданья!
С надеждами расставшись навсегда,
Свыкался я с суровым отчужденьем,
Но в ней ласкал последнюю мечту
И на нее с таинственным волненьем
Глядел, как на любимую звезду...
И что ж? Я был обманут так невинно,
Так просто, так естественно, так чинно,
Что в истине своих желаний я
Стал сомневаться, милые друзья.

Іменна за гэту іронію і аціаніў высока паэму „Параша“ Белінскі. Іменна, вось у гэтым паказе перараджэння з рамантычных герояў у празаічных абываталяў, сыцеючых на дармавых хлебах, іменна ў гэтым выкрыцці прозы жыцця, у гэтай урачыстасці рэалізма над рамантыкай і заключалася тое станоўчае, што рабіла Тургенева, па словах Белінскага—„сынам свайго часу, які носіць у грудзях сваіх усе смуткі і пытанні яго“.

Праз год пасля „Парашы“, у 1845 годзе Тургенеў піша паэму „Разговор“. Па сваёй ідэі гэта паэма вельмі нагадвае і шмат у чым паўтарае лермантаўскі верш „Дума“.

У паэме Тургенеў паказаў пакаленне 40-х год і супаставіў гэта пакаленне з пакаленнем 20-х год. Пакаленне 20-х год рысуецца Тургеневым станоўча, як пакаленне багатае ідэаламі, благароднымі імкненнямі, жаданнем служыць людзям, прагнучае кіпучай дзейнасці.

Людзі-ж 40-х год узнагароджаны Тургеневым рысамі гамлетызма, напоўненымі сумненнямі і халодным адчаям, змучаны горкімі рэфлексіямі.

У 1845 годзе Тургенеў піша паэму „Андрей“, якая з'яўляецца пераходнай формай ад паэмы да аповесці. У ёй Тургенеў ставіць праблему свабоднай любві, якая ў саракавыя годы вельмі хвалявала многіх пісьменнікаў і знайшла сваё адлюстраванне ў радзе твораў.

У 1845 годзе Тургенеў піша паэму „Помещик“, якая з'яўляецца ўжо выражэннем рэалістычных імкненняў пісьменніка.

І ў 40-я годы Тургенеў выступае не толькі актыўным прыхільнікам гогалеўскай натуральнай школы, але ўсё больш і больш пачынае адмаўляцца ад вершаванай формы. Пачынаючы з канца 40-х год Тургенеў, за вельмі рэдкім выключэннем, вершаў ужо не пісаў.

Шлях Тургенева да прозы ляжаў праз драматургію.

У саракавыя гады ён піша цэлы рад драматычных твораў: „Неосторожность“, „Безденежье“, „Где тонко, там и рвется“, „Нахлебник“, „Холостяк“, „Завтрак у предводителя“. У 50-я гады Тургенеў таксама ставарае рад п'ес—„Месяц в деревне“ (1850 г.), „Провинциалка“ (1851 г.), „Разговор на большой дороге“ (1851 г.).

Па нейкай традыцыі, многія крытыкі праходзяць міма драматургіі Тургенева, недаацэньваюць яго як драматурга. Вось чаму Тургенеў-драматург і на сёння не атрымаў належнай і адпаведнай ацэнкі. Прычынай для такой недаацэнкі драматургічных твораў Тургенева паслужылі яго ўласныя выказванні.

У прадмове да сваіх п'ес Тургенеў пісаў:

„Не прызнаючы ў сябе драматычнага таленту, я-б не ўступіў адным просьбам паноў выдаўцоў, жадаўшых надрукаваць мае творы ў магчымай паўнаце, калі-б я не думаў, што п'есы мае, нездавальняючыя на сцэне, могуць прадставіць некаторую цікавасць у чытанні“.

Аднак, Тургенеў памыляўся ў ацэнцы сваіх п'ес, памыліліся і крытыкі, якія вельмі даверыліся гэтым выказванням.

Тургенеў, як драматург, заслугоўвае таго, каб яго п'есы атры-

малі станоўчую ацэнку, каб яго п'есы знайшлі сабе месца на совецкай сцэне. Совецкі тэатр павінен успомніць тургенеўскія п'есы, паказ якіх па словах Некрасава быў трыумфам Шчэпкіна і зусім яшчэ нядаўна трыумфам Станіслаўскага.

МХАТ, паставіўшы тургенеўскую п'есу „Месяц в деревне", паказаў, наколькі быў неправы Тургенеў, гаворачы аб несцэнічнасці сваіх п'ес. Мастацкі тэатр рэабілітаваў сваёй пастаноўкай „Месяц в деревне" Тургенева, як драматурга.

П'есы Тургенева насычаны вялікай жыццёвай праўдай. Тургенеў, як драматург валодаў мастацтвам у дасканаласці, валодаў сцэнічнай мовай. Тут Тургенеў следваў традыцыям гогалеўскай драматургіі. Сам Тургенеў гаварыў пра Гогаля, як драматурга: Гогаль „зрабіў усё, што магчыма першаму пачынальніку, адзінокаму геніяльнаму дараванню: ён праклаў дарогу, па якой з цягам часу пойдзе наша драматычная літаратура... Насенне, пасеянае Гогалем,—мы ў гэтым упэўнены, безумоўна спее цяпер у многіх розумах, у многіх дараваннях, прыдзе час, і малады лясок вырасце каля адзінокага дуба".

Але Тургенеў у драматургіі праклаў і свае ўласныя шляхі,—шмат Тургенеў у чым з'яўляецца папярэднікам Чэхава. І справа не толькі ў тым, што асобныя моманты ў п'есе „Дядя Ваня" нагадваюць „Месяц в деревне", што чэхаўскі вадэвіль „Юбилей" некаторымі момантамі па характару свайго камізма нагадвае тургенеўскую п'есу „Завтрак у предводителя". Сувязь паміж Тургеневым-драматургам і Чэхавым бліжэй. Яна сказваецца і ў агульным характары лірычнай танальнасці п'ес, у характары развіцця дзеі, у агульнай псіхалогізацыі, у манеры карыстацца прыёмам недамоўленасці, у акцэнтацыі на псіхалагічныя паўзы, на няўлоўныя псіхалагічныя нюансы.

Гэтую манеру пісьма ў Чэхава Станіслаўскі ахарактарызаваў словам падтэкст. Але Тургенеў першы ў сваіх п'есах ўвёў гэты падтэкст,—калі мыслі і пачуцці герояў у п'есе раскрываюцца не толькі ў маналогах і дыялагах, але і ў ледзь улоўных інтанацыях голасу, у міміцы, жэсце, у псіхалагічных паўзах, у самой недаўмоўленасці, якой насычаны яго п'есы.

Калі-б Тургенеў не выступіў як празаік, а спадчына яго дайшла-б да нас толькі як спадчына паэта і драматурга,—дык і тады-б Тургенеў заняў адно з відных месц у рускай літаратуры. Праўда, Тургенеў, як празаік, як раманіст, настолькі моцна засланіў сябе, як паэта і як драматурга, што ўвесь свет ведае Тургенева ў першую чаргу як белетрыста. І сапраўды, мастацкі геній Тургенева мацней за ўсё выявіўся ў яго белетрыстычных творах.

Першыя празаічныя творы Тургенева храналагічна супалі з напісаннем ім паэм і драматычных твораў.

У 1843 годзе з'явілася першая празаічная рэч—драматычны нарыс у адной дзеі з іспанскага жыцця пад назвай „Неосторожность". Гэты твор дапамог перайсці Тургеневу ад вершаў да прозы як у драматургіі, так і ў белетрыстыцы.

Праз год з'яўляецца першая аповесць „Андрэй Колосов", у

1846 годзе „Три портрета“, „Жид“, у 1847 годзе аповесць „Бреттер“, „Петушков“ і рад іншых.

У 1847 годзе з'яўляецца апавяданне „Хорь и Калиныч“, якое адкрыла сабою серыю апавяданняў, затым аб'яднаных у адзін зборнік пад назвай „Записки охотника“.

„Записки охотника“ з'явіліся ў друку ў жніўні месяцы 1852 года. У гэту кнігу былі сабраны Тургеневым апавяданні, якія друкаваліся ў „Современнике“ галоўным чынам у 1847, 1848, 1849 гг. Лепшыя з гэтых апавяданняў напісаны былі пад непасрэдным уплывам Белінскага, у прыватнасці апавяданне „Бурмистр“ напісана было Тургеневым у 1847 годзе ў Зальцбрунне, у Белінскага, у тыя дні, калі Белінскі пісаў сваё славутае „Письмо Гогалю“.

У выданні 1852 года было ўсяго 22 апавяданні. Пазней, перавыдаючы ў 1880 годзе свае „Записки охотника“ Тургенев уключыў яшчэ тры апавяданні: „Живые мощи“, „Стучит“, „Конец Чертопханова“.

Усе гэтыя апавяданні аб'яднаны адзіным ідэйна-тэматычным замыслам. У гэтых апавяданнях Тургенеў выступіў, як мастак-гуманіст, адкрыўшы ў народзе невычэрпныя крыніцы народных дараванняў, адкрыўшы ў народзе вялікія скарбніцы высокіх душэўных якасцей. Сяляне паказаны ім людзьмі, якія больш чалавечныя, чым іх памешчыкі-самадуры. Нездарма незадоўга да сваёй смерці Белінскі пісаў аб апавяданні „Хорь и Калиныч“: „Аўтар зайшоў да народа з такога боку, з якога да яго к яму ніхто не заходзіў. З якім спачуваннем і дабрадушшам аўтар апісвае нам сваіх герояў, як умее прымусіць палюбіць іх ад усёй душы“.

А Леў Талстой, успамінаючы ў 1893 годзе аб уражанні ад „Записок охотника“, пісаў Грыгаровічу: „Памятаю расчуленне і захапленне, зробленыя на мяне радасным адкрыццём таго, што рускага мужыка, нашага кармільца і, хочацца сказаць, настаўніка, можна і неабходна апісваць, не насміхаючыся і не для ажыўлення пейзажа, а можна і неабходна пісаць ва ўвесь рост, не толькі з любоўю, але з павагай і нават трэпетам“.

У той-жа час тургенеўскія апавяданні гучалі пратэстам супроць прыгонніцтва. Сам Тургенеў указваў на гэту асаблівасць сваіх апавяданняў, калі пісаў аб сваёй ганібалавай клятве—змагацца з прыгонным правам да канца.

„Я не мог,—пісаў Тургенеў,—дыхаць адным паветрам, заставацца побач з тым, што я ненавідзеў; для гэтага ў мяне, напэўна, нехапала неабходнай вытрымкі, цвёрдасці характару. Мне неабходна было ўдаліцца ад майго ворага затым, каб з самай маёй далячыні мацней напасці на яго. У маіх вачах вораг гэты меў пэўны вобраз, насіў вядомае імя: вораг гэты быў—прыгоннае права. Пад гэтым імем я сабраў і згрупіраваў усё, супроць чаго я вырашыў змагацца да канца, з чым я пакляўся ніколі не прымірацца. Гэта была мая ганібалава клятва. І не адзін я даў яе сабе тады“.

І сапраўды: калі з'явіліся ў друку „Записки охотника“, дык міністэрства народнай асветы схамянулася, што цэнзура, прапусціўшы гэту кнігу ў друк, зрабіла вялікую памылку. Аб „Записках охот-

ника“ было пачата следства, у рэзультаце якога былі зроблены наступныя вывады:

„Кніга г. Тургенева зробіць больш зла, чым дабра, і вось чаму. Ці карысна, напрыклад, даказваць нашаму пісьменнаму народу, што аднадворцы і сяляне... нашы знаходзяцца ў прыгнечанні, што памешчыкі, над якімі так здзекуецца аўтар, выстаўляючы іх пошлымі дзікунамі і сумасбродамі, вядуць сябе непрыстойна і супроць закона, што сельскае духавенства рабалепствуе перад памешчыкамі, што іспраўнікі і другія ўлады бяруць хабары, ці, нарэшце, што селяніну жыць на свабодзе больш прывольней, лепш“.

Гэту думку аб кнізе Тургенева следчая камісія прадставіла міністру асветы. Міністр асветы ўхваліў „даклад“ і ў сваю чаргу прадставіў Нікалаю I сваё заключэнне: „Распаўсюджванне столь невыгодных думак наконт памешчыкаў без сумнення паслужыць можа да змяншэння павагі да дваранскага саслоўя з боку іншых саслоўяў.“

Цэнзара Львова, які дазволіў выданне, адхілілі ад пасады.

У сваіх „Записках охотника“ Тургенеў стварыў шматмільённую партрэтную галерэю вобразаў памешчыкаў і сялян. Паказваючы памешчыкаў, Тургенеў выступаў, як рэаліст, зрываючы ўсе і ўсялякія маскі. Тут асабліва трэба ўказаць на абрысоўку вобразаў памешчыка Пеночкіна з апавядання „Бурмистр“ і памешчыка Мардарыя Апалонавіча Сцегунова з апавядання „Два помещика“.

Рысуючы вобразы сялян, Тургенеў з здзіўляючым рэалізмам паказвае бяспраўнае становішча прыгонных рабоў, іх галечу, забітасць. Ён паказвае, як прыгоннае права калечыць чалавечую асобу, ператвараючы яе ў чалавека-раба, выхоўваючы ў ім рабскую псіхалогію, забітасць, рабскую пакорлівасць. Тут трэба ўказаць на такія вобразы, як Сучок з апавядання „Льгов“, Сцёпушка з апавядання „Малиновая вода“ і Васю-буфетчыка з апавядання „Два помещика“.

Тургенеў пратэстуе супроць гэтага рабства, гэтай сялянскай забітасці, рабскай псіхалогіі.

У сваіх „Записках охотника“ Тургенеў заявіў аб праве народа на лепшае жыццё, на жыццё свабоднага ад ланцугоў рабства чалавецтва.

„Записки охотника“ народныя па свайму рэалізму, бо па словах Белінскага „ў рэалізме ўсяго больш і састаіць народнасць нашай літаратуры“; народны „Записки охотника“ і па іх пратэсту супроць прыгонніцтва, бо ў гэтым пратэсце выявілася імкненне народа да лепшага жыцця; народны „Записки охотника“ і па паказу народа, народнага побыта; народны яны і па праўдзіваму паказу псіхалогіі рускага народа; народны яны і па свайму гуманізму, па гуманных і станоўчых адносінах Тургенева да народа; народны яны і па стылявых асаблівасцях, паколькі Тургенеў у сваёй творчасці карыстаўся выяўленчымі сродкамі, узятымі ім з быта і жыцця рускага народа, з жывой разгаворнай народнай мовы.

Тургенеў з любоўю малюе рускую прыроду.

„Ён любіць прыроду,—пісаў Белінскі ў артыкуле „Взгляд на русскую литературу 1847 года“—не як дылетант, а як артыст, і таму ніколі не стараецца паказаць яе толькі ў паэтычных яе відах,

але бярэ яе, як яна яму ўяўляецца. Яго карціны заўсёды верныя, вы заўсёды пазнаеце ў іх нашу родную рускую прыроду".

Праўда, Тургенеў у „Записках охотника" не выступае з рэвалюцыйным адлюстраваннем прыгонніцтва. У гэтым сказалася, вядома, абмежаванасць ідэйных пазіцый Тургенева, і ўсё-ж кніга адыграла велізарную пагрэсіўную ролю,—яна спрыяла абуджэнню класавай самасвядомасці, росту рэвалюцыйнага руху ў Расіі.

Па характару зместу да „Записок охотника" прымыкае выдатны твор Тургенева „Муму".

Гэты твор быў напісан Тургеневым у 1852 годзе, у хуткім часе пасля выхаду ў свет „Записок охотника". Аповесць па свайму зместу ўяўляе рэзкі пратэст супроць прыгоннага права. У ёй пісьменнік апавядае аб трагедыі прыгоннага дворніка Гарасіма, у вобразе Гарасіма паказваецца бяспраўнае становішча чалавека, асуджанага на адзінокае, рабскае існаванне. Трагедыя Гарасіма павялічваецца тым, што ён з'яўляецца нямым. У той-жа час у Гарасіма паказваюцца жывыя чалавечыя пачуцці, якія не знаходзяць сабе водгука з боку акружаючых людзей.

У гэтай аповесці Тургенеў мужна выступае на абарону чалавечай асобы.

Услед за „Записками охотника" і „Муму" Тургенеў піша цэлую серыю раманаў і аповесцей.

У 1856 годзе ён піша раман „Рудин", у 1858 годзе—„Дворянское гнездо", у 1859 г.—„Накануне", у 1861 г. (у друку у 1862 г.)—„Отцы и дети", у 1867 г. „Дым", у 1876 г. „Новь".

У сваіх раманах Тургенеў прадоўжаў традыцыі пушкінскай творчасці і, перш за ўсё, „Евгения Онегина".

Гэту сувязь можна прасачыць на многіх кампанентах тургенеўскага стыля і ў прыватнасці і на тым, што, як і Пушкін у „Евгении Онегине", Тургенеў у сваіх раманах вырашае вострыя сацыяльныя праблемы; як Пушкін, Тургенеў асноўным сюжэтным героем сваіх раманаў бярэ героя свайго часу, надае вялікае значэнне паказу разумовага духоўнага жыцця сваіх герояў (чытанню кніг, філасофскім спрэчкам), нарэшце, насычае свае раманы бытавымі карцінамі, карцінамі прыроды, а таксама і лірызмам.

Тургенеў быў злабадзённым мастаком, чула адгукаўшымся на патрабаванні эпохі. Кожны раман яго закранаў самыя актуальныя тэмы, закранаў самыя злабадзённыя пытанні.

Гэта і было прычынай таго, што кожны раман Тургенева заўсёды быў у цэнтры ўвагі сучаснікаў. Тургенеўскія раманы заўсёды нараджалі спрэчкі, хвалявалі пачуцці, абуджалі мысль. Іменна на гэту асаблівасць тургенеўскіх раманаў указваў Дабралюбаў, калі пісаў аб Тургеневе:

„Жывыя адносіны да сучаснасці выратавалі г. Тургенева і ўмацавалі за ім сталы поспех у чытаючай публікі. Мы можам сказаць смела, што калі г. Тургенеў закрануў якое-небудзь пытанне ў сваёй аповесці, калі ён паказаў які-небудзь новы бок грамадскіх адносін,—гэта служыць парукай таго, што пытанне гэта сапраўды ўзнімецца ці хутка ўзнімецца ў свядомасці адукаванага грамад-

ства, што новы бок жыцця пачынае выдавацца і хутка пакажацца рэзка і ярка перад вачамі ўсіх".

У „Рудине" (1856 г.) Тургенеў рысуе чалавека саракавых год. Сюжэт рамана як раз і будуецца на гэтым вобразе. Усе астатнія персанажы ў гэтым рамане даны ў непасрэдных адносінах да гэтага персанажа.

А. М. Горкі называў Рудзіна „жывой асобай эпохі".

Сапраўды, на Рудзіне ляжыць адбітак саракавых год і гэта абставіна істотна адрознівае Рудзіна, як „лішняга чалавека" ад „лішніх людзей" 30-х год: Печорына і Онегіна. Рудзін—гэта чалавек, у якім моцна выражана кіпенне розума, імкненне быць карысным грамадству. Рудзін гэта дзейная натура. І трагедыя Рудзіна перш за ўсё ў тым і выражаецца, што ўсякая спроба Рудзіна ператвараць слова ў справу, праекты ў жыццё канчаецца поўным фіаско.

Звычайна ва ўсім гэтым прынята вініць Рудзіна. Але гэта далёка не зусім так. Трагедыя Рудзіна заключаецца ў тым, што Рудзіны ў тых умовах не маглі быць практычнымі людзьмі, умовы той эпохі не давалі яшчэ Рудзіным моцна, абодвымі нагамі стаць на зямлю. Гэтым і тлумачыцца, што, у сутнасці, благародная, незвычайная асоба аказваецца жыццёва-непрыстасаванай, „лішнім чалавекам". Але прагрэсіўнае значэнне Рудзіна як тыпа, бясспрэчна вялікае. На гэту прагрэсіўнасць Рудзіна, як тыпа, ўказваў і Горкі, калі пісаў:

„Прыняўшы пад увагу ўсе ўмовы часу,—і гнёт ураду і маральнае бяссілле грамадства, і адсутнасць у масах сялянства ўсведамлення сваіх задач—мы павінны будзем прызнаць, што лятуценнік Рудзін па тых часах быў чалавекам больш карысным, чым практык, дзеяч.

Лятуценнік—ён з'яўляўся прапагандыстам ідэй рэволюцыйных, ён быў крытыкам рэчаіснасці, ён, так сказаць, узнімаў цаліну,—а што па таму часу мог зрабіць практык? Не, Рудзін асоба не адзінокая, як прынята да яго адносіцца. Гэта няшчасны чалавек, але своечасовы і зрабіўшы нямала добрага, бо... Рудзін—гэта і Бакунін і Герцэн, і часткова сам Тургенеў, а гэтыя людзі... нездарма пражылі сваё жыццё і пакінулі для нас цудоўную спадчыну".

У тым жа артыкуле—крыху вышэй Горкі аб Рудзіне пісаў:

„Кажуць, што Тургенеў спісаў яго з паэта Огарэва, друга Герцэна; з вялікімі доказамі гаварылася, што Рудзін—М. Бакунін, але і сам Тургенеў насіў у сабе рысы Рудзіна, як насіў іх адзін час нават Герцэн".

Сам Тургенеў адносіўся дваіста да Рудзіна. З аднаго боку—ён пракланяўся перад жыццёвым ідэалізмам Рудзіна, перад тым, што, падобна да Пігасава—прыгонніка і прыхлябацеля Пандалеўскага ён „не пускаў карэнняў у нядобрую глебу, якой бы тлустай яна не была".

Але Тургенеў у той-жа час аспрэчваў Рудзіна, лічыў, што „няшчасце Рудзіна састаіць у тым, што ён Расіі не ведае".

Рудзіну-лятуценніку і пражэкцеру-ідэалісту і, „лішняму чалавеку" Тургенеў супроцьстаўляе тып Лежнева, чалавека-практыка, паступоўцы-адмаўляльніка рэволюцыйнага метада барацьбы. Слоў

няма, Тургенеў, як рэаліст, верна ўлавіў гэты тып паступоўцы— які ўсё больш і больш вызначаўся эпохай 40—50—60 гадоў; Тургенеў верна ўлавіў і тое, што ў асноўным—Расія пайшла па прускаму шляху развіцця капіталізма,—і сам у сваёй творчасці адлюстроўваў тэндэнцыі прускага шляху развіцця капіталізма ў Расіі. І ў гэтым адначасова была і сіла і ў той жа час слабасць тургенеўскай творчасці. Сіла тургенеўскай творчасці заключалася ў тым, што ён верна і рэалістычна ўлавіў рысы эпохі,—але ў той жа час— слабасць яго творчасці сказалася ў яго ідэйнай абмежаванасці, як пісьменніка-паступоўцы, як пісьменніка—прыхільніка прускага шляху. Гэта і перашкодзіла Тургеневу больш верна ацаніць прагрэсіўную ролю Рудзіна,—гэта і прымусіла Тургенева бачыць у Рудзіне чалавека бяссільнага, раздаўленага жыццём, пераможанага, ідучага па ілжываму шляху, не ведаючага рэальнай справы. Але ўсё гэта, аднак, не знішчае таго, што Тургенеў даў рэалістычны тып Рудзіна, як рэалістычны і сам раман у цэлым.

У рамане „Дворянское гнездо“ (1858 г.) Тургенеў нарысаваў карціну адыходзячага ў мінулае дваранскага памешчыцкага быту.

У асобе Лаўрэцкага Тургенеў вывеў своеасаблівы тып „лішняга чалавека“, які ў адрозненне ад Рудзіна—не горой, не змагар не ідэолаг, не революцыянер.

Лаўрэцкі тыповы культурны, рускі дваранін-памешчык па свойму перадавы і з цудоўнымі задаткамі і па сутнасці не дрэнны чалавек

Але Лаўрэцкі аказваецца чалавекам жыццёва непрыстасаваным чалавекам, які аказаўся афярай дваранскага гнязда, якое і наклал на Лаўрэцкага свой адбітак, зрабіўшы яго „лішнім чалавекам“.

Тое-ж самае Тургенеў паказвае і на вобразе Лізы Каліцінай.

Тургенеў не захоўвае сваіх сімпатый да гэтых герояў,—але ён у той-жа час падкрэслівае, колькі цудоўных задаткаў чалавечых гіне ў людзях толькі дзякуючы таму, што яны з'яўляюцца выхаванцамі дваранскіх гнёздаў.

Аднак-жа Тургенеў Лаўрэцкага прымушае ў канцы рамана перажыць душэўную эволюцыю. Лаўрэцкі знаходзіць сваё месца ў жыцці, ён становіцца гаспадаром-практыкам, ва многім нагадваючым Лежнева.

Рысуючы Лаўрэцкага, як і Лежнева,—гаспадаром-практыкам. Тургенеў падкрэслівае ў ім рысы гуманнага памешчыка, які думае не толькі аб сябе, але шмат клапоціцца і аб сваіх сялянах. Гэты матыў нам знаёмы і па творах Карамзіна, Пушкіна, Гогаля,— гэты-ж матыў прагучыць і ў творах Л. Талстога. Шлях, па якому пайшоў Лаўрэцкі,—быў, вядома, яму падказаны жыццём, і Тургенеў тут верна паказаў эволюцыю Лаўрэцкага. Але сцвярджаючы шлях Лаўрэцкага, як адзіна правільны шлях,—шлях мірнага прыстасавання да капіталізма,—Тургенеў, які ў рамане „Рудзін“ выступаў лібералам-паступоўцай.

Раман „Накануне“ 1859 г. гэта раман аб новым чалавеку. У рамане „Накануне“ Тургенеў рысуе вобраз разначынцы Інсарава,—як змагара за нацыянальнае вызваленне сваёй радзімы— Балгарыі.

Інсараў—балгарын, і ён патрыёт сваей радзімы, адданы свайму народу. Інсараў—гэта чалавек справы, ён супроцьстаіць бязвольным нерашучым дваранскім героям.

Ён адданы ідэям барацьбы за вызваленне сваей радзімы, ён гатовы свае ідэіператварыць у жыццё, змагаецца і сам-жа гіне ў барацьбе. Вобраз Інсарава—адзін з лепшых вобразаў Тургенева,—і, бясспрэчна, гэты вобраз меў прагрэсіўнае значэнне—ён спрыяльна ўплываў на рэволюцыйныя пакаленні. У гэтым-жа рамане нарысаваны вобраз Елены Стахавай—перадавой жанчыны. Яна хоча вырвацца з душнай абстаноўкі замкнутага жыцця дваранскага маёнтку. Яна шукае сапраўднай карыснай справы, яна прагне подвіга, але абмежаванае дваранскае жыццё не давала магчымасці для гэтага. „Яе душа разгаралася і патухала адзінока, яна білася, як птушка ў клетцы, а клеткі не было“—піша Тургенеў. Ідэі Інсарава натхняюць яе, указваюць ёй шлях сапраўднай дзейнасці. Інсараў становіцца для яе ўвасабленнем самаахвярнасці. Наперакор волі бацькоў, яна звязвае сваё жыццё з Інсаравым і ўязджае ў Балгарыю, а пасля смерці Інсарава прадаўжае яго справу.

У сваім артыкуле „Калі-ж прыдзе сапраўдны дзень“ Дабралюбаў верна адзначаў, што „ўся абаяльнасць Інсарава заключаецца ў велічнасці і святасці той ідэі, якой прасякнута ўся яго істота“.

Ён пісаў, што „ў гэтай любві да агульнай справы, у гэтым прадчуванні яе заключаецца вялікая перавага балгарына Інсарава перад усімі рускімі героямі, у якіх агульнай справы і звання няма“. Але ў той-жа час Дабралюбаў выступаў супроць трактоўкі новага чалавека, як чужаземца. Дабралюбаў гаварыў аб тым, што будуць, з'явяцца хутка рускія Інсаравы,—і сапраўдны дзень для Расіі, бясспрэчна, настане. Дабралюбаў з твора Тургенева „Накануне“ зрабіў рэволюцыйныя вывады,—аднак-жа сам Тургенеў гэтых рэволюцыйных вывадаў Дабралюбава не прыняў.

Гэта паслужыла да разрыва паміж Тургеневым і лагерам „Современника“.

Дадатна адносячыся да дэмакратызма, як да такавога,—Тургенеў адмоўна адносіўся да „мужыцкага дэмакратызма“ рэволюцыянераў-дэмакратаў—Чэрнышэўскага, Дабралюбава, Некрасава.

Усё сваё жыццё Тургенеў заставаўся лібералам-паступоўцай, які спадзяваўся на рэформы зверху, а не на барацьбу народных мас,—а калі гэтыя рэформы ў 1861 годзе адбыліся, то Тургенеў быў цалкам задаволены імі.

Гэтыя ідэйныя пазіцыі Тургенева прыводзілі яго да шматлікіх сутычак з рэволюцыйна-дэмакратычным лагерам. Ва ўсім гэтым сказалася дваранская абмежаванасць Тургенева, бо—па словах Горкага—Тургенеў заставаўся „да мазга касцей дваранінам“.

Трэба толькі памятаць,—што ўсё гэта зусім не азначае, што Тургенеў, як пісьменнік, будучы дваранінам,—выступаў абаронцай дваранскіх інтарэсаў. Вульгарны соцыялагізм у падыходзе да Тургенева як раз і сказваўся ў тым, што Тургенева імкнуліся разглядаць толькі як ідэолага і абаронцу інтарэсаў дваранства і праціўніка рэволюцыі.

Тургенеў, выступаючы прыхільнікам прускага шляху, у той-жа час быў рэалістам, мастаком-патрыётам,—не пераставаў думаць аб сваёй радзіме і сваім народзе. І толькі неразвітасць грамадскіх форм у Расіі, непадрыхтаванасць у масе сваёй сялянства да рэволюцыйнай барацьбы і накладвалі на Тургенева свой адбітак, перашкаджалі яму ўзняцца да рэволюцыйных вывадаў і прымушалі яго бачыць у рэформах вырашэнне соцыяльных супярэчнасцей.

Але паколькі рост рэволюцыйнага руху 60—70 гадоў быў у наяўнасці—пастолькі і Тургенеў, як пісьменнік-рэаліст не мог не бачыць гэтага роста,—і некаторыя бакі рэволюцыйнага руху ён вядома, як вялікі мастак, не мог не адлюстраваць.

Рэволюцыі Тургенеў не прыняў, але рэволюцыя знайшла сябе адлюстраванне ў яго творчасці. Яна знайшла сабе адлюстраванне і ў рамане „Рудин“, і ў „Накануне“, і ў „Отцах и детях“, і ў „Дыме“, і ў „Нови“.

Раман „Отцы и дети“ (1862 г.) як раз і быў адказам на нарастаўшыя рэволюцыйныя падзеі 60-х гадоў.

Расстаноўка вобразаў у рамане дана па прынцыпу гегелеўскай трыяды—як і ў большасці тургенеўскіх твораў—тэза, антытэза, сінтэз. Да тэзы адносяцца бацькі Кірсанавы, да антытэзы адносіцца дэмакратычны лагер—і перш за ўсё сам Базараў,—да сінтэза адносіцца вобраз Аркадзія Кірсанава,—але не таго Аркадзія, які быў дан Тургеневым у пачатку аповесці,—а Аркадзія, перажыўшага душэўную эволюцыю і які ў канцы рамана ператварыўся ў заўзятага гаспадара накшталт Лежнева з рамана „Рудин“ і Лаўрэцкага, якім ён дан у канцы рамана ў „Дворянском гнезде“.

Станоўчая праграма Тургенева звязана з вобразам Аркадзія Кірсанава. Аднак-жа, сюжэт рамана будуецца не на Аркадзіі, а на вобразе разначынца-дэмакрата Яўгенія Базарава.

Тургенеў аспрэчвае разначынца Базарава. Сюжэт пабудаваны такім чынам, што Тургенеў імкнецца паказаць негрунтоўнасць поглядаў Базарава, адмаўляемага, па думцы Тургенева, самім жыццём.

Бясспрэчна і тое, што вобраз Базарава пазбаўлены цэльнасці, супярэчлівы, узнагароджаны рысамі гамлетызма, рысамі лішняга чалавека,— Базаравым Тургенеў далёка не ва ўсім дае вобраз сапраўднага рэволюцыянера-дэмакрата. Бясспрэчна і тое, што ў Базараве Тургенеў паказаў больш рысы дэмакрата пісарэўскага лагера, чым лагера Чэрнышэўскага,—і тым не менш вобраз Базарава рэалістычны, выступае ў рамане „жывой асобай эпохі“. І гэты рэалізм дапамог Тургеневу ўлавіць і мастацка ўвасобіць характэрныя рысы новага чалавека, яго ідэйную прагрэсіўнасць, яго сілу характара. Базараў гэта дэмакрат, валявая натура, разумны таленавіты і смелы чалавек. Базараў—гэта чалавек пратэстант, чалавек-змагар, які прышоў на змену ціхім і бесклапотным дваранскім лятуценнікам, рамантыкам-ідэалістам. І не выпадкова дадатную ацэнку вобраз Базарава сустрэў у палкага крытыка-дэмакрата Пісарэва. Вобраз Базарава быў прагрэсіўны вобраз, які сабою клікаў чытача да пратэста, да рэволюцыйнай барацьбы супроць самаўладнага дваранска-памешчыцкага ладу.

І ў рэзультаце атрымалася так, што Базараў засланіў сабою бацькоў Кірсанавых, засланіў сабою і Аркадзія Кірсанава.

Аб Базараве Герцэн пісаў:

„Тургенеў вывеў Базарава не для таго, каб пагладзіць па галоўцы,—гэта ясна. Што ён хацеў нешта зрабіць у карысць бацькоў,—і гэта ясна. Але ў сутыкненні з такімі вартымі жалю і нікчэмнымі бацькамі, як Кірсанавы, круты Базараў захапіў Тургенева, і замест таго, каб высячы сына, ён высек бацькоў. Таму і выйшла, што частка маладога пакалення пазнала сябе ў Базараве“.

Сам Тургенеў у пісьме да К. Случэўскага таксама прызнае, што чэсны і праўдзівы Базараў,—дэмакрат да канца ногцяў,—„падаўляе ўсе астатнія асобы рамана“.

Узнікненне вобраза Базарава было дла самога Тургенева загадкавым. „Тут быў...—пісаў Тургенеў,—нейкі фатум, нешта больш моцнае за самога аўтара, нешта незалежнае ад яго“.

Іменна таму, што Тургенеў чула прыслухоўваўся да голаса праўды,—гэта і дапамагло яму даць такі поўнацэнны вобраз. І нездарма М. Е. Салтыкоў-Шчэдрын у пісьме да Анненкава ў 1876 годзе пісаў, што „Отцы и дети“ Тургенева былі для аўтара „пладом зносін яго з „Современником“. А сам Тургенеў у сваіх аўтакаментарыях“ да рамана пісаў, што „гэта жыццё так складвалася... і я павінен быў іменна так нарысаваць яго фігуру“. І тое, што Тургенеў выступаў у „Отцах и детях“ рэалістам,—гэта рабіла раман, не гледзячы на ідэйную абмежаванасць замысла, мастацка каштоўным, маючым прагрэсіўнае значэнне.

Значна ніжэй і па ідэйнаму зместу, і па сіле рэалізма, і па сваёй мастацкасці, стаіць раман „Дым“ (1867 г.). У гэтым рамане Тургенеў глядзіць як на дым і міраж на ўсё рускае грамадскае жыццё,—як рэвалюцыйнага, так і рэакцыйнага лагера.

Як раман „Отцы и дети“ быў адказам на разрыў Тургенева з лагерам „Современника“, так раман „Дым“ быў адказам на разрыў з Герцэнам і яго сябрамі.

У цэнтры ўвагі стаяць тут рэволюцыянеры-дэмакраты, палітычныя эмігранты, належаўшыя да лагера Герцэна-Огарэва.

Тут паказ рэволюцыянераў мяжуецца з карыкатурным пасквілем—і бясспрэчна, тут Тургенеў перастае быць рэалістам,—што ў сваю чаргу вельмі адмоўна ўплывае на мастацкую каштоўнасць рамана.

Калі з'явіўся ў друку гэты твор, Пісарэў з абурэннем пісаў Тургеневу: „Мне хочацца запытаць у вас, Іван Сяргеевіч, куды вы дзелі Базарава? Няўжо вы думаеце, што першы і апошні Базараў памёр у 1859 годзе ад парэза пальца? Ці няўжо-ж ён жывы і здаровы і застаецца самім сабою, у чым не можа быць ніякага сумнення, то якім-жа чынам гэта здарылася, што вы яго не заўважылі? Гэта-ж значыць не заўважыць слана і не заўважыць яго не пры першым, а пры другім наведванні кунсткамеры, што аказваецца ўжо зусім непраўдападобным“.

Рэволюцыйна-дэмакратычнаму лагеру тут Тургенеў супроцьстаўляе вобразы Літвінава і Патугіна, як насіцеляў ідэй паступо-

васці, як прыхільнікаў рэформ, паклоннікаў заходне-еўрапейскай цывілізацыі, як людзей практычнай справы.

Аднак-жа,—у рамане „Дым“ Тургенеў падвяргае выкрыццю і жыццё дваранскага свецкага грамадства. І тут Тургенеў знаходзіць рэалістычныя фарбы. І гэты паказ свецкага грамадства і з'яўляецца моцнымі, мастацка каштоўнымі бакамі рамана.

У рамане „Новь“ (1876 г.) Тургенеў паказвае гістарычныя падзеі рэволюцыйнай барацьбы ў Расіі 70-х гадоў—„хаджэнне ў народ“. І тут Тургенеў палемізіруе з рэволюцыйна-дэмакратычным лагерам. І тут ва многіх адносінах Тургенеў адступае ад рэалізма. Тургенеў імкнецца даказаць негрунтоўнасць народніцкага руху і супроцьстаўляе народніцкай справе тэорыю малых спраў паступоўцаў.

І аднак-жа, не гледзячы на абмежаванасць замысла—на яўна рэакцыйныя тэндэнцыі, мы бачым, як Тургенеў усё-ж у многім выступае мастаком-рэалістам.

Ён верна ўзнаўляе вобраз Саломіна—угадвае ў ім тыповую фігуру прадпрыемцы-дзельца, як носьбіта буржуазнага прагрэса“.

І, тое, што Тургенеў не толькі супроцьстаўляе гэту фігуру народнікам, але і дваранскаму ліберальна-прыгонніцкаму лагеру, улюбёнаму ў сваё красамоўства лібералу Сіпягіну і мракабесу Каламійцаву—гэта робіць раман рэалістычным. Там, дзе Тургенеў паказвае памешчыка Сіпягіна і яго сям'ю, а таксама Каламійцава,—ён, як рэаліст,—дасягае вялікай мастацкай вышыні.

Не гледзячы на абмежаванасць замысла, Тургенеў ва многім верна заўважае законамернасць краха народніцкага руху—і ў вобразе Нежданава вылучае цэлы рад станоўчых рыс.

Пасля рамана „Новь“ Тургенеў піша свае славутыя „вершы ў прозе“ (1883 г.). Сярод гэтых вершаў асабліва трэба вылучыць верш „Порог“, дзе Тургенеў пракланяецца перад самаадданасцю і гераізмам рускай рэволюцыйнай моладзі.

Перад ракавым парогам руская дзяўчына клянецца афяраваць усім, нават сваім жыццём для рэволюцыйнай барацьбы.

Увесь зборнік „вершаў у прозе“ ў той-жа час прасякнуты сумнымі песімістычнымі разважаннямі і настроямі.

І гэтыя настроі Тургенева былі перадддзвер'ем змрочных песімістычных настрояў, характэрных для эпохі 80-х гадоў, эпохі глыбокай рэакцыі, прышоўшай пасля краха народніцкага руху.

У гэтых песімістычных настроях Тургенева выражаўся душэўны крызіс, які аднапасова з Тургеневым перажывалі многія яго сучаснікі.

Смерць Тургенева супала як раз з перыядам яго песімістычных настрояў.

* *
*

Падводзячы вынік творчасці Тургенева, мы павінны ўказаць на велізарнейшае прагрэсіўнае значэнне творчасці Тургенева. Праўда, мы ведаем, што Тургенеў не быў рэволюцыянерам,—што ён быў ліберала-паступоўцам. Сучаснік Маркса, Тургенеў не ба-

чыў вялікай растучай сілы пролетарыята, ён быў не ў сілах усвядоміць вялікай гістарычнай ролі пролетарыята. Ён не прыняў рэволюцыйнага руху і веў барацьбу з рэволюцыйна-дэмакратычным лагерам.

Усё гэта так.

Але мы аб Тургеневе ўправе сказаць словамі А. М. Горкага аб Пушкіне: „Мы павінны ўмець аддзяліць ад яго тое, што ў ім выпадкова, тое, што тлумачыцца ўмовамі часу і асабістымі, атрыманымі ў спадчыну якасцямі,—усё дваранскае, усё часовае... Яго асабісты вопыт быў шырэй і глыбей вопыта дваранскага класа.

В. І. Ленін высока цаніў творчасць Тургенева.

Праўда,—Ленін характарызаваў Тургенева, як ліберала,—гаварыў, што Тургенева „цягнула да ўмеранай манархічнай канстытуцыі“, што яму „быў прыкрым мужыцкі дэмакратызм Дабралюбава і Чэрнышэўскага“ (В. І. Ленін, т. XXII, стр. 467).

Аднак-жа гэта зусім не значыць, што В. І. Ленін адмаўляў прагрэсіўнае значэнне Тургенева.

Н. К. Крупская ў сваіх успамінах аб Леніне не раз гаварыла аб вялікім інтарэсе В. І. Леніна да Тургенева.

Мы ведаем як В. І. Ленін добра ведаў Тургенева і нярэдка ў сваіх работах карыстаўся вобразамі з твораў Тургенева у прыватнасці з такіх твораў, як „Записки охотника“, „Рудин“, „Отцы и дети“, „Дым“ „Новь“, „Ася“, „Стихотворения в прозе“. Асабліва яркім прыкладам таго, як умеў В. І. Ленін карыстацца вобразамі Тургенева, можна ўказаць на вобраз Пеначкіна з апавядання „Бурмистр“ узяты Леніным для характарыстыкі ліберала графа Гейдэна ў артыкуле „Памяти графа Гейдена“ (з. т. т. XII, стар. 9—10).

Высока цаніў В. І. Ленін і мову Тургенева. У артыкуле „Ці патрэбна абавязковая дзяржаўная мова“, пералічваючы вялікіх творцаў рускай літаратурнай мовы, В. І. Ленін паставіў на першым месцы Тургенева: „Мы лепш вас ведаем, што мова Тургенева, Талстога, Дабралюбава, Чэрнышэўскага—вялікая і магутная“ (В. І. Ленін, з. т. т. XVII, стар. 180).

Заслугі Тургенева сапраўды вялікія.

Тургенеў сваёй творчасцю як мастак-рэаліст садзейнічаў разбурэнню прыгонніцтва, выхоўваў нянавісць да ўсяго рэакцыйнага і адсталага, што было ў царскай Расіі,—дапамагаў чытачу вывучаць жыццё рускага грамадства, яго барацьбу, мары, імкненні на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Сваімі вобразамі Тургенеў абуджаў благародныя імкненні да самааддананага подвіга ў імя свайго народа.

У прыватнасці ён гэта паказаў на вобразах рускіх жанчын. Такія вобразы, як Наташа Ласунская з рамана „Рудин“, Елена Стахава з „Накануне“, Ірына з „Дыма“, Марыяна з „Нови“, дзяўчына-рэволюцыянерка з „Порога“,—гэтыя вобразы належаць да ліку лепшых вобразаў перадавых рускіх жанчын у гераічнай рускай літаратуры.

Тургенеў быў сапраўды мастаком-патрыётам.

Гэты патрыятызм сказваўся і ў адносінах Тургенева да сваёй ра-

дзімы, да свайго народа, і да рускай прыроды, і да рускай мовы. Так, напрыклад, калі Тургенеў прачытаў у артыкуле Венгерава аб сабе, што некаторыя аповесці ён пісаў на нямецкай, а некаторыя на французскай мове,—то Тургенеў у пісьме да Венгерава ад 24/V 1875 года абурана пісаў: „Я ніколі ні аднаго радка ў жыцці не надрукаваў не на рускай мове. У адваротным выпадку—я быў-бы не мастак, а проста дрэнь.“

У сваім выдатным вершы ў прозе „Русский язык“ Тургенеў пісаў: „Во дни сомнений, во дни тягостных раздумий о судьбах моей родины,—ты один мне поддержка и опора, о великий, могучий, правдивый и свободный русский язык!—не будь тебя, как не впасть в отчаяние при виде всего того, что совершается дома? Но нельзя верить, чтобы такой язык не был дан великому народу“.

У гэтых радках сказваецца і глыбокая любоў Тургенева да сваёй мовы, свайго народа, сваей радзімы,—глыбокая гордасць за сваю мову, за свой народ, глыбокая вера ў вялікую будучыню рускага народа.

Гэтыя-ж думкі і настроі сказваюцца і ў яго літаратурным завяшчанні „маладым сабратам па пяру“, калі ён пісаў: „Беражыце нашу мову, нашу цудоўную рускую мову, гэта скарб, гэта здабытак, пераданы нам нашымі папярэднікамі“.

І тое, што ён праяўляў глыбокі інтарэс да роднай краіны, роднага народа, да роднай прыроды, роднай мовы,—тое, што ён сваёй творчасцю служыў народу і верыў у яго,—і робіць Тургенева, не гледзячы на яго абмежаваны дваранскі лібералізм, пісьменнікам народным.

Значэнне Тургенева вялікае таксама і ў тым, што ён аказаў велізарнейшы ўплыў на развіццё як рускай, так і заходне-еўрапейскай літаратуры.

Аб Тургеневе зусім заслужана гавораць, што ён для рускай літаратуры „прарубіў акно ў Еўропу“.

Іменна, пачынаючы з Тургенева, заходне-еўрапейскія чытачы сталі цікавіцца рускай літаратурай.

Золя, Мопасан, Флобер, Карлейль, Жорж Занд, Додэ прызнавалі ў Тургеневе ўзорнага пісьменніка, у якога трэба шмат чаму вучыцца.

Французская раманістка Жорж Занд пісала Тургеневу: „Настаўнік, мы ўсе павінны прайсці праз вашу школу“.

Велізарнае значэнне Тургенева заключаецца і ў галіне мастацкага майстэрства.

Тургенеў быў сапраўды майстрам-рэалістам, для якога жыццёвая праўда была асноўным, чым кіраваўся ён у сваёй творчасці. Як мастак Тургенеў быў выключным майстрам мастацкай рэалістычнай дэталі. Ён умеў у дасканаласці рысаваць соцыяльныя партрэты, валодаў у дасканаласці дыялагам,—умеў цудоўна перадаваць як найдрабнейшыя адценні думак і пачуццяў герояў.

Тургенеў выдатны майстэр-пейзажыст.—Калі памёр Тургенеў, то аб ім было сказана, што са смерцю Тургенева прырода разбіла сваю лепшую люстру.

Нарэшце,—мова Тургенева сапраўды „вялікая і магутная“;—прыняўшы завет Пушкіна вучыцца рускай мове ў народа, Тургенеў сапраўды з'явіўся вялікім стваральнікам узорнай рускай літаратурнай мовы.

У свядомасці чытачоў Тургенеў з'яўляецца вялікім майстрам прыгажосці. Мы гаворым аб прыгажосці яго паэтычных твораў, аб прыгажосці яго зместа, формы, прыгажосці мовы, прыгажосці карцін прыроды.

Як выключны майстар прыгажосці, як стваральнік першакласных рэалістычных твораў Тургенеў жывы і па сёнешні дзень.

Даўно вырашаны спрэчкі, хваляваўшыя Тургенева і яго сучаснікаў,—мы адмятаем усё слабое, часовае, што было ў Тургеневе,—мы перамагаем яго абмежаванасць,—і ў той жа час бярэм спадчыну Тургенева і вывучаем яе, як спадчыну выдатнага вялікага рускага народнага мастака.

---

*В. Вольскі*

# „ГЕРМАНІЯ" ГЕНРЫХА ГЕЙНЕ

Сярод іншых вялікіх скарбаў літаратурнай спадчыны Генрыха Гейне, „Германія" займае па праву адно з першых месц. Гэта сатырычная паэма вялікага нямецкага песняра належыць да лепшых, найбольш шырока вядомых і актуальных твораў сусветнай літаратуры, з'яўляючыся непараўнальным узорам бліскучай палітычнай паэзіі.

Палітычная актуальнасць „Германіі", напісанай у 1844 годзе, не страціла свайго поўнацэннага значэння і для нашага часу.

Сатырычнае вастрыё паэтычнага таланта Гейне, яго тонкая і злая іронія нібы непасрэдна накіравана ў гэтай паэме супроць нямецкага фашызма, супроць сучаснай гітлераўскай Германіі. І таму зусім не дзіўна, што сярод іншых вялікіх твораў прагрэсіўнай чалавечай думкі, спаленых на вогнішчы ваяўнічай рэакцыі, іменна гэты неўміручы твор Гейне выклікаў і выклікае асабліва шалёную нянавісць і бяссільную злосць фашыстаў.

Тым больш блізкім і зразумелым робіцца ён для сучаснага антыфашысцкага чытача, для кожнага, каму дарагі ідэі сапраўднага вызвалення чалавецтва.

„Германія" была напісана Гейне ў Парыжы, у перыяд блізкага знаёмства і непасрэднай сувязі паэта з Карлам Марксам, які знаходзіўся ва Францыі ў эміграцыі. Іменна ў гэты перыяд, пад уплывам сваёй блізасці да Карла Маркса, былі напісаны Гейне яго лепшыя, найбольш рэволюцыйныя творы—„Ткачы" і „Германія".

Гэта былі годы адыходу паэта ад буржуазна-дэмакратычных ілюзій і набліжэння яго да комунізма. У гэты час аформілася ў светапоглядзе і ў творчасці Гейне тое, што робіць яго такім блізкім і зразумелым у нашыя дні.

Пасля французскай рэволюцыі 1830 года, Гейне, паслядоўны і непрымірымы вораг феадальна-дваранскай рэакцыі, усё больш пачынае расчароўвацца і ў буржуазным дэмакратызме. Яго паэтычны позірк перарастае палітычныя ідэалы буржуазных рэдыкалаў, набліжаючыся да комуністычных поглядаў.

Наглядаючы французскае палітычнае жыццё ў Парыжы, Гейне зразумеў, што ліпеньская рэволюцыя 1830 года, праведзеная сіламі французскіх працоўных, была выкарыстана буржуазіяй. Уладу захапілі біржавікі і банкіры, сапраўдныя гаспадары пасьлярэволюцыйнай Францыі.

„Гэта ўжо старая гісторыя,—пісаў Гейне,—не для сябе сцякаў крывёю і пакутваў гэты народ, а для другіх. У ліпені 1830 года ён перамог для той буржуазіі, якая таксама нягодна, як і арыстакратыя, чыё месца яна заняла і якая таксама захоплена эгаізмам... Ад сваёй перамогі народ не набыў нічога, акрамя раскаяння і пагоршання свайго становішча. Але будзьце ўпэўнены! Калі зноў ударыць у набат і народ возьмецца за зброю, на гэты раз ён ужо будзе біцца для самога сябе і патрабуе заслужанай узнагароды".

У пісьме да Генрыха Лаубе (23 лістапада 1835 г.) Гейне адзначаў: „Супроць таго, хто ведае лозунг непазбежнага будучага, бяссільны разбойнікі сучаснасці".

Гэтыя і аналагічныя выказванні Гейне ставілі яго высока над узроўнем тагочасных нямецкіх буржуазных і дробнабуржуазных радыкалаў і дэмакратаў.

У супроцьлегласць абмежаванасці нямецкага радыкалізма, для Гейне на прыкладзе Францыі зрабілася ясна, што не адцягненыя ідэі, а матэрыяльныя, жыццёвыя інтарэсы класаў кіруюць светам. На зары комуністычнага рабочага руху Гейне зразумеў яго будучы вялікі размах, шырокія палітычныя перспектывы і непазбежную перамогу. Ён нібыта прадбачыў будучае немінучае вызваленне чалавецтва, набліжаючыся да пазіцый пролетарыята. У такіх сваіх творах, як „Ткачы" і „Германія", напісаных пад непасрэдным уплывам Карла Маркса, у атмасферы нарастання рэволюцыі 1848 года ва ўмовах узмоцненай пульсацыі грамадскага жыцця ў Парыжы і асабістага азнаямлення паэта з французскім рабочым рухам, Гейне выходзіць далёка за межы буржуазнай рэволюцыйнасці.

Праўда, погляды Гейне былі не заўсёды паслядоўны, яго рэволюцыйнаму светаразуменню нехапала часам цэльнасці і закончанасці, але ўсведамленне таго, што „ўсе людзі маюць права есці" і палкая нянавісць да ўсялякага прыгнечання і асабліва да рэакцыйных нацыяналістаў, набліжала яго да комунізма.

Да канца свайго жыцця Гейне заставаўся палкім і непахісным ворагам феадальна-дваранскай рэакцыі, дэспатызма, царкоўшчыны і капіталістычнага грамадства.

У прадмове да „Лютэцыі", напісанай ім у 1855 годзе, незадоўга да сваёй смерці, Гейне пісаў: „Яно асуджана, гэта старое грамадства! Няхай адбудзецца правасуддзе! Няхай разаб'ецца гэты стары свет, у якім нявіннасць гіне, эгаізм пануе, чалавек эксплаатуе чалавека! Няхай будуць зруйнаваны дашчэнту ўсе гэтыя скляпенні, дзе пануюць мана і несправядлівасць!"

Вялікі нямецкі паэт, адданы сын свайго народа, быў непрымірымым ворагам шавінізма. Супроць нямецкіх нацыяналістаў, „гэтых няшчырых патрыётаў, патрыятызм якіх заключаецца ў агідзе да ўсяго іншаземнага і да суседніх народаў", супроць духоўных продкаў сучаснага фашызма, былі накіраваны самыя трапныя, самыя моцныя і зруйнавальныя ўдары яго бязлітасна-вострай палітычнай сатыры. Гейне ведаў, што шавіністы, якія нацкоўваюць адну нацыю на другую, ніколі не з'яўляліся і не з'яўляюцца сапраўднымі выразнікамі народных інтарэсаў. Ён усюды, дзе толькі мог, дэмаскаваў іх хлуслівую, рэакцыйную, атрутную балбатню.

Ён заўсёды выкрываў тую нацыянал-рамантычную бутафорыю, пры дапамозе якой продкі сучасных гітлераўцаў спрабавалі ашукаць нямецкі народ. Усёй сілай свайго паэтычнага таленту, усёй сваёй душой ненавідзеў Гейне прыгнятальнікаў нямецкага народа.

Выступаючы супроць „гэтых геройскіх лакеяў у чорна-чырвона-залатых ліўрэях“, прадстаўнікоў і ідэолагаў ваяўнічага нацыяналізма, Гейне з гневам і абурэннем заяўляў: „Я ўжо чую іх піўныя галасы: „Ты нават зневажаеш нашы колеры, ты—ненавіснік бацькаўшчыны, друг французаў, якім ты хочаш аддаць вольны Рэйн!“— Супакойцеся! Я буду паважаць і шанаваць вашы колеры, калі яны гэта заслужаць, калі яны больш не будуць з'яўляцца дарэмнаю халопскаю гульнёю. Узнімце чорна-чырвона-залаты сцяг на вяршыню нямецкай думкі, зрабіце яго штандарам свабоднага чалавецтва і я аддам за яго лепшую кроў майго сэрца!“

У прадмове да „Лютэцыі“ Гейне гаворыць аб сваёй нянавісці да партыі прадстаўнікоў вузкага і тупога нацыяналізма, „найстрашнейшым супрацiўнікам якой з'яўляецца комунізм і якая таму ёсць таксама наш агульны вораг“. Колькі палітычнай праніклівасці ў гэтых словах! Змагаючыся супроць чорнай зграі нацыяналістаў, духоўных продкаў гітлераўшчыны, Гейне нібы вызначае той шлях сумеснай барацьбы супроць фашыстаў, па якому пайшлі ў наш час лепшыя сыны нямецкага народа. Сапраўды па прароцку гучаць словы вялікага паэта, сказаныя ім амаль на краю магілы: „Так, да гэтых абломкаў або патомкаў тэўтаманаў 1815 года, якія толькі паднавілі свой стары гарнітур ультра-нямецкіх блазнаў і крыху падкарацілі сабе вушы, я заўсёды адчуваў нянавісць і заўсёды змагаўся з імі, і цяпер, калі меч выпадае з маіх рук,—рук паміраючага, я суцешаны ўпэўненасцю, што комунізм, якому яны першыя трапяцца на дарозе, нанясе ім апошні ўдар, і, вядома, не доўбняй знішчыць іх волат, не, ён проста расцісне іх нагой, як расціскаюць жабу... З нянавісці да прыхільнікаў вузкага нацыяналізма, я мог-бы амаль палюбіць комуністаў“.

* * *

„Германія“ з'явілася ў выніку падарожжа Гейне з Парыжа ў Гамбург у 1843 годзе. Пасля трынаццацігадовага адсутнічання, Гейне паехаў у Германію для таго, каб пабачыцца з сваёй маці. У паэме, напісанай у форме падарожных нататак, ён малюе чытачу свае ўражанні ад гэтай паездкі.

Аб узнікненні паэмы Гейне пісаў у сваім пісьме да выдаўца Юліуса Кампэ (ад 29 снежня 1843 года) наступнае: „Я пісаў у часе майго падарожжа вершы, якія даюцца мне з большай лёгкасцю, калі я дыхаю нямецкім паветрам. Ад будучых паездак у Германію я чакаю шмат паэтычнага плёну, а як паэт я магу яшчэ дамагчыся сяго-таго“.

У адным з далейшых пісем да Юліуса Кампэ (ад 20 лютага 1844 г.) ён з захапленнем гаворыць пра свой новы твор: „Мае вершы новыя—зусім новы жанр,—вершаваныя малюнкі падарожжа,—і дыхаюць больш высокай палітыкай, чым нават самыя вядомыя востра-пахучыя палітычныя вершы“.

Нарэшце, у пісьме ад 17 красавіка 1844 года Гейне паведамляе, што новы твор яго—„Германія“—закончан: „Я перапісаў, і прыгожы, чысты рукапіс ляжыць перада мной... Я ўпэўнен, што стварыў рэч, якая павінна выклікаць больш фурору, чым самая папулярная брашура і, аднак, яна будзе мець непраходзячую вартасць класічнай паэзіі“.

Так, Гейне не памыліўся ў ацэнцы свайго твору. Яго „Германія“ сапраўды мае „непраходзячую вартасць класічнай паэзіі“. З велізарнай, руйнуючай сілай свайго вялікага таленту наносіць ён нямецкай рэакцыі і ўсяму старому свету грабежніцкай эксплаатацыі, маны і крывадушнасці бязлітасны, сакрушальны ўдар.

Мы выразна адчуваем у „Германіі“ яго ўпэўненасць у лепшай будучыні, у вызваленні нямецкага народа, яго жыццерадаснасць, аптымізм, рэвалюцыйную перспектыўнасць і матэрыялістычнае светаразуменне—вынік непасрэдных уплываў на паэта з боку Карла Маркса.

Паэт верыць у шчасце нямецкага народа, у шчасце ўсяго чалавецтва. Ён абвяшчае сябе песняром блізкага і немінучага вызвалення:

Найноўшы спеў і лепшы спеў,
Сябры, хачу прапець я:
Нябеснае царства, давайце, вось тут
Збудуем на гэтым свеце.

Мы хочам шчаслівымі быць на зямлі,
Даволі ўжо гаравалі!
Няхай не глытае гультайскі трыбух,
Што рупныя рукі прыдбалі!

Даволі хлеба расце на зямлі.
Хапіла-б усім патрошку
І роз, і міртаў, і хараства,
Цукровага нават гарошку.

*(Раздзел I)*

Выразную матэрыялістычную і рэвалюцыйную накіраванасць сваёй паэмы Гейне супроцьстаўляе „старому спеву адрачэння“—крывадушнай пропаведзі тых паноў, якія разам з царквой імкнуліся ўкалыхаць самасвядомасць народных мас для таго, каб трымаць іх у пакорнасці. Гэтым спевам

цешаць народ—дурное дзіця,
калі ўкалыхаць яго трэба
Знаёмая музыка, знаю і тэкст
І аўтараў знаю пароду.
Цішком яны самі смокчуць віно,
А ўсім прапаведуюць воду.

*(Раздзел I)*

У прадбачэнні блізкага вызвалення паэт усклікае:

Вясельным спевам гучы, мой спеў,
Мой новы спеў—спеў шчасця!
У душы маёй новыя зоркі ўзыйшлі
Вышэйшага прычасця.

*(Раздзел I)*

У яркіх і трапных, іранічных зарысоўках свайго падарожжа Гейне малюе нам нямецкую рэчаіснасць напярэдадні рэволюцыі 1848 года. Перад чытачом паўстаюць у сатырычна-памфлетных зарысоўках вобразы самазадаволенага, тупога, абмежаванага спакою адсталага правінцыяльнага нямецкага бюргерства, вобразы царкоўнай крывадушнасці і феадальна-дваранскага дэспатызма. Вострыя стрэлы сваёй сатыры Гейне накіроўвае не толькі супроць феадальна-дваранскай рэакцыі, царквы і каралеўскай улады, але і супроць нямецкай ліберальнай буржуазіі, зло высмейваючы яе прыхільнасць да сытага спакою, яе інертнасць і нерашучасць, вернападданства, агідную прыстасавальнасць, імкненне да кампраміса з дваранствам і манархіяй.

На ложку нямецкім так мякка спаць,
Калі 'шчэ пярыну паслалі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А добра-ж у нашай пярыне паспаць,
Забыцца цудоўнымі снамі.
Свабодны ў іх вее нямецкі дух
Не скуты зямлі ланцугамі.

Свабодны ён, вольны, ляціць у гару,
Лунае ў нябесных абшарах.
О, дух нямецкі, як горды твой ўзлёт
У тваіх паўночных марах.
*(Раздзел VII)*

Малюнкі падарожных зарысовак перамяжоўваюцца ў Гейне з сатырычнымі разважаннямі і лірычнымі адступленнямі, прысвечанымі палітычнаму і літаратурнаму жыццю тагочаснай Германіі.

У смелых кантрастах, у раптоўным пераломе настрою, у непрыкметных пераходах ад рэалістычных дэталей падарожных зарысовак, ад сатырычна-памфлетнай характарыстыкі нямецкай рэчаіснасці да лірычных адступленняў, ад чароўна-рамантычных матываў да руйнуючай іроніі, да злога сарказма і вострай палітычнай палемікі, у бляску слоўнай ігры, у дасціпных жартах і каламбурах, у гарманічным спалучэнні элементаў класічнай паэзіі з формамі і прыёмамі вуснай нямецкай народнай творчасці, з асаблівай сілай выяўляецца вялікае паэтычнае майстэрства Гейне.

„Пазбавіўшыся эфектаў верша, адначасова меладычнага і буфоннага, з яго забаўнымі рыфмамі, з бурлескнымі каламбурамі, з процьмай мясцовых і надзённых намёкаў, гэта Зімовая казка павінна была-б страціць амаль увесь бляск сваёй чароўнасці“,— пісаў Гейне ў сваім праекце прадмовы да французскага выдання „Германіі“.—„Я думаю,—дадае ён далей,—што гэтыя стракатыя лісткі больш інтымна пасвяцяць вас у нямецкую думку, чым гэта маглі-б зрабіць самыя добрасумленныя трактаты“.

І ў гэтым Гейне меў таксама рацыю: яго паэма, не гледзячы на сваю стракатасць, фрагментарнасць і звадворную хранікальнасць, дае надзвычайна яркую і пераканальную характарыстыку нямецкай рэчаіснасці таго часу.

Гейне бязлітасна высмейвае цэнзуру, рэлігію, духавенства, феадальнае дваранства, рэакцыйна-нацыяналістычныя мары раман-

тыкаў. Ён злосна кпіць з прускага мілітарызма, прускага юнкерства, з феадальнай раздробленасці Германіі, з яе 36 дробных дэспатаў—маленькіх неронаў.

З рэволюцыйным пафасам пагражае Гейне „агіднай птушцы"— арлу на прускім дзяржаўным гербе:

Агідная птушка, каб трапіла ты
У рукі мае, ўжо дацяў-бы:
Я выдзер бы пер'е ўсё чыста тваё
І кіпцюры пассякаў-бы.

*(Раздзел III)*

Бліскучая сатыра на тагочасную нямецкую рэчаіснасць спалучаецца ў Гейне з тонкім лірычным пачуццем і рэволюцыйным пафасам, прычым адзіным лейт-матывам, які праходзіць праз увесь твор, з'яўляецца руйнуючае выкрыццё той нацыяналістычна-рамантычнай маскіроўкі, якой карысталіся сілы нямецкай рэакцыі.

Барацьба Гейне супроць рамантыкі мела выразна палітычны характар. Гейне заўсёды выступаў супроць рэакцыйнай нацыяналістычнай абмежаванасці і асабліва супроць адмоўных адносін да французскай рэволюцыі. Ён не аднойчы адзначаў, што лічыць барацьбу за вызваленне нямецкага народа неадрыўнай часткай агульнай барацьбы за вызваленне ўсяго чалавецтва.

У перыяд напісання „Германіі" барацьба Гейне супроць рэакцыйнай рамантыкі набывае яшчэ больш шырокае і прынцыповае значэнне.

У той час, у 40-х гадах, у Германіі ўзмацнілася кансалідацыя сіл рэакцыі, якія групаваліся вакол прускага караля Фрыдрыха-Вільгельма IV. Ідэйным сцягам дваранска-манархічнай рэакцыі, накіраванай супроць набліжэння рэволюцыі, з'явіўся рамантычны ідэалізм, які набыў такім чынам выразную палітычную афарбоўку.

Генрых Гейне ў сваёй крытыцы рэакцыйнай рамантыкі з яе ідэалізацыяй сярэднявякоўя, рыцарства і каталіцызма стаяў значна вышэй за ўсіх іншых прадстаўнікоў радыкальна-дэмакратычных літаратурна-грамадскіх колаў Германіі. Яго крытыка набліжаецца часам да таго адзіна правільнага, класавага аналізу нямецкай рамантыкі, які быў дан Марксам і Энгельсам і які адыграў значную палітычную ролю ў ідэаалагічнай падрыхтоўцы рэволюцыі 1848 г.

У „Германіі" Гейне па-майстэрску ўскрывае рэакцыйную сутнасць нацыяналістычнай рамантыкі, устанаўліваючы непасрэдную сувязь паміж рамантыкай і прускім мілітарызмам. Гаворачы аб новым вайсковым убранні прускай арміі, ён піша:

Не менш спадабаліся коннікі мне
У вопратцы іхняй новай,
Шалом асабліва на галаве
І ўверсе спічак той сталёвы.

Гэта рыцарствам пахне, пахне ізноў
Рамантыкі даўняй букецік,
Тут бачны графіня фон-Монфакон,
Уланд, барон Фуке, Тік.

Ён сярэднявечча нагадвае нам,
Пажоў, зброяносцаў пры ўладзе—
Якія адданасць насілі ў душы,
А герб дваранскі на задзе.

Ён нагадвае нам крыжовы паход,
Турнір у гонар шляхетнай,
Час веры і непісьменнасці
Эпохі яшчэ безгазетнай.

Так, так, мне шалом падабаецца. Ён
Ёсць сведка дасціпнасці лоўкай!
Каралеўская выдумка, сапраўды,
З завостранай досыць канцоўкай!

Канстатуючы вельмі трапна непасрэдную сувязь рэакцыйнай рамантыкі з прускім мілітарызмам, Гейне адразу-ж перадасцерагае:

Аднак баюся, каб не прыцягнуў
Вось гэтакі шпіц ў навальніцу
На рамантычную галаву,
Сучасную бліскавіцу!

*(Раздзел III)*

Змагаючыся супроць рэакцыйнай нацыяналістычнай рамантыкі, Гейне сам шырока ўжывае ў сваёй творчасці рамантычныя формы і прыёмы. Старым рамантычным матывам ён надае новы рэвалюцыйны змест, выкарыстоўваючы мастацкія сродкі рамантыкі для руйнуючай іроніі, для трапнай палітычнай сатыры. У гэтым—асаблівасць яго мастацкага стылю. Здані, цені трох евангельскіх каралёў, уласны Spiritus familiaris аўтара, Барбароса, багіня Гемонія і іншыя вобразы містычнай рамантыкі знаходзяць сабе ў яго творы досыць значнае месца. Але Гейне выклікае аблюбаваныя вобразы нямецкага рамантызму толькі для таго, каб пры дапамозе іх нанесці руйнуючы ўдар у самае сэрца рамантычнага свету, каб знішчыць ідэалы і мары рамантыкаў сваім атрутным сарказмам.

Ён бязлітасна зніжае і развенчвае выкліканыя ім самім рамантычныя вобразы, ускрываючы іх рэакцыйнасць.

З нібыта паэтычным уздымам апавядае ён змест старадаўняй легенды пра будучае вызваленне нямецкага народа, абуджанага зданню імператара Барбаросы.

Спачатку ён нібыта сам захапляецца гэтым казачным матывам:

Свой слаўны штандар ён схопіць тады,
Гукне: „На коні, на коні!“
Бразгочучы зброяй, войска ўстае
Гатовае да пагоні.

І кожны ўскаквае на каня,
Што б'е зямлю пад сабою,
Яны выязджаюць у звонкі свет
І трубы клічуць да бою.

Яны лоўка гарцуюць і лоўка б'юць,
Яны-ж выспаліся на славу.
Кайзер забойцаў будзе судзіць,
Ён выцягне іх на расправу.

Згубцаў дзяўчыны чароўнай красы,
Што вінны ў яе знішчэнні—
Золатакудрай Германіі.
„Сонца, ты скаргі праменне!“

І шмат, хто ў замках лічыў сябе
Забяспечаным ад пагрозы,
Не ўнікне ніколі таго суда
І гневу Барбаросы!—

Перадаючы гэты змест старога народнага падання, якое апавядала яму калісьці ў дзяцінстве няня, Гейне ўсклікае:

Як міла, пяшчотна мне казкі гучаць
Няні старой. У захапленні
Маё забабоннае сэрца пяе—
„Сонца, ты скаргі праменне!“

(*Раздзел XIV*)

Але далей скрозь рамантычна-чароўную мелодыю старадаўняй казкі ўсё больш і ўсё мацней пачынаюць гучаць іранічныя ноткі. Гейне спяшыць у далейшых радках зруйнаваць створанае ім уражанне.

У іранічнай сяброўскай размове з казачным Барбаросам ён расказвае яму пра французскую рэволюцыю, пра казнь Людовіка XVI і дакладна знаёміць караля з тэхнікай і прызначэннем гільётыны. Нарэшце ён проста напрамкі заяўляе разгневанаму старому:

Негг Ротбарт,—гукнуў я ўголас, ды ты
Байка старая, не болей!
Ідзі, праспіся! Ужо без цябе
Сваёй мы даб'ёмся волі.

Рэспубліканцы высмеюць нас,
Калі толькі хто з іх пачуе,
Што гэткая каранаваная здань
Ізноў над намі пануе.

І сцяг твой мне не да густу даўно,
Бо стара-германцаў блазнота
Ужо з часу студэнцтва ад фарбаў яго
Даўно мне адбіла ахвоту.

Найлепей было-б каб ты дома сядзеў,
Вось тут тваё месца—Кіфгейзер.
Абмеркаваўшы справу як след,
На ліха наогул нам кайзер?

(*Раздзел XVI*)

Струхлелым рамантычным вобразам феадалізма і сярэдневякоўя Гейне супроцьстаўляе свой цвярозы палітычны рэалізм, сваё патрабаванне гільётыны для манархаў, свой натхнёны заклік да рэволюцыі, безупынна прапагандуючы гістарычны рэволюцыйны прыклад Францыі.

Пасварыўшыся з Барбаросам, Гейне ў далейшым дадае з злым сарказмам па адрасу нямецкай ліберальнай буржуазіі:

Я з кайзерам пасварыўся быў!
У сне, у сне, зразумела—
У яве ніколі з князямі мы
Не спрачаемся гэтак смела.

Толькі ў сне, у ідэальным сне
Ім немец з адвагай падносіць
Нямецкую думку, якую ён
Глыбока ў сэрцы носіць.

Сатырычнае выкрыццё рэакцыйнай рамантыкі дасягае сваёй найвышэйшай ступені ў эпізодзе з „прароцтвам“ багіні Гамоніі. Гамонія ў знак асаблівай прыязні і даверлівасці да аўтара паказвае яму сваю спадчыну—начны гаршок Карла Вялікага і раіць яму заглянуць у яго, каб пазнаць будучыню. Перад тым, як пасвяціць паэта ў „вялікую тайну“, яна гаворыць:

Каб мог маўчаць ты, адкрыла-б табе
Я кнігу лёсу сягоння,
Я будучыню паказала-б табе
У люстры маім цудоўным.

Што смертны ніводзін не бачыў яшчэ,
Табе б я адчыніла.
Будучыню радзімы тваёй...
Але ах! Маўчаць ты не ў сілах.

Пасля ўрачыстай клятвы Гамонія загадвае паэту:

Але падыходзь і падымі
Падушку з сядзення і ў вочы
Адразу дзірка трапіць табе,
Пад ёю такі кацялочак.

. . . . . . . . . . . . . .

Германіі будучыню вось тут
Ты ўбачыш у хвалях фантазмаў,
Але не пужайся, калі з брыды
Паўстануць струмені міязмаў“.

(*Раздзел XXVI*)

Гэтыя, прасякнутыя злым атрутным сарказмам, радкі аказаліся для сучаснай фашысцкай Германіі сапраўды прароцкімі. Наўрад ці думаў калі небудзь Гейне аб тым, якімі сучаснымі і злабадненымі зробяцца яны для Германіі пасля 1933 года, пасля захопу ўлады фашыстамі.

Цвіль і бруд феадальнага сярэдневякоўя, супроць якіх змагаўся Гейне, ад якіх ён хацеў рэволюцыйным шляхам ачысціць сваю радзіму, міазмы рэакцыйнага мракабесся, якія ўзнімаюцца з „містычнага“ начнога гаршка Гамоніі—як трапна нагадвае ўсё гэта тое, што спрабуюць цяпер ізноў аднавіць у Германіі фашысты.

У раздзеле XVII Гейне іранічна запрашае здань імператара Барбаросы:

Старажытныя судзішчы аднаві,
Карла Пятага статут крывавы,
Па гільдыях, цэхах і станах народ
Ты зноў падзялі для расправы.

Дзяржаву Рымскую аднаві
З яе старажытным убоствам,
Звярні пратухлае ўсё рыззё
З бліскучым яго скамароствам.

(*Раздзел XVII*)

Фашысты ў Германіі ізноў выцягнулі з сметніка гісторыі ўсю гэтую цвілую, рэакцыйную, сярэдневяковую трухляціну, ператварыўшы ў свой ідэйны сцяг, у сродак сваёй барацьбы супроць народа. Рэакцыйная нацыяналістычная рамантыка зрабілася ізноў ідэалагічнай маскай, хаваючыся пад якой эксплаататарскія класы Германіі спрабуюць апошнімі, звярынымі намаганнямі затрымаць надыход свайго немінучага гістарычнага скону. Пад маскай аднаўлення сярэдневяковых ідэалаў, пад вэлюмам нацыяналістычнай рамантыкі і змрочнага містыцызма, прадажныя агенты фінансавага капітала спрабуюць атруціць свядомасць працоўных мас, старанна хаваючы свае сапраўдныя шляхі і мэты, падрыхтоўваючы новую, крывавую, злачынную і грабежніцкую вайну. Яны ператвараюць Германію ў суцэльны канцэнтрацыйны лагер, у прускую казарму часоў Фрыдрыха II.

Сіла паэтычнай інтуіцыі Гейне ў тым, што ён здолеў ускрыць з вялікай мастацкай пераканальнасцю сапраўдныя класавыя карэнні і рэакцыйную сутнасць нямецкай нацыяналістычнай рамантыкі. Яго бліскучая сатыра бязлітасна выкрывае іменна ўсё тое, што зрабілася цяпер ідэйным сцягам фашызма. Сваёй сатырай Гейне зрывае нацыяналістычна-рамантычную маску з „гістарычных“ ідэалаў фашызма, руйнуе ўсё тое, што нямецкія фашысты лічаць „святыней“ сваёй ідэалогіі. Яго „Германія“ пераклікаецца ў гэтым сэнсе з нашай эпохай, яна цалкам сугучна з ёю.

Вось чаму паэма Гейне набывае ў нашых вачах асаблівую вартасць. Вось чаму яго Зімовая казка не страціла сваёй палітычнай актуальнасці і ў нашыя дні. Вось чаму яна можа яшчэ адыграць і адыгрывае нямалую ролю ў барацьбе супроць фашызма і сусветнай рэакцыі.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 67. Дом Пісьменніка. Тэлефон 22-792.**

## ЗМЕСТ



Рэдактар *М. Лынькоў.*

Здана ў набор 20/XI—38 г. Падпісана да друку 26/XII—38 г. Аб'ём $11^1/_4$ друк. арк.
Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера $62 \times 94^1/_{16}$. Тыраж 4.000 + 250 экз.
Зак. № 4215. Уп. Галоўліта БССР № 4647.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку.

## ПАМЫЛКІ ДРУКУ

| Стар. | Радок | | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|---|
| | зверху | знізу | | |
| 82 | — | 3 | — Ідзе адсюль... | — Ідзі адсюль... |
| 96 | — | 1 | Выходзіць Міхась! | Выходзь, Міхась! |
| 154 | — | 6 | таиноственным | таинственным |
| 158 | 17 | — | шматмільённую | шматлікую |
| 169 | — | 7 | рэдыкалаў | радыкалаў |

Зак. 4215.

